


# Уладзімір Дудзіцкі

## Творы



Мінск «Лімарыус» 2010

*Укладальнік і выдавецтва шчыра дзякуюць за спрыянне ў падрыхтоўцы да выдання збору твораў Уладзіміра Дудзіцкага дырэктару Беларускага інстытута навукі і мастацтва Др. Вітаўту Кіпелю.*

# Прадмова

З часу, калі ўпершыню была сабрана і выдадзена ў Нью-Ёрку спадчына паэта[1], пра яго самога не з'явілася нічога новага, і крытыкі ў Беларусі паўтаралі толькі ўжо сказанае: зрэдку — як цытаты, часцей — выдаючы за сваё[2].

Рыхтуючы першае на Бацькаўшчыне ды самае поўнае наогул на сёння выданне твораў эміграцыйнага пісьменніка, укладальнік цешыцца, што можа дадаць штосьці новае да таямніцы, імя якой — Уладзімір Дудзіцкі.

Сярод прызнаных, часам можа і не такіх таленавітых, але бясспрэчна сур'ёзных і правільных беларускіх творцаў на эміграцыі Дудзіцкі вылучаўся хоць бы тым, што за сапраўднага паэта яго ніхто не ўважаў — ані тыя, хто працаваў з ім на Радыё «Вызваленне», ані тыя, хто піў з ім, ані тыя, хто нават друкаваў ягоныя вершы ў «Бацькаўшчыне» ці якім іншым перыёдыку.

У такой парадаксальнай сітуацыі, зрэшты, вінаватыя не жорсткі капіталістычны свет або абыякавасць грамадства, а сам наш герой — *enfant terrible* беларускай творчай (і палітычнай) эміграцыі.

Нарадзіўся Уладзімір Гуцька — такое было яго сапраўднае прозвішча — 8 студзеня 1911 г. (23 снежня 1910 г. паводле старога стылю) у вёсцы Дудзічы Ігуменскага павета (сёння Пухавіцкі раён Мінскай вобласці). Сям'я была немалая: чатыры сыны і чатыры дачкі. Бацька памёр, калі Уладзіміру было толькі два месяцы, таму гадаваўся будучы паэт пры айчыме. Спачатку Дудзіцкі вучыўся ў мясцовай чатырохгадовай школе, пазней — у мінскай сямігодцы. Тут ён і пачаў пісаць свае вершы, якія змяшчаліся ў насценнай газеце. Першы твор называўся «Светач».

Зацікаўленне літаратурай прывяло Уладзіміра Дудзіцкага ў літаратурны гурток пры Мінскім клубе чыгуначнікаў, дзе праводзіліся заняткі, выдаваўся на шклографе часопіс «Першыя крокі», ладзіліся вечарыны. Да маладых гурткоўцаў прыходзілі Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот, Валеры Маракоў, Тодар Кляшторны.

Па заканчэнні сямігодкі ў 1927 г. Дудзіцкі паступіў у Беларускі педагагічны тэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага. Тут, у «Беларускім ліцэі», як часам называлі гэтую навучальную ўстанову, вучылася няма-

---

[1] Дудзіцкі, У. Напярэймы жаданьням / Укладальнік і рэдактар Лявон Юрэвіч, бібліяграфія і каментары Алены Юрэвіч. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1994; Юрэвіч, Л. Архіўная кніга. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1997.

[2] Гл., напрыклад, Савік, Л. Пакліканыя. Мінск, 2001. С. 130–183.

ла пісьменнікаў першых паслярэвалюцыйных гадоў. Настаўнікі былі адпаведныя: сам Усевалад Ігнатоўскі, Язэп Лёсік, Якуб Колас. Апрача насценнай газеты выдаваўся літаратурны часопіс «Крыніца»[3].

Тэхнікум быў адным з прыкметных цэнтраў беларускасці. Таму, калі пачалося змаганне з «беларускім нацыянал-дэмакратызмам», паляцелі галовы і выкладчыкаў, і студэнтаў. Разам з Сяргеем Астрэйкам, Лукашам Калюгам і Сяргеем Русаковічам Дудзіцкага выключылі з навучальнай установы. Бацькі ўжо арыштаванага на той час Антона Адамовіча далі ім прытулак[4].

*«Пасля доўгага і паўгалоднага бадзяння»*, як пазней згадваў Уладзімір Дудзіцкі, у 1929 г. пры дапамозе Лукаша Калюгі ды Уладзіміра Хадыкі ён уладкаваўся на працу стыльрэдактарам газеты «Савецкая Беларусь» і перакладчыкам у Навукова-тэхнічным выдавецтве. Адначасова ён вучыўся на літаратурна-лінгвістычным факультэце Вышэйшага педагагічнага інстытута.

Але ў ноч з 22 на 23 лютага 1933 г. Уладзімір Дудзіцкі быў арыштаваны НКВД і асуджаны да трох гадоў лагераў. Падчас арышту знік і падрыхтаваны да публікацыі зборнік паэта «Песні і думы». Пакаранне ён адбываў у Новасібірску і Марыінску; у сваіх успамінах Дудзіцкі пазней апіша той час і людзей, з якімі сядзеў.

Па заканчэнні тэрміну яго саслалі на два гады ў Сярэднюю Азію, дзе ён і жыў у Ташкенце да канца 1937 г. і адкуль яго датэрмінова вызвалілі з прычыны захворвання на малярыю.

Па дарозе ў Беларусь Дудзіцкага абрабавалі — скралі рэчы, невялікія грошы і, галоўнае, пашпарт. Таму на станцыі ў Мінску яго арыштавалі зноў. Па высвятленні мясцовы аддзел НКВД прапанаваў Дудзіцкаму цягам 24 гадзін пакінуць сталіцу і выехаць у Віцебск ці Барысаў. Ён абраў Віцебск, дзе нейкі час працаваў у газеце «Віцебскі пралетары», а потым да канца 1940 г. выкладаў беларускую мову ў розных навучальных установах горада — пакуль яго не звольнілі, бо *«не патрапіў забяспечыць партыйнасць у выкладанні мовы і літаратуры»*.

Нарэшце Уладзімір Дудзіцкі здолеў вярнуцца ў Мінск, дзе пры дапамозе Аўгена Калубовіча ўладкаваўся на працу ў часопіс «Савецкая школа». Праўда, ненадоўга, бо ўжо праз месяц яго звольнілі на загад наркома асветы як «ворага народа». Пасля доўгіх пошукаў працы Дудзіцкі нарэшце трапіў у Ветэрынарны тэхнікум у вёсцы Курасоўшчына пад Мінскам. Там яго і заспела вайна.

---

[3] Запісы БІНіМ. № 27. Нью-Ёрк—Мінск, 2004. С. 258–298.

[4] Пра рэпрэсіі супраць навучэнцаў тэхнікума гл. успаміны Міхася Кавыля: На суд гісторыі. Мінск, 1994. С. 250–259.

У часе вайны Дудзіцкі вельмі актыўны: адзін з арганізатараў «Беларускай газеты», загадчык аддзела культуры і асветы ў Мінску і Мінскай акрузе, школьны інспектар у Барысаве, рэдактар часопіса «Беларус на варце». У гэты ж час ён падрыхтаваў да друку новы зборнік паэзіі «Напярэймы жаданням» і зборнік прозы. Ніводзін з іх свету не пабачыў.

Найбольш часу забірала праца ў Беларускім культурным згуртаванні, дзе яму дасталася пасада загадчыка аддзела прапаганды. Узначальваў Згуртаванне даўні знаёмец Дудзіцкага Аўген Калубовіч; у склад Цэнтральнага ўрада ўваходзілі паэтка Наталля Арсеннева, рэжысёр і акцёр Вячаслаў Селях, кампазітар Мікола Шчаглоў, знаўца музейнай справы Антон Шукелойць. Рэдактарам адноўленага літаратурна-мастацкага часопіса «Узвышша» быў Юрка Віцьбіч.

У артыкуле, які так і называўся «Беларускае культурнае згуртаванне», Уладзімір Дудзіцкі пісаў: *«Нацыянальная культура народа ёсць крыніцай ягонае духовае моцы. Гэта той Праметэеў агонь, які дало нам само неба. Калі гэтая крыніца высыхае, калі гэты агонь гасне, тады паралізуецца розум народа і перастае біцца ягонае сэрца. Згуба свае роднае культуры, замена яе чужой азначае смерць народа. Ён ужо тады не ёсць раўнапраўным сябрам у агульнай сям'і народаў і робіцца нявольнікам чужое культуры. А за культурнай няволяй як няўхільны вынік яе наступае і няволя палітычная. Гісторыя ўсіх народаў свету навучае нас, што яны за найвышэйшы свой скарб уважалі родную культуру, і таму рупіліся не толькі аб яе захаванні і развіцці, але і аб пашырэнні між іншых народаў. А з культураў асобных народаў складаецца культура чалавецтва. Народ, які ў гэтую агульную скарбніцу нічога свайго не ўносіць, спатыкае толькі пагарду»*[5].

Як адказны за прапаганду, Дудзіцкі паклаў нямала высілкаў на беларусізацыю горада: тэатра, замяніўшы там усё кіраўніцтва; школаў, спрычыніўшыся да заснавання часопіса «Беларуская школа», што па пэўным часе мусіў замяніць савецкія падручнікі.

Ён належаў да тых, хто даволі хутка пазбавіўся ілюзій адносна палітыкі новай акупацыйнай улады. Пра гэта сведчаць і ягоныя вершы[6], і ўдзел у адным з першых нелегальных пасяджэнняў у Мінску, на якім прынялі пастанову аб стварэнні Беларускай незалежніцкай партыі. Але нянавісць да савецкай улады была мацнейшая. Да гэтага дадалася асабістая трагедыя: партызаны, не схіліўшы Дудзіцкага да супрацоўніцтва, забілі ягоную маці.

Чалавек, які годна перацярпеў канцэнтрацыйны лагер, зламаўся.

---

[5] Новы шлях. № 8 (44). Красавік 1944.

[6] Гл. гісторыю верша «Маем сілу і край свой» у Бібліяграфічным каментарыі.

Менавіта да часу акупацыі належаць успаміны сведкі, якія не толькі дадаюць новае пра асобу паэта, але, на нашую думку, дапамагаюць раскрыць таямніцу знікнення Уладзіміра Дудзіцкага. Яніна Каханоўская прыгадвае:

*«Перачытала Вашую кнігу і пасмяялася трошкі*[7]*. Вядома, Вы не маглі ведаць Дудзіцкага. А я яго вельмі добра ведала. Адкуль? У Менску працавалі разам, у Культурным згуртаванні пры Самапомачы. У Вас ён — такі чалавек, Віцьбіч рэкамендуе яго на Радыё. А гэта п'яніца і авантурнік. І мы гэта ведалі з Менска. Ён быў прыгожым мужчынам, добра рэпрэзентаваўся. І добры беларус, шчыры, аддана. Але маральна... Гэта хвароба большыні нашых людзей — п'янства. Але нас не паслухалі, суягнулі яго. А вельмі хацеў паехаць туды Грыцук Аляксей з Канады.*

*Ці ведаеце, што ён страляў у сваю жонку ў Менску? А ў Менску ў яго іх было дзве. Адна ў адным раёне жыла, а другая — у другім. І калі Дудзіцкі напіваўся, ён мог забіць чалавека. А вершы так цяжка радзіў. Нараніцу прыходзіць, і нашыя ўжо падсмейваюцца: «Дудзіцкі радзіў, роды цяжкія былі, але радзіў». То не быў такі паэт, што сядзе, напіша, і правіць нічога не трэба. Яму цяжка давалася паэзія. Пад яго вялікім уплывам быў такі таленавіты паэт Салавей. Малады быў, 19 гадоў [меў], як прыехаў у Менск. Ідзе раз ён з Дудзіцкім у госці да яго. Абодва ўжо падвыпіўшыя. Заходзіць першы Салавей у дом — і дастае паленам па галаве. Жонка думала, што гэта Дудзіцкі. Або такая сцэнка. Радыё немцы дазволілі рабіць. Трэба чытаць тэкст. А ўявіце: Менск разбіты. Ні тэлефонаў, нічога няма. Калубовіч чакае на Дудзіцкага. Трэба напісаць тэкст. Пасылае па Дудзіцкага хлопчыка. Той збегаў, вяртаецца і кажа: няма таго ў хаце. Калубовіч месца сабе не знаходзіць, злуецца. За колькі хвілінаў перад самым пачаткам прыходзіць Дудзіцкі. Калубовіч на яго накідваецца: «Дзе былі? Мы за Вамі пасылалі». «А куды пасылалі?» — пытаецца той. «Да жонкі», — адказвае Калубовіч. І Дудзіцкі ў адказ: «Вы пасылалі не да той жонкі, трэба было да другой — на супрацьлеглым баку горада»*[8].

Запомнім гэтае важнае, хоць і гратэскнае, сведчанне пра Дудзіцкага і жанчын.

Тым часам, напрыканцы вайны — мо праз сваю авантурнасць, а мо ад неспатоленай прагі надалей працягваць змаганне з Саветамі — Уладзімір Дудзіцкі далучыўся да генерала Андрэя Уласава ў якасці

[7] Масціна на ўвазе: Архіўная кніга / Аўтар-укладальнік Лявон Юрэвіч. Нью-Ёрк, 1997. 446 с.

[8] Успамін Яніны Каханоўскай, запісаны цягам восені 2000 г., захоўваецца ў прыватным архіве Лявона Юрэвіча.

прапагандыста стварэння беларускіх аддзелаў. Маніфест Уласава, абвешчаны ў Празе 14 лістапада 1944 г. і выдрукаваны ў газеце «Голос народа», быў падпісаны 37 сябрамі КОНР (Камітэт вызвалення народаў Расіі) і 12 кандыдатамі. Беларусаў сярод іх не было, але Дудзіцкаму, і так не надта папулярнаму сярод беларускага актыву, яшчэ доўга закідалася тое супрацоўніцтва як здрада беларускай незалежніцкай ідэі[9].

Пасля вайны Уладзімір Дудзіцкі апынуўся ў Зальцбургу ва ўкраінскім лагеры Ды-Пі з беларускай секцыяй. Паэт арганізаваў тут Беларускі нацыянальны камітэт літаральна праз дзесяць дзён пасля капітуляцыі Германіі, разам з Алесем Салаўём, Міколам Ганьком і Алесем Грыцуком наладзіў выданне часопіса «Пагоня» і газеты «З беларускага жыцця».

У лагеры Ды-Пі Дудзіцкі быў параўнальна нядоўга. Як відаць з ягоных пазнейшых лістоў, да асаблівасцяў жыцця і парадкаў, якія там панавалі, ён ставіўся вельмі адмоўна: *«Лагеры дэмаралізуюць людзей і абніжаюць годнасць нацыянальных групаў. Дэмакратыя ў тым святле, як яе ўспрынялі асобныя грамадскія дзеячы з лагераў Ды-Пі, нічым не адрозніваецца ад савецкае самакрытыкі на партыйных чыстках; сродкі і метады, якімі падмацоўваецца права дэмакратыі крывога люстра, стаяць у адной роўніцы з сродкамі і метадамі работнікаў МВД. З такое сітуацыі трэба ўцякаць як найхутчэй. Працаваць на карысць свае нацыі і рэпрэзентаваць вызвольныя ідэі народа можна заўсёды і ўсюды — найлепей за акіянам...»*[10]

Дудзіцкі выехаў у Венесуэлу.

Новыя эмігранты прыязджалі ў тую краіну ў вірлівы час. У 1947 г. прынялі новую Канстытуцыю краіны, і першым прэзідэнтам, абраным паводле яе, стаў знаны пісьменнік, асветнік Ромула Гальегас (*Rómulo Gallegos*). У сярэдзіне лютага ўрад абвясціў, што запрашае да сябе на працу з Еўропы 20 000 эмігрантаў. Дэкларавалася, што яны атрымаюць права набываць зямлю, ім дадуць тэхніку, банкаўскія пазыкі. Толькі ўжо 24 лістапада 1948 г. урад Гальегаса зрынулі вайскоўцы, а прыход да ўлады вайсковай дыктатуры — хунты — не мог не адбіцца і на стаўленні да новапрыбылых, хоць па-ранейшаму краіна была зацікаўленая ў спецыялістах.

Газета «Бацькаўшчына» паведамляла: *«Цяпер дазволена набіраць галоваў сем'яў у веку да 60 гадоў, а самотных — у веку да 40 гадоў. На працу бяруць муляраў, сталяроў, кавалёў, вальцавальнікаў, элект-*

[9] Пра ўдзел беларусаў у арміі Уласава гл. успаміны Яўхіма Кіпеля «Эпізоды» (Нью-Ёрк: Выдавецтва газеты «Беларус», 1998. С. 233–240).

[10] Ліст Уладзіміра Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 22.06.1949. Захоўваецца ў архіве БІНіМ.

*рыкаў, механікаў, краўцоў, майстроў, хатніх работнікаў, агароднікаў, шофераў, інжынераў, фермераў і інш.»*[11]

Зрэшты, не ўсё абяцанае спраўджвалася: *«У хуткім часе прадбачыцца новы набор эмігрантаў з Еўропы ў Венесуэлу, пераважна земляробаў з заключэннем кантрактаў на 2 гады. Я як беларус хачу падзяліцца сваімі ўражаннямі із сваімі суродзічамі, што хочуць як хутчэй выэміграваць із Еўропы за акіян, і даць некаторыя парады, а галоўнае апісаць, што новага ў Венесуэле. Дык вось. Стары парадак размяшчэння эмігрантаў, асабліва тых, каторыя выехалі на земляробства, быў нездавальняючы. Першае: людзі не атрымалі тых крэдытаў і інвентару, якія абяцалі даць каланістам Другое: дзе і атрымалі інвентар і невялікія крэдыты, асабліва вялікія калоніі, то зямлю, імі выкарчаваную, каланістам не давалі, а зямля і далей лічылася дзяржаўнай, а таксама і ўраджай. З гэтае прычыны шмат якія каланісты пакінулі зямлю і пайшлі ў горад шукаць працу з якім хто здолеў фахам. Вельмі багата эмігрантаў адкрылі свае майстэрні: кравецкія, шавецкія, сталярні, рэстараны. Я раю ўсім, хто едзе на эміграцыю, набываць фах, бо фахоўцам у Венесуэле добра. Усім спецыялістам — механікам, шоферам, сталярам, плотнікам і г. д. — добра. Я працую сталяром, за 8 гадзін атрымліваю 15 булівараў, выдаткоўваю на харчаванне з сям'ёй 3 асобы — 3–5 булівараў дзённа, за кватэру плачу 50 булівараў на месяц, а рэшта застаецца на адзежу. Добры гарнітур каштуе ад 50 да 150 булівараў, а рабочы — ад 10 да 30 булівараў*[12]. *Купіць ёсць усё, што хочаш і сколькі хочаш»*[13].

Занепакоены стратаю працаўнікоў (найперш земляробаў), урад на пачатку 1950 г., падчас візіту Бернгарда (Bernhard), прынца Нідэрландскага, які прыляцеў дамаўляцца адносна эміграцыі з Галандыі, абвясціў, што гатовы прыняць яшчэ 2 000 эмігрантаў з Еўропы, паабяцаўшы ім забеспячэнне зямлёй і тэхнікай. Асаблівая ўвага надавалася механікам ды інжынерам. Агулам беручы, за час дыктатуры Маркаса Перэса Хіменэса (*Marcos Pérez Jiménez,* 1948–1958) у краіну

[11] Бацькаўшчына. № 15(59). 18 жніўня 1949. С. 3.

[12] На той час чорнарабочы атрымліваў 8–12 баліварaў на дзень (1 даляр адпавядаў прыкладна 3 баліварам і 35 сантымам); кіроўцы, механікі, тэхнікі — 20–30; заробак тапографа — 26–35, простага службоўца — 15–20, інжынера — 30–50. Кошты наступныя: белы хлеб (чорнага не было) — 1 балівар, кілаграм мяса — 3–6, кілаграм цукру — 1. Мужчынскія чаравікі — 20–50, мужчынскі гарнітур — 150–300, рабочы гарнітур — 35–60. Залаты гадзіннік — 100–400, залаты пярсцёнак — 12–70. Бутэлька піва — 1 балівар, каньяку — 7–35. Пакой без мэблі каштаваў 80–100, з мэбляю — 200–250 баліварaў.

[13] Бацькаўшчына. № 15(59). 18 жніўня 1949. С. 3.

прыехалі больш як мільён чалавек. Натуральна, пераважная большасць новапрыбылых была не з Еўропы: з Калумбіі, Чылі, Уругвая, Аргенціны ці Кубы.

Знаходзілі сваё месца ў новай краіне і беларусы. Уладзімір Дудзіцкі стварыў у сярэдзіне 1949 г. першую, а мо і адзіную тамтэйшую беларускую арганізацыю — Аб'яднанне беларусаў у Венесуэле (АБВ).

Знайшоў паэт працу ў Міністэрстве будоўлі садоў і паркаў у якасці садоўніка, стаў няблага зарабляць. Уладкаваўшыся сам, распачаў захады, каб дапамагчы выехаць з лагераў Ды-Пі Юрку Віцьбічу, Масею Сяднёву, Уладзіміру Клішэвічу: высылаў запрашэнні, афармляў дакументы, раіў, куды звярнуцца, каб прыспешыць ход справы. У лістах да сяброў ён імкнуўся перадаць нязвыклае і новае для яго, чалавека з досведам жыцця ў таталітарнай дзяржаве, адчуванне свабоднай краіны з усім станоўчым і адмоўным:

*«Кажная краіна мае свае асаблівасці; звычкі, традыцыі, жыццёвы ўклад, безумоўна, не маюць нічога супольнага з нашаю Бацькаўшчынаю, як і з Еўропаю наагул. Як і кажная краіна, яна мае свае і мінусы, і плюсы. Жыць можна, а галоўнае тое, што тут чалавек вольны, як птушка. Пачатак жа цяжкім ёсць усюды, асабліва, калі чалавек прыязджае без грошай ды не мае ні знаёмых, ні блізкіх і мовы не ведае. Заўсёды лепш разлічваць на благое, чым на добрае.*

*Абавязку працы Венесуэла, як і ўся Амерыка, не ведала і не ведае. Рабі што хочаш і жыві як хочаш. Сацыяльны кантраст страшэнны: поруч з казачным багаццем стаіць і нечуваная беднасць добрае чвэрці мясцовага жыхарства. Аднак гэта тая частка, што не любіць працы і не хоча працаваць або прапівае ў суботу ўсё тое, што заробіць за тыдзень (грошы тут плоцяцца кожнага тыдня, а п'юць так, як нам ніколі і не снілася). Аднак самы бедны чалавек не ведае ні суму, ні цяжкіх (а мне думаецца, што наагул ніякіх) перажыванняў. Цяжка і, відаць, немагчыма зразумець гэтую зямлю таму, хто на ёй не жыў і ніколі не бачыў ейных людзей. Вельмі віратлівае жыццё; у ім няма часу на доўгі адпачынак і вялікія развагі. Сіла гарачага поўдня, сіла зямлі — найвялікшы валадар чалавека. Адным словам, раўнуючы да іншых краінаў Амерыкі, Венесуэла ўсё ж найбольш надаецца эмігранту. Бясспрэчна, Нью-Ёрк — цудоўны горад, але ён не для крычаўскага Лукаша і не для старобінскае Тэклі... Там патрэбныя вялікія тысячы. І калі ў першым выпадку чалавек можа быць сам сабе гаспадаром, дык у другім — вечным парабкам... І яшчэ заўважу. Сучасны — першы дэмакратычны і сапраўды народны, нацыянальны — урад вельмі дбае пра эміграцыю, гледзячы на яе, як на будучых*

*сваіх грамадзянаў. Краіна з вялікімі перспектывамі. Між іншым, на прэзідэнта абраны выдатны пісьменнік Венесуэлы і, безумоўна, усёй Амерыкі — Гальегас Ромула. Клічу да Венесуэлы»*[14].

Але ніхто не прыехаў. Дудзіцкі пачуваўся больш самотным, як Алесь Салавей у Аўстраліі:

*«Мае адносіны да ўсіх сяброў выказваюцца ў вершы:*

*Віецца шлях гразкою каляінай,*
*а часам камяністасцю ўстае.*
*Я клічу вас, равеснікі мае,*
*з далёкіх стэпаў песняй сакалінай...*

*Клікаў я Масея Сяднёва і іншых; не прыехалі і не пішуць. Такой бяды... Прыкра, што сорам і абавязак адчуваюцца слабей, як голад і холад. Гэта наагул і між іншым. Кожнаму жадаю толькі дабра. Уласная няўдача ніколі не хвалявала мяне так моцна, як моцна цешыць поспех найлепшага таварыша»*[15].

Затое — у адрозненне ад таго ж Салаўя — шмат пісаў: *«Падрыхтаваў да друку два зборнікі вершаў — «Хвалі» і «Да блізкіх і далёкіх», зборнік апавяданняў «Купальскія росы» (зборнікамі, пэўна ж, называю ўмоўна, бо ўсё роўна нідзе не выдам). Скончыў пісаць аповесць «Голас крыві» — 8 друкаваных аркушаў. Працую над дзвюма вялікімі паэмамі»*[16].

*«Вельмі задаволены Вашай думкай пра выданне кніжак паэтаў і пісьменнікаў. Гэтае ж пытанне нікім яшчэ не закраналася. Ёсць фонды ці няма, будуць ці не будуць, а кніжкі выдаваць трэба. [...] Яшчэ ў 1942 годзе я меў гатовым да друку зборнік «Напярэймы жаданням». [...] Маю гатовым да друку і другі зборнік «Журботныя струны». І першы, і другі — памерам на 6–8 друкаваных аркушаў»*[17].

Рукапісы згаданых зборнікаў зніклі; уцалела тая частка спадчыны, што дасылалася аўтарам у перыядычныя выданні — спачатку ў Германію, пазней у ЗША. Вялікая адлегласць паміж аўтарам і выдаўцамі ўскладняла кантакты, выклікала нараканні на «недрукаванне», а яшчэ больш — на адвольнае рэдагаванне *(«Мы ж не*

[14] Ліст Уладзіміра Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 28.09.1948. Захоўваецца ў архіве БІНіМ.

[15] Ліст Уладзіміра Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 04.05.1951. Захоўваецца ў архіве БІНіМ.

[16] Ліст Уладзіміра Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 28.06.1948. Захоўваецца ў архіве БІНіМ.

[17] Ліст Уладзіміра Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 15.01.1953. Захоўваецца ў архіве БІНіМ.

*якія-небудзь зломкі, каб нашыя творы правяраліся, як вучнёўскія дыктанты...»*). З гэтае прычыны Юрка Віцьбіч, праз якога Дудзіцкі меў сувязі з рэдактарамі газет і часопісаў, пісаў тагачаснаму рэдактару «Бацькаўшчыны» Станіславу Станкевічу: *«Мой сябра Уладзімір Дудзіцкі змагаецца з рэдактарамі за кожную коску, за кожную літару ў сваім творы, як тэй пратапоп Абакум «за Святы Аз». [...] Таму ветліва прашу Вас, калі што-небудзь такое заўважыце ў ягоных вершах, дык лагодна абмінайце гэтае заўважанае»*[18].

Акурат у гэты час Дудзіцкі знік. Лісты перасталі прыходзіць, дасланыя яму заставаліся без адказу. Юрка Віцьбіч пачаў шукаць яго праз агульных знаёмых беларусаў, што былі выехалі таксама ў Венесуэлу. Як потым тлумачыўся сам паэт, *«благога нічога не сталася, але і добрым не магу пахваліцца. Першага кастрычніка леташняга года давялося страціць працу, усё здабытае, пакінуць кватэру і выехаць (пасля пэўнага часу) у далёкую, глухую і спякотную вобласць краю. Прычына: персанальныя інтрыгі і дзікія паклёпы прыватнага і палітычнага характару. За адзінаццаць месяцаў працы ў глыбіні краіны бруд мярзотнікаў змыўся, але справа не палепшылася: вельмі цяжка стаць нагамі на ўцёклы грунт. Пакуль што не памагаюць і вялікія сувязі з дзяржаўнымі кіраўнікамі; спіцы і калючкі пачынаюцца з нізоў. «Хождение по мукам» выматала душу і абяссіліла матэрыяльна. Вось ужо пяты месяц вішу, як кажуць, паміж небам і зямлёю, чакаючы якога-небудзь прызначэння. Цяжка сказаць, як доўга будзе трываць маё каменнае цярпенне»*[19].

Насамрэч сітуацыя была трохі інакшая. Атрымаўшы адказ ад свайго карэспандэнта з Венесуэлы, Віцьбіч піша знаёмым: *«Пераходжу да іншае свае навіны. Ужо ладны час як я шукаю праз знаёмых беларусаў у Венесуэле Уладзіміра Дудзіцкага. Нарэшце тыдзень таму атрымаў ад аднаго з гэтых беларусаў даволі сумныя весткі. Прыехаўшы ў Венесуэлу, Дудзіцкі перш за ўсё, як між іншым і ўсюды раней, пачаў шукаць прыгожых жанчын. Адна з гэтых жанчын — Паўліна Хвёдараўна, што паходзіла з старое расійскае эміграцыі, — сталася ягонай жонкай. Яна як венесуэльская грамадзянка знайшла для Дудзіцкага адмысловую працу ў адным з інстытутаў Каракаса. Праз колькі год Дудзіцкаму спадабалася іншая прыгожая жанчына — жонка старэйшага ад яе на 15 год расейца і матка трох дзяцей.*

[18] Ліст Уладзіміра Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 15.04.1953. Захоўваецца ў архіве БІНіМ.

[19] Ліст Уладзіміра Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 15.01.1953. Захоўваецца ў архіве БІНіМ.

*Дудзіцкі спакінуў Паўліну Хвёдараўну, а «іншая прыгожая жанчына» — свайго мужа, забраўшы з сабой дзяцей. Ейны муж, што згубіў усю сям'ю — і жонку, і дзяцей, — канчае самагубствам — пераразае артэрыі. У сваю чаргу Паўліна Хвёдараўна, абураная паводзінамі Дудзіцкага, робіць гэтак, што той не толькі губляе сваю пасаду ў Інстытуце, але вымушаны спакінуць Каракас. Сёння Дудзіцкі мае сям'ю з трыма дзецьмі і выпадковую (не сталую) працу. Мне асабліва яго ад усяе душы шкада. Ён па сваёй натуры добры чалавек і таленавіты паэта»*[20].

А ў лісце да Антона Адамовіча той самы Юрка Віцьбіч напісаў, як сёння выглядае, прароча: *«Адшукаўся след Тарасаў. Нарэшце атрымаў ліст ад Дудзіцкага. Ачольвае нейкі дзяржаўны навуковадаследчы інстытут, у чым няма падставы сумнявацца, бо ўсё гэтае разам з тытулам — прафесар — пададзена на канверце. Увогуле зноў трапіў на каня і, дай Божа, каб новая Елена Прыгожая яго не выбіла з сядла. На мой асабісты погляд, ён — найлепшы з нашых паэтаў на чужыне»*[21].

Так, лісты ад Уладзіміра Дудзіцкага пачалі прыходзіць у ЗША ў адмысловых канвертах, на якіх было выдрукавана «*Dr. Wladimir R. Hicky, Unidad Agricola de Turen — Instituto Agrario Nacional, Centro de Experimentacion y Propagacion, Estado Portugesa, Venezuela*». У тых лістах ён, пад чарговым новым прозвішчам, пісаў:

*«Коратка аб профілі мае службы і працы. У Венесуэле, вельмі багатай краіне, сельская гаспадарка была ў вялікім заняпадзе — у стане поўнага прымітывізму. У апошнія гады, амерыканізуючы шпаркімі крокамі край, урад звярнуў асаблівую ўвагу на гэтую галіну, каб падняць яе да ўзроўню перадавых краінаў. У гэтым плане пачаліся інтэнсіўныя распрацоўкі лясных масіваў і заснаванне вялікіх сельскагаспадарчых калоній. Большыня каланістаў — эмігранты нашага тыпу і «шукальнікі шчасця» з усяго свету. Цэнтральнай калоніяй у сістэме Міністэрства земляробства з'яўляецца гэтак званая «Unidad Agricola de Turen». Слова «unidad» абазначае «аб'яднанне». Калонія абымае ўжо каля ста тысяч гектараў. Кожны каланіст мае ад 40 да 100 гектараў зямлі. Сельскагаспадарчыя машыны, будоўля і зямля даюцца на выплату. Даюць адпаведныя грашовыя крэдыты. Усё пераходзіць ва ўласнасць пасля поўнае выплаты пазычанага дзяр-*

[20] Архіўная кніга... С. 20–21.

[21] Ліст Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча ад 02.02.1955. Захоўваецца ў архіве Фундацыі Пётры Крэчэўскага.

*жавай. І вось на землях гэтае галоўнае велізарнае калоніі знаходзіцца Эксперыментальны цэнтр сельскагаспадарчых культур краю і культур трапічных наагул, а таксама і асобных культур Еўропы з мэтай іхняе акліматызацыі. Асаблівая ўвага звярачаецца на культуры пладовыя. Эксперыментальны цэнтр мае 100 гектараў зямлі, першарадны дом з адпаведнымі лабараторыямі, метэаралагічныя станцыі, машыны, апараты і г. д. Цэнтр з'яўляецца месцам тэхнічных і навуковых кансультацый у шырокім плане агранамічных навук, выдае свой навуковы часапіс, перыядычныя запіскі, бюлетэні і г. д. Маюць месца і рэфераты на розныя тэмы. Шэфам гэтага Цэнтра працую ад студзеня месяца 1953 года, — пасля таго як здаў экстэрнам экзамены і абараніў дыплом доктара сельскагаспадарчых навук. Пазней дашлю што-небудзь з выдадзеных мною часапісаў на іспанскай мове»*[22].

Напружаная праца плюс знаёмствы і авантурны характар неўзабаве прынеслі плён. Як ацаніў сам Дудзіцкі, *«поспехі маю неблагія»*. Імя зрабілася вядомым, а гэта, у сваю чаргу, прывяло *«да інтрыгаў і розных паклёпаў не з боку венесуэльцаў, а з боку цэлай кучы ўсякіх «князёў», «баронаў» ды іншай расійскай трухлі»*:

*«Апошнія тры месяцы заядала мяне венесуэльская «agricultura». Жніво, падсумаванні, разлікі эксперыментаў, падрыхтоўка зямлі і новая сяўба, кансультацыі і парады, а зверху ўсяе гэтае крутні — людзі з падбітымі нервамі: каланісты, мясцовыя ды «важныя» прайдзісветы — атручвалі і забіралі час.*

*Адначасна ж прываліліся яшчэ дзве справы: хвароба жонкі (часта хварэе на ныркі) і дзяржаўны надзел (200 гектараў). Адным словам, сеў Уладзімір на зямлю і падняцца не можа... І сам не ведаў, што маю зялезныя нервы і каменнае здароўе. Аднак, здаецца, усё гэтае хутка скончыцца, і ад экзатычнае рамантыкі — цікавае і цудоўнае, сухое і самабытна-дзікунскае, прыгодніцкае і душавынішчальнае — застануцца адны-аднюткія ўспаміны і, магчыма, асобныя тэмы...»*[23]

Вось якраз у гэты час і атрымаў Уладзімір Дудзіцкі прапанову на пераезд у Германію — узначаліць Радыё «Вызваленне». Толькі абмеркаванне ягонай кандыдатуры адбывалася на значна вышэйшым узроўні, як тое думалася некаторым суайчыннікам:

---

[22] Ліст Уладзіміра Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 18.02.1955. Захоўваецца ў архіве БІНіМ.

[23] Ліст Уладзіміра Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 10.12.1955. Захоўваецца ў архіве БІНіМ.

*«Дарагі Мікола[24]!*

*Не ведаю, ці яшчэ актуальная справа кіраўніцтва Радыё «Вызваленне» беларускага аддзела, але перасылаю гэта для Твайго ведама і эвентуальнага выкарыстання выпіску з ліста сп. Уладзіміра Дудзіцкага. У чэрвені месяцы, пішучы яму ліст, я напісаў, што існуе план пашырэння часу беларускіх перадачаў у Радыё «Вызваленне», і магчыма будуць патрэбныя супрацоўнікі, і ці ён не згадзіўся б у выпадку патрэбы на пераезд на працу ў радыё. Тут пасылаю ягоны адказ на маё пытанне.*

*Мой асабісты пагляд такі, што ён на працу ў радыё вельмі надаецца — з яго моцны пісака, піша добра вершам і прозаю, знае добра падсавецкія ўмовы і псіхіку «савецкага» грамадзяніна, быў у сваю пару ў ссылцы. Неблагі, відаць, арганізатар — і ў Венесуэле патрапіў стаць на ногі. Адзіны палітычны стары грэх — у часе апошняй вайны раз нехта яго намовіў падпісаць Уласаву адозвы да беларусаў. Але ён сам не ёсць русафілам, ані нейкім «федэралістам», наадварот, уся творчасць ягоная выразна патрыятычна-нацыяналістычная, і ягоны «ўласаўскі» грашок сапраўды, на мой погляд, толькі прыпадковая рэч у выніку склаўшыхся навокал яго тады абставінаў.*

*Ці варта яго прапанаваць на становішча нават і кіраўніка аддзела — гэта ўжо да Тваёй дэцызіі, але калі нават не ўважаў за магчымае выкарыстаць яго для гэтага становішча, дык раджу ўсё ж з свайго боку звярнуцца да яго ў справе супрацоўніцтва з радыям і з свайго боку запытацца пра ягоную згоду на пераезд. Калі б нават да такога пераезду не дайшло — такая пастаноўка справы і зварот Твой прывяжа яго бліжэй да БНР і Цябе, чалавек адчуе, што і ён патрэбны і на нешта можа прыдацца, і застанецца толькі ўдзячным за гэта і будзе прыяцелем. Ён да гэтай пары быў збоку ад усяго партыйна-палітычнага жыцця (нашага), хоць у сваю пару браў удзел у працы АБН[25] у Венесуэле і за гэта пацярпеў нават ад тамашніх камуністаў і мусіў ад іх нават нейкі час хавацца (дзеля гэтага змяніў і прозвішча на Гіцкі, як пабачыш з дасланага тут разам адраса).*

*[...]*

*Твой Вітаўт Тумаш.*

*30 чэрвеня 1955 г.*

---

[24] Мікола Абрамчык.

[25] АБН — Антыбальшавіцкі блок народаў — міжнародная арганізацыя антыкамуністычнай скіраванасці, створаная ўкраінскімі эмігрантамі.

*...Коратка пра радыёперадачу «Вызваленне». З гледзішча матэрыяльнага не маю ніякіх падстаў пакідаць Венесуэлу. Забяспечаны і маю ўсе магчымасці, як кажуць, стаць нагамі на ўласны грунт, іншымі словамі, — стацца гаспадаром вялікае фермы на новых землях (прапанавала дзяржава; нехаця смяюся і прыгадваю Коласавага дзядзьку ў Вільні). Прызнанне і службовае становішча (дырэктар Эксперыментальнага цэнтра Аграрнага інстытута і Міністэрства землявробства ў вобласцях еўрапейскіх каланістаў) паставілі мяне ў роўніцу з прывілеяванай інтэлігенцыяй краю (гэта, аднак, не выключае магчымасці раптоўнага падзення: у краінах Паўдзённае Амерыкі няма немагчымых рэчаў). Зрэшты, усе гэтыя плюсы і мінусы не вельмі мяне і цікавяць, галоўнае ж палягае ў іншым. Я падыходжу да Вашае прапановы з гледзішча нацыянальнага, з гледзішча нацыянальнае карысці мае працы і, нарэшце, з гледзішча духоўнага самазахавання. Нацыянальны бок справы — ясны, як Божы дзень; нацыянальная карысць працы палягае ў чысціні беларускае крыві, у нязломнасці і вытрываласці духу і сэрца; трэба ж зубамі вырываць чорную карту жыцця із крывавых рук чырвонага акупанта-далакопа!*[26]

*Калі нацыянальная рэвалюцыйная інтэлігенцыя і Урад БНР уважаюць кандыдатуру мае асобы карыснай і патрэбнай — я не магу не згадзіцца і не прыняць Вашую прапанову.*

*Безумоўна, загадзя мушу знаць наступнае: 1. службовае становішча. 2. месячны заработак (бяру на ўвагу забяспечанне сям'і ў Нямеччыне). 3. адпаведныя гарантыі і г д.*

*Ул. Дудзіцкі»*[27].

У 1956 г. Уладзімір Дудзіцкі прыехаў у Мюнхен як новы дырэктар Радыё «Вызваленне». Гэта быў плённы час для творчасці, але няпросты побытава. Нехта з калегаў не мог дараваць «уласаўскага» эпізоду, хтосьці згадваў п'яныя выбрыкі — хоць, як сведчаць ветэраны Радыё, дырэктар мог выпіць цэбар гарэлкі і не заўсёды тое можна было спасцерагчы.

Тады ж пачалі заўважаць за ім новую хваробу — манію праследу. Як згадваў Янка Запруднік, аднойчы жонка Дудзіцкагаззванiла да яго з просьбаю тэрмінова прыйсці да іх. Дудзіцкі быў нападпітку, сям'я — жонка і дзеці — стаяла на лесвіцы, а сам гаспадар нешта вышукваў у хаце. Калі ж абодва выйшлі на вуліцу, Дудзіцкі ўхапіў Запрудніка за

[26] Вылучэнне Уладзіміра Дудзіцкага.

[27] Ліст Вітаўта Тумаша да Міколы Абрамчыка ад 09.08.1955. Захоўваецца ў архіве БІНіМ.

паліто і сказаў: *«Даражэнькі, нічога не магу зрабіць: як прыходжу з працы, заўсёды здаецца, што за дзвярыма НКВД-ыст стаіць і чакае»*[28].

Зразумела, што доўга пратрымацца на пасадзе дырэктара Радыё Уладзімір Дудзіцкі не мог. У 1962 г. уся сям'я выехала ў Нью-Ёрк, дзе паэт пэўны час працаваў пазаштатным карэспандэнтам «Вызвалення», але і гэтая праца ішла з прыгодамі, таму ён ахвотна прыняў запросіны Масея Сяднёва на працу выкладчыка ў адной з навучальных установаў штата Індыяна. І гэта бадай апошнія дакладныя звесткі пра паэта.

Праз кароткі час Уладзімір Дудзіцкі знік. Ягоная сям'я па сёння не ведае, што адбылося. У беларускай грамадзе пачала хадзіць чутка, што паэт паехаў у БССР. Такія чуткі характэрныя для эміграцыі: тут не аднойчы «хавалі» Уладзіміра Дубоўку, Язэпа Пушчу, Ларысу Геніюш, а што да вяртання ў Саветы — хто як не былы ўласавец здатны на тое?! Прычым фактаў ніякіх не было: проста «казалі» ды спасылаліся на «тых, хто казаў»[29]. Некаторыя, як Яніна Каханоўская, лічылі, што Дудзіцкі паехаў у Аргенціну, дзе эміграцыя была пераважна прасавецкаю, там напіўся і быў у нецвярозым стане вывезены ў СССР[30].

Хоць у нашай прадмове да зборніка «Напярэймы жаданням» было напісана пра вяртанне Уладзіміра Дудзіцкага ў Беларусь, сёння тое выглядае не больш як даніна рамантычнаму пафасу пачатку 1990-х гг. На цвярозы лад, не мог чалавек з біяграфіяй Дудзіцкага ў часе Другой сусветнай вайны ды з такой нянавісцю да Саветаў настолькі засумаваць па Беларусі, каб паехаць туды! На гэта не наважыўся нават самы прасавецкі з эміграцыйных паэтаў, Уладзімір Клішэвіч[31]. Тым больш — Дудзіцкі, з ягонай маніяй пераследу, з абсалютна рэальным усведамленнем, што менавіта чакае па вяртанні яго — былога прапагандыста ў акупаваным Мінску, дырэктара Радыё «Вызваленне».

Значна больш рэальнай выглядае іншая версія: што зноў, як у сярэдзіне 1950-х гг., Уладзімір Дудзіцкі сваім знікненнем вырашыў уласныя сямейныя праблемы, кінуўшы жонку з дзецьмі дзеля мо чарговага кахання і чарговай краіны. Як бачна з ягонай біяграфіі, ён мог даць сабе рады ў гэтым жыцці. І — хто ведае — ён, можа быць, яшчэ жывы!

*Лявон Юрэвіч*

---

[28] Успамін Янкі Запрудніка, запісаны ў верасні 2009 г., захоўваецца ў прыватным архіве Лявона Юрэвіча.

[29] Гл., напрыклад, інтэрв'ю Масея Сяднёва: На суд гісторыі. Мінск, 1994. С. 246.

[30] Успаміны Яніны Каханоўскай…

[31] Уладзімір Клішэві ' наведваў СССР як турыст, тут друкаваліся ягоныя творы, але ён не наважыўся застацца назаўсёды.

# КОРАТКА АБ САБЕ

Нарадзіўся я 8 студзеня 1911 г. (27 снежня 1910 г. ст. ст.) у сялянскай сям'і ў вёсцы Дудзічы б. Ігуменскага, цяпер Рудзенскага, павету, на Меншчыне. Сярэднюю школу скончыў у сваёй вёсцы, а потым, пасля двухгадовага перапынку, пераехаў у горад Менск і вучыўся ў 22-й сямігодцы. Скончыўшы яе, паступіў на двухгадовыя настаўніцкія курсы, а пазней быў пераведзены ў Менскі педагагічны тэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага. Скончыць не давялося: разам са сваімі сябрамі малодшых і старэйшых курсаў быў выключаны, атрымаўшы небяспечную для далейшага шляху ў тым часе мянушку «нацдэм».

Пасля доўгага і паўгалоднага бадзяння пры дапамозе беларускага пісьменніка Лукаша Калюгі, паэты Уладзіміра Хадыкі і іншых стаў на працу за стыльрэдактара газеты «Савецкая Беларусь». Пазней працаваў стыльрэдактарам у Навукова-тэхнічным выдавецтве Беларусі. Адначасова вучыўся на падрыхтоўчых курсах (пры Беларускім універсітэце) для паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Скончыў датэрмінова і быў пераведзены на літаратурна-лінгвістычны факультэт Вышэйшага педагагічнага інстытуту. Але не скончыў... Зноў выключылі, як таго самага «нацдэма»...

23 лютага 1933 г. быў арыштаваны і пасаджаны ў Менскую турму, потым — у «амерыканку» НКВД. Гэта быў так званы другі зачынены працэс «нацыянал-дэмакратызму». Пад гэтай шыльдай ува ўсёй Беларусі было арыштавана тады больш як трыста чалавек. Сярод іх было шмат беларускіх паэтаў, пісьменнікаў і літаратараў: Змітро Астапенка, Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка, Мікола Нікановіч, Уладзімір Сядура, Сяргей Русаковіч і шмат іншых.

Пасля 3-х месяцаў допытаў, паводле пастановы калегіі НКВД СССР, быў высланы тэрмінам на тры гады ў канцэнтрацыйныя лагеры Сібіры. Кару адбываў у Новасібірску, а пазней у г. Марыінску.

Па адбыцці кары ў канцлагеры скіравалі ў Сярэднюю Азію, у г. Ташкент. Прытулкам былі сады і ўзбекская чайхана. Часова працаваў у якасці літаратурнага работніка ў газеце «Фізкультурнік Узбекістану». Дапамагла малярыя: захварэў і дамогся праз год звароту на Бацькаўшчыну.

Вядомыя мае каты з Менскага НКВД загадалі асесці ў г. Віцебску. У гэты час экстэрнам здаў экзамены за ВПІ і атрымаў годнасць выкладчыка беларускае мовы і літаратуры ў сярэдніх школах. Напачатку працаваў стылістам у рэдакцыі газэты «Віцебскі пралетары», а далей выкладаў беларускую мову і літаратуру ў сярэдніх школах, на Медычным рабфаку і ў Педагагічным інстытуце. У 1939 г. па загадзе Віцебскага абкому партыі быў адхілены ад настаўніцкай дзейнасці за тое, што не патрапіў забяспечыць партыйнасць пры выкладанні беларускае мовы і літаратуры. Пад пагрозай арышту вымушаны быў пакінуць горад. Паўгода мусіў хавацца ў розных мясцінах Беларусі і Расіі.

У 1940–1941 гадах працаваў выкладчыкам беларускае мовы і літаратуры ў Курасоўшчынскім ветэрынарным тэхнікуме каля Менску.

Цікавасць да мастацкае літаратуры прачнулася яшчэ ў народнай школе. Глыбокую любасць да літаратуры выхаваў выкладчык беларускае мовы і літаратуры ў сямігодцы, паважаны сп. Ігнат Зянько.

Першыя вучнёўскія пробы пяра адношу да дванаццацігадовага веку, аднак, у меру шмат якіх прычынаў, друкавацца пачаў даволі позна — у 1937 годзе. Гэты час і ўважаю за пачатак свае сталае паэтычнае працы.

*Уладзімір Дудзіцкі*

*1944*

* * *

Стынуць хвалі і цяжэюць быццам,
па-над імі —
ў полымі пажару —
гнецца моўчкі,
прагнучы напіцца,
стан калін чырванатварых.

*1929*

* * *

Дарэмна прамяняў я сон начы
на пошукі нязнанай, свежай тэмы:
знаёмая прыйшла —
«Маўчы, маўчы!..»
І верш такі: кароткі ён і немы.

*1930*

# І мала слоў…

І мала слоў, каб выказаць настрой:
мая туга — без краю і без меры.
А кажуць мне: «Душу вазьмі, настрой
і песняй бі ў няходжаныя дзверы…»

А дзе ж яны, такія дзверы, дзе,
скажэце мне, дасціпныя дарадцы?
Нялёгка, знаю, сэрцу без надзей
чырвоным цветам маку загарацца,

а песні-вольніцы звінець у сне,
адольваць сум душы, галодны лямант…
Як мор, упарта, моўчкі па вясне
паўзуць здалля густыя часу плямы.

І мала слоў, каб выказаць настрой:
і шлях святла, і праўды свет зачынен.
Не плацяць ані гроша за пастой,
а йсці наперад сяння — немагчыма.

*Сляпянка, травень 1931*

## А я — наадварот…

Вы кажаце, што не?..
А я — наадварот:
і вас люблю, і вашыя парады…
Як любіць вас і край мой, і народ,
якому не дасцё ніяк вы рады…

Гаворыце — мана?
Зірнеце на мяне:
які упэўнены юнак і шчыры!
Хіба ж такога хто калі сагне,
і змоўкне дзе душы такая ліра?

Ды дзе вы бачылі?
Ніколі і нідзе…
Ад тапара прыйшоў — хлапец вясковы.
У дзень, як край, здалося, маладзеў,
мой дух юнацкі сонцам быў раскован.

І ліра — вольніца:
звініць яна; крані —
гудзе, бы звон, сцірае зрады сцені.
І слухаюць яе сівыя камяні
і людзі, ранячы жарствой калені…

Не верыце пакуль?
І смеяцеся 'шчэ?!
О, смешныя і дзіўныя няверцы…
І вас яна, я ведаю, пячэ
і вашае крыху кранае сэрца.

Няпраўда, скажаце,
найноўшыя майстры?
Ага, вы — людзі адмысловай маркі…
І нож, відаць, прабуеце гастрыць,
каб шнур жыцця майго расцяла Парка?

Нялюба вам, ці што?
Мо' праўдай мару?
І сам нялёгкую нясу я вязку…
Яна у петлях спрытных вашых рук
прымусіць дзесьці кайданамі ляскаць.

Усцешаны цяпер?
Вы — прагнеце крыві,
ад караля прастуеце да туза…
А лёс наважыў, бачу я, скрывіць
ваш хісткі, коўзкі шлях на Сыракузы…

Вы кажаце, што не?
А я — наадварот:
і крылле вам, багі зямлі, у рукі…
Усе, валок што край мой і народ,
на горб ваш пакладу цяжкія мукі.

*Менск, чэрвень 1931*

* * *

І так яно ад веку і да веку,
спакон вякоў да нашых дзён скупых:
стракае і сцігуе чалавека
вачэй няласкавых пагляд тупы.

А дні імчаць на скрут цвет думак спелых,
нікім не зваблены дасюль, — на змор.
Чужынец — кат мой анямелы —
ўціскае скрытна карак у ярмо.

Ўжо так яно ад веку і да веку,
не абысці, не абмінуць і мне…
Спачну, як моцна, шчыльна, векам
прычыняць вочы у труне.

*1932*

* * *

Я пазнаў і Еўропу, і Азію…
І Аўстралію вызнаць ‘шчэ мусіў;
думка сэрца маё уразіла:
не пазнаў што як след Беларусі…

*1932*

# ПЕСНІ НЯВОЛІ

## Горкія ўспаміны

Цяжка ўспамінаецца зіма 1933 году… Ноч 26 лютага абарвала крылатае юнацтва, скавала думкі, рукі. НКВД… Кожнае часіны ўсё новыя і новыя, гэта — мае сябры: студэнты, журналісты, пісьменнікі — беларусы.

Калі мінула халодная абыякавасць, паўстала пытанне: за што?! Далей думкі не ішлі: яны прыціскаліся нечым плачам і крыкам аб ратунку. Чорна-зямлістыя, акамянелыя твары зняволеных, здавалася, гаварылі: «Не хвалюйся, пашкадуй здароўя, без цябе яго выматаюць… чалавек жывучы…»

Ішлі тыдні, за імі — месяцы. Твары гаварылі праўду: катнія рукі былі няўмольнымі, голад прыкоўваў да каменнае падлогі. У сэрцах катаў, як у тых прадоннях, губляліся людскія слёзы і пакуты. Чаму? — зноў пытанне. «Помста за давер і шчырасць», — адказаў сябра, паэта-юнак.

Далей — цяжкі, далёкі шлях… Сібір. Канцэнтрацыйны лагер. Вузел гора пачаў заціскацца мацней і мацней. Зноў ішлі месяцы, за імі — гады, доўгія, чорныя… Чалавек жывучы…

Перажыўшы і перацярпеўшы нялюдскую пакуту на чужыне, хочацца ад шчырае душы гаварыць сваім людзям праўду пра ліхія бальшавіцкія часы, што згубілі мільёнам самае дарагое — маладосць і жыццё.

Вершы, што друкуюцца ніжэй, напісаныя ў 1934–1935 гадах у горадзе Марыінску. Яны — вынік перажытага.

## 1. Крокі і вёрсты

Сотні вёрстаў прайшоў,
а на месцы стаю,
падлічаю і крокі, і вёрсты…
Клічу з даляў чубатую долю сваю —
далі шлюць плач радзімы і лёскат.

О, навошта!..
Нялюбы мне голас такі:
сам я маю ці мала такога…
Няма долі —
прышлеце мне песняў ракіт
і зямлі пах у сцены вастрогу!

Мілы сэрцу майму балацяны павеў,
шум палёў,
песні ветру,
туманы —
ўсё,
чым цешыўся, жыў
і цяпер чым жыве
край мой родны, ў няволю забраны.

Песняў, долі — няма.
Гора бачу, бяду,
нібы жыў у няволі і рос так.
Сцеражэ цішыня.
І я далей вяду
тыя самыя крокі і вёрсты.

## 2. На парозе турмы

Не украў, не знявечыў нікога,
толькі тое у думках было,
каб народу закутага скогат
уняць лекамі дум і слоў.

Не уняў, не суняў і не сцішыў…
Скогат іншага сэрца кране.
Заўтра, пэўна, вятры закалышуць
на чужыне нялюбай мяне.

## 3. А ратунку не было й няма

Колер неба хмары ўслалі густа.
Цемень цісне долу.
Цішыня.
Белы свет змярцвеў
і стаўся пусткай
небывалай…
Рук не ў стане ўзняць.

Чую плач, вар'яцкі, дзікі рогат,
а ратунку не было й няма.
За плячмі —
этапная дарога,
прад вачмі —
не першая турма…

І бязлістая, сівая восень,
і пакутная, як пекла, ноч…
Мне ў часіну гэтую здалося:
пазычаюць зраду праз акно…

Скамянела, сцішылася сэрца
Кроплі слёз…
Разгойданая муць…
Няўжо тут цярпення боль парвецца?
Няўжо тут я смерць сваю прыму?

## 4. Пакуль песня яшчэ не спета

Не пытайся, мой любы дружа,
як жывецца у краі гэтым…
Спадзяюся як-небудзь здужаць
у няволі ‘шчэ гэтае лета.

Смутак кволай душы,
часіну,
што звязала мне крылле-рукі,
не заломіш на пень асіны,
хоць згінайся ад болю крукам.

Цела ные маё ад болю,
і ўжо месяц яно каторы;
а штодня ўсё мацней і болей
заціскаецца вузел гора.

Па-над пусткай паўночны вецер
не сціхае —
шалее люта;
і здаецца:
на цэлым свеце
смех і радасць змагла пакута.

Кожнай ночы ў снох бачу лета,
чую шумы палёў аўсяных.
Імі гора й туга апеты,
імі ж сэрца жыве і сяння.

Не пытайся, мой любы дружа,
як жывецца у краі гэтым.
Буду несці у сэрцы мужнасць,
пакуль песня яшчэ не спета.

# ЖЫВОЕ ПРАЎДЗІВАЕ СЛОВА

## Скупыя заўвагі

Масква спявала, што яна не ведае іншае краіны, апроч Савецкага Саюзу, дзе б так вольна дыхаў чалавек, а на справе — абрабаваным і выгнаным з Бацькаўшчыны людзям голад займаў духі ў канцэнтрацыйных лагерах. «Жыць стала лепш, жыць стала весялей», — спявала Масква, а народ гаварыў: «Жыць не хочам так далей мы!» Усе бачылі, што кожнага дня вузел гора завязваўся мацней і мацней, што радасць і смех захлынуліся слязамі і крывёю. Краіна «сацыялізму» ў разуменні народу была нічым іншым, як канцэнтрацыйным лагерам, а будаўнікі «сацыялізму» — белымі неграмі бальшавізму.

І калі боль цярплівасці пачынаў разрываць грудзі, лопала пакута маўчання і з душы вырываліся жывыя праўдзівыя словы. «Што ж маўчыш, скажы, годнасць мая чалавечая, калі вецер усходні шалее над пушчамі?!»

Дык ці не найвялікшая слава лёсу, што падняў утаптаную ў гразь нашую годнасць, спапяліўшы назаўсёды чорныя дні былога? Перажыўшы і перацярпеўшы гэтае былое, я з поўнай свядомасцю пушчаю ў свет «Жывое праўдзівае слова». Усе вершы гэтага цыклу напісаныя мною на выгнанні ў канцэнтрацыйным лагеры Сібіры ў 1934 годзе. Няхай яны пакуль што будуць хоць невялікім помнікам апляванае, распятае бальшавікамі Бацькаўшчыны-Беларусі і загубленае маладосці мільёнаў лепшых беларусаў.

## 1. Жывое праўдзівае слова

Песціў доўга цябе, шанаваў і сцярог,
жывіў сумам і песняй лясною
у часіны крутыя ля чорных дарог,
о, жывое праўдзівае слова!

Прачынайся, малю я, расці і жыві,
не згінайся на ворыве новым,
ні на друзе рудым, ні на сцежках крыві,
о, жывое праўдзівае слова!

Кажным гукам звіні над прасторамі ніў,
мчыся ў край мой на хвалях вясновых,
сэрцы братнія стрэламі крыўды пратні,
о, жывое праўдзівае слова!

Пабудзі, падымі і да зораў вядзі
супраць плыні праз пушчы, дубровы.
Волі цемра начы не здалее радзіць,
о, жывое праўдзівае слова!

Песціў доўга цябе, шанаваў і сцярог,
жывіў сумам і песняй лясною
у часіны крутыя ля чорных дарог,
о, жывое праўдзівае слова!

## 2. Навальніца

На сцежках крыжавых сустрэлі навальніцу
пасля гарачыні…
Няўмольная такая,
ішла яна насустрач ветру.
Прыхіліцца
хацелася да дрэва першага.
Над краем
маланка кроіла, сцінала хмары,
сівыя й чорныя…
Грымелі, чуў я, далі,
і далей —
нечакана,
быццам варам,
хвалі ўлевай стан зямлі абдалі.

Зямлі і неба не відно было ні следу,
і дзесьці захлынаўся жвірам дзікі рогат…
О Божа любы мой!
Каб ведаць гэта ведаў,
не выйшаў бы у гэткую нялёгкую дарогу…

І шлях гразкім стаў непрыкметна пад нагамі,
гразкім і коўзкім —
прост' ні ўзад, ні ўперад…
Ўваччу бел-жоўтымі і чорнымі кругамі
снавалі здані гідкія…
Зірнуў — паглядам змерыў
і крыкнуў нехаця, неспадзявана:
— Досыць!
Годзе!
Стаю й дрыжу.
А зблізку голас дзікі:
— Маланка цемру рассячэ й народзіць
цудоўны дзсень,
дзівосны дзень,
вялікі…

І навальніца йшла,
йшла з перунамі ў далі,
вятры збіваліся, здалося, з тропу.
— Хто спыніць іх?
О, хто?
Хто цемру разгайдае
і спыніць буру веснюю?
Адчуй мой, Неба, клопат!..

## 3. Маем сілу і Край свой

Праўду кажуць: «Жывем...»
Жыць не хочам так далей мы.
Хіба ж лёгка
да смерці
быць ліху падлеглымі?
Маем сілу
і Край свой
з блакітнымі далямі,
дык ці варта,
скажэце,
быць белымі неграмі?
Не...
Зямля — у ярме,
самі — скуты і зморaны.
У вязніцах —
з маленства.
Ні слова, ні права нам.
Ўсюды,
вокам ні кінь дзе, —
на сцежках,
на ворыве
пазяхаюць
у сутаргах
раны крывавыя...
Гэта ж цела братоў
і сясцёр
пакалечана
на шляхох крыжавых
нечуванаю вушчунню...
Што ж маўчыш,
скажы,
годнасць мая чалавечая,
калі вецер
знішчальны
шалее над пушчамі?
Хіба ж рук мы не маем,
вачэй сваіх,
розуму?

Ці мо' сонца
на небе
ніколі не бачылі?
О, пара ўжо разбіць
сілу
сілаю
грознаю,
няхай кат-далакоп
слёзы нашы адплача нам.
Права жыць і тварыць
нам гісторыя выдала.
І цяпер,
як ніколі, —
змаганне упартае.
Мы пазналі цану
маляванага ідала
і чаго
абяцанкі ягоныя вартыя.
Нельга далей скарацца,
ўпівацца прынесеным
і клясціся
да стомы
чужому у шчырасці.
Гляньце:
Край наш цудоўны распялі
й павесілі
на крыжы апляваным…
Як здзек такі вынесці?
Чую голас братоў:
«Жыць не хочам так далей мы.
Хіба ж лёгка
да смерці
быць ліху падлеглымі?
Маем сілу
і Край свой
з блакітнымі далямі,
дык ці варта,
скажэце,
быць белымі неграмі?»

## 4. На парозе пары

Не багацце і слава, а гонар душы
і цяпер, як калісьці, вядзе.
Чым жа, дайце параду, ільга ўзварушыць
сэрцы чэрствыя прагных людзей?

Я сягоння стаю, як і шмат хто із нас,
на парозе пары і скупой, і калючай…
Ужо восень прыйшла, а гавораць — вясна…
Каму люба даймаць мяне словам балючым?

Няўжо посніца духу мілей шчырых слоў
і мінуўшчына краю не тчэ успамінаў?
Няўжо так, як сягоння, раней не было
ні уцехі, ні смеху, шчаслівай часіны?

«Эх, дзівак-чалавек, —
гавару сам сабе, —
хіба сумам ты камень падточыш?
Хочаш жыць — памаўчы,
бо няцяжка згібець,
калі юда-прадаўца рагоча…»

Стрэлы чорныя цела зямлі працялі,
распаўзаюцца,
глянь і паслухай.
Зноў пытаюся шчыра:
«Скажэце, калі
бачыў край такі гнеў завірухі?»

Не, не бачыў і чуць ‘шчэ не чуў
неўлагоджанай, дзіўнае рэчы…
Можа праўда, мо’ не —
лепш вазьму памаўчу:
словам раны душы не залечыш

і не выпечаш кропляй гарачай крыві
ані кроплі спагады, ні ласкі…

Не…
Не буду ніколі душою крывіць
і ад хмелю чужога далонямі пляскаць!
Няхай той, чыё сэрца, як мур камяніц,
увіхасцца хітрай лісіцай;
гэты здольны заблытаць шляхі і скрывіць
і слязьмі, калі трэба, па вушы абліцца.

Хай…
Не слава й багацце, а гонар душы,
як і ўчора, сягоння мяне павядзе.
Чым жа толькі, скажэце, ільга ўзварушыць
сэрцы чэрствыя прагных людзей?

## 5. Па-над кручай

Стаю па-над кручай. Сівыя гарбы,
нязломнае сілы грамады,
грукочуць і крышаць скал чорных ілбы —
астоі чужацкага ладу…

Сягоння разгон хай няпоўны яшчэ,
ён заўтра патроіцца, потым…
ушчэнт чужаніцы ярмо распячэ,
муры, зніітаваныя потам.

І песні нялюбае голас чужы
мінуўшчынай стане заклятай,
адно застануцца нам сведкай крыжы —
ліхая за шчырасць адплата.

Іх ладзілі ў шале найміты-майстры,
выносячы свету на сорам.
Пад сцягам варожым чужыя вятры
падменьваюць радасцю гора.

Сцякаюць крывёю зямныя пласты
у лёхах няўмольных усходу,
і сэрца сцінае няўмольная стынь
братом майго любага роду.

Зрываюцца буры з надломаных скал,
каб яркнулі зоры над пусткай,
каб след недаверка навек спаласкаць
рукамі сыноў беларускіх.

Зірнеце пад кручы: сівыя гарбы,
магутнае сілы грамады,
няшчадна знішчаюць скляпенняў ілбы —
астоі чужацкага ладу…

# Жыву і не жыву

Чым акрылю і ўсцешу чым душу?
Якою песняй абнадзею думы?
З маленства на гарбе сваім нашу
пакунак немалы людскога глуму.

‘Шчэ на раду урок мне век Гармей,
каб не скрануў мой дух жывога духу.
Усё,
        чым жыў,
                        і край што меў наўме,
распяла на слупах распусты скруха.

Вось так жыву і не жыву…
Пяю,
пяю не новую —
                            старую песню:
«Аддайце радасць звонкую маю,
што моліцца ля родных весніц.

Пабачыць хочацца —
                                    ды як яшчэ —
у цвеце золата сваю уцеху,
а потым —
                    вяне хай пагляд вачэй
прад здзеклівым, хіжацкім смехам».

*Менск, люты 1933*

# Каб хоць раз усміхнулася шчасце

Каб не рукі, а крылы магутныя меў,
узмахнуў бы я крыламі... Вышай,
у надзем'е крутое, як сэрца наўме,
дзе блакіт неба зорамі вышыт,
узляцеў бы і гора тугое зямлі
у бяздонне, раскрытае насцеж,
паміж хмараў набраклых у песнях разліў,
каб хоць раз усміхнулася шчасце;
каб у грудзі — да сэрца — з павевам вясны
уліліся гарачыя радасці хвалі,
каб мае расцвілі ўсе найлепшыя сны,
што, прысніўшыся, спяць, як і спалі...
Ды не крылы, а цела нямыя кускі —
рукі — цяжка узняць і пакратаць,
і не цветам, а пылам жалезнай лускі
асыпаюць душу Марыінскія краты...

*Турма ў горадзе Марыінску (Сібір)*

* * *

Не першы раз і не апошні, мусіць,
баліць душа, і рады не дасі.
Сніцёся мне вы, рэкі Беларусі,
і ты, журботная азёраў сінь.

Туманы вільгаці балотнай, дзе вы?
І рунь мурожная аселіц дзе?
Сатлееў пад стрэхамі ўчарашні невад,
і човен гойдаецца на вадзе…

А з хаты прышлыя ўкралі восці.
Да слёз расчулены з такой бяды,
мой кот, прывучаны да рыбы, посціць
і часта нюхае мае сляды.

Збівае першыя да сонца росы,
йдучы да рыбнага каліся карча…
Яму, дачуўся я, сягоння млосна,
і ён чамусьці перастаў мурчаць.

Ля вербаў моліцца мая уцеха
і плача, стомленая, ля ракі.
Няўжо бязвусае юнацтва смеху
не ўспеніць вёсламі і хваль пругкіх?

Хіба ўпадзе яно у хвалі віру,
і захлынецца непаўторны цвет?..
Сціскае грудзі мне бязбожны вырак,
і мой хістаецца, бы цень, шкілет.

Не першы раз і не апошні, мусіць,
баліць душа, і рады не дасі.
Сніцёся мне вы, рэкі Беларусі,
і ты, журботная азёраў сінь.

*1933*

# Ні маністаў, ні зораў

1

Я адзін ля акна у суворай сяджу камяніцы,
а гадзіна-другая начы — ані шуму, ні шэлесту
лісця…
Толькі месяц, свавольнік, каб сіні нябеснай
напіцца,
із-за хмаркі, вандроўніцы свету, імкнуўся
употайкі выйсці.

Я адзін ля акна. Каля сценаў зыбнуліся цені —
адзіноты і суму пакутнага звыклыя, блізкія
госці, —
расплыліся і зніклі у пругкім зялёным мігценні,
і ў нямой цішыні нетрывалыя нечыя хруснулі
косці…

2

Я ж адзін ля акна… Скамянелі у позеху
сківіц —
сутарэнняў — набраклыя жаху смяротнага
чорныя мязі…
«Да сустрэчы… Бывай… На знішчальныя
душы людскія…
І ніколі й нідзе голас нашай крыві не памрэ
й не завязне».

Я ж адзін… Каля крат патанулі у мляўкасці
стомы
нетрывалыя думак пякучых пярэстыя тонкія
ніці…
І грымелі, як звон, у мурох словы дзіўныя:
Хто мы?..»
Ды маўчалі муры, быццам гром той у сэрца іх
стрэламі выцяў.

### 3

…Расцвіталі сады. Вецер пошчакам скроні
пакратаў;
на чаўнох залатых выплывалі асілкі з-за хваляў
агністых…
Частавалі і рукі сціскалі, бы роднаму брату,
і да ног дыяментаў, цудоўных, як сонца,
складалі маністы…

На далонях заззяў невыказны, як сполах зарніцы,
цудадзейны агонь, потым полымем стаўся адразу
гарачым…
На калені упаў, каб той сіле хоць раз памаліцца,
але хорам хрустальны паўстаў і раптоўна
жаданні зыначыў…

### 4

За бяседным сталом заліваліся песнямі гуслі,
не змаўкалі ад хмелю далёкіх заморскіх краінаў
музыкі.
А як роскат прыціх, і у хораме змрокі вячэрнія
згуслі,
адплывалі чаўны, асыпаючы зорамі след свой
вялікі…

«Дзе ж вы, сёстры, браты, засмучоная бедная
маці?..
Я ж з маленства такі з вамі шчыры і сэрцам вам
заўжды аддадны…
Хіба ж мелі калі мо' такое багацце у хаце,
якім сяння найменшы гасцямі нязнанымі
шчодра убраны?..»

- - -

…Зазвінелі замкі. Ні маністаў, ні зораў…
Прысуд і кайданы…

*1933*

* * *

У жаўталістую, рудую восень
пакінуў дом свой
і пакінуў Менск.
Пласьмя на мур упала,
засталося
юнацтва,
выпітае у турме.

*1933*

## Жывой крыві жывыя цельцы

Гулі вятры… Тае пары
балюча вытканыя мроі
мурамі глум людскі скарыў,
мячамі радасць перакроіў.

Трымцелі цяжка на мячах
жывой крыві жывыя цельцы…
І жах начы на тварах чах,
і мы — вязніц глухіх асельцы.

Маўчалі сцены камяніц,
бы скамянелы жоўты прывід.
На зябкім полымі брусніц
туга сукала думак грывы…

- - -

Каму паскардзішся, каму?
Каму жывое скажаш слова?
Вазьму лепш плач я перайму
вятроў і звон лістоў кляновых.

Трывожны звон і цяжкі плач,
і вечару суценак руды
на зломе спадаў і няўдач
жыцця цалуюць сцежак груды…

*1933–1934*

* * *

Мая родная, любая, кволая…
Іншых слоў для цябе не маю.
І цяпер між агнём і полымем
доля цела тваё трымае.

І ты плачаш слязьмі гарачымі,
слёзы буйныя, як брусніцы,
ды крывёю — здалёку бачу я —
абмываеш муры вязніцы.

Ці таму, што пяшчотнай, шчыраю
і гасціннай такой была ты,
на журботным узлёце выраю
прыкунежылі сэрца краты?

Расказалі мне хмаркі лёгкія
(падружыліся думкі з імі),
што упалі на сцежкі вогкія
майго шляху слязьмі тваімі.

Знаю: раны тугой не выгаю,
большым болем спаўюцца грудзі.
Над святою начамі кнігаю
за цябе я маліцца буду.

Не журыся! Як месяц выпяты
абдымае чужыя сцягі, —
тройчы слёз сваіх горкіх выпі ты,
каб не ўпасці пласьмя ад смагі.

*1933–1934*

* * *

На небе — зоры й месяц. За акном —
пажар рабінавы… І мне здаецца,
што, чэшучы ручайкі валакна,
у сенцах маці неўзабаве азавецца.
«…Ці мала працы ўсякай на таку,
а ты штодня на гэтыя вячоркі…»
Як запаведзь, на зломаным вяку
трымаю ў сэрцы матчыну гаворку.

*1933-1934*

# З першых вершаў

## 1

Каму ж паскарджуся і напішу,
як не табе і не сабе самому?
Пра ўсё: чым жыў, жыву і што нашу
па свежых сцежках пералому —
раскажа верш праўдзівы мой. Душу
раскрыў яму на зайздрасць часу злому:
мой супакой часовы у бядзе,
мо' ён да ладу думкі давядзе.

## 2

Цяпер і я пазнаў сваю віну:
стаіць перад вачыма чорнай плямай…
Не выкуплю, напэўна, не міну
учынку грэшнага…
Да смерці самай
на грудзі ўпаў цяжар такі… Крану —
тужэй сціскаецца: на моцны клямар
прымкнула дні праклятая віна,
і цяжка выбрацца душы на шлях відна.

*1933–1934*

# Маўклівасць дум
## Песні выгнання

Бывае так, што думаеш адно,
на справе — іншае і не такое
насустрач вынікне, і так яно
душу і сэрца непакоіць.

Стаіш на ростані —
маўклівасць дум,
і песні прарастаюць плачам;
няўжо спачыну, ласкі не знайду
і сэрца блізкага і любага не ўбачу?

О, не, не верыцца…
Навошта сум?
Я крокі новага выразна чую,
убачу край і родную красу,
і стрэча гэтая да слёз расчуліць.

І зноў я буду там,
дзе медзі бродзіць шум
абветранага восеньскага лісця,
аддам сябе і кволую душу,
як не даваў раней яе, калісьці.

*Сібір, 1934*

# Гады крылатыя

Гады крылатыя, юнацкія гады,
як зыбкі цень, мільгнулі, і не стала…
Гавораць мне, што я немалады,
што ўжо даўно сустрэла мяне сталасць;
што скроні бель абходзіць, серабрыць
смоль валасоў няпрошаная госця,
што і каханне ў сэрцы не гарыць,
калі няма у сэрцы маладосці;
што стар мой твар, і страчанай красы
не аднавіць, не стрэць яе вачыма;
што дзесьці ёсць на свеце нейкі сын
і што кахаю… сотую дзяўчыну…
Няхай сабе.
                    Я ж ведаю, сябры,
што ёсць мана і праўда ёсць на свеце,
і калі тлее іскра, не гарыць,
гатоў яе раздзьмухаць злоснік-вецер…
Гады крылатыя, юнацкія гады,
як зыбкі цень, мільгнулі, і не стала.
…Ў жыцці не суджана быць двойчы маладым,
калі ужо вандруе дзесьці старасць.

*1937*

# На папялішчы руж

*С. А-КУ*

Пачаў ды хутка змоўк.
І сэрцу прыкра гэтак.
Палескіх песняў шоўк —
пялёсткі першых кветак —
крывёю тлум затоўк,
і песня не дапета…

На папялішчы руж
расце чырвоны вехаць…
Адважся і паруш,
крані знарок ці нехаць:
зірне пярэсты вуж —
ні думак і ні смеху…

Куды пайсці? І як
ушчунуць гора роскат?
Сцігуе след хіжак
на могільніку костак…
Халодны бляск нажа
свіціцца ў зрадзе лёстак…

Зіхцяць «Смарагды кроз»
на сцежках долі карнай.
І сум бенгальскіх рос
над вуліцай Гарбарнай
п'е чару горкіх слёз
із поўсці ночы хмарнай…

*1937*

* * *

Красою майскаю сады
прайшлі прад намі цёплай ласкай,
і недзе ў далях шызы дым
упаў на чэрвеньскія краскі…
Праходзіш сцежкаю — шумяць
лісты зялёныя, густыя
і дрэўца кожнага імя
гавораць поціху. Вось тыя,
што ўвесну хораша цвілі,
гадуюць яблыкі і грушы.
А гэтай нешта ўсё баліць,
вяршыню сонца надта сушыць…

*Менск, 1939*

## Шлях зусім вузкі

Пасля лета
гаспадарыць восень,
а па восені
у пене завірух
акалелы месяц
спорна косіць
трапяткую
палахлівых зор ікру.

Сыплюцца кавалачкі
вышыняў —
непамерлыя зародкі
характва…
І скрыпяць
дарогаў хрыплых шыі,
і шчыміць
зямлі настылы твар.

А далёка —
там,
за сінім морам,
распякаюцца,
плывуць,
звіняць пяскі.
Эўкаліпты
з хвалямі гавораць,
а мы ім —
ні слова:
шлях зусім вузкі…

*Менск, 1941*

# Маладзіца

Як каралі і калечылі,
не галасіла,
толькі тварам
сінім
прыпадала да зямліцы.
Гэтакую,
як той камень крамяністы,
сілу
мела
шчуплацелая
у целе
маладзіца.

Словам не азвалася
да ворагаў
ні разу
і павекаў не расплюшчыла.
Каму?..
Навошта?..
Заплаціла маладзіца
катам
за абразу
не чым-небудзь,
а жыццём —
найдаражэйшым коштам.

Галасілі не равесніцы —
бацькі, сястрыцы…
Покатам кацілася
над полем
галашэнне.
Ля азёраў нашых
сініх,
паміж лозаў ніцых,
унураўся
нсўтрапёны пошчак
у імшэннік.

А лясы,
бары сунічныя,
на хіб зялёны
падымалі
і вышэй яго шпурлялі —
ўгору,
каб пачулі не адны мы —
цэлы свет…
мільёны…
пра вялікае
пад Менскам Беларускім
гора…

*1941*

## Кідаў я сеці ў глыб рачную

За хваляй хваля ўсё шпарчэй
хінецца, горнецца суладна,
і рэчка, Пціч мая, цячэ,
паволі коціцца да спаду.

Абапал вольхі. Медзь ракіт
шуміць у звоне лозаў ніцых,
і вербы голлем да ракі
звісаюць хваль тугіх напіцца.

Не раз праз гэтыя гарбы
кідаў я сеці ў глыб рачную,
ды заўжды ўлоў мой бедным быў,
бо й рыба, кажуць, стала чулай…

Няхай сабе жыве яна,
тлусцее, корміцца у Пцічы:
на свеце ж рэчка не адна,
іх вельмі шмат — не пералічыш.

О, хвалі срэбныя, шпарчэй
плывеце, любыя, рачныя!
Не спыніць вас, не урачэ
ніхто ніякімі вачыма.

*Дудзічы, ліпень 1941*

## Напярэймы жаданням

Што ж, снуюцца няхай смерці чорныя здані,
супыняцца прад імі не трэба — не варта;
трэба йсці, як ішлі, напярэймы жаданням
смела, мужна — ступою напорна-упартай.

Рана струны душы лашчыць музыкай часу,
песняй дзікаю зброі сталёвай,
і пад радасць чужую далонямі пляскаць,
калі б'ецца жывое праўдзівае слова.

Волю слову й душы даць павінны, няйначай,
песню іншую прышласці выкаваць трэба,
каб грымела яна па-над енкам і плачам
ад гразкіх каляін у блакітнае неба!

Стрэнуць людзі тады песню тую, бы дзіва,
возьмуць прагна, з вялікай уцехай,
каб у краі жылі і спакой, і праўдзівасць,
каб жыццё ацвярозіць сярэбраным смехам.

А пакуль —
хай снуюць смерці чорныя здані,
супыняцца прад імі не трэба — не варта;
трэба йсці, як ішлі, напярэймы жаданням
смела, мужна — хадою упартай!

*1942*

## Балючым накіпам свае крыві

Адчуў на скрыўджаным парой пагосце
балючым накіпам свае крыві,
што зноў зайшлася да мяне у госці
рудая, чорная…
Прыйшла — жыві…
Мне ў хаце бацькаўскай ані не цесна,
пакуль
падсуседкай пабудзь зіму.
Мой сум павесіцца на даўняй песні —
рукамі моцнымі яго вазьму,
шпурну,
каб сэрца не тачыў начамі,
у глыб бяздонную сівых азёр;
душа усцешыцца: канцы адчаю…
Увесну восені спадзе рыззё
на попел захаду, бы дзень аджыты,
скажу:
цяпло нас не зраклося, не!..
Я дні лічыў, схіліўшыся на пліты,
і пліты цалаваў,
і верыў: не кране
вясны
скупая, злая восень-госця,
рудая, чорная…
Вясна, жыві!
Адчуў твой пульс на скрыўджаным пагосце
балючым накіпам свае крыві.

*Лагойск, студзень 1943*

# Не прадам я ніколі вясны

Неяк рана прыйшла вясна,
усміхнулася мне у вочы,
хай нясмела, аднак — яна,
і зямлю ўжо расліны точаць.

Сырадоем сівой начы
умываецца спуджаны ранак.
Кропляй першай расы лячыць
я прабую старыя раны…

Зіхацяць на далонях рук,
углядаюся: што за цуды!..
Хіба праўда, што я памру,
калі ўгледзеў крупінку бруду?

Бяру іншую — дзве і тры…
І дзівоснае шкло вадзіцы
дыяментам ужо гарыць,
можа, гэта ўваччу двоіцца?

У адну я згартаю ўсе,
можа блага, а можа й добра;
зноў праява: ў жывой расе
пазнаецца знаёмы вобраз…

Устрасаю далоні:
Згінь,
чараўніца мая ліхая!
Мусіць, маеш язык даўгі…
Як адвагі адно хапае?

Не памру я!
Сама згібей
каля праслаў збуцвелых плоту.
Наканоўвае шлях табе
балацянай іржою лотаць.

Хай і раны шчымяць —
дарма:
маю лепшыя ў часе лекі…

Знаю:
сорам зямлі трымаць

Не такому цяпер — о, не! —
расчыняюцца дзверы даляў.
Вясна пройдзе і не кране,
вецер струшчыць і разгайдае.

Слаўлю далі і думы!
Сны
чараўніцы
зняверыць сонца.
Не прадам я ніколі вясны
ні за якія ў свеце чырвонцы.

*Барысаў, красавік 1943*

# Не шкадую яго і не плачу

## 1

Лета выскубла жмук асакі
і ў палёх на спачын прысела.
Усплывае, зыбаецца шэлест ракіт
над пакошай кужэльнай аселіц.

За гумном не сціхае, ідзе
неўлагоджаны скрып панараду.
Ў даль рудую праз восеньскі дзень
ідзе нехаця жніўная радасць.

Здаганяю і клічу:
— Пажджы!
Без цябе мне і восень не міла…
— Супыніся…
Зямлю сцеражы,
пакуль сам не пазбыўся 'шчэ сілы.

Дык бывай…
Няхай восень сабе
гаспадарыць і цешыцца ў хаце.
Зразумеў я, што трэба глыбей
любіць край свой і родную маці.

Няхай вяне той жмук асакі,
не шкадую яго і не плачу:
можна ў шэлесце кволым ракіт
днямі восені радасць пабачыць.

## 2

Дагарэла сонечнае лета,
адцвіло —
і след яго прастыў…
На красу апалсную кветак
квола палі жоўтыя лісты.

У пакоі стала неяк пуста,
не узрушыць словам цішыні...
І на верш кладзецца суму згустак,
нечаканага зусім, ані.

Прэч, няпрошаны, нялюбы госцю!
Клікаць я цябе не клікаў, не...
Вызнаў шмат такога ў маладосці —
рытму вершу яд твой не кране.

Няхай тлее жоўты ліст на доле,
лета зноў я стрэну, не бяда...
Зашуміць калоссем спелым поле —
яму песні дум сваіх аддам.

*1943*

# Пела мне маці

Помню, у час вечаровы
пела мне маці калісьці…
Песняў тых дзіўныя словы
чутны у шэлесце лісця.

Пела мне маці калісьці
песні пра шчасце і волю,
песні пра іхняе прыйсце
ў гомане чутны кляновым.

Песні пра шчасце і волю
ў подыху чутны прастораў.
Спевам жытнёвага поля
край мой цудоўны гаворыць.

Помню, у час вечаровы
пела мне маці калісьці
песні пра светлы і новы
Дзень найвялікшага Прыйсця.

*Красавік 1943*

## Хутчэй, хутчэй…

З-пад снегу першы ‘шчэ храсток
пабачыў першы раз я ўчора.
Хутчэй, хутчэй, о хараство,
пратні кару дарогаў чорных!

Зірні, ўжо шэры красавік
ідзе, набракшы сокам глебы
Навошта ж сэрцам мне крывіць,
вясна, як хлеб, народу трэба.

Таму й хвалюе так храсток,
з-пад снегу ўбачыў што учора.
Хутчэй, хутчэй, о хараство,
пратні кару дарогаў чорных!

*Красавік 1943*

# Не зракуся

Хіба шмат такіх вось нашых раніц
ёсць дзе-небудзь у якой краіне?
І раса слязою ногі раніць,
і сады цвітуць пад небам сінім.

У гаі альховым, каля млыну,
улагодзіўшы ўчарашні клопат,
дзіўны россып песняў салаўіных
абуджае соннае балота.

Прачынаюцца двары і хаты,
і ўжо дзесьці каля вёскі нейкай
хтосьці першы раз яшчэ пакратаў
струны пастуховае жалейкі.

Ветрык спуджаны з кустоў вільготных
выбег —
                лісцем зашасцеў нясмела.
Бабы б'юць кужэльныя палотны
на мурожным беразе аселіц.

Не, ніколі ні ў аднэй краіне
не знайсці такіх цудоўных раніц!
Не зракуся іх і не пакіну,
хоць і сэрца моцна хто параніць.

*1943*

# І думы, і словы, і сны

Былі яны, словы і думы,
і думы, і словы, і сны…
Усё, не дабітае глумам,
прачнулася ў шуме лясным:
і думы, і словы, і сны.

І шум узвіваецца ўгору…
Луска цьмяна-шэрай кары
ля пнёў старажытнага бору
смуглее на сонцы, гарыць
луска цьмяна-шэрай кары.

Не сокам — апаленай меддзю
сплываюць з галінаў лісты.
На змроку адчуў я, угледзеў
іх боль і асеннюю стынь —
сплываюць з галінаў лісты.

А словы святыя і думы,
і думы, і словы, і сны —
усё, не дабітае глумам,
прачнулася ў шуме лясным:
і думы, і словы, і сны.

*Травень 1943*

# Упаў блакіт

## З настрояў ля Нёману

Упаў блакіт
на шкло ракі,
і сонца з ім упала…
Праз цень густы
глядзяць лісты,
як сонца твар купае.

Ляжыць блакіт
на шкле ракі,
плынь зыбкая гайдае.
Рачное дно
мне ўсё відно,
краса і неба краю…

Дрыжыць блакіт
на тле ракі,
хмурынкі —
далей,
            далей…
Сачу іх след
на срэбным тле
і раптам —
хвалі,
            хвалі…

Упаў блакіт
у глыб ракі,
рака ж такая злая…
Не, не адна
у нас яна,
што скарб вякоў хавае.

*Беражна, ліпень 1943*

# П'ю сок вясны

*З нагоды Першага Мая прысвячаю*
*сваім прыяцелям і радні,*
*блізкай і далёкай.*

Мой родны брат, сястрыца мая, маці,
о, колькі дум, слоў колькі сяння маю…
Як люба мне, што ў роднай з вамі хаце
п'ю сок вясны у дзень святочны Мая.

Праз цвіль смугі ўсміхаецца травіца,
і рукі дрэў — у новай апранасе…
Вясна з прыполу мне дае напіцца
пітва інакшага на новым, свежым квасе…

Зірнеце: вуліцы усе, завулкі
ад хмелю гэтага кіпяць у русе.
Ніхто й ніколі песняў звонкіх, гулкіх
не спыніць і скаваць не змусіць.

Над горадам, на сцёртых спінах плошчаў
ад рання — маладжавага — да змроку
цалуюць сцягі нашыя, палошчуць
вятры, наровячы ў блакіт высокі.

Там зоры зайздрасцю гараць, іскрацца,
мільгаюць, любыя, над шэрым грудам.
І лучнасць нашая тужае ў працы,
каб мець жніво на папялішчы рудым.

Мой родны брат, сястрыца мая, маці,
ад сэрца шчырага пішу адгэтуль:
дай, Божа, ўсім у роднай сваёй хаце,
як гэты Май, правесці з песняй лета.

*Ліпень 1943*

## Беларускай моладзі

Дарма, што сплямлены наш сад,
крывёй абліт журботны жнівень,
шуміць пад зорамі краса
на сакавітай роднай ніве.

Дарма, што водбліскі крыві
крываваяць край блакітны неба,
працуй, змагайся і жыві:
змаганне пільна сяння трэба.

Адзін на жвір грудзьмі падзе —
другі народзіцца і стане;
і след прыцішаных падзей
святлом зары асвеціць ранне.

Насустрач разам выйдзем мы
і першай сонечнай усмешкай
спалошчам спадчыну чумы
і друз аджытага на сцежках.

І расшуміцца спелы сад
і золатам спавіты жнівень.
Расці, юнацкая краса,
на сакавітай роднай ніве!

*Жнівень 1943*

## Верш [illegible]

Падышла і сказала: «Ларыса…»
Прывіталіся. Слоў не было.
На попеле захаду прысак
сонца слязьмі разліло.

Часіны трывогі; і ростань
узрушыла сэрца, душу.
«Бывай! — сказаў шчыра і проста. —
Прыходзь, мая радасць, прашу».

*Верасень 1943*

# Ізноў я тут

Ізноў я тут, каля цябе,
мой родны, любы, срэбны Нёман.
Скажы мне, колькі на гарбе
сваім дабра ты выцяг з дому?
Якія думы думаў ты,
калі твае сівыя грудзі
мільён разоў гнялі плыты
і нець, як змораныя людзі?
Якія песні пелі тут
улетку хлопцы і дзяўчаты?
Хто суцяшаў у золь, слату
душу пакрыўджаную брата?
А колькі поту асначы
ўлілі у глыб тваю, у хвалі?
Скажы, скажы, чаго маўчыш,
мо' хвалі мову пахавалі?
О, не! Я ведаю: жыве.
Памерці хто такую змусіць?
На ўсе вякі, а не на век
усім нам дадзена — клянуся.
Прызнайся, дружа мой, прашу:
як сам ты, знаць усё хачу я.
Не бойся: чуеш, які шум? —
ніхто нас трэці не пачуе.
Прыйшоў сюды я з-пад Дзвіны,
з-пад Віцьбы нашае, з-пад Случы,
прыйшоў, каб цешыцца, не ныць,
каб больш не мець з табой разлучын.
Зірні, прыслухайся — гудуць
бары самотныя і пушчы.
Не, сорам класці на ваду
дабро і цела дрэва трушчыць.
Даруй, што ўзрушаным такім
прыйшоў сюды… Я шчыра раю:
як мову нашу, — на вякі
пакінь і скарбы свайго Краю.

*1943*

# Я з песняй упоруч пайду

Прамчаўся працяты маланкаю час
на крылах апаленых свету,
у далі ссінелыя ўрэзаўся, згас,
і песня яго, кажуць, спета…

Другі, працінаючы шэрасць імжы,
выходзіць на ласае ўзвышша…
Шчапаецца пошчакам голас, дрыжыць,
у сполаху струны калыша.

Што дзіўнага ў гэтым?
У ходзе падзей
уцехі ёсць кропля і болю.
І нават імкненне адно —
маладзець —
парою істоту ўсю коле.

Ў часіну такую няцяжка зрадніць
удачы свае і няўдачы,
адно не так лёгка адолець агні
і ветру кірункі зыначыць…

О, любыя думкі,
скажэце, нашто
імчацца насуперак буры?
Мо' лепей паволі прайсці пехатой,
каб вецер убок не адшпурыў?

Адна прамінае, другая вярста…
На водшыбе,
ў восеньскім садзе,
былое прабую навотлег лістаць,
каб з думкаю новай паладзіць…

Лістаюцца дні, а за імі гады
раджаюцца ў муках і стынуць.
З руінаў сплывае, кудзеліцца дым,
імкненні ружовыя сініць.

Прастора зыбаецца, зябне, бы здань,
і смуткам агорнуты месяц
не ў стане над краем жуду разгайдаць,
што золак наровіць павесіць…

Нічога…
Я з песняй упоруч пайду,
хоць шлях будзе йсці і над пусткай.
Не здзівяць,
не ўзрушаць наструненых дум
на друзе крывавыя згусткі!

Над пушчай сівою,
у шуме лясным,
над стомай рабінавай ночы
ужо праразаецца воблік вясны,
што цемры скарыцца не хоча.

Адна праімчалася, згасла пара,
прамчыцца у грукаце й гэта…
У небе займаюцца зоры, гараць,
вяшчуюць нам новае лета.

*1943*

# Насустрач будучыні нашай

Я ўспамінаю дні «вясны» —
яны ані мяне не дзівяць.
Былыя крыўды і «праўдзівасць»,
як гук наструнены,
лясны,
як ночы казачныя сны,
мінулі, канулі і спрахлі.

Гляджу, прызнацца, не без страху
на воблік сянняшняга дню…
Паверце шчыра:
не маню;
і словы гэтыя мае,
я спадзяюся, пазнае,
хто хоча бачыць свет інакшым.

Яны —
не купленыя,
нашы.
І я адно хачу яшчэ —
каб дні у даль ішлі шпарчэй —
сказаць:
— Зямля ад вас не просіць
ярма на горб свой моцны…
Досыць!

Згібей, наш лёс!
Жыццё, жыві!
Ушчэнт цаной свае крыві
мы распячэм усе нягоды.
Для прыйсця светлага народу
пад сцягам бел-чырвона-белым
шляхі крутыя пройдзем смела
насустрач будучыні нашай.

*1943*

# Была восень

Без прычын не бывае гора,
ані суму, ні слёз пякучых…
Прыгадаў я сягоння мора
і знаёмага берагу кручы.

Была восень.
Вятры шумелі.
Хвалі пену вады пляскалі.
Вастракрылыя чайкі з мелі
узляталі на грані скалаў.

І здалося,
прызнацца шчыра,
мора любым такім і блізкім.
І нібыта з сівога віру
твар калолі салёныя пырскі.

Але не… Мне у сне здалося:
я ляжаў на вяршыні кручы.
Скалануўся —
душа галосіць,
выпіваючы боль разлучын.

Дома маці адну пакінуў
і яе, радасць сэрца, — Асю…
Вецер кідаў у вочы кпіны:
«Не журыся — даўно зраклася…»

Вось таму і згадаў я гора,
кроплі буйныя слёз пякучых,
цьмяна-сінія хвалі мора
і знаёмага берагу кручы…

*1943*

# Блакіт вачэй

Усмешкай сэрца мне параніў
блакіт вачэй, вачэй дзявочых.
Навошта сэрцу, скажы, раны,
каханнем жыць якое хоча?

Блакіт вачэй тваіх дзявочых
сустрэў з трымценнем струнаў сэрца;
з тае пары і ўдзень, і ўночы
яно к грудзям тваім ірвецца,

ірвецца, мкнецца да спагады,
цяпла, знябытае дагэтуль,
каб вечна дружба была й радасць
сардэчнай шчырасцю сагрэта.

Таму і сэрца мне параніў
блакіт вачэй, вачэй дзявочых.
Загояць веру, сэрца раны
каханне моцнае і вочы?

*1943*

## Жыві…

Час кароткі мне векам здаўся,
і табе — не жыццё, а мукі.
Дык жыві, як калісьці, слаўся…
Я ад сэрца пацісну рукі.

*1943*

# Хай пеніцца віно

Стаіць пітва нявыпітага кубак,
сам брагу п'ю…
                    Хай пеніцца віно!
Не трапіць больш на высахлыя губы,
скажу: «Другімі выпіта яно…»

Мне кроплі слёз халоднае крыніцы
жывільнай стравай будуць напару…
Прыйду,
          укленчу долу,
                              каб напіцца,
каб смага не змагла ні дум, ні рук.

*1943*

## Блізкі і такі знаёмы

Часта чую слёзна-шчыры, любы
голас,
блізкі і такі знаёмы:
птушка шэрая свайго Якуба
кліча ў хату родную — дадому.
Ку-ку,
ку-ку,
яснавокі сокал,
ку-ку,
ку-ку,
прыляці,
прыйдзі!
Ведаю,
сказалі мне,
ў глыбокім
моры нейкім ты жывеш адзін.
Кінь шукаці на чужыне шчасця.
Ку-ку,
ку-ку,
кінь чужыну,
кінь!
Стрэну госця,
расчыніўшы насцеж,
шыр блакітную,
азёраў сінь…
Крыўдзіць —
не пакрыўджу, дружа,
чуеш шэлесты садоў, ракіт?
Хорам бацькаўскі з пялёстак ружаў
журыцца каля ракі…

Ку-ку,
ку-ку!..
Дарагі Якубе,
вербы гнуткія ў гузе, палі,

зжалься, [illegible]
                    зжалься, калі шчыра любіш, —
о, як сэрцайка маё баліць…
Часта чую гэты голас любы
птушкі шэрае ў зялёным садзе:
кліча, бедная, свайго Якуба,
шчыра кліча страчаную радасць.

*1943*

# Былое трупам мусіць пасці

Я дружбы з радасцю не меў:
туга была заўсёды госцяй.
І голас звонкі мой нямеў,
бы думы сцятай маладосці.

І маладосці не было,
не давялося ў горы выспець;
яна сівым упала тлом
пад енк вятроў на дзікай выспе…

На выспе цела маё тнуў
імжою золкай час дрыготкі.
Успамінаў я даўніну,
жыццё бацькоў і думы продкаў.

Шчымела сэрца. І штодня,
каб гора крыўдай перагрызці,
імкнуўся боль душы уняць
красою восеньскага лісця.

Інакшых лекаў анідзе
знайсці ні я не мог, ні маці,
і гурт радні мае радзеў,
і чэзла спадчына — багацце.

Не раз братоў сваіх, сясцёр
на раду ў хату, помню, клікаў,
ды не прыйшлі: іх след расцёр
варожы лад хадою шпікаў.

І слёзы буйныя плылі
і срэбрам падалі на рукі.
Калі, пытаўся я, калі
цярпеў хто дзе такія мукі?

Навокал — ціша. Ні душы.
І толькі дзесьці ля дарогі
глухую цемру варушыў
вар'яцтвам выкліканы рогат…

Хто сам такога не адчуў,
не вызнаў смаку слёз пякучых,
заўсёды будзе уваччу
яго салодкім боль разлучын.

І сяння ён у цёплы кут
паўзе не першы раз, не пяты,
каб не павіснуць на суку
ад чорных рук займанца, ката.

Мне сцежкі ў цяжкай барацьбе
расчыніць лучнасць наша насцеж.
Былое, больш каб не гібець,
кажу я, трупам мусіць пасці.

*1943*

# Плача кроплямі золата дзень

## 1

Сінь дзівосная неба, рассып
срэбра зораў на травы ў поўні:
сонца выпіла кроплі расы
прагавітымі вуснамі поўдня.

Вяне, валіцца куст асакі,
млеюць нема садоў маіх ліпы,
іхны шэлест у пале такім
вецер подыхам высмяглым выпіў.

І не радуюць сцежкі вачэй,
і не цешаць, і дум не вяселяць.
Сумам русыя косы пячэ
кашміровая засень аселіц.

След на жорасце чэрствых сцяжын
абвуглелаю выдаўся плямай.
Неўтаймованы б'ецца, дрыжыць
у палёх гневам здушаны лямант.

## 2

Плача кроплямі золата дзень —
хараство абняслаўленай сіні…
Мне здалося: шукаць нас вядзе
лёс ратунку на горкай асіне.

Маці родная, сёстры, браты,
не змаўкае наструнены голас:
пераймаю і лямант, і плач залаты
на абтоку сцвярдзеласці голай…

Боль нясцерпны працяў да касцей
маё цела на змроку употай;
мае песні на першай вярсце
сівер раніць калючкамі дроту…

Мо' скарыцца? Замоўкнуць мо'?
Не!
Не замоўкне душы мае песня:
узляціць у блакіт, нежывога скране
і заплача ля бацькаўскіх весніц.

Прытулюся і я ля разбураных сцен,
ля курганаў укленчу, схілюся
і мацней запяю,
каб на кожнай вярсце
чутны голас быў мой Беларусі.

*Жнівень 1943*

## Над слядамі шляхоў аджытых

Рассыпайся драбнюткім макам,
ды не высечаш з муру слязы ты…
Золак кроплямі золата плакаў
над слядамі шляхоў аджытых.

І як сонца вільготнае потым
усміхнулася раніцы млява,
акрапіўся халодным потам
неба сцежак пясок смуглявы.

Пасінелі іскрыстыя росы
у валозе ад церпкай смагі,
нібы поглядам кінуў косым
невядомы дагэтуль магік

ды спыніўся на пляцы места,
як рамізнік шыракаскулы,
каб ніякіх ад бацькі вестак
не пачулі сіроты вулак.

Завіваўся гарачы накіп
на журботным палёў паркалі…
Золак кроплямі золата плакаў,
а мы вёсны дзядоў гукалі.

*1943*

# Дваццаць пяты

*Раскажа спеў, што Беларусь*
*жывс,*
*непераможная у працы сціплай.*
*Што долю гадавала на жарстве*
*не горш каралавых паліпаў.*

Уладзімір Дубоўка

Ні сіла наймітаў, ні блуд, ні звады змоў
не зганьбяць славы колішняй у час дрыготкі:
ўпісаная яна у схоў тугіх тамоў
гісторыі крывёй гарачай продкаў.

Гартаем сяння ўсё мы сівізну балон —
адвагі, мужнасці гады пакут не засцяць;
таго, здабыта што, не звабіць у палон
на'т сіла найвялікшае напасці.

У громе сянняшнім зноў пошчак даўніны
стралой імчыцца, не шчапаецца, тужае.
Гудуць над краем змораным званы,
гудуць над усясветным полымем пажару…

І згадкі з пошчакам імчаць мяне туды
(віецца мройны тор гадоў пражытых),
дзе тхнелі роднаю крывёй дзядоў сляды,
дзе межы родныя слязьмі бацькоў абліты.

Да скібаў, да раллі зямлі рудой прыляж,
услухайся ў таемны ейны плач, гаворку —
дрыжыць усланая касцьмі братоў зямля,
у дымс захлынаючыся горкім.

Яна — усчатая цяпер хада падзей —
вядзе ахвярна гнеў наш да адплаты:
і гэта ён — той векапомны Дзень —
дзень Прыйсця — Дваццаць пяты.

Ускрэсла Бацькаўшчына ў светлы Дзень святы,
і волі сцяг узняты быў над родным Краем,
каб ліхадзей — злы дух, вятры і золь слаты —
душы і сэрцаў нашых не каралі.

О, векапомны Дзень! З магіл, із курганоў
сівых ірвецца стогн ахвяраў часу злога...
І сяння, як калісь, калянае радно
калышуць хвалі над распятым логам...

Сацьмее у разні, спрахнее наша смерць,
і сцішаць грэшніцкія горды крокі.
Не кроў — зямля апаленую медзь
залье пітвом Сакавіковых сокаў.

Ні сіла наймітаў, ні блуд, ні звады змоў
не зганьбяць славы колішняй у час дрыготкі:
ўпісаная яна у схоў тугіх тамоў
гісторыі крывёй гарачай продкаў.

*1943*

## Да зброі, да чыну

Прыслухайся:
зноў,
як калісьці,
нас кліча
часіна цяжкая
да зброі,
да чыну.
Ля Сожу,
Дняпра
і ля Прыпяці,
Пцічы
калоціцца
цела
святое Айчыны.
Хто
цела Краіны
імкнецца расцерці?
Скарыцца
і пасці
ніхто нас не змусіць!
О, колькі стаяла
прад воблікам смерці
здабытая слава
мае
Беларусі.
Яе у мінуўшчыне

слаўнай Пагоні
жаўнеры крывёю абмылі
на ветры.
Ніколі ўжо
духу —
клянёмся сягоння —
ніякія сілы
часоў
не распетраць!

Няхай сабе
вораг
з далёкага ўсходу
імкнецца
наш гонар крывіцкі
адолець,
уласнай крывёю
ўзвар'ёваны скогат
зальецца
на сцежках
да нашае волі.
Зірнеце:
ірвецца на родныя гоні,
здань чорная
смерці
дзе стыне,
адвага нашчадкаў Крывіцкай Пагоні,
прысягаючы
друзу святыняў.
Ніколі й нідзе
Беларусь
не загіне,
ніколі
ў палон
не аддасца нікому!
Агністыя зоры нябеснае сіні
не згаснуць
у грукаце вызнаным грому.
Насуперак буры,
насуперак лёсу
шляхамі крутымі
вялікую мэту
да сонца
народ беларускі
узносіць,
каб слава
Крывіччыны
яркла над светам.

Прыслухайся:
зноў,
як калісьці,
нас кліча
часіна цяжкая
да зброі,
да чыну.
Ля Сожу,
Дняпра
ля Прыпяці,
Пцічы
калоціцца
цела
святое Айчыны.

*Сакавік 1944*

## Крывёю купленае права

Сягоння бачыўся у сне
з дзівоснай нейкаю праявай:
стаіць, здаецца, пры Вясне
крывёю купленае права.

Вясна — такой я не страчаў —
Багіняй выдалася нейкай
і праву — права мастака
перадала на пэндзлі клейкім:

— Ніхто не зганьбіць, не кране
за ролю майстра немалую.
Скажы — усцешаны ці не?
Ці фарбы вобраз намалююць?

Багіню выслухаў маляр,
прамовіў нехаця, праўдзіва:
— Даруй, прыгожая… Мая
уцеха сэрца не задзівіць…

Сама ты гэта замалюй
і згоду зор у небе сінім.
Цябе інакш я ухвалю,
каб ты мяне і не прасіла.

Бацькі сказалі нараду:
пад сонцам шчасце не загіне…
Інакшай, ведаю, знайду,
цябе, нябесная Багіня.

Жыві, Вясна, вякі усе!
Мастак нязнаны на мальберце
стварае вобраз пакрысе,
якога й грэшнік не усмерціць.

Сягоння ўбачыў я у сне
крывёю купленае права.
Малюся Сонцу і Вясне,
табе — мой Першы новы Травень.

*1944*

# Вільні

Упершыню сустрэў твае муры,
крутыя вулкі, вуліцы, святыні…
Ў душы не стлее ўцеха, не згарыць —
абудзіцца мацней і след пакіне.

З драбніцай кажнаю уранні, уначы
маліўся срэбру зорнаму і небу.
І гэта быў душы мае спачын,
спачын душы, пітво і солад хлеба.

І ціш сівое Вільні, і вятры,
густыя, кволыя заўжды такія,
усцешаць прышласць іншае пары
і след у сэрцы, у душы пакінуць.

*Вільня, травень 1944*

# Нечакана зусім і проста

*Прысвячаецца*
*Веры Стосуй*

Нечакана зусім і проста
напаткала такая сустрэча…
І здалося, да зор выростаў
смуглатвары глыбоцкі вечар.

Сінь азёраў срабрыстай лускай
узбягала здаля на мелі.
Словы ціхія любых вуснаў
маё сэрца краналі хмелем.

І ці мог хто калі паверыць,
што бывае туга і ростань?..
Нечаканы пачатак, Вера,
нечаканы такі і просты.

*Глыбокае, чэрвень 1944*

* * *

*Веры Стосуй*

Пачатак быў толькі такі.
— Прашу пазнаёміцца…
— Вера…
Чамусьці я пальцы рукі
балюча паціснуў, не ў меру.
А потым не так, як раней,
у вочы глядзеў я нясмела:
баяўся, што сэрца кране
агнём не кранутая спеласць.
Пачатак быў толькі такі —
прыемны і любы надзіва.
Крануліся вусны рукі:
— З прыемнасцю, Вера, —
Ўладзімір.

*Глыбокае, чэрвень 1944*

## Замест развітання

Нашу радасць — буйное калоссе —
прывязлі на захад цягнікі…
Развітацца нават не прыйшлося,
цёплай не падаць рукі.
Думаецца, восень залатая
сёлета прыйшла зусім не ў час.
Мы без вас самотна адцвітаем,
адцвітаеце і вы без нас.
Развітацца не прыйшлося… Болей
скошанай траве ў лугох не ўстаць.
Горш яшчэ, калі ў жыцці ніколі
немагчыма будзе прывітаць.

*Берлін, верасень 1944*

## Ля роднай бацькаўскай мяжы

Ля роднай бацькаўскай мяжы
мне доля жыць прываражыла,
надзейна там я палажыў
учора сноп сваіх зажынак.

Ягоны стан перавязаў
удубальт моцным перавяслам.
З вачэй гарачая сляза
на сноп упала — не пагасла…

Сцябло сатлее — будуць жыць
зярняты — буйныя крышталі,
ля роднай бацькаўскай мяжы
мяне калоссем прывітаюць.

*Берлін, верасень 1944*

# Нараджаецца свет неапеты

Словы думак не зловяць ніяк —
нараджаюцца, мкнуцца, знікаюць…
Дзе, скажэце мне, радасць мая
і якімі шляхамі блукае?

На усход ці на захад ідзе,
песні жалю спявае ці плача?
Можа моцна бярэмя надзей
да грудзей прыцiскае гарачых?

Можа прагна далонямі рук
на паўмежку аплаканым поля
пераймае святую зару,
каб суняць раны свежага болю?

А мо' слава ужо на крыжы
ўкрыжавана чужынцамі, скута?
Нешта цела зямное дрыжыць,
і трывожны выростае грукат.

Шалясцяць у трывозе лісты,
прачуваючы клопат і небыт…
Абвуглелыя далі і стынь
прыпадаюць да ворыва глебы.

Сяння сам да абветраных скіб
перад сонцам схіляюся ніцма.
Мне адкажуць сухія пяскі
мовай струшчаных сценаў сталіцы:

— Камяністай дарогай ідзе
непазнаная радасць паэты.
Не зракуцца і думы: у гневе падзей
нараджаецца свет неапеты.

*Берлін, верасень 1944*

# Надпіс да фотаздымку

*Прысвячаю*
*Веры Стосуй*

Зірні, мая радасць, на гэту
галінку дзівосную мая.
Мне хочацца соладу кветак
напіцца, а права не маю…

Я вычуў у шэлесце лісця
пяшчотную музыку мая…
Было яно, помню, калісьці…
Цяпер ані кроплі не маю.

*Берлін, кастрычнік 1944*

* * *

Шкада, гавораць, працы нашай, поту,
жыцця каштоўнага — цана адна.
Дарэмна поўзалі мы поўзма, кротам,
каб трапіць вобмацкам на след відна.

І сам, бывае, у сябе пытаю,
а словы гэтыя — калючы боль:
збавення сяння я зусім не маю,
калі гандлююць ‘шчэ маім гарбом.

Цяпер спытаецца ізноў хто-небудзь:
«Дзе шчырасць гэтага паэты, дзе?»
Я тройчы ў доказ пакланюся небу
і прысягну яшчэ святой вадзе.

Няхай вішэннік у садку калышуць,
асіну горкую грызуць вятры,
а сонцам сцежку я наважыў вышыць,
пакуль над сцежкамі святло гарыць.

*1944*

* * *

На схіле гор стаіць мой новы дом...
Не мой ён, не, — чужы і на чужыне;
ні скалаў, гор, ні сцен гаспадаром
мяне мой лёс ніколі не пакіне.

У іншы край, не ведамы яшчэ,
пагоніць, пэўна, час мае згіноты,
а мо' й падун сівы у бездань звалачэ
і прыме ў схоў глухі мой дзённы клопат.

*1944*

# Птушка

Слова — птушка, любая, павер мне,
з лёгкіх вуснаў — у блакіт і сінь.
І ніхто да сэрца не паверне,
як ні плач і сэрца ні прасі.

*1944*

# Просьба

*В. С.*

Я стаміўся ідучы,
і стасункі нашы квіты.
Адзінотаю лячы
прымхаў мякіш сакавіты…

Вабіць кубак недапіты —
пі ды іншага вучы…
І пра век мой, горам біты,
не турбуйся — памаўчы.

*1944*

## З паэмы «Цені смерці»

Ты наровіш, пазнаў я, употай паўзці
за плячыма, туляцца і стынуць,
упівацца у цела маё да касці,
ценем чорным схіляцца ля тыну.

На паўкроку цікуеш пры сонцы хаду,
а па сонцы — даўкімі рукамі
у касцістай істоце спустошаных дум
точыш, лашчыш абветраны камень…

Выгінаешся, кленчыш прад воблікам дзён,
перад першай выгоднай ахвярай…
Ненасытны пагляд твой, згібенне, відзён
пры святле і у збоішчы хмараў.

Адступіся, касцісты, жахлівы прывід —
цень смяротны смяротнага духу!
Не скарыцца жывое на сцежках крыві
перад сілаю грэшніцкай скрухі.

Ты наровіш, пазнаў я, употай паўзці,
ценем чорным схіляешся коса.
Бой крыві ў маіх жылах не счах і не сціх,
голас песні расце да нябёсаў.

*1944*

# Прысяга

*Мы ж крывёю на шляхох стагоддзяў*
*высеклі*
*несмяротнае імя такое —*
*Б е л а р у с ь!..*

Ул. Дудзіцкі

*І толькі варты той жыцця й свабоды,*
*Хто кожны дзень за іх ідзе ў бой!*

Гётэ

## 1

Навальніцы знішчальнае ўлева
напаіла душу маю гневам.

Ён, акрылены, думы пакратаў
і наструніў пад грукат гарматаў;

пад разлівы агнёў і пажараў,
плач сіротаў і енкі ахвяраў…

Думы словам вазьму апрану я —
Няхай слова настрою пільнуе…

Няхай вошчацца подыхам вёснаў
гукі музыкі гнеўна-узнёслай

і вядуць нас, узяўшы аберуч,
на змаганне за Волю і Веру!

Калі сэрца крануць і расчуляць —
Маці боль свайго сына пачуе;

боль, што грудзі гарачыя выцяў
на змярканні ў раз'юшаным скрыце;

боль і цёплую радасць спадзеву,
скрыжаваную з сілаю гневу…

Маці скажа: ідзеце сюды вы
слухаць думы жыцця агнявыя —

думы працы і думы змагання,
думы блізкага, светлага рання!

Гэтак час пабудзіў і пакратаў
струны сэрца пад грукат гарматаў,

каб у сціплых фрагментах паэмы
расказаць, як жылі і жывем мы;

каб пад родным скрываўленым сцягам
даць Радзіме пакутнай прысягу.

## 2

Дарагая мая Радзіма!
Слова песняю стацца прымусь,
каб яна нашу радасць пладзіла,
што на свеце жыве Беларусь,

і, мінаючы глум і мукі,
на прысуджаным доляй крыжы
несла дзецям тваім і ўнукам
найвялікшае права — жыць!

## 3

Не спляміласяй не заліпла
злачыннасць грахоў і правін…
Як човен із зарасляў, выплыў
праз морак гадоў успамін.

Жыццё нас і гнула, і секла
на часткі і напал — абы
у хітра змайстраваным пекле
пладзіліся й чахлі рабы…

На д'ябальскім чорным экране
жахліва віднеецца след:
на болем раз'ятранай ране
Краіны трухлее шкілет…

Шавеляцца жоўтыя косці,
і чэрап сухі галавы
аб лёсе свае маладосці
такое гаворыць жывым.

## 4

Як каралі й калечылі — не галасіла,
толькі тварам прыпадала да зямліцы.
Гэтакую, як той камень крамяністы, сілу
мела шчуплацелая у целе маладзіца.

Словам не азвалася да ворагаў ні разу
і павекаў не расплюшчыла. Каму? Навошта?
Заплаціла маладзіца катам за абразу
не чым-небудзь, а жыццём — найдаражэйшым
кошгам.

Галасілі ўсе равесніцы, бацькі, сястрыцы.
Покатам кацілася над полем галашэнне.
Ля азёраў нашых сініх, паміж лозаў ніцых
унураўся неўтрапёны пошчак у імшэннік.

А лясы — бары сунічныя — на хіб зялёны
падымалі і вышэй яго шпурлялі — ўгору,
каб пачулі не адны мы — цэлы свет,
мільёны —
пра вялікае на Беларусі нашай гора...

## 5

І казалі людзі, і казалі проста:
— Наша шчасце — за дванаццаццю
замкамі...
На парозе хаты, на дарозе росту
доля ўзгадавала цяжкі гора камень...

І пыталі людзі, і пыталі шчыра:
— Ці не размінецца наша шчасце з намі?
Ці не закалыша шум трывожны віру
цвету сноў дзявочых у гаротным найме.

І чакалі людзі, і сціскалі скроні:
— А калі ж мы скажам словы гневу сілс,
каб лягло, як сонца, шчасце на далоні,
каб жыццё людское больш не галасіла?

І казалі людзям поле, лес і зоры:
— Як не сёння — заўтра, а ‘ткі легчы
мусіць,
бо не заўжды ж маюць, як чаўны у моры,
трушчыць іклы бураў косці Беларусі!

**6**

Край дружбы з радасцю не меў:
туга была штодзённай госцяй.
І голас моўкнуў і нямеў,
як песні скутай маладосці.

І маладосці не было:
спыніла старасць на паўкроку…
Яна тугім упала тлом
пласьмя на стоптаным абтоку.

Гайдаў трагічную труну
вятроў халодных час дрыготкі.
І Край прыгадваў даўніну,
жыццё стваральнікаў і продкаў.

Не раз братоў маіх, сясцёр
на раду ў хату, кажуць, клікаў,
ды не прыйшлі, бо й след расцёр
чужацкі лад асокай шпікаў.

Шчымела сэрца. І штодня,
каб крыўду помстай перагрызці,
у сцены білася радня —
шукала схованага выйсця…

Інакшых лекаў анідзе
не мела ўзяць Радзіма-маці.
І гурт сям’і яе радзеў
на чорным гора перакаце…

І слёзы буйныя цяклі,
паілі пекла мур акуты.
Калі, пытаўся Край, калі
цярпеў хто гэткія пакуты?!

Навокал — вусціш. Ні душы.
І дзень падточаным парогам
нямую цемру варушыў
вар'яцтвам выкліканы рогат...

7

Дарогі размінуліся на Ўсходзе
і ўперліся ў нямыя тупікі...
Нязвыклым шляхам людзі ходзяць,
тасуючы у памяці вякі.

Дванаццаты. Сямнаццаты. Дваццаты —
апошняя, заключная вярста...
Калоціцца, цярплівасцю напяты,
пад вобразам распятага Хрыста.

Нікому і нідзе даўно не спіцца:
тасуюцца у памяці вякі,
і неба нагартаваныя спіцы
ўядаюцца ў нямыя тупікі...

8

Стрэлы чорныя цела зямлі працялі...
Маці родная, сэрцам паслухай
і скажы сваім дзецям, ці бачыў калі
Край такую ў жыцці завіруху.

Голас любы, цярэбячы шэрасць імжы,
азывaeцца з хваль землятрусу:
— Гэта ж д'яблавы рукі ўбіваюць нажы
у святую душу Беларуса...

9

Стаім па-над кручай. Сівыя гарбы,
нязломнае сілы грамады,
грукочуць і крышаць сцен чорных ілбы —
астоі чужацкага ладу.

Зрываюцца буры з патрэсканых скал,
каб яркнулі зоры над пусткай,
каб след ліхадзея агнём спаласкаць
з абшараў зямлі беларускай!

Сягоння разгон хай няпоўны яшчэ,
ён заўтра патроіцца… Потым
ушчэнт чужаніцы ярмо распячэ,
муры, знітаваныя потам…

Іх ладзілі доўга найміты-майстры,
хаваючы ганьбу і сорам,
каб кроілі згубныя мору вятры
людскую ў мурох непагоду,

каб нема стагналі тугія пласты
у лёхах здзічэлага ўсходу;
каб цела калечыла лютая стынь
ахвярам крывіцкага роду…

Мацнее пачатая сілаў разня —
упартае бураў змаганне.
Пад грывамі пушчаў, чакаючы дня,
стаім ля апошняе грані…

**10**

Каліськi сокамі грудзей
жывіла продкаў ты, зямліца.
І нам, каб род не парадзеў,
дазволь пітва твайго напіцца.

З маленства снілася у сне,
было крыніцай дум адзіных.
Яму, як сонцу і вясне,
маліцца хочам на Радзіме.

На землях выпетралых, дзе
над курганамі вецер вые,
дзе гора едзе на бядзе,
абняўшы дзіды агнявыя…

Дзе, веру росцячы, браты
за волю кроў зямлі аддалі,
і дзе лунае дух святы
над мужнасцю бунтарных даляў…

Паі ж нас сокамі грудзей,
як продкаў некалі, зямліца!
Паі! Нас покліч твой вядзе
Табе і Небу памаліцца.

Прымі да споведзі. Вазьмі
прысягу верную. Ад шчасця
сваімі моцнымі грудзьмі
цябе заслонім ад напасці.

**11**

Вось і Менск — старажытнае места.
Маршы, песні і золата вестак…

Вось Няміга й Высокая плошча.
Сонца вусны і душы палошча…

Вось жаўнеры і белыя коні,
і абраз старадаўняй Пагоні…

*

*«Бійце ў сэрцы іх — бійце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай староньцы баліць…*

*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не усцішыцца гэтакі боль…*
*Ты прабач, Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!..»*

**12**

…Пасля доўгіх і цяжкіх разлучын
радасць стрэчы узрушыць балюча.

І скрыжуюцца вочы і рукі
пад цудоўныя радасці гукі…

У зняслаўленай бацькаўскай хаце
пачастуе сыноў сваіх маці.

Кроплі чыстыя першае чары
абдадуць цела палкасцю вару

і спалошчуць атруту былога
моцным хмелем пітва дарагога.

Гэтак, збыўшы пакуту разлучын,
радасць стрэчы узрушыць балюча…

## 13

Каля святыні, на пагосце,
пад беларускім родным сцягам
увесь народ крывіцкі й госці
пачуюць нашую прысягу.

Мы тройчы ўкленчым урачыста
і прысягнем Радзіме гучна
ушчунуць рэшту змоў нячыстых,
што прагнуць зганьбіць нашу лучнасць,

наровяць Край наш родны, любы,
дабро й жыццё, што бралі з боем,
аддаць на новы здзек, на згубу —
у рукі спрытных людабояў.

І прысягнем, на зайздрасць тлуму,
самім сабе, святлу і веры,
каб не чыніў чужынец глуму
і больш не стукаўся у дзверы…

## 14

О, прысяга, о, сіла святая,
дух ваяцкі, бы птах, узлятае.

Узлятае на крылах і кліча
войска грознага лік павялічыць.

Яно прыйдзе і стане з мячамі,
сіла гневу дзе б'ецца з начамі,

дзе ў пякельных агнёх навальніцы
сінь крывёю варожай імгліцца.

Прысягне, скажа шчыра і проста
у часіну ваяцкага хросту:

«Для цябе, беларускі народзе,
сіла збройная волю народзіць!

Ахрысці на ахвярныя чыны
у змаганні за славу Айчыны!

Маці родная! Вораг ніколі
не скуе крывёй купленай волі!»

О, прысяга, о, сіла святая,
дух ваяцкі, бы птах, узлятае!

* * *

Тут, дзе воды Нямігі ўліваюцца ў Свіслач,
сотні год дзе няволя чужацкая вісла, —
на зняслаўленым пляцы разбітай сталіцы,
векапомнага Менску, дзе радасць іскрыцца,
над касцямі ахвяраў вялікіх пад сцягам
далі Богу, Народу й Радзіме прысягу…

*

*«Ў белай пене праносяцца коні —*
*Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць…*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць!»*

**15**

Грымяць і грымяць цягнікі
у бляску гарматных усхліпаў.
Ў трывозе вар'яцкай вякі,
здалося, да земляў прыліплі…

А шлях некароткі яшчэ —
наперадзе шмат кіламетраў.
Ляцяць цягнікі ўсё шпарчэй
наўсуперак згубнаму ветру.

У воблік напятай начы
вачыма ўпіваюцца воі.
Ў тугую ляцяць далячынь
і іхнія думы-настроі...

*

Зышліся у грозным баі
вялікія, грозныя сілы.
Радзіма на варце стаіць —
да сну анікога не хіліць.

Да скібаў вільготных прыляж,
адвага, часіну паслухай:
дрыжыць пад нагамі зямля,
прымае і радасць і скруху.

З-за воблакаў месяц пасе
падзеі напятыя сутак...
Няпрошанай госцяй прысеў
ля крыжа збуцвелага смутак...

*

І просіць, і моліць устаць
сыноў дарагая матуля,
абраз неўміручы Хрыста
да сэрца гарачага туліць.

— Зірнеце, саколы, з магілак сырых
на свет гэты Божы, на наскі!
Малюся і плачу, каб нашай зары
ізноў не пасеклі на часткі...

**16**

Ні матулі, ні ейнага плачу
і не чуюць сыны, і не бачаць.

Ані сонца, ні зораў, блакіту,
ані медзі не бачаць ракітнай.

І знішчальны узлёт навальніцы
не згадаецца ім, не прысніцца.

Прыняла іх зямліца ў пасцелю,
вецер лісцем курганы усцеле.

Пракувае зязюля уранні
пра ахвяры цяжкога змагання.

Неба хмары сівыя падоіць
і напоіць сыноў сырадоем…

*

Спеце, спеце, крывіцкія воі,
ушануюць браты вашы мроі,

ушануюць і дзеці, і сёстры,
сэрца жалем сціскаючы гострым,

ушануе змагарныя чыны
Маці нашая, Маці-Айчына!

А зарою умыецца вечар —
прыйдуць маткі да вас і укленчаць…

І дзяўчаты, каб сны не каралі,
асыпаючы слёзаў каралі

на свяжуткі пясочак сыпучы,
заспяваюць аб крыўдзе разлучын:

— Дзе ж ты, любы сокал,
Дзе ж ты, сінявокі?..

Я журуся, я чакаю —
Любы, адгукніся!..

Будуць дні і цалюткія ночы
гаварыць аб нядолі дзявочай,

шчасцс з даляў сваё будуць клікаць
па усёй па краіне вялікай:

— Я ж кахала цябе, мая радасць…
Помніш росныя сцежкі у садзе?

Помніш рэчку, крынічка дзе звоніць?
Ты прыходзіў ды з кветкай півоні…

Хвалі беглі, каціліся ў далі,
квола кветкі-півоні гайдалі…

Я ж кахала цябе, мая радасць…
Помніш росныя сцежкі у садзе?..

**17**

Плывуць жалобныя развагі,
плывуць і коцяцца паволі:
— Пад бел-чырвона-белым сцягам
ляглі сыны за шчасце волі…

За рэкі й руністыя гоні,
за край азёр, красы і веры,
за гарт Крывіцкае Пагоні
ляглі крывіцкія жаўнеры…

**18**

Ёсць такія, што кажуць гэтак:
«Нам сваё наймілей бывае,
няхай восень сабе ці лета
узвівае свой спеў над краем…»

Хай, што хочуць, гавораць людзі —
не такі ўжо вялікі грэх…
Сёння тое злачынствам будзе,
калі думка чыя памрэ!

Не здалес ніхто на свеце
гадавацца, як трэба, жыць,

калі ўзлёт іхні злоснік-вецер
разапне на шпянёх мяжы…

Чаго варта цяпер істота
ў цяжкую жыцця пару,
што наровіць, як смоўж, употай
прысмактацца да моцных рук?

Мо' таму й гнеў душу сціскае,
і спадае сляза з вачэй?..
Толькі грэшнік чужымі рукамі
на ражне славу дзён пячэ!

У мінуласці — час пражыты —
думку продкі радзілі дням,
каб да сонца, крывёй абліты,
гонар Бацькаўшчыны падняць.

Шанаваць, сцерагчы нам трэба,
гартаваць і далей расціць,
каб пад родным блакітным небам
накананы шлях прайсці!

Хай шпурляе, ірве навальніца
набалелыя ніці надзей,
хай падзем —
можа стацца так —
ніцма,
але Краю не здрадзім нідзе!

**19**

Прыйдзем, вернемся ў бацькаву хату
святкаваць найвялікшае свята,

свята мужнасці, моцы і сілы,
што няволю ў змаганні скасіла.

Маці стрэнс, гасцінна адчыніць
сэрцу блізкія дзверы святыні.

І памолімся, палячы свечы,
за шчаслівую нашую вечнасць.

Думы радасці нашае — песні —
узлятуць у блакіт паднябесся…

Гэтак час пабудзіў і пакратаў
струны сэрца пад грукат гарматаў…

**20**

Родная! Заві, хвалюй усіх нас,
высака
падымаць над неспакоем сцяг —
сыноў прымусь.
Мы ж крывёю
на шляхох стагоддзяў высеклі
несмяротнае імя такое —
Б Е Л А Р У С Ь…

*1944*

# Клятва духу
## Паэма

*Прысвячаю любай*
*і дарагой мне Маці*

### 1

Час ізноў мае думы пакратаў
і наструніў пад грукат гарматаў.

Думы песняй вазьму апрану я,
няхай песня настрою пільнуе;

няхай цешаць пульсацыяй вёснаў
гукі музыкі звонка-узнёслай.

Яны сэрца крануць і расчуляць,
маці боль свайго сына адчуе.

Калі ж песня мая зыржавее,
думы вецер дашчэнту развее;

гукі музыкі, любай і шчырай,
адлятуць у няведамы вырай;

і настрой, хоць і слёзна заплача,
гэтай страты ніяк не зыначыць.

Дык расцеце, і думы, і песні,
узлятайце у сінь паднябесся!

У нястрыманым вашым развоі
радасць словамі сум перакроіць.

Я скажу ўсім: ідзеце сюды вы
слухаць песні жыцця агнявыя,

песні працы і песні змагання —
думы блізкага, светлага рання!

Гэта час мае думы пакратаў
і наструніў пад грукат гарматаў.

## 2

Калісьці сокамі грудзей
паіла продкаў ты, зямліца,
і мы, каб род не парадзеў,
прыйшлі пітва твайго напіцца.

З маленства снілася у сне,
было мацункам нам адзіным.
Яму, як сонцу і вясне,
маліцца хочам на Радзіме.

Тут ветры ў песнях шалясцяць,
а песні — палкія, жывыя.
Драбніца кажная жыцця
усімі вызнана навылет.

Пакуты цяжкія радні,
разбою воражага грукат,
уцехі выпітае дні
і радасць даўняга — адчуты.

Тут нылі з посніцы бацькі,
і самі скораму не зналі.
Ішлі, узяўшыся за кій,
у свет шляхамі чэрствых даляў.

Не год які мо' і не два
у край чужы ішлі нясмела.
Сухая, гострая жарства
пякла ног струджанае цела.

Не мелі болю чым уняць
сыны твае у дзікім свеце:
халоднай поўначы штодня
калечыў сэрца льдзяны вецер.

Цяпер зірні: перад табой
стаім на варце ганаровай.
Скажы — і рынемся у бой
усе, не вымавіўшы слова.

Пакуль жа сокамі грудзей,
як продкаў некалі, зямліца,
напой, каб род не парадзеў,
каб ніцма целам не зваліцца.

Прымі да споведзі! Вазьмі
прысягу шчырую. Прычасці
не пашкадуй — сваймі грудзьмі
цябе заслонім ад напасці.

**3**

Пасля доўгіх і цяжкіх разлучын
радасць стрэчы кальнула балюча.

На парозе часіны інакшай
скрыжаваліся погляды нашы.

І мацней 'шчэ браты мае, сёстры
горасць вычулі прыкрага посту…

У зняважанай бацькаўскай хаце
частавала сыноў сваіх маці.

Спаласкалі атруту былога
хмелем моцным пітва дарагога.

Кроплі дзіўныя першае чары
абдалі цела палкасцю вару.

Гэта, збыўшы пакуты разлучын,
радасць стрэчы кальнула балюча.

**4**

Каля святыні на пагосце,
пад бел-чырвона-белым сцягам,
усе знаёмыя і госці
зышліся выслухаць прысягу.

Быў цёплы чэрвенеўскі вечар,
а неба ўходзіла у прыцем.

Святочныя гарэлі свечы,
і месяц слаўся у блакіце.

Ўсе тройчы ўкленчылі ўрачыста
і пакляліся моцна, гучна
адолець сілы дух нячысты,
што пнецца зганьбіць нашу лучнасць;

што мкнецца край цудоўны, любы
і скарбы велічныя краю
аддаць на здзек людскі, на згубу
у стан разбойнай, хіжай зграі;

і даўнасць — сэрца асалоду —
зняславіць квапіцца, расцерці,
і дух адроджаны народу
распяць на пляцы і усмерціць.

І пакляліся моцна потым
каля святыні на пагосце
адпомсціць часу за сіротаў,
за кроў, за бацькаўскія косці.

5

Сіла клятвы, о, сіла святая,
дух ваяцкі, бы птах, узлятае:

узлятае на крылах і кліча
войска грознага лік павялічыць.

Яно прыйдзе і стане із намі,
сіла духу дзе б'ецца крыламі,

дзе ў пякельных агнёх навальніцы
сінь крывёю гарачай імгліцца.

Яно прыйдзе шляхамі крутымі,
клятвы помнячы словы святыя:

— Для цябе, беларускі народзе,
сіла збройная шчасце народзіць;

ахрысці на ахвярныя чыны
у змаганні за славу Айчыны!

Аніякай навале ніколі
не скаваць, не змагчы нашай волі!

Сіла клятвы, о, сіла святая,
дух ваяцкі, бы птах, узлятае.

**6**

Грымяць і грымяць цягнікі
у бляску крывавых усхліпаў.
У спрыце вар'яцкім такім
трывога да шыбаў прыліпла.

Сціраюць марозны узор
із вокан далонямі людзі.
Мігценне агністае зор
цяпло выціскае і студзіць.

А шлях не кароткі яшчэ…
наперадзе шмат кіламетраў.
Імчацца, здаецца, шпарчэй
калёсы наўсуперак ветру.

У воблік дрыготкай начы
вачыма ўпіваюцца воі.
Ў тугую ляцяць далячынь
і іхныя думы-настроі.

Грымяць і грымяць цягнікі
у бляску крывавых усхліпаў.
У спрыце вар'яцкім такім
трывога да шыбаў прыліпла.

**7**

Зышліся у грозным баі
вялікія, грозныя сілы.

Краіна на варце стаіць,
да сну анікога не хіліць.

Да сцежак прыцёртых прыляж,
да плітаў — часіну паслухай…
Дрыжыць пад нагамі зямля,
прымаючы радасць і скруху.

Расчулены месяц пасе
падзеі напятыя сутак.
Няпрошанай госцяй прысеў
ля крыжа збуцвелага смутак.

Тут кліча прачнуцца, устаць
сыноў дарагая Матуля
і вобраз вялікі Хрыста
да сэрца гарачага туліць:

— Зірнеце, сыночкі, з магілак сырых
на свет гэты Божы, на наскі!..
Малюся і плачу, каб нашай зары
ізноў не пасеклі на часткі…

## 8

Ні матулі, ні горкага плачу
і не чуюць сыны, і не бачаць,

ані сонца, ні зораў, блакіту,
ані медзі не бачаць ракітнай.

І смяротны узлёт навальніцы
не згадаецца ім, не прысніцца.

Прыняла іх зямліца ў пасцелю,
вецер лісцем курганы усцеле.

Пракувае зязюля уранні
пра ахвяры цяжкога змагання.

Неба хмары сівыя падоіць
і напоіць сыноў сырадоем…

### 9

Спеце, славы крывіцкай героі,
дух ваяцкі клянемся патроіць.

Пасля гнеўных баёў і адплаты
прыйдуць любыя вашы дзяўчаты.

Пакладуць яны кветкі жывыя,
плачам цвіласць курганную змыюць

і вяночкі із ружаў паложаць —
яны любасць былую памножаць.

Росным раннем улетку і ўвесну
праспяваюць вам слёзныя песні:

Дзе ты, любы сокал,
дзе ты, чарнавокі?
Я цябе шукаю,
клікаю, гукаю…
Любы, адгукніся!

Ой, ды знаю, знаю…
Сорам, што гукаю…
Ты за цёмным борам
ды за сінім морам…
Любы, адгукніся!

Вернешся дадому
пад вясёлы гоман…
І у роднай хаце
стрэну я і маці…
Любы, адгукніся!

Ой, ды знаю, знаю…
Сорам, што гукаю…
У сырой ты спіш зямельцы,
кажа маё сэрца.
Любы, адгукніся!

Будуць дні і цалюткія ночы
гаварыць аб нядолі дзявочай.

Шчасце з даляў сваё будуць клікаць
па усёй па краіне вялікай.

...Я ж кахала цябе, мая радасць...
Помніш росныя сцежкі у садзе?

Помніш рэчку, крынічка дзе звоніць,
ты прыходзіў ды з кветкай півоні.

Хвалі беглі, каціліся ў далі,
квола кветкі-півоні гайдалі...

Ўспамінаюцца дні тыя, ночкі...
Дзе ты, кветка уцехі дзявочай?

Я ж кахаю цябе, мая радасць...
Помніш росныя сцежкі у садзе?

След кахання, цяпла не заліпне
і крывёю гарачых усхліпаў.

Спеце, славы крывіцкай героі,
дух ваяцкі клянемся патроіць.

## 10

А часамі гавораць гэтак:
«Нам сваё наймілей бывае...

Няхай восень сабе ці лета
узвівае свой спеў над краем».

Ёсць у кажнай праяве доля,
ёсць і салад, і горкі чэмер.

Не адолець цяжкога болю,
хоць і сэрца сваё ушчэміш.

## 11

Хай, што хочуць, гавораць людзі, —
не такі ўжо вялікі грэх:
сяння тое злачынствам будзе,
калі думка чыя памрэ.

Не здалее ніхто на свеце
красавацца, як трэба, жыць,
калі ўзлёт ейны злоснік-вецер
узапне на шпяні мяжы…

Чаго варта цяпер істота
у цяжкую жыцця пару,
што наровіць, бы смоўж, употай
прысмактацца да моцных рук?

Мо' таму й боль душу сціскае
і спадае сляза з вачэй?..
Дарма сянняшні грэшнік-Каін
на ражне славу дзён пячэ!..

У мінуўшчыне — час пражыты —
думку продкі радзілі дням,
каб да сонца, крывёй абліты,
гонар Бацькаўшчыны ўзняць.

Шанаваць, сцерагчы нам трэба,
гартаваць і далей расціць,
каб пад родным блакітным небам
накнаваны шлях прайсці.

Хай шпурляе крывёй навальніца,
хай няўмольныя б'юцца агні,
хоць падзем, можа стацца так,
ніцма —
клятве духу не здрадзім ані.

Дык няхай і гавораць людзі —
не такі ўжо вялікі грэх:
сяння тое злачынствам будзе,
калі думка чыя памрэ.

## 12

Прыйдзем, вернемся ў родную хату
святкаваць найвялікшае свята,

свята мужнасці нашае, сілы,
што нядолю ліхую скасіла.

Маці стрэне, гасцінна расчыніць
урачыстыя дзверы святыні.

І памолімся, палячы свечы,
за шчаслівую нашую вечнасць.

Думы новага часу і песні
узлятуць у блакіт паднябесся.

*Мінск, 1944*

# Віюцца чорныя дарог брыжы

…І дзе ні стань,
ні йдзі куды,
ні глянь ты,
віюцца чорныя дарог брыжы;
усцяж іх,
сцятая жалобным бантам,
нядоля выгінаецца;
дрыжыць
усмешка,
выпітая часам едкім;
бы цень,
хістаецца жывы касцяк;
і мой шкілет —
жывая долі сведка —
відаць,
злічае дні свайго жыцця.

*Сакавік 1945*

# На станцыі начы

## З дзённіка

Куды імчыш мяне, цягнік?
Спыніся, не імчы!
Гусцеюць жоўтыя агні
на станцыі начы…

Гавораць: «Побыту, пакуль,
няма табе нідзе…»
Адзін, як зерне на таку,
і я ў такой бядзе…

Назад — няўсцешны паварот,
наперад — боль і сум…
Відаць, да д'ябальскіх варот
вятры душу нясуць…

Спыніся! Зыбісты міраж —
уяў шалёны скрут.
Апошніх высілкаў віраж
да шыбеніц прыгнут…

Адзін, як прывід уначы,
стаю на станцыі начы.
Навокал — сцены і мячы
пасталі цемру сцерагчы;

блізютка, вусціш жуючы,
снуюць скуластыя сычы…
Грымяць магутныя ключы
ля брамаў станцыі начы.

- - -

Згібей, спрахней ты, доля злая,
цярпець цябе не маю змогі!
Няхай на суд сабе валае
за крык ратунку звер двухногі…

*Прага, красавік 1945*

* * *

Матуля любая, даруй,
што не пісаў: ліхія хвалі
юнацтва кволага зару
на ўзлёце першым пахавалі.

Жыву, як зерне на таку...
Але ж не ведаеш таго ты,
як сына меншага пякуць
жыцця суровага клапоты.

Чаму? Пытаешся, чаму...
І не пытай: карысці мала...
Мінуў усходнюю чуму —
на сцежках захадняя стала
і сушыць косці ног і рук.

*1945*

* * *

Да вас, суродзічы, да блізкіх і далёкіх,
праз ночы цёмныя, вятры, слату і стынь
здаля, з-пад гор — з-пад Альпаў крутабокіх —
ізноў пішу і шлю свае лісты.

Вятры калышуць гукі вальсаў вечных,
а ў сэрцы б'юцца рытмы скрытных дум,
і мне здаецца, што ад сцэнаў менскіх
я з вамі, любыя, на бляск зары іду.

*1945*

# Ліст да маці

Ліст гэты, матуля, ад меншага сына,
што лечыць тугу сваю золатам лісця…
Цяпер ані цешыць, ні вабіць чужына,
як вабіла, помню, калісьці.

Яе уяўляў я, бы нешта святое,
і заўжды паклон слаў з пустэльных аддаляў.
Цяпер тую веру, што сэрца мо' й тоіць,
аўстрыйскія ветры, відаць, разгайдалі.

Жыву між чужых я, і голас вятраны
мне штосьці гаворыць, а што — невядома…
Напэўна, пра тое, што край мой забраны,
што радасць распята ля роднага дому.

Скажы мне, матуля, ці праўда ўсё гэта?
Дайсці аніяк не магу я да ладу.
Ці праўда, што восень зняважыла лета,
што песні украдзены з нашага саду?

О, чуў я, матуля, што ўчора уранні
сяброў ахрысцілі на вечны спачынак,
што хворага брата на голым майдане
крывая асіна з сям'ёй разлучыла.

Сказалі вятры мне, што ліха ўсіх лашчыць —
братоў і сясцёр, і сяброў-аднагодак;
што ўсе аж да поўначы ходзіце нашча
ля рэчак крывёю апырсканых водаў.

Адведаць Цябе не магу я сягоння,
а слову, якім бы яно ні было там,
нялёгка дайсці да спустошаных гоняў
і ўняць іхны плач і штодзённы твой клопат.

Не плач, не журыся! Даруй свайму сыну,
што лечыць тугу пакуль золатам лісця.
Цяпер ані цешыць, ні вабіць чужына,
як вабіла, помню, калісьці.

*Зальцбург, кастрычнік 1945*

* * *

Перада мной — прастор нябёс,
чужы, халодны і нялюбы.
Які ж вар'ят сюды прынёс
мяне на здзек людскі, на згубу?

І сам не ведаю таго,
з якой удачы ці няўдачы
пакінуў пах сваіх лугоў
і слёзы матчынага плачу.

Адно цяпер — пад шум і свіст,
калі цягнік імчыць кудысьці,
прашапацеў пажоўклы ліст
сакрэт няспраўджанага выйсця…

\- - -

Мінуў аўстрыйскі далягляд
і неба шэрага аблокі…
Я чую: свежая ралля
мне беларускім пахне сокам.

*Зальцбург, кастрычнік 1945*

* * *

Пяскі дарог і лісцяў медзь,
дарог лукатыя аборкі…
Я прыплаціў бы, каб не мець
іх на віду і ў думах горкіх.

Сумуюць родныя палі,
ідуць, як шлях ідзе малочны.
Усмешкай восеньскіх калін
глядзяць братоў сівыя вочы…

Палі, азёры і лясы —
на сотні сотняў кіламетраў.
З чужой зямлі бяздомны сын
паклон ім шле на крылах ветру.

Да іх, туды — за небасхіл,
дзе нарадзіўся, рос і вырас, —
я панясу свае грахі
і спеласць дум, і спевы ліры.

*Зальцбург, кастрычнік 1945*

# Жалобная струна

Нялёгка сяння пішуцца лісты,
і словы глейкім сумам наліліся.
Упаў на грудзі зломаны кастыль
і рану цяжкую у сэрцы высек…

Глыбокая і прыкрая яна,
няўгойная, як модна ні залечвай…
Дрыжыць лістоў журботная струна
па ростані і неблізюткай стрэчы.

І ростані, здаецца, не было,
не бачыліся з роднымі у хатах.
Наводшыбе, за спаленым сялом,
развіталіся з шумам хвой кашлатых.

І кленчылі, падходзячы да меж,
перад апошнім — блізкім — кіламетрам.
Пахрышчаныя бурамі, суцьмеж
хрысціліся і кланяліся ветру.

Пакінутае — курчыцца у сне,
спатканае — наровіцца ад сыці…
У прадзіве па страчанай вясне
навошчаныя гневам звоняць ніці.

Прыслухаешся — сочыва крыві,
пругкія хвалі і жывыя пульсы.
Ды чым і як жывульку ні жыві,
выпроставаюцца мінусы і плюсы…

*1945*

# Ліст да сястры

Сястрыца родная, паклон ад брата.
Я вельмі ўсцешаны, што ты жывеш…
Прыклей на браме каля нашай хаты
крывёй напісаны мой сціплы верш.

Няма ў ім радасці, няма і жарту —
такім мне выдаўся сягоння свет…
Найлепш ягоную узважыць вартасць
вам крытык ведамых табе газет.

Ён першым лекарам быў песняў-думаў
і знаўцам вывіхаў мае касці…
Такога іншага у справе глуму
з табой не здолеем нідзе знайсці.

Стаю вось тут я каля сценаў замку,
у нас — асенняя цяпер пара…
Трымайся, любая, мацней за клямку,
каб злодзей вынесці не змог дабра.

Прымі вось гэтую маю параду,
кажу ад шчырае табе душы.
Калі ж душу тваю суседзі ўкрадуць,
ў лісце адказным мне хутчэй пішы.

Вярнуся, любая, да вас не госцем,
пад неба роднае вярнуся жыць.
Павесім раніцаю на пагосце
ручнік скрываўлены твой на крыжы.

На папялішчы мы збярэмся дзікім,
чужыя зводнікі дзе ладзілі таргі.
Браты і сёстры у той дзень вялікі
збяруцца ўсе у дом свой дарагі.

На стол кляновага паставім соку,
пакроім радасцю тугу і сум.
Смяяцца будзе вечар сінявокі,
зарой цалуючы палёў красу.

Такой не ведала бяседы ў хаце,
такога светлага не знала дня
ні наша бедная калісьці маці,
ні наша блізкая крыві радня.

Пакуль жа, родная, паклон ад брата!
Я вельмі ўсцешаны, што ты жывеш…
Прыклей на ліштве каля нашай хаты
крывёй напісаны мой сціплы верш.

*1945*

# О, родны край

Са мною ты на яве і у сне,
мой родны край, блізкі і блізка…
Табой жыву. Малюся, як вясне.
Ты — песняў-дум найлепшая калыска.

Нідзе, я ведаю, сябры, нідзе
не знойдуць лепшага у свеце вочы.
О, родны край! Куды мой шлях вядзе —
у бок паўдзённы ці паўночны?

Ўпаду ад спёкі я, ўпаду, памру,
мароз душу маю ад цела прыме.
Не прывядуць шляхі к дабру,
калі сустрэнуцца у Рыме.

Кірунак заходні — зусім чужы,
усходні гэтакі ж. Усе чужыя.
Над першым навальніца ўсё дрыжыць,
па-над другім звяр'ё начамі вые.

О, родны край! Цяпер мая рука
навотлег адшпурне чужую вушчунь.
Са мною ты, і шлях на твой наказ
паволі ўжо ідзе да родных пушчаў.

*Зальцбург, лістапад 1945*

## Апошняя малітва

Яшчэ раз кленчу я ля сценаў Храму:
— О Божа, Валадар зямлі, скажы Ты,
чаму ізноў каля Святое Брамы
жывое цела бачым на крыжы тым?..

На пліты мармуровыя сцякае
кроў свежая із ран балючых…
Пустэльнік помслівы — раскольнік-Каін —
чало сціскае ўжо вянком калючым.

Па-над бажніцамі, над купаламі
у стоме чорныя стварэнні кружаць.
Няверцы прышлыя у грэшнай краме
ля ног згінаюцца халодным вужам…

Нялюдскі танец свой згібенне грае
на струнах д'ябальскіх да слёз, да ўмору…
Хіба ўжо гэтакая доля Краю,
табой ахрышчаная ў момант створу?

Ўпаду лепш сам я каля сценаў Храму,
і там апошняя малітва будзе:
«Браты і сёстры, пад Святою Брамай
зямлёю роднаю прыкрыйце грудзі!»

*Лістапад 1945*

* * *

Адцвіла маіх надзеяў ружа
і, напэўна, больш не зацвіце.
Выгінаецца халодным вужам
зманлівасць былых уцех…

На шляху няспраўджанае дзеі
прыпынілі дні маю хаду.
Дзе ж вы, дзе, квяцістыя надзеі —
солад хмеліва юнацкіх дум?

Не спаткаю вас і не адчую,
хоць і часта сніцца маладосць.
Ні душы, ні цела не расчуліць
выпадковы у пакоі госць…

*1945*

# Вялікія шэльмы

*Станіславу Станкевічу*

У маленстве чужыя казалі,
і яно не забудзецца, мусіць,
што экзотыка нейкай Казані
прыгажэй ад лясоў Беларусі.

Я не ведаю, можа, здалося,
што душа абліваецца воцтам,
але помню: у жоўтую восень
маё сэрца сціскалася моцна.

І ружовае сталася чорным,
непрыемным і прыкрасным вельмі.
Я ж не думаў, што ў краі азёрным
ёсць такія вялікія шэльмы…

*Нямеччына, 1945*

* * *

Веру я ў сілу сілаў,
веру самому сабе.
Веру, што ты расціла
шчасце у барацьбе…

Веру: яно не выйшла.
Кажуць: яго няма…
Грэшнік цяпер калыша
шчасце і наша імя.

Веру, што дзень кароткі,
веру, што ноч не дзень.
Ведаю: нашы продкі
верылі веры надзей.

Веру, што верым, верым,
верым у веру вер.
Нам расчыняюцца дзверы,
хцівы двухногі звер!

*1945*

# Звер двухногі
## Паэма

*Светлай памяці тых,*
*што загінулі за святую веру*
*ў неўміручасць*
*Бацькаўшчыны-Беларусі.*

Аўтар

*Праўду ж горкую пазнаў я*
*позна,*
*вельмі позна,*
*пакарала ж мяне кара Бога*
*вельмі грозна!*

Сафокл

### 1

Ападалі пялёсткі маку
на далоні каляных рук…
Шмат разоў чалавек аплакаў
спадзяванняў сваіх зару,

і была яна рэдкай госцяй
на нішчымным куце пары,
хоць малілі усе да млосці
наймудрэйшыя знахары…

Сцігавала хаду няўдача
на пякельным жыцця таку,
і каціліся слёзы плачу
на ляшчоткі цяжкіх пакут.

Пад счарнелаю пусткай ночы
нылі тупа суставы ног,
усміхаўся рабінавы почат
на крутыя шляхі дарог.

А віліся яны далёка —
у нязнаны, як доля, свет…
Застывалі глухія крокі
на калючай, як шкло, жарстве.

Уплятalі у песні пушчы
балацяны спакой тугі,
як нядоля на спінах вушчунь
заціскала вузлом тугім.

Заціскаўся, тужэў… Ніколі
і ні разу нідзе не мяк…
І цяпер боль той сэрца коле,
а прысніцца, бывае, так:

расцвіталі пялёсткі маку,
і браты на далонях рук,
каб ніхто не стагнаў, не плакаў,
падымалі да зор зару…

**2**

Ападаюць пялёсткі маку
на далоні каляных рук…
Чалавек не падаў і знаку,
калі спляміл дні зару,

але, сціснуўшы скулы сківаў,
закусіў да крыві тугу,
каб не вырваўся плач крыклівы
са змярцвелых, халодных губ.

Яму ж лепей упасці ніцма
на скрываўлены груд сівы,
як згінацца лазою ніцай
перад здзекам і нема выць.

Не згінаўся яшчэ нідзе ён,
і цяпер, калі тлее сінь,
хто пасмее сваю надзею
са згінотаю дзён мясіць?

Вуглянее ля сцежак слава…
Спадзяванні — скупыя сны.
Хто ж пакрыўдзіў і так зняславіў
ісўміручасць людской вясны?

## 3

На скрыжаванні — тры крыжы,
усе ад даўнасці сівыя,
над імі ў споласе дрыжыць
прамень зары… Журботна вые
вільготны подых. Ля ракі,
на камяністым плыткім плёсе,
вартуе, сеўшы, сцень ракіт
сівая, згорбленая восень.

Зыбае плынь луску ляшча,
затокі мшысты бераг мые,
і рэжа косамі плюшчай
чароту выгнутыя шыі,
і плачуць мройныя кусты
калін, нячэсаныя вербы,
што неўзабаве ўбор густы —
прыпынак ценявы, дзе звер быў, —
руды аголіць лістапад
і замяце у кут-зацішак,
ці мо' ракі шумлівы спад
на хвалях век іх закалыша.

Хінецца, горбячы свой стан,
вятрамі высмактаны блёкат.
Сцякае з жоўтага ліста
каля карчоў бусліны клёкат…
І шэлест гнецца у лісці,
пачуўшы музы гэтай гукі,
размяк расчулены і сціх
ад стомы мляўкае ля сука.

Над полем вораным здалёк —
праз цвіль смугі ліпкой —
аднекуль
бруіцца дзён самотных клёк —
адменны пах раслінных лекаў,
паволі сочыцца, ідзе
да міражоў, дзе светлацені

прадуць на восеньскай градзе
уток крылатых летуценняў…

І толькі зрэдзь яны адны,
нібы наструнены рукамі,
віхры пругкія — бегуны —
клубкамі коцяцца пад камень
і вырываюцца адтуль,
і да крыжоў імкнуцца бліжай,
кранаюць дрэва на ляту
і пыл на грывы свае ніжуць.

І пахне хмеліва зямлі,
і журавы на поўдзень з хаты
нясуць, бы тыя караблі,
на крылах клопат свой багаты,
спакой азёрнае тугі
нясуць у край чужы і небыт,
нялёгка безліч міль тугіх
адольваць зорным шляхам неба!

Мінаюць шэрыя папар
і рунь азіміны із болем:
да пуху іхняга прыпаў
знаёмы, родны водар поля.
Мінаюць гомельскі блакіт
і накіп воблачнага цэду…
Паўдзённай спёкі воск плаўкі
плыве птушыным свежым следам.

Гавораць шэрыя чужым,
што ў нас з вясной сяброўе восень,
што па нябожчыцы-мяжы
палёў вятры цяпер галосяць,
і сведкі даўнасці жывой —
крыжы, бы тыя вартавыя,
стаяць маўкліва… Хмар сувой
даўно цяпло над імі выеў…

## 4

Якое свету хараство!
На харастве — цьмяныя плямы
Чыя ж рука цудоўны Створ
пад сонцам мурзае вуглямі?

Якія контуры на тле
святла выростаюць і рысы?
Яшчэ не ўмёр, яшчэ не стлеў
зарою высыпаны прысак…

Жыве ён… Курчыцца апад
красы ля брам ліхіх суцьмежжа.
Хто ж гэта зноў, мой родны брат,
сады упокат хціва рэжа?

Чые ж віднеюцца яшчэ
і ткуцца гэтак сілуэты?
Ці не касу сваю Кашчэй
над галавой заносіць свету?

І краем правага пляча
спірае збоі хмар гарбатых?
А мо' гатуе стравы чар
сваіх магутная Геката?

Ліняе свету хараство,
мяняе колеры і блікі…
Глядзіць вачыма зораў Створ
на вобраз Януса двухлікі…

## 5

Дымяцца хмары. Неба край
у невыразным нейкім русе.
Даўно ўжо Лысая гара
вяшчуе глум на Беларусі.

Глыбока ў ейную душу
упіўся чорны кіпець госця…

Жалобу дня прыблудны шум
кляймом азначыў на пагосце…

Над ім — у посягу згібень —
накшталт мангольскага узору
гараць на выкутым ілбе
крывёй палуджаныя зоры…

І стогне Лысая гара:
як тую кроў крывёю сцерці?
Галосіць нема родны Край
у танцы выскаленай смерці.

Густыя воблакі працяг
нябёс і край зары задзьмулі.
Вільготным клёкатам бацян
на языку мазоль намуляў,

заплюшчыў вочы, болю зло
у пух скупы угнула голаў,
упаў скамечаным вузлом
на гузакі карэнняў голых.

Рыпелі тупа косці дрэў,
а вецер ліпу гнуў і гушкаў.
— Скажы, дзядунька, не памрэ
ад болю скурчаная птушка?

— Ды не, унучак, аджыве,
але ж нядобрая прыкмета…
Зірні, часамі у траве
няма яго цыбатых дзетак?

— Няма, дзядунька, анідзе…
А хіба ёсць у птушак дзеці?
— А як жа. Мусіць, у гняздзе
іх забаўляе спевам вецер…

Дымяцца хмары. Неба край
у невыразным нейкім руссе.
Напэўна, Лысая гара
вяшчуе глум на Беларусі.

### 6

На грудзе выгану рудым
акачанеў падбіты бусел.
Шчыпаюць корань лебяды
лятою змораныя гусі.

Туга спанатрыла гусей,
і вартаўнік прыжмурыў вока:
ці выган посны напасе
усіх прад выраем далёкім?

Ці уратуе пух густы
ад зябкай плыні цела дзічы?
А мо', як бусла, пад кусты
прыгорнуць хвалі роднай Пцічы?

І мо' дарэмна ля уструг,
азёр палескага балота
чакае — блізкая нутру —
гусей асмужаная лотаць?

І спогад точыць мозак іх,
і ім такое нават сніцца,
што усміхнуцца на куп'і
'шчэ беларускія брусніцы,

і прыме ветліва у стан
радню спагадлівая плойма…
Абмые Прыпяць на хвастах
ляты завільжаную пойму.

Аж тупат нейчае хады
на хвалі пасці іх прымусіў.
Застаўся корань лебяды
у дзюбе шчупленькае гусі.

### 7

Галосяць роспачна вятры.
І, нема стаўшы ля дарогі,
глядзіць зняважліва на тры
святыя сімвалы двухногі…

Каго ж убачыў я? Пажджы…
Згадай, дагодлівая памяць,
пакуль раптоўныя дажджы
і цемра постаці не сплямяць!

Увагі ж вобраз гэты варт:
ў вітрынах славіўся ружовых…
Але чаму ягоны твар
тупымі зморшчкамі пажован?

Мо' гэта здань? А можа сон
на вочы скінуў вэлюм шэры?
Чаму ж ён чорнае крысо
падняў на вузкі лысы чэрап?

Калі ж прыйшоў сюды і скуль?
Якія ў думках мае дзеі?
Пазнаў па цені на пяску
намер злачынны ліхадзея…

Хавай жа твар свой, сцеражы…
Душа і сам ты у палоне.
Паслухай, неба як дрыжыць
ад гневу нашых Сцыпіёні.

**8**

Нябёс базырны сакатун,
здалося, хмары бічам хвошча.
Прысеў на чорную пяту
зямлі звярэджанае пошчак,

стуліўся вузлікам тупым,
прыліп — ні слыху і ні дыху,
сцігус след яго ступы
маною купленае ліха,

ачнуўся, луснуў і яшчэ
(не адпачынак жа на пятах)
праз морак вечару шпарчэй
п. мчаўся, сорамам праняты,

туды, дзе згас ужо і счах
спадзеў абецанай уцехі,
дзе зноў жалобная свяча
гарыць ля саламяных стрэхаў,

дзе людзі змораныя, сны
снуюць ружовыя карункі
пра золак раніцы, вясны
на павуцінні думак стрункіх...

Імчыся ж, пошчак, не маўчы,
усцеражы ты наша шчасце,
скажы, што сяння уначы
імкнецца звер двухногі ўкрасці

душу з грудзей людскіх; скажы
і урачы нячуты пострах:
на скрыжаванні тры крыжы
перад лязом сякеры вострай

стаяць маўкліва. Зварушы,
ускалыхні ты наваколле!
Няўжо звярынае душы
ніхто на восці не наколе?

Няўжо абыдзе, не кране
жывога сэрца сіла гневу?
...Упаў над полем і счарнеў
у хмарах
неба зорны невад.

**9**

Апошні згас агеньчык — дагарэў.
Запахла у паветры прэлай вікай.
— Якая ж, згінь ты, цемра на дварэ,
ну, прост' хоць вока пальцам выкаль...

І трэба ж, выгнала якраз сюды
мяне нялёгкая да іх часіна.
Надвор'ем гэтакім, я чуў, заўжды
прымаюць грэшніка сукі асіны...

Э, думкі чорныя, ідзеце прэч!
Што мне да грэшніка таго ці сука?
Хіба ўжо першую святую рэч
мае спрытоньваюць са свету рукі?..

Хіба не бачыў на сваім вяку
яшчэ мо' горшае ля ног ахвяры?
Не я — дык іншыя павалакуць
да лазні косці і жывот напарыць.

А страх, абачлівасць — курыны жарт,
не камень жа глытаць гарачы…
Чаго, дзівак які, разбойнік варт,
калі не верыць у сваю удачу?

А хто ж адважыцца — няхай кране:
маё нутро звярынай помстай дыша…
'Шчэ ж не было ў жыцці такога, не,
каб я на промысел дарэмна выйшаў,

каб я спыняўся перад чым калі, —
двухногі плюнуў і расцёр нагою.
Калі душу сваю крывёй абліў,
душы развагай смешнай не загоіш…

**10**

Па цаліне былых валок
шляхі хады раскрыты насцеж,
двухногі звер начы валок
на згін украдзенае шчасце.

Згіналі голаў збегі мар
і невыразны нейкі клопат.
Вятры кацілі тоўшчы хмар
па-над звярыным зманным тропам.

Мігнуў ля ног маланкі брыж,
і дождж паліўся, нібы з луба.
Гарою здаўся лёгкі крыж
на моцных плячах душагуба.

Гулі з грымотамі слупы,
такая, знаць, удача слупа.
Адчуў двухногі боль тупы
і падазроны нейчы тупат…

Угнуўшы голаў, душагуб
убок рвануўся ашалела.
— Няўжо?.. Няўжо?.. Перамагу
такі нязвыклы накіп цела…

Перахітру ягоны нюх,
што напрасткі бярэ, і збочу…
А не — сцігуй сабе: зманю
душу і след у пекла ночы.

А там — памераемся мы
з табой і сілаю, і спрытам:
шпурну у твань камяк нямы —
і сціхата, і шыта-крыта…

Ага… Не выракся яшчэ?
Нясі ж на скрут сваю удачу!..
Нясі ж! Крывёю труп сцячэ…
А мо' я смерці твар убачыў?

Хвастаў горб звера дождж касы,
і бег таропкі думак гнобіў,
здалося, быццам валасы
старчма на вузкім сталі лобе.

— Ідзі ж, ідзі ж, касцяк, паўзі!
Паўзі, разумнік…
бліжай, бліжай!..
Хто ж гэта месіва гразі
на кастылі крывыя ніжа?

Чые ж там сківіцы жуюць
вуглі чырвоныя на дроце?..
Хто ж палыскуе гэтак муць
касой іржаваю упоцем?

А там… А там!..
Сіпяць вужы?

Вачэй смяюцца праварыны?..
Ха-ха, ха-ха!..
Крыжы… крыжы… —
зарагатаў гарляк звярыны.

— Вазьмі ж мяне…
Вазьмі, вазьмі!..
Няма ратунку і збавення!..
Навяз, раз'ятраны, грудзьмі
на дзіды гострыя камення.

**11**

Табе, мой голубе, унук,
даўно ўжо расказаць хачу я
жывую казку. Час мінуў,
і пра яго ты не пачуеш,
калі памру я. Родны дзед
мне расказаў ‘шчэ днямі тымі,
калі збіралі на градзе
ўдваіх капусныя лісты мы.

А сам пра час былых вякоў
ад жабрака, што граў на ліры,
пачуў за восем медзякоў,
калі буслы ішлі на вырай.
Не напісаў ніхто яшчэ
ані пра час той, ні пра бусла,
а казка сочыцца, цячэ
павулі з вуснаў і да вуснаў.

На неазначанай вярсце
ля пушчы — Белае балота,
з вясны да восені расце
адна-аднюткая там лотаць.
Балота зыбкае не спіць
ні уначы, ні ў дзень цалюткі,
сябе няцяжка утапіць
на цаліне ягонай гнуткай.

Пад цалінай — вада й вада,
а пад вадой сінеюць горы,
якія — цяжка разгадаць,
а праўда — вось што нам гаворыць.

Паблізу самых сініх гор,
што йшлі ад мора і да мора,
на неакрэсленым прасторы
між рэк блакітных і азёраў
спакон вякоў жыла, ляжала
адна вялікая дзяржава.

Народ — багаты, не скупы,
гасцінны, мудры, працавіты:
араў, касіў і сеяў жыта...
А свет спакусай падкупіць
імкнуўся межы ягоных варту;
і аблягалі хмары ўпарта
не раз дзяржаўны супакой
і схілы гор, і спіну пушчы,
але ні разу не разлушчыў
арэха збройнаю рукой
ля межаў зманлівых злачынец:

у край быў шлях яму зачынен.
Народ із розных быў плямён,
але ўважаў сябе адзінай
сям'ёй, нібыта нарадзіла
адна іх маці.
Заўжды ён,
калі на край паўзла навала,
зямлю, што долю ўзгадавала,
што хлеб людству дала і соль,
сыноў галубіла, расціла
і наліла нязломнай сілай,
што абышла нягоды, золь
і ўратавала веліч славы
свае дзяржавы-Святаславы,
абараняў, як сэнс жыцця,

як маці сына у няшчасці,
каб смерць не здолела украсці,
і ўпарта краю родны сцяг
наперад нёс.
І па віхуры
на чужынецкіх сценах муру
ламаў ён дзіду перамог
і выразаў мячом на вежах
пячатку з вобразам мядзведжым,
каб не адважыўся, не змог
напаснік выламацца з меры
і больш не стукаўся у дзверы…

Не бралі войнікі-сыны
з чужых зямель ніякай дані;
і як бы вораг ні паганіў
удачаў іхных, штовясны
ля пераможнае мясціны
прымалі ворага гасцінна
і частавалі караля
ці князя нейкага з дружынай
віном бруснічным і ажынным,
адборным мёдам — чым зямля
плаціла кожнаму за працу,
было чым госцям частавацца…

На развітанне із байніц,
пасля ўрачыстых княжых словаў,
із літых бітніц адмысловых
на першым завадзе зарніц
пускалі ў сінь тугую налпам
сто чатырнаццаць моцных залпаў.

Вось так ля самых сініх гор,
што йшлі ад мора і да мора,
на неабсяжным тым прасторы
між рэк блакітных і азёр
спакон вякоў жыла, ляжала
адна дзяржава-Святаслава.

Між тым, у хораме ля скал,
за васямнаццаццю замкамі,
дзе збуцвянеў ад часу камень,
дзе жыў адважны князь Аскал,
ішла з чужынцамі размова…

Утаямнічанае змовы
ніхто не ведаў і не чуў,
і толькі грозная княгіня,
каб поспех змовы не загінуў,
паліць загадвала свячу
ад першых зораў і да зораў,
каб не наслаў Бог часам мору
на князя.
                    Ўдзень і уначы
ад злых вачэй зямлі вялікай
праз слуг-ганцоў сваіх паклікаў
ён войска хорам сцерагчы.
І свіце князь Аскал зняверыў
і ўсіх на забаўку да звера
у лёхі хораму укінуў
і, каб зацерці след злачынства,
каб выйшла гладка ўсё і чыста,
даў спадкаемцу свайму, сыну,
наказ — усмерціць тыя душы,
якія сон ягоны зрушаць…

І от ізноў ва ўсе канцы
тае дзяржавы-Святаславы —
да рэк, азёр, балот іржавых —
імчацца сынавы ганцы,
імчацца пешкі, мчацца конна
з такою весткаю няпоўнай:
«У слаўным хораме, ля скал,
памёр вялікі князь Аскал…
Цалуйце след ягоных ног
на скрыжаванні ўсіх дарог!
Ану ж убачыць ля дарогі
шчаслівец дух зямнога Бога…»

Гулі мядзяныя званы…
Усцяж дарог стагналі людзі:
«Як жыць без князя рай наш будзе?
Як будзем жыць цяпер адны?
О, дух смяротнае напасці,
вярні у рай наш сонца шчасця!»

Між тым у хораме ля скал
за васямнаццаццю замкамі,
дзе збуцвянеў ад часу камень,
сядзеў з дружынаю Аскал
і вёў таемную размову.
Ніхто ніводнаму на'т слову
ня смеў пярэчыць, бы не чуў…
І толькі грэшная княгіня,
каб поспех справы не загінуў,
паліла жоўтую свячу
ад першых зораў і да зораў,
каб не наслаў Бог толькі мору
на князя.
«Святаслава,
кажу вам, хутка можа стацца
цэнтраллю свету і зямлі
ўсяе на цэлым белым свеце.
Адно уцямце вы, што я,
памёршы, мушу уваскрэснуць,
што на зямлю прыйду ізноў
караць жывых зямлі і мёртвых…
Пераканаць вам трэ' народ,
што я памёр, а дух жыве мой,
і каб маліліся усе
за паварот мой найхутчэйшы.
Але ж пра гэта — толькі тут,
на нашых землях, зразумейце…
А там — за межамі — жыву
і доўга жыць і княжыць мушу…

А я, тым часам, спакушу
народы свету і дзяржавы,

што жыць нам трэба надалей
усім у злагадзе і дружбе…
Які вялікі, цяжкі грэх
я на душу бяру, мой Божа,
калі ад заўтрашняга дня
ператвару сябе у Бога».

### 12

Вартуе цемра звера цень,
а звер — бліжэй, бліжэй да мэты.
Што ж сніцца беднай сіраце
пад дахам зор у момант гэты?

…Крутая сцежка. Грузкі брод.
Азёры ліштвамі абшыты…
Вялікі чорны калаўрот
прадзе кустоў густых ракіту.

Спыніўся: мякішам мяздры
шнуры ягоныя набраклі.
Лускою счахлае зары
частуюць цені племя грака.

На балі гэткім, на карчы,
жывое з глузду можа з'ехаць.
Ля пня, укопаны, тырчыць
распечаны драцяны вехаць…

Нахлынула смуга. Прылёг,
стуліўшыся, хлапец ля куста.
Ашчэрыўся асельнік-лёх,
злачынны валадар распусты:

— Ты стойма маеш сцерагчы
асеці зорныя і пушчы…
Сівая ведзьма на карчы
зубамі шкла табе налушчыць.

Гарбуля — гнеўная Яга —
як што на прысмакі ты ласы,

спячэ з ігліцай пірага,
а з вухналямі зварыць квасу…

— А што… а што, калі сюды…
калі пастукае у дзверы?.. —
дрыжэў прад воблікам блядым
хлапец ля ног калматых звера.

— Дзядусь надыдзе… Аднаму
мне крыху вусцішна. Баюся…
Каму ж паскардзіцца, каму,
калі Яга мяне укусіць?

— Дзядусь!
— Маўчы!
— Хутчэй сюды!..
— Якога клічаш сюды дзіка?
— Я…
— Чуеш нейчыя сляды?
— Я дзеда роднага паклікаў…

— Клянуся чортам, абмінуць
няхай увагу звера крокі,
прымушу выпіць бруду муць
із самай лужыны глыбокай…

Як вецер след мой заграбе,
магу цяпер ужо прызнацца:
смалой на кволым тваім лбе
з уцехай выпеку «13».

Э, ліха думак! Сцеражы
спакой балотаў зыбкіх, кручы…
Заснеш жа — выкалю крыжы
на жываце ражном пякучым, —

сказаў такое хлапчуку
вядзьмак, крывёй наліўшы жылы,
крутнуўся двойчы на суку,
і цемра след заваражыла.

— Што звер двухногі мне чаўпе? —
падумаў, сеўшы каля прызбы.
Ад страху дзікага цяпер,
здаецца, камень перагрыз бы.

Сядзіць, і мроіцца яму,
што сам смакуе саду слівы…
— Дзядусь! Я птушку перайму…
Дзядунька, я не палахлівы…

Прамчаўся нехта па траве
і прылабуніўся ля плоту.
— Дзядусь!.. Страшэнны чалавек
свідруе цемру носам крота…

Дзядунька, срэбра на расе
убачыў… Забаўка якая!..

- - -

Сякерай горла перасек
двухногі. Ліпкая, гляўкая
сціскае грудзі кроў…
— Вядзьмак…
— Якая злосная, Яга, ты…

Расцвіў, здалося, сіні мак
і знік над пушчаю рагатай.

Злы дух у цемры рагатаў,
і цені стукаліся лбамі…

Прыліп, як клешч, да жывата
вядзьмак счарнелымі губамі.

Гаіла неба боль пакут.
— О, каб дзядусь пра смерць праведаў!
Прачнуўся, стаў —
на лабяку
ні ведзьмака няма, ні дзеда.

*1944–1955*

# Маіх уяў ружовых ранак
## Паэма

### 1

Ад болю ўсё яшчэ гудзе
разгневанае цела краю…
Жыве яно — не памірае:
употайкі цяпло грудзей
ягоных спеліць травы поля,
і як ні смаж іх, ні палі,
праз скібы чорныя раллі
яны зірнуць-такі на волю,
крамянай свежасцю вясны
умыюцца. Расой валогі
спалошча мараку цвілога
зара усходу след квасны,
і усміхнецца поле хатам,
і як ні смаж іх, ні мары,
убачаць зноў гаспадары
сваіх клапотаў плён багаты.

### 2

І часам тым у шчыт такі
напоўняць плёнам лёхі спрату.
За найдарожшыя караты
ён не прадасца. Ветракі
за рупасць мелівам заплацяць,
і як ні смаж яго, ні праж,
свяжуткіх печываў ікра —
адзнака моцы і багацця —
цалюткі дзень і дзень пры дні
да новых жніў, да касавіцы
не выйдзе з хаты, са стальніцы
ні у бацькоў, ні у радні.
Запас, маўляў, бяды не чыніць…

І як спусціцца і не мець
у свірнах збожжа таго медзь?
А ну ж і дзверы хто адчыніць…

3

І хмелем паху пульхны хлеб
змацуе пах акрас і варыў.
І сонца спогаднае хмары —
асенніх дзён жалобны крэп —
спатоліць, даўшы волю спору.
І як ні смаж іх, ні чарні,
праб'юцца спору карані
у грунт зямлі, знябыўшы морак,
напояць сочывам руды
асмяглы, глейкі мякіш глебы,
і зашумяць у сінь, у неба
шыракалістыя сады,
налітыя крамяным воскам…
І як ні смаж іх, ні пячы,
яны — найлепшы супачын
гаспадару — тубыльцу вёскі.

4

Здабыткаў новых, светлых дзён —
пладоў уцешнай, рупнай працы,
за што сам край ішоў змагацца,
чаму сам край быў так жадзён,
не прыдаверыць край нікому,
і як ні смаж яго, ні крой,
пары тэй бачу сяння скрой
і ўжо выразна чую гоман
вялікай прышласці. Яна
і не далёка ўжо, а блізка,
хоць морак ейную калыску
і затуляе ад відна.
І дзень той сэрцу будзе дораг.

І як ні смаж яго, ні гні,
нс прыгібае больш ані
да рук сваіх спакусны вораг.

**5**

І не спаружыцца з красы
краіны зводнік чалавека:
лугоў краса, гаі і рэкі,
азёры думныя, лясы —
найдаражэйшы скарб прыроды…
І як ні смаж яго, ні плюшч,
а ён бы той балотны плюшч,
расціме й жыць для насалоды,
але ж нс зверу, а людству,
бо звер, як быў, і будзе зверам…
І я не дам ніколі веры,
што мор надыдзе харастdу!
Усё, жыве і жыць што мусіць,
што спеліць зорная асець,
на хвалях прышласць прынясе
для несмяротнай Беларусі!

*1946*

# Песня

Хто ж не чуў Цябе і не жыў Табой, несмяротная беларуская Песня! І чулі, і жылі, і самі спявалі, і іншых пяшчотнымі гукамі музыкі цешылі. І найлепшым бавеннем сэрца і душы чалавечай была Ты, цудоўная нашая Песня…

Удзень і ўначы, у хаце сумной — на Радзіме, і недзе далёка — на землях чужых і варожых, у горы і шчасці, у дзень нарадзінаў і смерці — заўсёды і ўсюды — звінеў, не змаўкаў непадкупны, адменны, наструнены голас Зямлі Беларускай.

Расла і ішла Ты ад мора да мора, за стромыя горы і пушчы ставечныя, праз вільгаць туманаў балотных сягала і немарач твані; на крылах вятровых наўсуперак лёсу плыла і мацнела пад сонцам, пад зорамі неба блакітнага свету.

І сяння жывеш — не скараешся, родная, мужная Песня народу! І толькі часамі Твой голас, сумны і надрыўны, ад болю змаўкае і падае ніцма на жораст, сухі і калючы, каб потым, акрэпшы, напіўшыся соку зямнога, узняцца вышэй ‘шчэ, скрануць нежывога і горам прыбітага брата словам сваім абнадзеіць.

Ні вецер ільдзянага мора, ні спёка паўдзённая пустак не спыняць Цябе, не скуюць і не здушаць нідзе і ніколі, дарма што зняславіць наровяць дзікія, нязвыклыя, прышлыя зыкі. Нямеюць, пачуў я, спакусныя гукі, і курчацца зводнікі цёмныя вуліц, адчуўшы Тваю векапомную славу.

І слухаюць людзі, чакаюць, ля крыжа укленчыўшы нема, прыходу збавення пад гром навальніцы, дзе стрэлы маланак, агністыя стрэлы, ўядаюцца хіжа у цела жывое, і раніць шаленства атрутай смяротна з уцехай на сцежках прыцьмелых істоту.

Душа чалавека, як Песня, — жывою не дасца у рукі свайго ліхадзея!.. І смерць не здалее змагчы, сціхамірыць, хоць цела павісне на горкай асіне. Дух вечны, і вечнасці сілы узлёту глумлівыя сілы зямлі спакарылі.

Прабілася Песня праз немарач даляў… Спатоліўшы сілы ў дарозе нялёгкай, упала ад стомы на сівыя скалы, і… песню спынілі

халодныя Альпы. Галосяць і б'юцца аб камень зымшэлы абрыўкі мелодый далёкага Краю, і стогнуць журботна, налітыя гневам, у лёхах маўклівых падбітыя рытмы…

Дарма… Не памруць, не загінуць без следу, хоць песні чужыя збіваюць іх з тропу. Яны 'шчэ жывыя і грымнуць над светам, узнёсшы да зораў імя Беларусі.

*Ліпень 1946*

* * *

Каля акна равеснік-клён
глыбокую задумаў думу.
Я ведаю: пакуль і ён
не выплакаў лістамі суму.
А выплача — прыгне свой стан
і моцна зашуміць ля вуліц.
Я выйду з ім упоруч стаць,
і ён гаротнага мяне прытуліць.

*1946*

# З дзённіка Ды-Пі…

…І дзень не спляміцца «заветны»,
і дні, пражытыя ў бараках,
як давялося йсці на сметнік
і дзень цалюткі поўзаць ракам.

А сметнік — сметнікам: не сад той
і не праспект, не водар парку!
І не дзівіся, дружа, надта,
што я мазоль нацёр на карку

вуталлем, выграбеным з кучы,
і змуляў ног сваіх калені.
І трасцы рад будзеш смярдзючай,
як месяц цэлы пакалееш.

Вось так жыву я і блукаю,
бы здань начы, каля дарогі,
пакуль на суд не пагукае
за крык душы мае двухногі…

- - -

Замоўклі ўсе, нібы святыя…
Не здосліе свечы і агні…
Паклон табе, дэмакратыя,
і вам, вызвольнікі і дні!..

- - -

Навяз на зубы тэрмін «вываз»
і думы сушыць і скрабе:
мо' морскіх хваль сівыя грывы
нас прыгалубяць да сябе?..

- - -

Вязеце ж, фурманы, край свету,
куды вядзе малочны шлях,
пакуль 'шчэ песенька не спета
і конік ваш у аглаблях…

## Сон…

Сабраўся, сеў я і паплыў,
а следам — чорных дум наплыў:
— Куды, паэце мой, браток?
Які спадобаўся куток?
— Плывем па моры па глыбокім
у край нязнаны і далёкі…
Прыплыў, падняўся і стаю
і думу думаю сваю…
А думы чорныя яшчэ:
— Ну як, браток, табе лягчэй?
— Сказаў бы, думанькі, вам нешта,
але і сорамна, і смешна…
— Кажы, паэце, не маўчы!
Відаць, надумаўся ўцячы?
— Нікуды, думкі, не ўцяку я:
і тут, як там, мяне цікуюць…
— Хіба ты шэльма ці круцель,
што голаў страх тваю гняце?
— Ды не, ні шэльма, ні круцель я,
а свет, чамусьці, вар'яцее…
Шукаю, думанькі, я волі,
а воля тая — у няволі…
Крануўся, йду сабе і йду,
а следам — згусткі чорных дум…

*Зальцбург — Лексенфельд, люты 1947*

# Адменная ода

Твая слава не мной распечана,
хоць сама ты мяне й пякла…
Пакідаю цябе, Нямеччына,
спапялеўшая ўся датла.

Не смяюся над горкай чашаю
і не плачу — прабач…
Скажы,
хто учора за спінай нашаю
нашай смерці каваў нажы?

Лашчыў сэрцы смяротным прысакам
на узвівах свае вясны,
каб не смелі узняцца высака
залатыя у песнях сны?

І пад сонцам,
дзе мройна спелі ‘шчэ
наліўныя садоў дары,
пакалечыў так зманнай велічу
свежы полыск людской зары?

І надзеі у грудзях матчыных
хто зняважыў — на глум атрос?..
Нават мора такое спадчыны
не прымае ў сваё нутро.

І цяпер, як апошнім дотыкам
вычуваю твой боль і сум,
над шпілямі халоднай готыкі
вусны гнеў мой табе нясуць.

Дзе нядоля мая прытуліцца,
не пытайся пакуль — маўчы,
да палацаў на родных вуліцах
ты спаліла мае ключы…

*Брэменгофен, верасень 1947*

# Пякельны дар

У новы край, далёкі і нязнаны,
з пакункам дум — тугой набраклых мар —
нясу гадоў ліхіх пякельны дар —
скамененую горам немач раны.

Няўцешныя пейзажы і экраны —
змардованы зямлі пакутны твар.
На тло крыжоў — глыбокі след ахвяр —
мятуць віхры жарствы пясок каляны.

Губляецца ружовы небасхіл,
і пляміцца нябёс блакітны полаг.
У звівах хмар, над сумнішчам магіл,
калышацца агнёў трывожны сполах…

Нялёгкі шлях із пекла па касці,
а мне ж ісці… Далёка ‘шчэ ісці…

*1947*

# Світанак

Свяжуткі зары світанак,
купаючыся ў расе,
з месячыкам на ганак
хацінкі мае прысеў.

Палашчыў аконцаў шкельцы —
сінюткае срэбра рос,
а потым чысцюткім цельцам
да пёрка майго прырос…

Сяброўства трыўкога почуў
з шырокіх святліц душы
выносіў на сонечны вочап
спялюткія думак каўшы.

Важкія, адменнай масці,
з тугою лясных смужын,
не ўмелі ні ткаць, ні прасці
у праслах вузкіх, ні жыць…

У замуце дзён світанак,
памыўшыся у расе,
пакінуў мой сціплы ганак
і ў зацішку моўчкі сеў…

*Ля берагоў Гішпаніі*
*(на вадаплаве)*

* * *

…Цяпер усё. Уласнымі вачыма
пабачыў свет. І прыкрасці дарог
адчуў, як клунак гора за плячыма,
крывёй параненых жарствою ног.

Да смерці ўсё у памяці збяры:
тугу тайгі і прыгажосці Крыму,
пакутны крык у сутарэннях Рыму
і водгулле няўцешных перамог…

Між жоўтых скал паўдзённае спякоты
у пошчаку шчапаецца мой плач,
і плодзяцца штодзённыя турботы
на пераломе спадаў і няўдач.

*1947*

* * *

1

Дарма, што на чужой зямлі жыву,
не валацуга я і не без хаты:
удзень і уначы браты завуць
мяне на полудзень у край багаты,
дзе шэлест траў, вішнёвыя сады
і песні-думы вырасцілі верш мой,
дзе выпіў я у веку маладым
кілішак гора свайго першы
і мудрасць даўнюю пазнаў яшчэ,
і шум дажджоў, і звон лістоў кляновых,
усмешку васільковую вачэй,
і любай цёплае і ласкавае слова…

2

Дарма, што на чужой зямлі жыву,
не валацуга я. Трывалы вязень злому,
як весні гром, на грані пераломy
рашчу спадзеўнасць спору наяву.
А ўспоруч з ёй заслону дзён прарву —
да рунных ніў. На зайздрасць часу злому.
Ля родных стрэх — ахвяраў крыгалому —
схілю сваю пакорна галаву.
Крыштальных слёз, што лягуць на далонь,
нап’ецца сум, і сцісне боль тугі
мне горам пасярэбраныя скроні.
З далёкіх гораў, краю дарагі,
імклівa мчацца думак мурагі —
прысяга конніка Крывіцкае Пагоні.

*1947*

## Не сыходзяцца горы з горамі

Не сыходзяцца горы з горамі,
не збліжаюцца і узвышшы.
Нават думкам, цяжкім і змораным,
на спатканне ніхто не выйшаў.

Адзінокія, блудзяць сцежкамі
спадзяванні пад млосным небам.
І не хочуць цвісці усмешкаю
рытмы вуснаў на чэрствай глебе,

з весялосцю чужой не мірацца,
не ступаюць сумесна кроку,
на журботнай у песнях лірыцы
пакідаюць свой след глыбокі.

Як упартасць такую выраку
за марамі — на жоўтай выспе?
Кажуць, голас ліхога выраку
над маёй галавою выспеў…

Бо не сходзяцца горы з горамі,
не збліжаюцца і узвышшы…
Нават думкам, цяжкім і змораным,
на спатканне ніхто не выйшаў.

*Амерыка, снежань 1947*

# Сцені
## Ліра-паэма

### 1

Падышла і моўчкі села,
прытулілася да цела.
Ад цяпла і тонкіх ліній
загарэўся ў сэрцы сіні
аганёк... Пакратаў вусны
і нясмела словам луснуў.
Непрыкметнае такое,
не давала супакою...
Я зірнуў у зоры-вочы,
на аблічча — твар дзявочы,
на вясёлкі броў і веек,
грудзі — белыя лілеі,
хараство і крылы-рукі
і адчуў цяжкія мукі...

### 2

Нацямочку з хаты выйшаў —
спакусіла чараўніца,
каб да сонца з белых вішань
росаў першаму напіцца
і прыслухацца да мовы
траў і зор у небе чыстым,
звіць у сподзіў адмысловы
слоў адборныя маністы,
акрапіць валогай сіні
некранёнай вуснаў смагі,
каб вятры не замясілі
чысціні шальмоўствам магаў,
каб яна (мы каштавалі
абяцанкі жоўтай скрухі)
разгарнула дум крышчалі
па-над посніцаю духу.

3

‘Шчэ драмалі струны ветру,
і сады усцяж маўчалі,
толькі ўжо зямныя нетры
адмыкаліся ключамі…
Рассыпаўся звон іскрысты
глыбіні на роснай стыні.
Шэлест лісцяў цымбалістых
выплываў у стройным стылі
з цішыні і нікнуў дзесьці
ў ніцях польнасці рудое.
Далікатна скроні песціў
шоўк світальны сырадою,
напаўняў душу да сыці,
грудзі… Вылучыўшы змогу,
цалаваўся, змыўшы прыцем,
з хмаркай месячык двухрогі.

4

Золак выцадзіў з-за пушчы
полуд медзіва на стрэхі,
цяжка раніцы расплюшчыць
сум прытоптанага смеху.
Ён тугі, як глыбы, глейкі,
нібы месівішча гліны…
Распластаўся раптам нейкі
над зямлёю свет савіны.
І маўчала чараўніца —
макаў цвет, кары мігценне,
каля пнёў бярозак ніцых
лбамі стукаліся цені,
ад касцей сухога хрусту
варушыліся узвышшы…
Напаілі смагу вуснаў
кроплі слёз із белых вішань…
Боль і прыкрасць насалоды —
лепш зубамі камень грызці.

Мрояў пешчаныя роды
запякліся каля выйсца.

### 5

Палажыў на горб уласны
клунак крыўды — хай трымае.
Залатыя сонца пасмы
засланіла сцень жывая…
Задаволеная, села
і таўчэцца каля клямкі,
быццам звер які ля цела
аблюбаванае самкі.
І вартуе сцены хаты,
часта дзівіцца у вокны,
ці жывы ‘шчэ дзень распяты
на шпянёх вуглоў вільготных.
Прыціскае, непакорны,
да грудзей распяцце крыжа.
І яна ад злосці чорнай
языкамі шыбы ліжа,
чырванее, стрэміць ікры,
іклы шчэлепамі шчэміць…
Адчуваць мне вельмі прыкра
блізіню свайго знішчэння.

### 6

Я стаю і моцна зябну,
прытуляюся да шулля.
Вецер веццем кволых яблынь
лашчыць зрэбную кашулю.
Вось яе, адзінай толькі,
не напнуць на плечы сука,
бо у нітцы кажнай столкі
талісман жыцця усукан.
Маці сеяла й мачыла
сі.лявокі лён пад кручай,

губку ж выткала дзяўчына
і пашыла ў дзень заручын.
На грудзёх, над сэрцам самым,
васілёк і колас жыта,
колас доўгімі вусамі
крэсліць шлях неперажыты…
І шчыміць мой горб уласны,
і жыве, і дажывае…
Залатыя сонца пасмы
засланіла сцень жывая.

**7**

Сонца хіліцца да спаду,
ля гумён гусцее вечар.
Праплылі над цветам саду
хмар залочаныя плечы
і счарнелі. Сцігашалы
абліліся чэрню змроку.
Цені — збродныя шакалы —
нюхам трапілі на крокі
і паўзуць, каб дух украсці,
па слядох на жыр спакусны,
сліняць хіб чырвонай масці,
хмелем скрыўленыя вусны,
пазяхаюць, гладзяць ікры
і ад рогату лажацца.
Адчуваць надзвычай прыкра
блізіню сям'і хіжацкай…
Ноч вятрамі ашукала
сцігачоў… У пругкай позе
казытала цень шакала
пусцінёй ікласты позех.

*1947*

## Не было і няма...

Не было і няма
весялосці.
І не будзе.
І песня памрэ.
Сяння стогне,
як звон,
на памосце,
заўтра змоўкне
пад хвалямі рэк...

Не прачнецца.
Рабінавым сокам
пахварбуюцца
віру кругі...
На каменнях
у моры глыбокім
рытмы сціснуцца
сумам тугім...

*Каракас, 1948*

* * *

Усё не так, як думаеш… Жывеш —
і моўчкі мара твая кане…
Гарыш, як росы у траве,
і раптам — кропля ў акіяне.

Вятры успеняць воды і імчаць,
куды — і сам не ведаеш нічога.
Умееш гнуцца, плакаць і маўчаць —
умей чакаць і выраку ліхога…

Адно із двух: загінеш або не…
Мо' успльівеш на хвалях, а мо' канеш
І як-ніяк… успомні аба мне,
хоць я — і кропля ў акіяне…

*Каракас, красавік 1948*

# Смерць жывая

Шмат разоў гаварыў я смерці
пра звычайную рэч такую:
не жыву, і мне цяжка памерці,
хоць і ты ля касцей такуеш.

Абдымі мяне ўпол рукамі,
як калісьці рабоў у Рыме…
Ці з пятлёю на шыю камень —
мора з радасцю цела прыме.

Непрыемна — на слуп дарогі
ці на гострыя сэрцам восці, —
хай смяецца і кпіць двухногі
з пакалечанай маладосці.

Наракаць на цябе не буду:
я ж ад гора не ўмею плакаць —
засмяюся, як долу груды
пафарбуе ружовая мякаць…

Зашыпела у злосным блудзе,
быццам сэрца маё зжавала:
«Найцяжэйшаю карай будзе
табе, грэшнаму, смерць жывая…»

*1948, Венесуэла*

# Зрада

Сярод чужых палёў расціў свой агародчык…
Ён рос і росамі пад зорамі іскрыўся,
ды неяк раз, пасля дажджоў цяплюткіх ночы,
на кусціках раслінаў кветкі расцвілі ўсе.

Яны і тоны іхных колераў прыгожых
на тле дрымотных гор, як вечар цені звесіць,
прыгадвалі сады і шэлест траў ля Сожу
і мройны супакой далёкага Палесся.

Так, песцячы ў душы плён першай сціплай працы,
адчуў, здалося мне, цяпло чужога лета,
але не мог назваць уласніку плантацый
нязвыклага імя адной з найлепшых кветак.

І проста адказаў, у твар зірнуўшы тлусты,
цікаўцу спешчанаму — зманлівай спакусе:
«Такія, мой спадар, — вам, пэўна ж, не да густу? —
растуць і плодзяцца пад сонцам Беларусі…

І ўпершыню яшчэ вось тут, за морам сінім,
краса паўночная палоніць гэтак вока…
Начамі цёмнымі, каб зноў не галасіла
душа мая, сцішае боль тугі глыбокай».

Із вуснаў смехам скрыўленай, халоднай міны
пачуўся неўзабаве двухсэнсоўны выснаў:
«Да незнаёмае заморскае расліны
прыглёдзецца бліжэй цікава і карысна…»

Нядоўга ў снох маіх той кусцік цвіў і рос так,
а першай адцвіла й завяла ў сэрцы радасць:
згадаў уранні ля скамечаных пялёстак
нямудрае імя азёрнай кветкі — зрада…

*Венесуэла, чэрвень 1948*

# Прыйдзі
## Санет

З блакітнай вышыні прыйдзі, малю, хутчэй
на землі нашыя, збаўлення дух раскуты,
здымі з грудзей людскіх скрыжаваныя путы,
спакой вярні душы і бляск былы вачэй.

Мы ж толькі ў цяжкім сне — у цішыні начэй —
п’ем сінь нябёс Тваіх — не хмель зямной
атруты…

І разгінаецца касцяк спіны прыгнуты,
і песні сочацца выразней і званчэй…

Ды сон — плыўкі міраж, няздзейсны плод
вязніцы,
мігне, бы стрэл пругкі агністай бліскавіцы,
і ў мур глухі спадзе каля жалезных крат.

Знікае ўпоруч з ім спадзеў цьмяны
збаўлення:
красу вясны жывой настойліва на спад
вядзе няўмольная, жывая сіла тлення.

*1949*

## Восень

Хто сказаў, што цяпер нявесела?
Эх, якая цудоўная восень!..
Расцвіла і пад сонцам звесіла
галавы залатое валоссе.

Спавіваецца цела мораку
хмелем шоўкавых кос… Дзівіся,
пакуль роскат грымот на золаку
перунамі тугі не высек.

Не прыспаны на крылах казкавых
на узвівах дзівацкі вырай;
цяжка скутае лета ляскае
кайданамі па струнах ліры.

Пошчак льне, дзе моўчкі павесіла
галаву залатая восень…
Мо' таму і душы нявесела,
што сівее зямлі валоссе?

*Сакавік 1950*

## Залатая зямлі мяцеліца

Хто сказаў, што цяпер нявесела?
Эх, якая цудоўная восень!..
Расцвіла і пад сонцам звесіла
галавы залатое валоссе.

Спавівае танюткімі ніцямі,
хмелем шоўкавых кос імшары,
занізала у рудым прыцеме
веснавы неспакой абшару…

Пасмялела. Пад жоўтым месяцам
патушыла агні бліскавіцаў,
каб далёка, дзе зоры месяцца,
не пасмелі шляхі дзівіцца.

Ахмялела… І мулка сцелецца…
На спічастым дарог абрусе
залатая зямлі мяцеліца
закалыхвае сны Беларусі.

Пошчак льне, дзе моўчкі павесіла
галаву залатая восень…
Мо' таму і душы нявесела,
што сівее зямлі валоссе?

*Сакавік 1950*

* * *

Найпрасцей яно — зусім папросту:
падысці, прыблізіцца да цела,
каб спадзея розвітку і росту
у грудзёх жарствою не асела.
І рукамі — смугласцю калянай,
гартаванаю у працы цяжкай —
прыкунежыць шчыра і заглянуць
у журботны твар свае манашкі…
Ціхі роздум шчырасці нярвартты,
лепш імкліва пасці і разбіцца…
У калоду згорнутыя карты
не адкрыюць сэрца варажбітцы.
І яно — ад посніцы і посту —
неяк глуха стукае у скроні.
Найпрасцей яно — зусім папросту:
думкі й сэрца цела — на далоні.

*Каракас, травень 1950*

* * *

Я шукаў цябе — не знайшоў.
На дарогах сляды прастылі.
Расплыліся, бы косаў шоўк,
пражытыя з болем былі.

І апошняе, чым жыву,
найдарожшы, гавораць, скарб той —
неразумную галаву —
палажыў я на чорную карту.

*Верасень 1952*

# Даты і іксы

*Юрку Віцьбічу*

Пакідаючы попел, узялі адно:
лусту хлеба і пляшку кляновага соку.
І як змрокі палёў засланілі відно,
прыкацілася песня з дарогаў далёкіх…

Галасіла, расла, калаціла абшар
і стагнала ад крыўды над шчасцем разбітым…
Гэтак стогне, гавораць, зямная душа,
як планеты, бывае, злятаюць з арбітаў

і шчапаюцца напал, імчацца на згін
у халодным сусвету бяскрайнім разміне…
Дзе ж рунеюць шуканняў людскіх берагі?
Дзе шукальнікаў доля скупая пакіне?

На акрайцах зямель негасцінных, а мо’…
пазяхаючых лавай дзікунскіх абтоках,
каб прыцьміла суровасць ганебным кляймом
лусту хлеба і пляшку кляновага соку?..

І прыспалі у процьмах жахлівых гарбы
вастраспінных абвалаў, маўклівых, бы сфінксы,
жаўтатварыя цені рабоў і рабынь,
пакідаючы нашчадкам даты і іксы?..

Не гавораць вятры плачу тускнай зары,
што скрывавіла сэрца аб гострыя дзіды,
дзе спыняюцца сны: ля каралавых рыф
ці на грудзях шчаслівай у снох Атлантыды…

*Венесуэла, снежань 1952*

# Спрытныя жарты

Сонца, важкое і вельмі чырвонае, вечарам
смутак зямлі пакідала з нежаданнем упартым,
нібы крывёй аблілі белы твар чалавечаю,
кажучы:
«Гляньце на нашыя спрытныя жарты —
кветкі сціплыя… Ягадкі, моцна налітыя
сокам ружовым, зблізяцца… Знішчацца формы
і масці…»

Неба чарнела. І хмары дзіравымі сітамі
зоры рассейвалі, з громам самім каб не ўпасці.
Нам жа нялёгка было на душы: небывалая
з'ява благое нешта свету й людству варажыла…
Ейная сіла — магутная — гнула і звала нас
стацца бясстрашнымі… Скоўвала сочыва жылаў.
Потым…
з крывёю і потам хвалі прынесенай
полымя прагнае хлынула ў цёплыя покуці
хатаў… Ружовыя кветкі страшнага месіва —
ягадкі — моўчкі глядзелі на сонца упокаце…

*Венесуэла, снежань 1952*

## Жалоба

Было ды з вадою сплыло,
лістамі лілей спавілося…
Па згубе маё сяло
жалобу вялікую носіць.

У чорным. І крыж ля ракі.
Таполяў вільготныя бровы
калышуць у вецці мяккім
утраты і сподзіву словы:

«Было ды з вадою сплыло,
лістамі лілей спавілося…»
Над тым, што пад сонцам цвіло,
і молімся, і галосім.

Не вернецца — вечны спакой,
акажацца — выжывем неяк…
Паклонімся хвалі плыўкой
за літасць і белым лілеям

і скажам: было й не было,
бялюткі… Акрэп і вырас…
Маліся, маліся, маё сяло,
за светлы зваротнага выраз.

*Венесуэла, травень 1954*

# Жылачка

Пад кашуляй з беларускага радна,
што пашылі на дарогу у нястачы,
вельмі моцна б'ецца жылачка адна,
і здаецца яна гэтакай гарачай,

што раптоўна загарыцца й распячэ
і нічога не пакіне ў бедным целе…
Абяссілены шкілет маіх плячэй
падпіраецца ўначы гарбатым ценем.

І ніякіх прасвятленняў. Лекары…
Хіба ж мне што скажа лекар ці знахар той?
Каб жывога з нежывымі прымірыць,
і хадзіць да «інжынераў душ» не варта.

Пашчапаны землятрусам, белы свет
у душы пачуццяў светлых не замуляў,
спавяшчаюць мне, што жылачкі сакрэт —
у раднянай на плячах маіх кашулі…

Далікатных, каб прынеслі мяккасць сну,
не прыму і не надзену — не спакусяць.
Не сябрую з думкай: «Лягу і засну,
і ніколі — бесклапотны — не прачнуся…»

Пацярплю. Тканінаю калянага радна
нецярплівасці пякучасць заспакою,
каб пад сэрцам гэта жылачка адна
не давала мне ніколі супакою.

*Венесуэла, студзень 1955*

## Я не ведаю, дзе ты…

Я не ведаю, дзе ты,
далёка ад дому ці блізка, —
не гаворыць ніхто.
І калі я такое пачую?
На дарогах,
наваскованых сонцам
і вельмі слізкіх,
толькі месяц смутны,
як і лёс мой,
зы мною начуе…
Прыглядаецца,
лушчыць
іскрыстыя зораў знічы
і плыве,
і малюе ля пальмаў
і сцені, і плямы…
Я сцішаю хаду,
я прыгадваю моцна
тваё аблічча
і вачэй глыбіню,
на сівы апушчаюся камень.

Да зялёных азёр,
дзе пакінуў цябе я калісьці,
прылятаю на крылах балючых
змардаваных мрояў.
Вось і дом…
І крывая рабіна ў жалобе —
без лісця,
і чырвонае сонца
у хмарах над Лысай гарою…
Я маўчу.
Я да клямкі дзвярэй
дакрануцца баюся
і паклікаць…
Каго?

Цішыня —
ні бацькоў і ні любай…
Вецер прысак гумна раздзімае
і попел цярушыць
па-над сценем маім
ля апошняга ў вёсцы зрубу…
Прад вачыма
на месіве глеістым
вуліцаў гразкіх —
мерцвякі…
Пазіраюць у неба вачэй арбіты…
А цябе —
непаўторнай,
сінявокай мае беларускі,
не знайшоў…
І жыву,
як той колас, вятрамі падбіты,
бо не ведаю, дзе ты.
далёка ад дому ці блізка, —
не гаворыць ніхто.
І калі ж я такое пачую?
На дарогах,
наваскованых сонцам
і вельмі слізкіх,
толькі месяц смутны,
як і лёс мой,
зы мною начуе…

*Венесуэла, люты 1955*

# Чорная карта

*Самому сабе*

Як той колас у полі, адзін…
Падстаўляючы сонцу грудзі,
гавару сам сабе я: ідзі,
куды сэрца вядзе, — не зблудзіш.

Пратаптаў жа ці мала ужо
і дарогаў, і розных сцежак…
І хоць твар паблажэў і пажоўк,
але ж дышыш паветрам свежым…

Не цурайся. У маршы узваж
таямніцы і маршаў сакрэты…
І як кінуць у вочы: «Не наш», —
значыць, след твой ля светлай мэты.

Нетрывалых мінуўшы, прастуй
супраць лютасці. Літасці досыць!
Няхай сіла крывую вярсту
разгінае на чэрапе лёсу…

Калі здзейсняцца мроі і сны,
раскажы, неслухмяны, упарты,
як марудна з зубоў сатаны
вырывалася чорная карта…

*Венесуэла, люты 1955*

# З цыклу
# ДА РОДНЫХ, БЛІЗКІХ І ДАЛЁКІХ

## Лісты

### 1

Не крыўдуй, дарагая Мама,
наяву і у сне жывеш ты.
Цеплынёю да смерці самай
зналавала гадоў маіх рэшту.

Шмат разоў пасылаў лісты я,
але з хаты — ніякіх вестак;
толькі хмары плывуць густыя,
быццам злепленыя із цеста…

І даносіцца потых гары.
Не фабрычнай — лясной, аўсянай.
Не патухлі хіба пажары?
Ці гараць, што пачалі сяння?

Напішы, напішы мне… Проста
раскажы, як казала казкі…
пра ваўка… пра гузы-наросты…
пра дубы каля вуліц гразкіх…

Не забудзься пра гоман пушчаў…
пра апошні знаёмы вырай…
Ці ж няпраўда, што ўжо расплюшчыў
старац вочы свае над лірай?..

І яшчэ: накажы на хутар —
сваякам ля зялёных межаў,
каб млынар галавы не хутаў
ды завозу у сне не прылежаў…

Пра самога ж такое ведай,
вось каб толькі б дайшла дэпеша:
як той камень — удаўся ў дзеда,
адно сушаць туга і вершы.

Не журыся. На целе, кажуць,
не сціраецца знак радзімы…
Хоць і ўпокат дзе-небудзь ляжам,
але зблізімся…

Сын Уладзімір.

2

Ці мала мелюць чутак-баек,
із белі тчэцца вытвар чорны
Пра Тамашкрыба Сапсудзея
забыўся папытацца ўчора.

Гавораць, быццам гэты выжал
ачнуўся ў дамавіне цесця…
Брыдзе ж і ведзьма раны ліжа,
як гіцлі вылушчаць із шэрсці…

Сялу — бяда, а прышлым — свята:
душу пякуць салёным варам…
Заўсёды ўецца дым кашлаты
з бліскучых тульскіх самавараў…

Гатуйце зёлкі у гарнушку,
замоўце пацерамі, словам…
Каб быў твой сын крылатай птушкай,
прымчаў бы лекаў адмысловых…

Дастанеш… Мама, раю шчыра:
каб больш не стукаліся ў дзверы,
скажы асоцкаму Няміру
пра сэнс лістоў і Тамашкрыба…

3

Радасць якая, мой любы сыне:
вестка як з неба звалілася. Бачыш,
Бог сцеражэ і нідзе не пакіне,
і мама ад шчасця хоць раз паплача…

Ведала: ты не маленькі і дужы,
але ці доўга шэльме жыццё ўкрасці?

Я ж і дагэтуль хаваю кужаль,
хочацца ‘шчэ на кашулю напрасці.

Думала: ён жа паўсвету выжнаў,
пекла тайгі пераўжыў і выжыў.
Як не прыедзе, дык слова нізам
з ветрам прыкоціцца і з-пад Парыжу…

Нялёгкія цяпер у нас часы,
з чаго пачаць, не ведаю сама я.
Хачу пісаць і не магу, мой сын,
бы нехта за язык мяне трымае.

А неспакой расце ўсё і расце,
і за акном скрыпіць і плача ліпа.
І мне здаецца, любы, што ля сцен
вушамі шпіка цень прыліпла.

Асадка часта падае із рук,
не літары, а нейкія крывулі.
Напэўна, родны, я ўжо і памру,
не галава — разбіты трухлы вулей.

*Паўднёвая Амерыка, кастрычнік 1955*

## Да пары, да часу…

Пад Менскам,
на могільніку,
дзе буры
скалечылі
помнікі даўнасці і крыжы,
схіліўся,
як старац,
на жораст буры
абломак каменны
із словам
«…жыць…».
Каму
прыціскаў
гэты камень грудзі,
ніхто не адкажа:
ні я,
ні мы…
Спалоханыя
разбурэннем
людзі
чыталі,
укленчыўшы,
надпіс нямы…
…Тутэйшы
ці блізкі…
чужынец адкуль мо'?
А можа й далёкі
ды родны такі
з-пад Каракасу,
Токіё
ці із-пад Ульму
крывёю
урэзаўся ў нашы вякі…
А можа…
Было ж і такое…
О, то-та ж…
Даўніну,
памяць думак жывых крані!

Чарнаскуры,
із роду жывых гатэнтотаў,
мог імчацца
ў пагоню
на белым кані…
І вось я,
перакроены
часам і векам,
тым,
што ціснуць
у пух камяні,
гавару:
заслугоўвае імя чалавека
той,
жыццё што любіў,
як сын
любіць маці
ў жыцці
й па смерці,
разумеючы
вартасць жыцця і крыві.
І ніхто не пасмее
ні спляміць,
ні сцерці
імя добрага.
Скажуць — жыві!
І прысыпаны
жорастам
стоптаны насып,
абломак
каменны
з словам «…жыць…»
разгадаюць;
з парой,
з часам,
імя вырубцуюць
на крыжы…

*1955*

З цыклу
# ГЛУХІЯ ШЧАСЦЯ КРОКІ

## 1. Кавалачак неба

Да плямкі шкляной — акна —
кавалачак сіні неба
прыліп і гаворыць: «На,
вазьмі, калі вельмі трэба…»

Не веру сабе. Маўчу.
Не чуў ад людзей ніколі,
каб нейкі калі хлапчук
святое дастаў рукою…

Ад дзіва у шпік касці
уклініўся раптам верад.
Памкнуўся было ісці —
не дзверы — каменны невад…

Кавалачак той, яшчэ
шчырэй каб яму аддацца,
у бляску маіх вачэй
трывогу душы намацаў…

«Я ж ведаю, хто і чый, —
ні заваду злосці дзіка.
Вазьмі ж мае, вязень, мячы
ды з Богам! Удачы вялікай…»

*Паўднёвая Амерыка,*
*кастрычнік 1955*

## 2. Шчасце

У далоні меў тваю далонь —
цеплыню і вусны каля вуснаў...
Але шчасце лёсам не далося
церплівосці маёй. Спакусных

спадзяванняў прадзіва імкне,
каля сэрца мосціцца глыбока.
І шчымяць, здаецца часта мне,
у душы глухія шчасця крокі.

Я ж цярплю. Пазнаў грахі віны
і пакінуў думак бераг плыткі...
Каб спаткацца і ніколі больш не ныць,
я б навоі песняў табе выткаў.

Але ж ты, чароўнасць сноў і дум,
угібаная у хлуд хаўрусны...
Мне хварбуеш, дзе й куды ні йду,
і штодня брусьнічным сумам вусны.

*Кастрычнік 1955*

## 3. Грахі

Разышліся, як дарогі ў полі,
супраць ветраў і вятром наўсціг.
Не спяшаліся, ішлі паволі —
вельмі ж не хацелася ісці.

Адплывалі хутары і вёскі
за прыцьмелы дымам далягляд…
Распластаная, пчаліным воскам
пахла беларуская зямля.

Сухатвары белы свет, няблізкі,
навашчыўшы поўсці жоўтай хіб,
сустракаў нас жованым агрызкам
невідзі за нашыя грахі…

*Кастрычнік 1955*

## 4. Пракалоліся вочы жалю

Я нічога з сябе не выжаў,
а суседзі даўно зажалі…
На іржэўніку іхным — рыжым —
пракалоліся вочы жалю.

Не хварэю. Ці шмат, ці мала —
не свае ж, а чужыя копы.
Вось яны і пад сонцам вялым
пакаціліся б жоўтым снопам.

Не змаўчаў бы. «Прыемна, выжал,
што не маю да трупа жалю?
Не прапаў я — без хлеба выжыў,
а вы — самі сябе зажалі…»

*Лістапад 1955*

## 5. Шлях

Не ўлукаткі, а проста — напраскі,
адмерваючы вёрсты крокам спорным,
кладзецца шлях на жорасце хрусткім
перад вачыма зайздрасці супорнай…

Настойліва імкнуцца урачы,
а ён, каб з прытаптаным не спаткацца,
у схованах рабінавай начы
глянцуе спрыт, што ў даўнасці намацаў.

*Паўднёвая Амерыка, кастрычнік 1955*

# З цыклу
# ЖУРБОТНЫЯ СТРУНЫ

## 1. Вусны і песні

Прачніцеся, вусны і песні,
каб думак у сэрцы не сплесніць,
каб подых вятроў і рэкламаў
дарожкі вузюткай не спляміў,

не гэтай, што топчам і полем,
тае, што шлюбуецца з болем,

няходжанай, з пахам чабору,
дзе вербы з жытамі гавораць,

дзе сочыцца ў мякішы ночы
халодны рабінавы почат

і плачуць па восені руннай
завеяў журботныя струны…

Прачніцеся, вусны і песні,
каб думак у сэрцы не сплесніць.

*Венесуэла, кастрычнік 1949*

## 2. Нeспадзявана

Неспадзявана сцішылі хаду.
Спыніліся. Ля вогнішчаў гарачых
варушыць ноч не першую жуду
над чарапамі жоўтымі няўдачы.

Тугой брыняюць снасці і чаўны…
Шчапаюцца раздвоеныя маршы,
і водгалас у пошчаку лясным
ґубляецца на ганьбу плыні нашай…

- - -

Мінаюцца кварталы і слупы,
паўторваюцца фарбы і рэкламы…
У роспачы ад вымыслаў скупых
малярскі квач палотнішчы папляміў…

Хвалююцца сябры. А гледачы
падлічваюць нячуваныя кошты…
Вазьму, бадай, я брамы на ключы,
каб не дзівіліся
і не пыталіся — навошта…

- - -

Хацеў пісаць не вершы, а лісты,
ды словы глейкім сумам наліліся.
Упаў з-пад рук пазычаны кастыль
і рану цяжкую у грудзях высек.

Упартая ад болесці, яна
не лечыцца, як модна ні залечвай, —
шчыміць. Дрыжыць напятая струна
паростані і неблізюткай стрэчы.

*Брэменгофен, верасень 1947*

## 3. Далей і далей

Хвалі ад берагу — далей і далей…
Чым іх усцешаць туманныя далі?
Спыняць, расціснуць на спінах наплываў
дугаў тугія зялёныя грывы,
пенаю жоўтай на мелях затокаў
вецер прыгорне у краі далёкім,
буры сівыя глыбінь без'языкіх
век закалышуць на поўначы дзікай…
Лепей употай на пальмавай выспе
перлавай заніззю рос было выспець,
кроплямі цёплымі — дожджыкам чыстым —
спорна разліцца над краем вячыстым,
краем, што стогне і б'ецца у русе…
Гора ж і ім, і маёй Беларусі…

*Карыбскае мора, ліпень 1950*

## 4. На ганьбішчы славы

Прыляж да зямлі і паслухай, як кліча
апошняя змрочная часу гадзіна…
Ля Сожу, Дняпра, каля Свіслачы, Пцічы
калоцяцца грудзі падбітай Радзімы;

і стогне, як гораў цяжкія абвалы,
як бура, як роскат магутны улевы,
ад гора, ад крыўды на ганьбішчы славы
гарачае цела, налітае гневам.

Рубцуе, бы вогненны выліў вулкану,
знішчэнне свой поступ на твары
стагоддзя.
Хто ж выйдзе, каб боль наш у вечнасці
кануў,
і скажа апошняе: «Досыць жа! Годзе!»?

Крывёю жаўнеры Крывіцкай Пагоні
шляхі паласкалі на бітнішчах пушчаў,
каб жоўтыя горды на рунiстых гонях
не смелі спакою нашчадкаў разлушчыць,

кранацца азёрнага звонкага плоду,
пясчынкі адзінай, пылінкі ад спору,
каб рэчак блакітных жывільныя воды
ім сталіся пострахам скрутнага мору,

каб вобразы волатаў — продкаў — паўсталі
з байніцаў Нямігі, з Высокага места,
каб голас мячоў з беларускае сталі
азваўся на покліч нярадасных вестак.

Пачуў я, як моцна, упарта нас кліча
апошняя змрочная часу гадзіна…
Ля Сожу, Дняпра, каля Свіслачы, Пцічы
калоцяцца грудзі падбітай Радзімы.

*Венесуэла, ліпень 1952*

## 5. Жыццё

Шанаваў я цябе, кунежыў,
захапленне не мела меж,
а ты сціснула злосна межы,
каб маліліся д'яблу веж…
Не скарыўся. Уранні — нашча —
прысягнуў шчыра Сіле сіл:
«Лепш прапасці ці быць прапашчым,
як пад сэрцам вужа насіць».
За упартасць маю, няпослух,
за свае — не мае — грахі
звахтавала ў затоках вёслы
і шпурнула на грозны хіб
акіяну: «Плыві і кайся,
прыліпай да чужых зямель —
у Перу, ля канадскіх пасек,
і такое трымай наўме:
за упартасць тваю, няпослух,
за падняты угору сцяг
не прачнуцца у песнях вёсны
на абломках скупых жыцця…»
І як вырак, сухі і згуслы,
непапраўны — із вуснаў збег, —
скамянеў, не крануўшы вуснаў,
пераняты у горле смех.

*Венесуэла, чэрвень 1954*

## 6. Няпослуху дзівацкага сакрэт

Патоляй свет не лашчыў нас ніколі,
і прыкрым быў чужы ля хаты след.
«Ля родных стрэх шукайце, дзеці, волі», —
пакінуты вучыў нас запавет.

А мы пайшлі-такі у белы свет
пад націскам нясцерпнай гідкай голі...
Як гнеў раба, сціскаецца ад болю
няпослуху дзівацкага сакрэт.

І ганьбіцца зямлі ружовы цвет,
знішчаецца на зыбкіх плынях золі...
Які ж пакінем дзецям запавет,
пакутнікі зняверанымя долі?

Паўторым нешанованы, а мо’...
...Смяротнае зямлі чужой ярмо.

*Венесуэла, сакавік 1954*

## 7. Ля берагоў крывіцкае Нямігі

Уецца шлях гразкою каляінай,
а часам камяністасцю ўстае.
Сціскаецца, суродзічы мае,
ад гневу голас песні сакалінай.

Бы грэшнік той, прад чорнаю гадзінай
малюся сонцу. Вельмі ж не стае
журботнае, азёрнае мае,
далёкае і блізкае — адзінай…

Калі ж, калі знітуюцца з Радзімай
пад сонцам дум спялюткіх невады?
Заплодненыя сподзевам, сады
ўсупор зышліся з постынню азімай…

І крышацца ільдоў грымотных крыгі
ля берагоў крывіцкае Нямігі…

*Венесуэла, сакавік 1954*

## 8. Сябрам

Мякка сцелюць, ды мулка спаць,
і ніяк мне цяпер не спіцца,
калі зноў, каб душу распяць,
калупаюцца ў сэрцы спіцай.

Не засну — пастаю пакуль,
абапруся на кій вішнёвы,
каб, зірнуўшы на цені куль,
сцерагліся начныя совы…

Калі ж часам нясцерпны змор
пераможа мяне, скажыце,
што упала з плячэй ярмо,
калі сэрца смяротна выцяў…

*Венесуэла, снежань 1954*

## 9. Вузкі стрыб дугі

Сонца плавіцца, а я, дзівак, бажуся,
што свет плыняю ільдзянаю ацёк,
што нязручна чалавеку у кажусе
размінацца з пакалечаным жыццём.

Прыдзівіцеся, як корчыцца між вулак,
нібы старац… На далонях жоўтых рук
перад кажнаю пад поўсцю тлустай мулай
падымае растаптаную зару,

на кавалкі пашматкованую ўчора…
У правалінах вачэй — агонь і плач.
Мы, спыніўшыся, стаім на пляцы чорным
ля патухлага даўным-даўно цяпла

або спорым у бязладнасці таропкай
каля прасел збуцвянелых верад жыл,
падстаўляючы пытальнікі пад кропкі,
а над клічнікамі — кропкі і крыжы…

Сонца ж плавіцца… Вялікі почуў сілы
у крыві гарачай. Думак бег — тугі…
Падпаўзаем, як вужы, пад камень сівы
з прыладованай на вузкі стрыб дугі…

*Венесуэла, студзень 1955*

## Не прабуджанае сонцам ранне

Не хвалю нічога
і не ганю,
яно ўсё мінулася,
але
водгулле
расцёртага змагання,
попел сноў,
вясны
і лёс калек,
помнікі
і слова —
чалавек,
вобразы
на сплямленым экране —
ўсе яны
сцігуюць,
часта сняцца,
пераймаюць
на жалобным пляцы
і выразна кажуць мне:
«У вочы
раніцы
пільней
вазьмі зірні!..
Калі сум
слязьмі
іх надта точыць,
сам звуглее
ў заўтрашнім агні,
ледзьве
іскрай прысаку
крані
волю моцную
на спадзе ночы…»
Гавару усім ім:

«Не баюся
пазіраць у вочы
Беларусі...»
На зямлі
я тое толькі ганю,
што іржою ганьбы
заплыло...
Мужнаму —
спяваю гімн змагання,
прад памерлымі —
зямлі чалом...
Муляецца
камяным вузлом
не прабуджанае
сонцам ранне...
І чаму ж
ахвяры цяжкіх мук
не падняць
сваіх мільённых рук?
Не сказаць:
«Шпарчэй!
Мацней!
Мужней!» —
не скіпець каб сяння
на ражне?

*Мюнхен, ліпень 1956*

## Максіму Багдановічу
## (Урыўкі)

*...так і ўдарыўся б грудзьмі*
*аб зямлю ды ўсё слухаў бы,*
*усё плакаў бы аб сваёй долі...*

Максім Багдановіч

За пушчамі — горы,
за горамі — мора.
Там людское гора
з хвалямі гаворыць...

Я мінаю горы,
я іду да мора,
каб пачуць, што гора
з хвалямі гаворыць...

Я стаю ля мора,
я гляджу на гора —
гора й хвалі мора
слова не гавораць...

* * *

Гора плача,
мора стогне,
хвалі б'юцца ў берагі,
у супольным болю й стогне
завіваюцца ў кругі...
Мора плача,
гора стогне...
Сініх хваляў хіб пругкі
у пакутным болю й стогне
заплятаецца ў вянкі...

Неба плача,
неба стогне...
мора,
гора

і жарства
у цяжкім зліліся стогне
ля магілы хараства…

Расцвітае колер сіні
на узвівах хмар касых,
і сякуцца ў прызме сіні
кроплі слёз
і сум красы…

* * *

Праз сённяшняе бачу ўсякае мінулае,
з мінулага — сучаснае, бяду, нуду…
Паволі ў заўтрашняе з песняю іду,
бо шлях каменнямі дарогаў ногі муляе…
А песня з блізіні імкнецца у далёкае,
каб сэрца не сціскалася ў бядзе грудзьмі.
Музыку ж хочацца заўсёды быць з людзьмі,
якім не хочацца збываць іскрынку лёкаям…
І струны звонкія, вятрамі злымі бітыя,
васкуе боскі гнеў — журботныя званы…
І сняцца штоначы мне даўнасць і яны —
Рагнеды плач і мужны голас князя Вітаўта.

*Мюнхен, 1957*

# З цыклу
# ПАДБІТЫЯ РЫТМЫ

## Васільковыя гады

Адцвілі гады.
Завялі ружы.
Цвіляю
парог вясны цвіце…
Выпаўзае,
чую,
слізкім вужам
із-пад ног
цяпло маіх уцех….

У палёх
смуглеюць думкі,
дзеі —
васільковыя,
юнацкія гады!
Над кавалачкам
цьмяным надзеі
пломіцца
куравы горкі дым…

Зачыняю дзверы —
голас чую…
Не мая —
чужая маладосць…
Чым жа я
цяпер цябе расчулю,
нежаданы,
прыкры ў хаце госць?

Не чакай…
І словам не пацешу:
горам
смех
у горле хрыплым скут.

Ля крыніцы
сум даўно ўжо чэша
цяжкіх сноў
халодную луску…

*1938, Віцебск*

# Сябры

Сустрэліся сябры маленства
каля парку.
— Адкуль?..
— Куды?.. —
цікавіўся скалечаны,
бязрукі.
А той —
крывы —
з крывёй,
запечанай на карку,
не чуў —
стагнаў,
ад болесці
згінаючыся крукам.

За местам
тлеў
над прысакам
паволі
вечар,
дыханнем хваляў
цёплых,
траў
няўгойнасць ранаў лашчыў.
— Хто ж крылы паламаў
і гэтак іх знявечыў?
Бяскрылы на зямлі —
ні госць,
ні гаспадар.
Прапашчы…
А месяц —
плыў і плыў,
п'ючы валогу сіні
з ражка пуховага
вальнюткай
цьмянай
балачыны…

І нам хацелася,
каб боль
плыў на асіннік,
і каб сябры
жыццё
жывымі ўбачылі вачыма.

*1946, Зальцбург*

# Мама

Родная, любая мама,
доўга чакаю ліста я.
Можа хто іншы дзе, мама,
сягоння яго лістае?

Любая, добрая мама,
цяжка, а рады ніякай.
Мусіць, радзіліся, мама,
мы пад няспогадным знакам?

Добрая, бедная мама,
хіба ж не чорная сіла
свету нядобрага, мама,
нашую радасць скасіла?

Бедная, кволая мама,
жыць, кажуць, болей не мушу…
Хто ж прыгадае дзе, мама,
нашыя светлыя душы?

*1955, Венесуэла*

# Песня

Прыйшоў з даўніны апрычоны наш голас,
вялікі і моцны, і песняю стаўся —
тканінай цудоўных і фарбаў, і гукаў,
і шэлестаў-шумаў, і подыхаў-плыняў,
павеваў духмяных, і лозаў, і зёлак,
гаёў і аселіц, і звонаў крынічных,
чысцюткіх, як слёзы, як душы людскія.
Налітая сумам лясоў і балотаў,
жыла і расла, і пад сонцам мацнела,
ад межаў да межаў кацілася вольна
з вятрамі й без ветру — высока і нізам,
із поўдня на поўнач, з усходу на захад
плыла, увівалася ў хвалі рачныя
і гора на скрутах вірлівых тапіла…
Праз вільгаць туманаў, праз немарач даляў,
праз горы, праз мора, праз акіяны
наўсуперак лёсу імчалася ўпарта
і смела лунала пад зорамі неба —
пад створам блакітным дзівоснага свету.
І слухалі людзі, і самі спявалі
ды іншых пяшчотнаю цешылі песняй.
Ні холад ільдзяны, ні спёка пустэльняў —
нідзе не скавалі яе, не здушылі,
а вельмі ж хацелі зняславіць, усмерціць
чужыя, далёкія злосныя зыкі…
І млелі ўсе хцівыя зводнікі вуліц,
пачуўшы спакусныя, плынныя гукі —
журботны узвіў Беларускае песні…
Здаля навальніцы прыйшлі, загрымелі…
Зялёных маланак смяротныя стрэлы
спынілі і выцялі нашую песню —
упала, як камень, на беразе кручы…
І доўга чутны былі болесці ўзрыды…
І плакалі людзі, сціскалі далоні,
а стрэлы ўядаліся ў іхняе цела
і нішчылі моўчкі за любасць да песні.

Прабілася песня праз тысячы міляў.
Спатоліўшы сілу ў дарозе нялёгкай,
упала ізноў на халодныя скалы,
і голас спыніўся пад спінамі Альпаў.
Галосяць і б'юцца ад болю і крыўды
адрыўкі мелодыяў роднага краю,
і стогнуць, як буры, налітыя гневам,
на чорных абвалах падбітыя рытмы…
Яны ж не памруць, бо жывыя жыць мусяць!
І толькі сягоння, у час крутазлому,
падломаны голас, надрыўны, журботны,
шчапаецца, крышачы горла граніту,
крывавіцца, мосцячы жорастам выйсце…
Праб'ецца! Напіўшыся сокаў жывільных,
падымецца вышай, скране нежывога
і горам прыбітага роднага брата —
словам, ад сэрца, што йдзе, абнадзеіць.
Не! Незнішчальная наша Песня!

*1946, Аўстрыя*

# Мой свет

Мой свет —
у свеце з'яў,
уяў,
вятроў
і рухаў…
Каб рос,
мацнеў
і ззяў,
не вяў,
а жыў
і рухаў
наперад
плынь падзей,
адно,
як і дагэтуль,
у шчасці
і ў бядзе
кажу такое
свету:
— Мой свет
не гэты —
той:
інакшым быў
і будзе —
ён
гнеўнаю пятой
твае
растопча грудзі!
На цёплым,
сыпкім тле,
крывёй дзе
пахлі гоні,
скрыжую
у святле
з ім
моцныя далоні.

*1956, Мюнхен*

# З цыклу
# ВЕНЕСУЭЛА

## 1. Сіла рэчы

Учора цяжка зробленая рэч
на ўсіх жывых глядзіць, нібы на рэчы.
І як ты формы ейнай ні калеч,
яна прымае вобраз чалавечы…

На ёй відны і пот, і пальцы рук
майстроў мастацтва, творчыя удачы
душы, цярпення, высілкаў і мук,
і сэрца трапяткога пульс гарачы.

Нямая — рэч і сноў, і насалод —
трымае, сцяўшы, сілу чалавека…
І ён, хаваючы у мроях сум згрызот,
маўчыць, як крыўдай выцяты калека.

*Мюнхен, студзень 1958*

## 2. Помнікі і абеліскі

На плошчы — помнікі і абеліскі
вялікім свету й богу Сонца-міту.
Схіляюся, паклон усім шлю нізкі —
халоднай бронзе, мармуру й граніту.

А ў думках паўстае маіх: каторы
з іх край вось гэты мілаваў бясконца?
І вецер з гор данёс: «Канкістадоры,
прыкрыўшыся сцягамі бога Сонца,

не мелі ў сэрцы любасці. На балі
агню й мячоў паклалі ў дамавіны
усё, што мы цаной крыві прыдбалі,
пакінуўшы гранітныя ўспаміны…»

*Мюнхен, студзень 1958*

* * *

Праз горы, праз мора, праз акіяны
нясі нізку сноў беларускіх, мой дружа,
каб ведалі й чулі, што ў бурах каляных,
рыхтуючы Прыйсце, жыве наша
мужнасць.

*Мюнхен, 1958*

* * *

Ёсць такія на свеце людзі,
пра якіх нават мовы няма…
Б'юць сябе кулакамі ў грудзі,
каб за лейцы сваіх трымаць.

А чужым — чужаніцам — насцеж
дзверы хаты, шляхі дарог…
Ім няцяжка шпурляць і красці,
што ў пакутах гадоў збярог

чалавек — і красу, і годнасць,
срэбра думак, святло святла.
Вельмі прыкра, што ў целе родным
прэе бросня жывога тла…

*1958*

* * *

…І чуваць здалёку,
і відаць ізблізку —
ніжа мроі лёкай
на чужую нізку…

А чаму й навошта,
а каму для спору
росціць цяжкім коштам
лёкай сум і гора?

І хто сёння скажа,
і хто скажа заўтра,
што такое кражы
даравацъ не варта?

*1958*

* * *

Мяне сягоння моцна дакарае
чалавек з няведамага краю.

I каб сон не ведаў супакою,
кажа людзям, цэдзячы, такое:

«...і сякі ён, і такі, і гэткі...»
і «сяброў» маіх валае ў сведкі:

«Ты, мая надзейная кагорта,
пільнай будзь! Уважна перагортай

дні яго... і мінусы, і плюсы.
Я ж за ўсіх хварэю і малюся».

Так ён грэх свой латае і шые,
каб спрытней трымацца на вяршыні,

ледзьве скроенай на сыпкім чвыры,
прытвараючыся надта шчырым.

Папытайцеся — адкуль і хто ён,
ён адразу скажа, ды не тое:

«Я і сам душу сваю караю
за дабро няведамага краю...»

Дык чаму ж мне моцна дакарае
чалавек з няведамага краю?

*1958*

* * *

Ёсць у нашай малітве словы:
«Даруй грэшным усе грахі».
…Калі бачыш святло у новым —
не спыняйся, не будзь глухі!

*1958*

* * *

Слухаць мову тваю, Радзіма,
у маленстве сваім прывык.
Ты сказала мне:
з цемры зімаў
25-ы прыйшоў Сакавік!

Над азёрамі,
над берагамі
плынных рэчак
жыло цяпло…
У суцэльнай
узнёслай гаме
памірала чужое тло.
Сокі глебы паілі травы.
Сокі веры раслі ў душы.
Дзень няўмерлай крывіцкай славы
слёзы долі людской сушыў.
Ды не высушыў.
Здань Дракона
патушыла жыцця прамень.
Ля Марыі — святой іконы —
жыў у сэрцы Хрыста той дзень
вызвалення і сімвал Веры —
несмяротны прамень жыцця,
каб, як продкі нашчадкам, верыць
у абмыты крывёю сцяг
Перамогі…
Дракон драпежны,
прагавіты мае крыві,
зруйнаваў майго краю межы,
каб упадак жыцця жывіць.

Не памёр Сакавік —
жыве ён!
У маленстве да волі прывык.
Хай жа цемру і боль развее
41-ы наш Сакавік!

*1959*

# РОЗНАЕ

## Манекену

Стаіш, убраная у строй найноўшых мод,
на целе жоўтым — золата і перлы.
Спыняецца і дзівіцца увесь народ,
што ты ад шчасця гэткага памерла…
І думаецца мне — твой гібкі, стройны стан,
пагляд вачэй, і млявы, і спакусны,
гаворыць моўчкі нам: за грэх прысуд Хрыста
расою божаю малюе вусны.

## Не ведаю…

Тугая цішыня мой сум з трывогай жэніць.
Вяселле граецца і ў скронях, і ў плячы…
Якім жа заўтра мне ўсміхнецца нараджэннем
мой дзень, прачнуўшыся пасля скупой начы?..
Не ведаю. Шчыміць у сэрцы прыкры віснаў,
густою плямаю кладзецца на душу.
А мне ж хацелася быць плённым і карысным —
сказаць жыццю й вясне, што ў сховах дум
нашу…

## Званы

Звіняць, гудуць мядзяныя званы
над вулкамі,
над плошчамі,
над местам.
Пра што ж з тугой гавораць нам яны?
Якіх ад нас чакаюць сёння вестак?

Стаю і голас потайкі лаўлю —
садоў,
палёў,
крыштальных цёплых росаў.
Званы пытаюцца:
— Калі Тваю зямлю
сустрэне радасць светлага ўваскросу?

*1958, Мюнхен*

# НОВЫЯ ВЕРШЫ

* * *

Нашы думкі трывогай будзяцца:
а ці прыйдзе яна ці збудзецца?..

І калі, у якім жа месяцы,
сум грымотамі хмар размесіцца?..

Ці ўвесну, ці позна ўвосені? —
І чакаем яе і просім мы:

— Не спазніся, Сястрыца-Вольніца,
сказаць слова сваёй Нявольніцы:

«Калі думкі трывогай будзяцца —
я прыйду. Спадзяванне збудзецца!»

* * *

Сціскаюць хвалі пеністыя мора
маіх чаўноў скрыпучую тугу,
а я кладу паволі на вагу
драбніцы ўцех і смоль тугую гора…

— Хутчэй, дзівак! — рагоча непакора,
шпурляючы на чорную дугу
адвагу,
спрыт,
чаўноў маіх вагу
і ўсё, што ў думках песціў я учора…

Муштруйце, штормы, гнеў душы, абы
на выспу цела вынеслі гарбы
глыбінных бураў із паўторнай раты!
На выспах — дзікім нетрыве скалы —
прабуюць сілы мужныя арлы,
растуць вызвольнікі і грозныя піраты…

* * *

Сіняе і чыстае такое,
хоць да раны свежай прылажы.
Толькі не дастаць яго рукою,
не пераступіць ніяк мяжы…

Выгнуліся гоні, тракты, вёрсты,
і дарожкі лесам зараслі.
Дык скажы мне, дружа, шчыра й проста,
як мы прывітаемся й калі?

Журацца і вербы, і ракіты,
і рабіны ў восеньскай імжы
клічуць мяне, кажучы: які ты —
родны полю, блізкі ці чужы?

Што сказаць далёкім, сэрцу блізкім
пра згібенне зім маіх і лет?
Вецер нашчацінены з калыскі
бацькаўскай пагнаў мяне у свет.

Доўга буду жыць яшчэ ці мала,
але сэрцу мроіцца адно:
моцна да вачэй маіх прыпала
поля васільковага відно —

сіняе і чыстае такое,
хоць да раны свежай прылажы.
Толькі не дастаць яго рукою,
не пераступіць ніяк мяжы…

* * *

Напярэймы зары ўсё ішоў,
а зара узяла дый пагасла
І заціснуўся надаўга шоўк
маіх мрояў тугім перавяслам,
бо зара узяла дый пагасла.

Не гляджу я цяпер на усход,
бо на ўсходзе зара не іскрыцца.
І ці мала ‘шчэ высмягне год
у жыцці сінявокай сястрыцы,
бо на ўсходзе зара не іскрыцца.

# Дзве дарогі…

Дзве дарогі — два шляхі
дзіўныя такія:
і дабро ўсё, і грахі
валочацца з кіем.

А куды й чаго яны —
аніхто не скажа,
пакуль грэх — дух сатаны —
дабру ног не звяжа.

Бо дарогі тыя ўсе —
першая й другая —
як той колас на касе,
рэжуць сэрца краю.

Трэцяй розруху няма:
абцугі ды клешчы.
Закаваная, сама
сваё шчасце плешча.

Дзве дарогі — два шляхі
прыкрыя такія:
і дабро ўсё, і грахі
валочацца з кіем.

# Прыйшлі і вернемся…

З зямлі прыйшлі і вернемся ў зямлю,
каб пасля тлення цела, ліній, нормаў
(агнём душы цяплю шлях і жыўлю)
укласці змест свой у інакшасць формаў;

супольствам сілаў свет стварыць такі,
каб, з прышласцю сустрэўшыся нашчадкаў,
зайздросцілі стваральнікам вякі,
эпохі й пакаленні ўсіх пачаткаў;

каб грэшнікі і грэшныя багі
зямлі, што ганьбяць створ святых вышыняў,
канчаючы злачынных спраў кругі,
у петлях выпрасталі дугі шыяў…

Усё, што ў думках пешчу і пладжу, —
даўно ўжо дух людское сілы кратаў,
хістаў дзікунства стромую мяжу,
каб уваскросу морак не прыпратаў…

З зямлі ж прыйшлі і вернемся ў зямлю,
каб пасля тлення цела, ліній, нормаў
(агнём душы цяплю шлях і жыўлю)
укласці змест свой у інакшасць формаў!

## Урывак з паэмы «Гранітныя абвалы»

…Я ж бачыў, як збліжаліся яны —
грымотных гор гранітныя абвалы.
Ляўшун імчаўся з левай стараны,
Правун — із правай. Моцны, вытрывалы,
згінаў заміны шляху, быццам бы
адзіны ён трымаў у шчопцях сілу,
што ўсё сатрэ — і горы, і гарбы
ад поўначы да мутных хваляў Нілу,
каб далей потым рынуцца — туды,
дзе горы горамі пакуль не біты,
дзе з хмарамі гавораць гарады,
дзе земляў некранёных дрэмлюць міты…
Правун спыніўся. Гора Леўшуну.
Над горамі лягло цяжкое гора.
Здалося, грэшнікі разгойдвалі труну
над штормамі страхотных хваляў мора.
У лютай празе смерці — не жыцця —
зірнуўшы на вяршыні гор і скалы,
Правун, абняўшы чорны згубы сцяг,
звярнуўся да маўклівае навалы:
«Гуртуйцеся, няўломкі-камяні,
аброслыя імхамі ціхалюбы…
У выпертым з грудзей зямных агні
не бачу я ні вусцішу, ні згубы.
Раз'ятранаму — стромы шлях, круты,
пастаўлены на хіб спічасты кону.
За поспех наш, знішчальных бур браты,
малюся я ўсяможнаму Дракону!..
Няма й не будзе сілы і раўні
магутнаму… Праз горы, долы й гаці
праб'емся мы, і як ты нас ні гні —
скарыцца свет, і свету ўсе багацці
да нашай, веру, скоцяцца гары…
Я пра адно сягоння толькі мрою,
каб свет сказаў: «Бяры ты нас, бяры —
жыццё і кроў — гранітнаму герою!..»

Кіпіць мой гнеў! Не ён, Ляўшун сівы,
адроддзе гідкае Казбеку і Уралу,
а Я і Мы ля берагоў Нявы
ушчунем злыбеды усходнюю навалу!
Дык піце ж кубак пеністы віна,
згібелі каб нікчэмных шпатаў залпы.
Над прыкрасцю! — касцямі Леўшуна —
на зайздрасць свету узнясуцца Альпы!»
Хаўруснік жа, абветраны, руды,
падбіты ўжо атрутай трупнай мору,
зірнуў здаля на дзікі спрыт жуды —
патрушчаныя плечы касагору,
і хлынула з каменнага нутра,
распечанага палам хцівай прагі:
«Хто смее ў горле чорнага цара
тушыць пажар і пляміць нашы сцягі?
Нясем мы свету нормы і правы,
нам кажны камень — госць і брат жаданы…
Із ног і рук, пакуль ‘шчэ сам жывы,
ідзем здымаць ставечныя кайданы…
Прабуе хай Правун крануць… Каля
уласных гораў пахавае косці!
Цалуйце зоры роднага Крамля —
крыніцу перамогі й маладосці!»
З расколін кручаў — шчэлепаў труны —
шпурнуўся друз адборны першай раты…
Сцяной зышліся ў стыку валуны —
хаўруснікаў разбойныя піраты.
Трагічны гром! Крышыліся шчыты
грымотных гор, каб гора не зацерці.
Ад роўніка да нетраў Варкуты
згінаўся свет у танцы дзікай смерці…

*1957*

## Апошні ліст календара

Апошні ліст календара
перахінуў на дзень аджыты.
Пара, мой верш, табе пара
спатоліць гневу боль сукрыты.
Імчыся, думкамі наліты,
здаля да роднага двара
і прывітай гаспадара,
каб ён, няволяю падбіты,
ачнуўся… Рукі да зары
узняў… Зямлі гаспадары —
сыны нявольніцы Айчыны —
сваімі прагнымі вачыма
сустрэнуць пробліскі святла
і над слядамі бур і тла
мячы скрыжуюць прад зарою.
А з імі позняю парою —
у міг дванаццатай гадзіны —
я п'ю за шчасце Нарадзінаў
мае пакутнае Радзімы…
На чорным цемры перакаце
кажу: мой родны, любы браце,

каб мроі нашыя збыліся —
за прыйсце светлае маліся!
Я п'ю за шчасце Нарадзінаў
мае пакутнае Радзімы!

*1957*

# Станіславу Станкевічу
## (У сувязі з ягонымі ад'ездзінамі ў Амерыку)

Хто б там што ні казаў,
але ж ты — гэта Ты.
Рук і крыл не вязаў
на адхонах крутых.

І не звяжаш, бо ён —
караб думак цяжкіх —
і цяпер, як здавён,
кліча ў сведкі вякі,

каб сказалі яны,
каб сказалі аб тым,
што ўсе нашы сыны
мелі час залаты;

каб сказалі яны
свету ў гэтым вяку,
як сягоння сыны
гора дзён валакуць…

Словы лынуць з душы
і гавораць — скажы:
і жыві, й варушы
думак цяжкіх гужы!

## Роднае слова

Я не жыў без цябе.
Шанаваў і сцярог,
лашчыў ласкай
і казкай лясною,
каб не ўмерла,
крый Божа,
ля чорных дарог
Беларускае роднае слова.

Не згінайся, малю я,
расці і жыві.
Будзь і сокам,
і звонам вясновым,
але ў сэрцы маім,
у іскрыстай крыві —
Беларускае роднае слова!

Кожным гукам звіні,
пладзі песню-красу.
Ты —
жыцця майго
скарб і аснова!
Як малітву, цябе
у сусвет панясу —
Беларускае роднае слова!

*Снежань 1962*

# З НЕЗАВЕРШАНАГА

* * *

Хоць у сне ты мне, азёрная, прысніся,
неспакой свой сном мо' сяння супакою.
Я ж крывёю на каменнях долі высек
несмяротнае, як свет, імя такое —
Беларусь.
Ад менскіх дымных камяніцаў
пачынаўся шлях мае хады упартай.
Зоры неба сінія, звон лозаў ніцых
гартавалі дух і сцераглі ад хмар тых…

* * *

Там, на Радзіме,
ля Пцічы-ракі,
з-пад муру бруіцца крыніца,
на золаку,
чуў я,
пад шэлест ракіт
крывёю туман там імгліцца.

…У засені вербаў скланяўся мой дзед
і кленчыў ля даўняга крыжа…
Рака на'т сцішае імклівы свой бег,
да муру зварочвае бліжай,
зялёныя хвалі на ейным ілбе
ступелыя выступы ліжуць.

Бывае, прымае раз'ятраны вір
ахвяру чарговае сыці.
І цела на дне, багавінне і жвір
у вечны спратоньваюць прыцем.

У прыцеме прашчуры маюць спачын
у хораме водных глыбіняў;
іх духі на бераг круты уначы
выходзяць да зорнае сіні.

Маўкліва ўзіраюцца ў польны прасцяг,
у глыб старадаўняе пушчы,
чужынец адчуў дзе на собскім гарбе
іх сілы змагарную вушчунь…

* * *

Перада мною новыя лісты,
я атрымаў іх поштай адмысловай…
У беларускай мове і прытым —
са спецыяльным націскам у словах.
А слоў ці мала — тысячы са дзве,
не рахаваўшы, вызначыць бяруся,
і, безумоўна, — «Беларусь жыве»
і «не загіне слава Беларусі»…

* * *

З табою, родны, блізкі і далёкі
блакітны край.
Жыві, змагайся і расці
на зайздрасць варажай спакусе.
Твае з крыві мы і касці —
сыны блакітнай Беларусі.

* * *

Скажыце, дзе вы бачылі такое,
каб, як у нас, звінелі сокам травы,
і усміхаліся каліны над ракою.
А журавіны спелыя…

* * *

Вось і вуліца тая і ліпа,
чорны камень здалёк відзён,
нават дзесьці гармонік захліпаў,
а ён, бедны, жыццю жадзён…

* * *

Ад маленства і жыў, і рос там…
Навальніцы, трывожны шум…
І спатканне дарыў, і ростань —
распякалі яго душу…

* * *

Дзверы — насцеж.
Я выходжу ў сад.
Сад бялюткі,
як калісьці быў ён…

* * *

За горадам, як выдзьмуты пухір,
гайдаўся месяц. Цяжка галасілі,
расколваючы жнівеньскі сухі прастор,
званы, звярэджаныя ў сіле…

* * *

На зялёныя лісткі
селі моўчкі матылькі.
Пагайдаліся часінку,
потым іншую галінку
упадобалі й прыпалі,
каб лісткі яе не спалі.
На сінюткі васілёк
сеў бялюткі матылёк.
— Васілёчак, васілёчак, —
цябе кліча матылёчак…

* * *

…І давядзецца мо' калі
адведаць бацькавы вуглы,
прыйду і не пазнаю хаты
і клеці з ліпаю, хлява…

* * *

Як ласку матчыну, у думках калышу
ўспаміны светлыя на зло спакусе…

* * *

Пра што ж я раскажу табе, калі
пра ўсё ўжо сказана, толькі не мной…
Хіба, пра тое, што баліць,
што вырвана
з-пад рук,
з-пад ног —
вайной?..

* * *

Ля сініх азёраў спаткаліся мы,
і ўпоруч ісці давялося.
На кожнай вярсце наравіла размыць
залою шляхі нашы восень.

Свайго хацеў броду кірунак знайсці,
а ты мяне вабіў і клікаў
схіліцца над грудамі свежай касці
пасля перамогі вялікай…

І я ўпершыню ‘шчэ пачуў ад цябе
пра класы і ўсякія масці,
што нейкія класы ў ліхой барацьбе
крывёй здабылі сабе шчасце…

* * *

Цішыню парушылі вятры,
гул матораў і асада места.
Ля парогу на асінавым кастры
я знайшоў нярадасную вестку:

«Выбачайце… і самой шкада,
што чаўны спыніліся на мелі…
Штосьці 'шчэ я думала згадаць,
але неяк думкі анямелі…»

* * *

Гаварыла і «так», і «але».
Словы смольна ўеліся ў памяць.
Час прайшоў, а на ліпкай смале
засталася пажоўклая пляма.
Я сціраў яе колькі разоў —
не сціраецца, як ні сцірай ты…

* * *

Я ведаю, ты не са мной, —
другому дзверы адчыняеш, мусіць.
І ліпень гліцаю лясной
нам сцежак росных не патрусіць…

* * *

Месяц ліпень, і места Глыбокае…
Ля азёраў журыліся клёны.
Усміхалася сінявокае
ранне полыску хваль зялёных;
трапяткое яно і чысцюткае,
нібы сочыва струн крынічных,
напаўнялася рознымі чуткамі…

* * *

Не спляміцца і не заліпне
у памяці месяц ліпень…
Не тое, што ў снох красуе,
у сэрцы сваім нясу я,
а свежую рану разлому
нясу на пацеху злому…

* * *

Вечарэла, стомлены, ля ганку
слухаў, як звіняць і пахнуць мёдам ліпы.
Смуглатварая, танклявая цыганка
моцным поглядам вачэй сваіх прыліпла:
— Сінявокі, журышся?.. Карысці
з гэтага, павер мне, аніякай.
Бацька мой, расказваюць, калісьці
слухаў музыку пчаліную і плакаў.
Доўга млела кроў яго у жылах,
і журбою выцвіла б дазвання,
калі б сэрца не прываражыла
хмелівам п'янкім цыганскае каханне.

* * *

Стомлены цяжкімі думамі, ля ганку
слухаў, як звіняць і пахнуць мёдам ліпы.
Маладжавая прыгожая цыганка
моцным поглядам вачэй сваіх прыліпла.
— Чарнавокі, журышся? Карысці
з гэтага, павер мне, аніякай…
Бацька мой, расказвалі, калісьці
слухаў музыку пчаліную і плакаў.
— Кінь, красуня, на чырвонага валета.
Рукі белыя твае пазалачу я,
калі сэрца неспакойнае адразу
з вуснаў мудрасць слоў тваіх адчуе.
Не хвалюся храбрасцю вялікай —
да маны жыццё не прывучыла…

* * *

З-пад стэпаў-пустак прытаўкліся
жаўтагрывістыя хмары…
Лаглі на сінім неба твары —

над ліпкай цвіллю трупнай тлі,
тугой, тхнівом пярхотнай гары,
брынялым сочывам раллі,
няспорам, сном зялёнай спелі —
і ўвачавідкі скамянелі…
У даўкім вобмегу зямлі
на'т камяні і тыя млелі;
чаўны спыняліся на мелі,
і хвалі сінія гулі
ад гневу, хрыплі і нямелі,
чарнелі, быццам бы вуглі,
ды, грозна коцячыся ў далі,
жуду маўклівую гайдалі…
Вятры з заходняй стараны
спіраліся з наплывам чэрні.
А мы ад рання да вячэрні
ўсе чыста — дочкі і сыны —
маліліся, каб тыя церні,
вянкі разбойнай сатаны,
рукамі прышлае напасці
на цемя сатане пакласці…

* * *

Нарадзіліся марудна і даспелі
думкі тыя… Сталася… Карай,
несмяротны пакараны край —
пакланіўся сын Венесуэле.
Вер на слова: вымавіць не смелі
вусны слова цяжкага «бывай».
Пакідаў цябе, мой родны край,
як чаўны спыніліся на мелі…
Адцвілі сады і адшумелі,
і прыцьмеў у сэрцы сіні май.
Нават песні раптам анямелі,
адплываючы ў нязнаны край…

* * *

Заставацца — небяспечна,
а пайсці — бліжэй да згіну.
Смерць жыўцом хутае плечы,
уціскае ў дамавіну…
Выскаляецца ад млосці,
кіем стукае у дзверы…
Беларус з крыві і косці
не дае прыблудзе веры…

* * *

Праз горы, праз мора, праз акіян
нёс жменьку зямлі — чарназёму з-пад Пцічы.
Куды? — Не пытайся. Ішлі на кіях,
а вёрстаў кіямі не злічыш…

* * *

Яшчэ адзін паставіў крок ты…
Куды? — Наперад ці назад?
Скрыпяць пад дахам новым кроквы
твайго прытулку, азіят.
Мінецца хмель п'янкі удачы,
бы хваль халодных пругкі бег.
Пачаткам заўтрашняга плачу
здаецца сянняшні твой смех…

* * *

Ад Каракасу да Маракаі
шлях гарысты, доўгі, круты.
Але сябра мой не наракае —
мы, як добрыя два браты…

* * *

Ісці ці застацца? Пайду…
Іду.
Супыняюся і…
застаюся.
Што ж цяпер мне, скажы, рабіць —
аставацца ці з імі разам?..

* * *

Адкрываць не ўмею ніякіх Амерык я,
хоць і дух гартаваў у трапічнай Амерыцы.
Але ў тое, што Свет наш — яна, Амерыка,
і не верылася, і не верыцца…

* * *

Ці варта караць за нямудрае,
Ойча мой?
Не карай за нямудрае,
Ойча мой!

* * *

Не мёд п'юць, а чэмер упалыя грудзі
пад сонцам гарачым. Маўчы, валацуга.
Не гніся!
Няхай памуштруе жыццё і палудзіць,
як скібы жарствой
бакавіцы іржавага плуга…

* * *

Калісь такім маленькім быў
і раптам непрыкметна вырас,
акрэп, як дуб, на твары іншы выраз.
Пакліч яго — у час любы,
як тыя верныя калісь рабы,
ад сэрца скажа — проста, шчыра:
«Хай памаўчыць да часу ліра —
на кліч ваяцкае трубы
іду, бы звер на пах ахвяры,
і ў першым стыку хай памру,
але вось тыя думкі-мары,
з маленства песціў што, спатолю,
а не — ад гневу — дагару…»

* * *

Злыя хмары плылі з усходу,
а вецер упірысты — з захаду.
Тады мы, шукаючы броду,
не зналі ні ўсходу, ні захаду.
Нагамі мясілі ўсе лужы
на глейкай, выбоістай вуліцы,
і кожны казаў: «Я дужы,
давайце мне іншыя вуліцы!..»
Жылі і раслі. Мацнелі
пад бомбамі і пад кулямі…

* * *

За днямі дні і месяцы за імі
праходзяць, адыходзяць у нябыт.
І думкі гнеўныя упоруч з імі
плывуць на крылах суму і журбы.
Бунтуючыся, стукаюцца ў скроні,
пытаюцца — наперад ці назад?
Ці мо' вось так, як ёсць яно сягоння…

* * *

Чужое гора вымераць нялёгка
і не лягчэй скрануцца да узлёту,
каб шлях, крывёй напоены і вогкі,
услаўся сонечнаю пазалотай…

* * *

Часам голаў ускружыць такое,
што і думкі збіваюцца з тропу.
Ні пры якім надвор'і спакою
не знаходзіць штодзённы клопат…

* * *

Маўклівы і такі сівы, пакінуты на глум людзьмі
і светам камень,
у зменнасці вякоў прыцьміў агністы бляск яго
каменнай маладосці…

* * *

З расколін чэрвеньскага землятрусу
выходзілі і захлыналіся нябожчыкі ад дзіва,
што не паслалі ля варот кужэльнага абруса,
а сонца вусны й душы людзям моцна парудзіла…
І свет жывых пякельным здаўся варам,
і потам рук дыхнуў акраец хлеба на стальніцы…
Бялеў цень прыкрасці на жоўтым прышлых твары…

* * *

У цішыні трывожны шум.
Ты — ў белым, а я — ў чорным.
Чорны колер здаўна да густу…
Хлеба чэрствая луста…

* * *

На няпростай, крутой дарозе
я пра гора спяваў у прозе,
а ў вершах — пра сум і тугу.
І стагнала мая дарога…

* * *

Гавораць, што ўсё не гнуся я…
Ці праўда яно ці не,
давайце пачнем дыскусію
аб восені і вясне
(і справа ўзбоч міне)…

* * *

І вузей ‘шчэ прыжмурыў вочы,
і падаўся у глыб прасек,
каб не бачыць, як цела точыць
Беларусі дваццаты век…

* * *

Думкі — пыл ліпкое мелі,
думкі — дым куравы хорту…
Супыніліся на мелі
караблі паблізу порту…

* * *

Не сплямілася, не заліпла
трывога грахоў і правін.
Як месяц з-пад воблакаў,
выплыў
праз морак гадоў успамін…

* * *

На пераломе спады і няўдачы
пласьмя упалі. Сны нам адмысловы
слязою абліваюцца…

* * *

На пераломе спадаў і няўдач
сціраюцца нязручнасці і жарты;
і як ты спрытна з’явішч ні тлумач,
яны губляюць моц сваю і вартасць.
Пачатак не трымаецца канца —
канец не вельмі вяжацца з пачаткам…
А дзе ж канец?..

* * *

Пасля адліву спадаў і няўдач
падрахаваў і мінусы, і плюсы…
— Тваю бяду і пальцам развяду, —
сказаў сучасны магік не да ладу.
Бывай! Таго, што на віду,
зладзеі красці, ведама, не крадуць.
Каму паскарджуся і раскажу…

* * *

Душылі іх майстры адметнай пробы,
пазней вялікі крытык Верхадум
знаходзіў цень таемнае мікробы
і выцінаў радкі. Ягоны глум
яшчэ й дасюль, здаецца, не прысох бы…

* * *

Тасуюцца і плямяцца тузы,
і войнік жджэ адказу варажбіткі.
Прыліп да губ змардованых язык —
цярпенне напінае кончык ніткі…

* * *

Апошні ліст календара
перахінуў на год аджыты.
Пара, мой верш, табе пара
спатоліць сэрца боль сукрыты.
Аддаўся голас, горам біты,
упраўнай гібкасці пяра…

## *З Тараса Шаўчэнкі*

### Запавет

Як памру я, пахавайце
мяне на магіле
сярод стэпу шырокага
на Ўкраіне мілай,
каб палёў шырокіх нівы
і Дняпро, і кручы
было бачна, было чутна,
як раве равучы!..

- - -

Пахавайце і паўстаньце,
кайданы парвіце,
і варожай злой крывёю
волю акрапіце!
І мяне ў сям'і вялікай,
ў сям'і вольнай, новай
не забудзьце, ўспамяніце
нязлым, ціхім словам!

*(25.12.1845)*

## Не грэе сонца на чужыне

Не грэе сонца на чужыне,
а дома ж надта ўжо пякло.
І мне нявесела было
і ў нашай слаўнай Украіне.
Ніхто ж не вабіў, не вітаў,
і я не гнуўся ні да кога,
блукаў сабе, маліўся Богу,
і панства, катаў праклінаў
і згадаваў гады ліхія,
нягодныя, бы золь, слата:
распялі вырадкі Хрыста —
й цяпер не ўцёк бы сын Марыі!
Нідзе не весела ўжо мне
і, мабыць, весела й не будзе
і на Ўкраіне, мае людзі,
але ж такі на чужыне
хацелася б… ды з той вымогай,
каб не стругалі маскалі
труны той з дрэва ды чужога
або хоць крышачку зямлі
із-пад Дняпра майго святога
вятры святыя прыняслі.
Ды й больш нічога! Гэтак, людзі,
хацелася б… Ды што гадаць…
На што ўжо Бога турбаваць,
калі па-нашаму не будзе.

*(1847)*

# Думы мае, думы мае
## Урывак

Думы мае, думы мае,
цяжанька мне з вамі!
Што ж вы сталі на паперы
сумнымі радамі?..
Чаму ж вецер не развеяў
ў стэпах, як пыліну?
Чаму ліха не прыспала,
як сваю дзяціну?..

Бо вас ліха на свет на смех спарадзіла.
Палівалі слёзы… Як жа не ўтапілі,
не вынеслі ў мора, не размылі ў полі?..
Не пыталі б людзі, што ў мяне баліць?
Не пыталі б, можа, чаму лаю долю,
чаму ные сэрца? Што ж і як зрабіць!
Не кідалі б кпінаў…
Кветкі мае, дзеці!
Вас кахаў навошта, песціў, гадаваў?
Ці заплача сэрца адно на ўсім свеце,
як сам з вамі плакаў?.. Можа і ўгадаў…

*(1839)*

# Мінаюць дні, мінаюць ночы

Мінаюць дні, мінаюць ночы,
мінае лета; шалясціць
пажоўклы ліст; згасаюць вочы,
заснулі думы, сэрца спіць;
і ўсё заснула… І не знаю,
ці я жыву, ці дажываю,
ці так па свеце валачуся,
бо ўжо не плачу й не смяюся…

Доля, дзе ты? Доля, дзе ты?
Не чую, не бачу!
Калі добрае жаль, Божа,
дай хоць злое, з плачам!

Не дай спаці хадзячаму,
сэрцам заміраці
і гнілою калодаю
па свеце блукаці.
А дай жыці, сэрцам жыці
і людзей любіці,
а калі не… дык праклінаці
і свет запаліці!

Страшна ўпасці у кайданы,
паміраць ў няволі,
а 'шчэ горай — спаці, спаці
і спаці на волі,
і заснуці навек-векі,
і следу не кінуць
ніякага: усё роўна —
ці жыў, ці загінуў!..
Доля, дзе ты? Доля, дзе ты?
Не чую, не бачу!
Калі добрае жаль, Божа,
дай хоць злое, з плачам!

*(21.12.1845)*

# На вечную памяць Катлярэўскаму

## Урывак з вершу

…Праўдзівы мой дружа! Прымі гэту мову
душы мае шчырай. Прымі, прывітай!
Не кінь сіратою, як кінуў дубровы,
прыйдзі да мяне на аднюткае слова
ды пра Украіну яшчэ заспявай.
Няхай усміхнецца сэрца на чужыне,
хоць раз усміхнецца, гледзячы, як ты
славу дзей казацкіх — і словам адзіным —
перанёс у хату беднай сіраты.
Прыйдзі, шызы орле, бо я адзінокі
на свеце на гэтым, ў чужацкім краю.
Гляджу я на ростань вод морскіх, глыбокіх,
паплыў бы на той бок — чаўна не даюць.
Згадаю Энэя, сям'ю і былое,
згадаю, заплачу, бы тое малое.
А хвалі на той бок ідуць і равуць.
А можа, я невук, нічога не бачу,
злая доля, можа, на баку тым плача —
сірату усюды людзі асмяюць.
Смяяліся хай бы, ды мора там грае,
там сонца, там месяц — уцеха мая,
там з ветрам магіла ў стэпах размаўляе,
там не адзінокім быў бы з ёй і я.
Праўдзівы мой дружа! Прымі гэту мову
душы мае шчырай. Прымі, прывітай!
Не кінь сіратою, як кінуў дубровы,
прыйдзі да мяне на аднюткае слова
ды пра Украіну яшчэ заспявай!

*(1838)*

# Каўказ

## Урыўкі з паэмы

За горамі горы, хмарамі спавіты,
засеяны горам, крывёю паліты.
Спакон веку Праметэя
там арол карае,
штодзень божы дзяўбе рэбры
й сэрца разрывае.
Разрывае ды не вып'е
ўсёй крыві жывучай,
яно зноўку ажывае
ды смяецца шчыра.
Не ўмірае душа наша,
не ўмірае воля.
Ненасытны не выарэ
на дне мора поля.
Не скуе душы жывое
і слова жывога.
Не аславіць славы Бога,
Вялікага Бога.

Не нам на змог з Табою стаці!
Не нам учынак Твой судзіць!
Нам толькі плакаць, плакаць, плакаць
і хлеб слязьмі адно мясіць
штодзённы высілкам крывавым.
Забойцы топчуць нашу славу,
а праўда наша п'яна спіць.
Калі ж яна пракінецца?

- - -

За горамі горы, хмарамі спавіты,
засеяны горам, крывёю паліты.
А там вось Спогадныя Мы
галодную даўно, да болю
загналі шчырую знянацку волю
і ўсё цкуем. Лягло касцьмі
людзей муштраваных ці мала.

А кроў, а слёзы! Напаіць
ўсіх імператараў бы стала,
з дзяцьмі і ўнукамі ўтапіць
ў слязах удоў тых… А дзявочых,
пралітых потай сярод ночы!
А матчыных гарачых слёз!
А бацькавых старых, крывавых!
Не рэкі — вогненнае мора
крыві людское! Слава! Слава!
Майстрам аблаў, гаспадарам
і нашым бацюшкам-царам!
Слава!

І вам, горам сінім, слава,
крыгаю сукрытым!
І вам, рыцарам вялікім,
Богам не забытым.
Змагайцеся — здабудзеце!
Вам Бог памагае!
За вас праўда, за вас слава
і воля святая!

Чурэк і сакля — ўсё тваё,
яно не з ласкі ў рукі дана,
ніхто не прыме за сваё,
не павядзе цябе ў кайданах.
А ў нас!.. Навучаныя мы,
пазналі Божыя засады!..
І ад глыбокае турмы
аж да высокага пасаду —
у скарбах — цслам свецім голым.

Да нас вучыцца! Мы навучым,
па чым і хлеб, і соль па чым!
Мы хрысціяне: цэрквы, школы,
усё дабро, сам Бог у нас!
Нам толькі сакля вочы коле:
не намі дадзена, а ў вас
чаму стаіць? Чаму ж мы вам
аўсяны хлеб ваш вам не кінем,

як косць сабаку! Платы нам
чаму за сонца не павінны!
Ці ж гэта ўсё!.. Мы не благія,
мы хрысціяне — людзі тыя,
малым што сытыя!.. Аднак,
калі б вы з намі сябравалі,
ці мала б ведаў атрымалі!
Прастор у нас які… адна,
адна Сібір — краям краіна!
А турм! А люду!.. Што й лічыць!
Ад малдаваніна да фіна —
на ўсіх языках ўсё маўчыць
і пацяшаецца! У нас
Святую біблію чытае
святы манах і навучае,
што цар, пастух свінны, прыпас
кабету сябраву й прысебіў,
а сябра збыў. Цяпер на небе!
От бачыце, якія ў нас
сядзяць на небе! Смела, біжай,
святым не знесеныя крыжам!
Да нас вучыцца!.. У нас лупі,
            лупі і дай,
      і проста ў рай,
хоць і радню вазьмі і кпі!
У нас! Чаго адно не ўмеем?
І зоры лічым, грэчку сеем,
французаў лаем, прадаем
або у карты прайграем
людзей… не неграў… дзе там, не,
хрышчоных… простых… не мінем.
Мы не гішпанцы! Крый нас Божа,
каб крадзенае нам скупляць,
нібы жыды: мы па законе!..
Па законе апостала
вы любіце брата?
Пустасловы, блудаманы,
Госпадам закляты!

Вы любіце ды братавы
шкуры, а не душы
і лупіце па законе
дачцэ на кажушак,
байстручанцы да выдачы,
жонцы крыху шмацця
і сабе, калі не бачыць
аніхто у хаце!..

За каго ж Ты распінаўся,
Хрысце, Сыне Божы?
За нас добрых ці за слова
праўды… Або, можа,
каб мы з Цябе ды накпілі?
Так яно, мой Божа!

Капліцы, цэрквы і іконы,
і стаўнікі, кадзьны дым,
і перад вобразам Тваім
Табе нястомныя паклоны

за кражу, за вайну, за кроў,
каб кроў братоў знявечыць просяць,
пасля ж у дар Табе прыносяць,
з пажару выкраўшы, дабро!

- - -

А пакуль што —
свае думы,
сваё злое гора
сеяць буду. Няхай растуць
ды з ветрам гавораць.
Вецер ціхі Украіны
панясе з расою
да цябе мае ўсе думы!..
Братняю слязою
ты іх, дружа, прывітаеш,
ціха прачытаеш…
І магілы, стэпы, мора
і мяне згадаеш.

*(18.11.1845)*
*1947*

# «Даруй, што я плачу...»
## Замест успамінаў

Уранні мае сябры з літаратурна-лінгвістычнага факультэту Вышэйшага педагагічнага інстытуту здавалі залікі па гісторыі народаў СССР. На сталох ляжалі тоўстыя кнігі гісторыяў і палітграматаў. Гаворка ішла пра «турму народаў» і шчаслівую маладосць у краіне сацыялізму... Перада мною ляжаў ліст знаёмае дзяўчыны з дробнымі, але густымі плямамі на асобных літарах.

«Даруй, што я плачу, пішучы гэтыя словы... Гаспадаркі нашае няма, а бацькоў таксама не заспела. Што з імі сталася — не ведаю. Кажуць, што...» Перапыніў мяне выкладчык і паклікаў да адказу.

— Зноў пішаце вершы і нічога не чуеце! — заўважыў выкладчык.

Я, да болю ўзрушаны няшчасцем знаёмай, патрапіў адказаць на пытанне, але не на «выдатна», а на «вельмі дрэнна» з чырвоным запытальнікам. «Не, таварыш Перэльман, не толькі чую, але й бачу гэтыя слёзы... Вось яны, паглядзеце...»

Адказ пачуў я ў канцы лекцыі: «А вам, таварыш, усё ж трэба пазнаёміцца з «турмой народаў...»

*

Ноч, як і вечар, выдалася цёплай і прыгожай. Падаў мяккі, пушысты снег. Хацелася кудысьці ісці, ісці, куды вочы глядзяць, ісці ў глыбіню і экзотыку лірычна-рамантычнае ночы. Цягнула да сяброў, да роднае маці. У суседзяў, за сцяною майго студэнцкага пакою, ішла гучная бяседа: абходзілі нарадзіны сына.

Меўся пісаць ліст да знаёмай. Думкі абарвала радыё. Гаварылася пра дзень Чырвонае Арміі, пра гонар службы бацькаўшчыне... Я выняў вайсковую картку з прызыўнага пункту і яшчэ раз прачытаў: «До особого вызова». Мне прыгадаліся словы любімага беларускага паэты, і я чамусьці запісаў іх на тым шматку паперы:

...Жыццё, суровасць і закон,
з табой ніяк я не паладжу.
Душа не хоча быць званком
твайго і рогату, і плачу.

Праз гадзіну пастукалі ў дзверы. У пакой увайшло НКВД. Ордэр на арышт. «Вось і «особый вызов» — мільганула думка.

Гэтак скончыўся 22-гі і пачаўся 23-ці дзень лютага 1933 году на 22-м годзе мае маладосці.

*

Дарэмна цягнула да сяброў. Мы сустрэліся ў сівых скляпеннях муроў: нас звёў суровы лёс жыцця, жыцця, якое ішло «от Москвы до самых до окраин»…

Уранні я ізноў убачыў ліст мае знаёмае і тыя самыя дробныя, але густыя плямы на асобных літарах. Тут я сапраўды пераканаўся ў праўдзівасці Перэльмана, што «вельмі дрэнна», і перад вачыма паўстаў чырвоны запытальнік у новай турме народаў, якая праглынула і першы падрыхтаваны мною зборнік вершаў «Песні і думы».

Дажджлівым вечарам у жаўталістую, рудую восень 1934 году, «сацыялістычная індустрыя» імчала нас у далёкія пусткі Сібіры. Пад грукат калёс, нібы ў адказ на іронію лёсу, скламіся ў радкі верша словы:

Я пазнаў і Еўропу, і Азію,
і Аўстралію вызнаць ‘шчэ мусіў…
Пустка сэрца маё уразіла,
не пазнаў што як след Беларусі.

*

«Труд перевоспитывает человека» — такою шыльдаю сустрэлі нас драцяныя загароды канцэнтрацыйнага лагеру на ўскраіне катаржанскага гораду Новасібірску. Седзячы на абтоку гэтага людскога ганьбішча, я пазнаваў непазнанае і глыбей адчуваў мала адчутае Радзімы: красу палёў і шум бору, сівыя туманы і тугу матчыных песняў, сінь азёраў і асалоду любасці да роднае зямлі. Было крыўдна і балюча, але

Каму паскардзішся, каму,
каму жывое скажаш слова?
Вазьму лепш плач я перайму
вятроў і звон лістоў кляновых…

Гэты плач і звон, што, здавалася, даносіліся з Бацькаўшчыны, былі жывільнай стравай душы, крыніцаю будучае творчасці ў новым часе, калі былі б у стане прачнуцца і зняволеныя «песні і думы»…

*

Прайшлі, прамінулі гады. Зарубцаваліся раны, але не сплямілася перажытае. Душа беларуса жывучая, не ўмее маўчаць ні ў часіны радасці, ні смутку. Яна спявае і вядзе напярэймы жаданням, а жаданнямі гэтымі ёсць шчырасць і праўда жыцця, ці гэта на Бацькаўшчыне, ці, як суджана ізноў злым лёсам, — на чужыне.

*Берлін, 9 верасня 1944*

# Тайніцы Сляпянскага лесу

За Менскам, на шостай вярсце ад Парку культуры і адпачынку, у лесе Малой Сляпянкі, пахаваныя вялікія тайніцы жыцця. Сляды страшэннага злачынства пазарасталі даўно мохам і травою, але памяць часам не спляміласяя.

Я хачу расказаць пра тое, што бачыў на собскія вочы, і тое, што гаварылі мне жывыя сведкі ды апавядальнікі чутага ад іншых. Не ведаю, дзе цяпер гэтыя людзі. Бальшыня з іх, напэўна, загінула ў канцэнтрацыйных лагерах Сібіры, а косці іншых, магчыма, буцвеюць у тым самым Сляпянскім лесе... Пра гэтую праўду не напіша ніколі ні маскоўская «Праўда», ні менская «Звязда».

1932 год. Студэнты Менскага педагагічнага тэхнікуму імя Усевалада Ігнатоўскага адбывалі на Даследчай станцыі ў Малой Сляпянцы сваю месячную сельскагаспадарчую практыку. Дырэктар станцыі папярэдзіў: «За дзвесце метраў ад баракаў пачынаецца ваенная зона, хадзіць туды забараняецца!»

Аднаго дня наказалі мне, што бацькоў выгналі з калгасу, а старэйшага брата пасадзілі ў турму. Хацелася ісці на край свету. Надвечар я паклікаў блізкага сябра Сяргея Русаковіча, маладога беларускага пісьменніка, і мы, нікому нічога не кажучы, падаліся ў лес. «Стары Барыс, што корміць канадыйскіх карпаў у сажалках, кажнага досвітку бачыць «чорнага ворана», а тая ў лесе камяніца, кажа ён, не дом адпачынку, а нейкая катавальня...» — гаворыць Сяргей. «А Рачыцкая, дачка камісара, гаворыць, што там поўна хворых», — заўважыў я. Розныя ходзяць чуткі... Каля забалаці, улева ад чыгункі Менск—Масква, мы прачыталі напісанае чырвонымі літарамі: «Конскі могільнік. Небяспечна!» Мноства засыпаных і незасыпаных ямаў. Кавалкі гліняных трубаў, кучы хваёвых слупоў і скруткі калючага дроту. «Гэта, гаворыць сябра, для адводу вачэй... Барыс ведае ўсё чыста, папытайся толькі яго...»

Лес гусцеў і рабіўся цямнейшы перад заходам сонца. У подыху вільгаці пахла трупнай гнілатой. І вельмі блізка... Пачалі шукаць. «Бачыш?» — з жахам звярнуўся я да Сяргея. Дагэтуль не даваў веры, што можа ледзянець цела і заміраць сэрца. На плашчыні нейкіх трох гектараў, паміж радамі пасаджаных у 1925 годзе хвоек, жаўцелі, размытыя пазаўчарашнім дажджом, маленькія курганкі і велікаватыя насыпы. Было іх нешта каля шасцідзесяці на першым плане, а далей — яшчэ... і яшчэ... Шмат якія былі заваленыя ламаччам.

Весткі з дому і пах магільнай, чалавечай гнілі адурманілі галаву. Я адарваў вокладку Марксавага «Капіталу» і напісаў: «Пад якімі ж курганамі буцвянеюць косці маіх братоў: Якава, Уладзіміра, Андрэя і Вінцэся?» Вокладку насадзіў на сук галіны, што абдымалася з аброслым травою курганам. «Ты звар'яцеў, ці што?» — з трывогаю крыкнуў Сяргей Русаковіч. Мне таксама хацелася крычаць і клікаць людзей шукаць родных і блізкіх. Пакідаючы месца вялікага бойнішча, гэткія словы вырваліся з маіх грудзей: «Пачакайце, бальшавіцкія далакопы…»

На скрыжаванні лясных сцежак убачылі мы некалькі мужчынаў з рыдлёўкамі ў руках, абкружаных чырвонагаловымі НКВД-ыстымі з сабакамі. Нельга было ўцякаць: перад намі стаяў ужо чалавек з аўтаматам. У вобразе гэтага двухногага звера я пазнаў рабатвара-га Васіля, Гіцля Бессардэчнага, як празвалі яго людзі маіх родных Дудзічаў. «Нешта вельмі шмат коней здыхае ў вас…» — сказаў я не вітаючыся. «Глядзі, разумнік, каб замест каня твая галава не трапіла ў яму… Ідзі, каб і духу твайго не было тут… Пагаворым пазней», — аўтарытэтна выказаў Гіцаль Бессардэчны.

Каля Даследчай станцыі сустрэлі нас сябры: Сяргей Астрэйка, аўтар ненадрукаванай выдатнай «Бенгаліі», Сяргей Гайка, Касянкоў, брат Міхася Зарэцкага, і студэнт Адам, пляменнік Адама Бабарэкі. Апошні, моцна ўсхваляваны, паведаміў: «Дзядзька Барыс і студэнт Ахрэмчык — арыштаваныя. Дырэктар пытаўся пра вас…»

Ноч была непрыемнай і вельмі трывожнай. Усе драбніцы, як жывыя, стаяць перад маімі вачыма. Мне здаецца, што і цяпер яшчэ чую дзікі крык ратунку, які даносіўся тае начы да нашага слыху з-пад таямнічае жоўтае камяніцы Сляпянскага лесу.

28 лютага 1933 году вокладка Марксавага «Капіталу» з імёнамі маіх братоў ляжала на стале следчага ў мурох Менскага НКВД. Сухатварая Навіцкая, што часта наведвала рэдакцыю газеты «Савецкая Беларусь», а пазней і Малую Сляпянку, гаварыла магільным голасам: «Вось мы і спаткаліся… Спадзяюся, што спаткаешся і з братамі…»

Увесну 1935 году ў чырвоных мурох Марыінскае турмы, у Сібіры пазнаёміўся я з Вячаславам Ануфрыевым, былым малодшым лейтэнантам Менскага НКВД. Аднавокі сухотнік часта паўтараў мне: «Моцна пакараў мяне Бог за сляпянскія душы… Ляжыць там не менш за дзесяць тысячаў».

*26 снежня 1955*

# Успаміны

## Праўду кажучы…

Вось яно, гэтае простае, а найлепш было б — зусім прасцюткае, але шчырае, жытае і пражытае…

Скажаце, пра самога сябе? Не — пра беларусаў, а спаміж іх, пэўна ж, і пра сябе самога, і пра сяброў, і пра блізкіх, і пра далёкіх. І пра шашаляў-валасацікаў…

Праўду вам, Чытачы, кажучы, дык і з рознымі чужымі, з добрымі і благімі, разумеецца, ды, пэўне ж, з самымі што ні на ёсць чужакамі-чужынцамі — лёгцы не размінуся.

А ўсё гэта кажацца, як пра тое і ўсе беларусы вельмі ж ведаюць, каб жыццё намі ўбачылася ды згінота тымі, што нам яны надта зычылі… Кожны па-свойму: адзін з мёдам, а іншы з чамярыцаю…

## Шашаль-валасацік…

Усе гады аднолькавымі здаюцца, калі зірнеш на іх не падумаўшы. Аднак жа бываюць яны і лепшымі, і горшымі, а спаміж іх ёсць і зусім непрыемныя, і часам надта ж ужо прыкрыя. Гэтакае ж самае льга сказаць і пра месяцы. У мяне, папраўдзе кажучы, дык месяцы пераблыталіся з гадамі. Студзень 1933 году быў вельмі ж непрыемны і найбольш неспакойны з усіх, што перад ім мінуліся. А пачыналася ўсё вось як. Старога, згорбленага вайною пад самаварнаю Тулаю «гнаяскура» Калошу (гэтак празвалі на Менскім заводзе «Бальшавік» гаспадара мае кватэры на пасёлку Камінтэрн, што пад бокам самага Менску) арыштавалі; Хведара, суседа маіх бацькоў, і бацьку сябра Петруся, што жыў аднаго часу ў тым самым доме, выгналі з хаты і завезлі ў шматнацыянальны Котлас; маці ж мая наказала людзьмі, што «забралі з млыну старэйшага Рыгора» і што ён — «як у ваду кануў»; у роднага дзядзькі Якуба адабралі дом у Менску і ніякае за тое пісулькі не далі; пісарчук райваенкамату, у Менску, як самі ведаеце, паведаміў суха, не падымаючы вачэй:

— Подготовительные курсы в военно-инженерную академию заменяются прохождением переменного лагерного сбора…

Пісарчук яшчэ нешта хацеў сказаць, але я так моцна скрывіўся, што ў яго склалася ўражанне, быццам бы я не зразумеў сказанага, і ён паправіўся:

— Понятно?

— Усё да крупялінкі, — адказаў я і моўчкі выйшаў.

І думаеце, што гэта ўжо і ўсё, і ўсе тыя непрыемныя закавулінкі? Ого, калі ж бы яно так дый было! Каля пляцу Волі, напрыклад, сустрэў аднаго знаёмага, а ён мне і кажа:

— Чуў, як пачалі трэсці ў наркамземе? Мой найлепшы сябра, прызнаюся табе, сказаў гэтакае: «Тае начы аж пятнаццаць чалавек вывалаклі з іхных канцылярыяў».

Я ж меў свой уласны клопат і мусіў спяшацца. І запраўды, усё яно так пераблыталася, што не бачыў, дзе яно пачынаецца і дзе яно мусіць скончыцца. А да гэтага ж яшчэ і ўсялякія чуткі, зnative з прыемнасцю і непрыемнасцю. Усякае ж бывае. Нехта, напрыклад, некаму казаў нешта, а гэтае «нешта», падшытае ветрам, а можа і найпраўдзівейшае, ды іншым «нейкім» падліцаванае ці і зусім пераліцаванае, пераказвалася яшчэ некаму, і чуткі, як тая вужака, паўзлі і шырыліся… Адным словам, як аднаго разу падсумаваў быў той, пра якога мова пазней пачнецца, — заўшыца з безгалоўем шлюбавалася…

Усё гэта лезла жывасілам у галаву, чаплялася з думкамі, паралізавала іх, грызла душу, а сам, здавалася часам, уліпаў у нейкае глейкае месіва.

З моцных ашчопцяў згрызоты вылузвацца не так лёгка, і я прыгадваў тады аднавокага дрывасека Селівона і ягонае апавяданне пра маленькага шашаля-валасаціка…

— Кажаце, што дзерава болю не мае? Эгэ ж, мае, ды яшчэ які! Яно, беднае, яшчэ ў сілу не ўвабралася, а валасацік ужо пад каранем у яго ззамаладу сядзіць і пад кару точыцца. Пнецца дзераўца з ценю выбрацца, а валасацік ужо зверху свідруецца — да самага нутра белага. Можа б, я і калодаў тых не калоў, каб не гэтыя шашалі ды іншыя карасды ў сярэдзіне іх сядзелі. Секану гэта аднаго, і сэрцу адразу лягчэй робіцца…

Думаючы пра маладыя дрэўцы ды іхных шашаляў, хацелася сказаць усяму таму «Камінтэрну» — усім чысценька:

— Эх, каб нашым Селівонам волю ды сякеры ў рукі, колькі б шашаляў-душаедаў пасеклі б яны тады!.. І мая ж бо душа, напэўна, грызьмя не грызлася б?

# Украдзены «Маркс»…

У тых днёх меўся было ехаць на нейкі час дадому, пад самую Пціч, разумеецца, каб з маці ды з братамі пабачыцца. Самі разумееце, не ставала нікому паветра тады ў Менску, у нашым — Беларускім Менску. Аднак, кажуць, што ніколі яно не выходзіць так, як бы гэта чалавеку хацелася. Гэтак і зы мною сталася.

Аднаго тады вечару, як толькі адчыніў гэта я дзверы, гаспадыня, жонка арыштаванага «скурагноя» Калошы, зірнула мне ў вочы і, памаўчаўшы (відаць, ёй было вельмі цяжка на сэрцы) паволі сказала:

— Заходзіў ваш знаёмы… каб той пакой, што пустуе, наняць.

— Знаёмы? — папытаўся я, як бы гэта яно і не цікавіла мяне.

— Не ведаю… Рыжы… І вашым пакоем цікавіўся. І кніжку адну ўзяў, сказаўшы, што заўтра пабачыцеся… Каб у хаце, як цяпер, чакалі на яго.

Нічога болей не кажучы, я ўвайшоў у пакой. Петруся яшчэ не было; ён, відаць, забавіўся ў «Савецкай Беларусі». Адведзіны «знаёмага» пачалі непакоіць. Хто б то мог быць? Рагачэўскі? Не. Гайка? Не рыжы. Зрэшты, з ім бачыўся на Камароўцы. Перабраў усе пальцы, а «рыжага» не знайшоў.

— А якая ж гэта кніжка будзе? — папытаўся я ў самога сябе. Доўга прыглядаўся, а да толку не дайшоў — не дадумаўся.

— Вы, часам, не бачылі, якая гэта была кніжка? — звярнуўся я да гаспадыні.

— Вялікаватая… тая, што ляжала на стале ў нейкай газеціне.

Быццам агнём апалілі мяне ейныя словы. Я зачыніў дзверы і кінуўся кулём да стала.

— Маркс… Братаў ліст і… ліст, той самы, ананімны, да гэтых самых забойцаў.

Я выразна чуў, як халадзелі мае скроні і што да болю, з хрустам, сціскаліся кулакі.

Я не ведаў, што гэта быў за чалавек той «Рыжы». Можа ён і не благі, і не шэльма. Можа ён нават і нейкі, якога не прыгадваю, знаёмы, аднак штосьці невыразнае, але моцнае пераконвала мяне, што гэты калматы Маркс («Капітал» з аблупленымі вокладкамі) завядзе Рыжага ў тыя муры, адкуль не вярнуліся ні родныя, ні крэўныя, ні блізкія. … А потым… О, якое страшэннае гэтае «потым»!..

Думкі, быццам тыя набраклыя палавыя хмары з невядзі, насоўваліся, налягалі, сціскалі голаў, а думкі і не было: яна, як і тая пакроеная маланкамі і грымотамі хмара, разрывалася і кудысьці адплывала. Гэта ж быў стан таго раптоўнага псіхалагічнага ламання, калі чалавек думае, а яно ніяк не думаецца, пільна ўглядаецца ды нічога не бачыць; слухае, а нічога не чуе. Кажуць, што пры гэткім стане з чалавекам можна рабіць што хацця, і ён не будзе працівіцца, і страху ніякага не мае...

Вельмі ж непакоіла яшчэ адно: «А дзе ж дзеўся гэты сябра Пятрусь, сын вывезенага ў Котлас суседа Хведара»?

## Класічная падрыхтоўка

Дваццацігадовы сын Калошы прынёс атрыманы толькі што на маё імя ліст і кажа:

— А я гэтага рыжага дядзьку ведаю.

— Якога? Лістаносца, хочаш сказаць? — пацікавіўся я.

— Не, што вашую кніжку панёс. Ён, калі вы ездзілі ў той лес, дзе карпы гадуюцца, да Шчупака прыходзіў. І мама ведае, але не кажа, баіцца надта.

— А дзе ж гэты «Шчупак» плавае, што і начаваць не прыходзіў? — пацікавіўся я, абы нешта сказаць ці зусім не маўчаць.

— Не ведаю...

Меўся яшчэ нешта сказаць, але Калошыха была пагукала. Я выняў ліст і пачаў чытаць:

«Даруй, што я плачу, пішучы гэтыя словы... Бацькі ўжо нямашака, а маці ў такой гарачцы, што гаварыць не гаворыць нічога... У вашую хату прыязджалі з раёну і забралі твае лісты. Забралі і мае...»

Я не помню цяпер, колькі разоў браўся чытаць ліст перапалоханае да смерці дзяўчыны: можа, і дзесяць, а можа, і пятнаццаць... А тры рэчы, пэўна ж, не забудуцца: падкрэсленае тры разы слова «ўцякай», няроўныя ад слёз сінія плямкі на літарах ды тое, абыякавае, цяжкае і саркастычнае: «Куды ж?.. Лезці на яшчэ большы ражон?..» Уцякаць не было куды, аднак некуды спяшаўся. Хаваў забароненае, выстаўляў наперад Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна і нейкія, цяпер не помніцца, палітграматы... Думалася, здаецца, што абароняць. Думаў адно, а сталася зусім іншае.

Як даведаўся пазней, выйшла якраз наадварот: тэарэтыкі і практыкі марксізму-ленінізму валяліся ў кутках, а на самым відовішчы ляжалі ўсе «нацдэмы», розныя ўхілістыя і выкапаная, ліха ведае адкуль, кніжка пра нейкі англійскі шпіянаж... Іншы б сказаў гэтак: «Чалавек класічна падрыхтаваўся да сустрэчы гасцей — трапіў як пальцам у неба...»

Паспрабуй давесці, што ў Бога цялят не краў і што Богу душой не вінен.

## Чорныя скуранкі...

Ноч, як і замянены ёю вечар, была цёплай і, як кажуць, вельмі ж прыгожай. Пасля невялікай адлігі падаў буйны пушысты снег, раўнюткі, без ветру і подыху, сыпаўся ён, быццам тыя цудадзейныя бялюткія пушынкі, што спадаюць на ружовыя далоні казачных анёлкаў, ці тыя зорачкі — залатыя пялёсткі, што ў вокамгненнасць і не больш як адзін-аднюткі раз на вяку, у сне, пры найвялікшай чысціні і супакоі душы, можа ўявіць сабе непазнаная сіла чалавечае ўявы. Гледзячы здалёку на стрэхі будынкаў, на дрэвы і ліхтары, здавалася, што перад вачыма, губляючыся ў далечыні, раскашуюцца ў белым золаце пялёстак неабсяжныя квяцістыя вішнёвыя сады... Зіма нагадвала вясну, а ад тае вясны, што яшчэ трымалася ў памяці, не засталося і следу...

Хацелася ісці, ісці ў глыбіню і экзотыку гэтае лірычна-рамантычнае, ніколі не бачанае і не чутае ў Менску начы. Снег усё буйнеў і гусцеў, і нікога не відно было: усё, бачанае перад гэтым, страціла не толькі формы, але і свой убогі змест... І толькі яно адно, нечаканае ў гэтую дваццаць трэцюю і апошнюю «майскую» ноч у лютым 1933 году, страшэннае «руки вверх!», разбурыла і рамантыку, і экзотыку, і прынесеную сняжынкамі лірыку... «Вось табе і уцёкі...» — падумаў я сам сабе, горка ўсміхнуўшыся. — Дагоняць і пераганяць...»

На кватэры ўбачыў я тры чырвоныя галавы і тры даўгія чорныя скуранкі. Першая галава, таўсцейшая і касаватая, паказваючы рукавом скуранкі ў закутку пакою, сурова запыталася:

— Это называется любовью к вождям и партии?

Я маўчаў, але, прызнацца, глядзеў на павыкіданых правадыроў і напісаны імі ж камуністычны блуд з вялікім здзіўленнем.

Спачатку не сказаў нічога. Маўчаў, чакаў нечага яшчэ страшнейшага. І яно прыйшло. Можа, гэта і не было страшнейшым, можа, яно было і зусім не страшным, але ж мне здавалася, што ўбачыўшы тое, што толькі цяпер пабачыў сам, зваліцца на галовы сяброў...

— А это что? Контрреволюционная национальная гниль? — з прысвістам заўважыла найдаўжэйшая скуранка, стукаючы худымі пальцамі па нейкай бляшанай на стале пушцы і пільна гледзячы мне ў самыя вочы.

«Эт, што міру, тое і бабінаму сыну, — падумаў я, — а бараніцца не пашкодзіць — варта, трэба».

— Гэта вы самі, — кажу, — зрабілі ўсё.

На гэта адказала ўжо першая з другога боку самая бліскучая скуранка з шырокімі, як засланка, грудзьмі:

— Не спеши — времени для рассказа будешь иметь достаточно!..

Каля самых дзвярэй стаяла, перапалоханая да паўсмерці, жонка «гнаяскура» Калошы. Яе не адпушчалі і не дапушчалі — гэта каб яна не выскачыла часам ды чаму-небудзь не пашкодзіла ды каб не зрабіла чаго-небудзь... Белая нерухомая постаць няшчаснай Калошыхі выдалася мне, немаведама чаму, паточаным Селівонавымі шашалямі-валасацікамі маленькім слупком, добра прысыпаным перад гэтым дзівосным мяккім снегам, які так моцна браў мяне ў свае абыймы і вёў з-пад электрычных камінтэрнаўскіх слупоў да ціцеперся ўжо памерлага ў Савецкім Саюзе ратунку чалавечае душы. І мне стала вельмі шкада гэтага жывога, паточанага шашалямі слупка-чалавека... Каб мог, падышоў бы блізенька дый сказаў бы нешта мякуткае, цёплае — такое, як тыя сняжынкі-пушынкі, што засыпалі мае сляды за сценамі «Камінтэрну». Але самым блізкім і дарагім ёй словам было б, напэўна, вось гэтае:

— Пацярпі, ты ж яшчэ не зусім памерла, а ён прыйдзе, вернецца і пабачыцца з табою... І ты скажаш яму і пра сянняшняе зладзейства... Пра выцягнутага з хаты «Маркса» і пра кражу маладое беларускае душы... Не забудзься, раскажы яму ўсё, а ён, твой родны Калоша, сустрэнецца з дрывасекам Селівонам...

Сказалася б і нешта большае і яшчэ шчырэйшае, калі б не гэтыя там тоўстыя скуранкі ды не падрэзаныя крыллі...

# «Чорны воран»

У сярэдзіне «чорнага ворана» нікога не было. Сам — і голыя рукі. Бíся ілбом у сцены, маліся, а хочаш — прасі ратунку, не будзе табе радачкі. Непрыемна і вельмі цяжка, аднак цешыла адно: і там я не буду адзін... У тым страшэнным згубішчы, куды імчаць мяне доўгія чорныя скуранкі, сустрэнуся — і гэта напэўна — з сябрамі, з блізкімі, а магчыма — з роднымі.

Сяння, згадваючы пражытае і перажытае, пачынаючы просты пераказ таго, што калісьці сталася ды што ніколі і нічым не спляміцца, прыгадваю, як, пад'язджаючы да зялезнай брамы катавальні, пачаў моцна смяяцца. Чалавек жа не ад аднаго шчасця смяецца — смяецца і ад вялікага гора.

Няхай сабе яно гэтага вялікага ці, як кажуць людзі, горкага гора і не было яшчэ, але вырваны з гарачых грудзей халодны смех быў вельмі ж горкі, бо гора звычайнае, калі льга гэтак выславіцца, і далёка ад каменных мяшкоў савецкіх катавальняў ціцеперся ўжо ў раскошных санях ёмка сядзела... Як тыя халодныя мармуровыя пліты, спорна слаявалася яно пад сэрцам і грудзі расціскала. І от, калі тое слаяванне завяршылася і падступіла пад самае горла, на канцы двух адцінкаў часу — звычайнага гора няволі на «волі» і «волі», прымкнутае перад пачаткам вялікага гора ў сутарэннях ГПУ, — у чорнай, маўклівай пусціні «чорнага ворана» грудзі не вытрымалі нутранога ціску — паддаліся: з горла выкаціўся смех, закалыхаўся і захлынуўся... Ягоны след, відаць, не адразу споўз з пакрыўленых лёсам вуснаў, бо, вылазячы з «ворана», што стаяў, упёршыся задам у нейкую жоўтую пазуху муру, чырвоная галава чорнае скуранкі, што ўвесь час мясцілася паміж двума дзвярыма, прызналася ўголас:

— Имей в виду, арестованный: мы шутить не умеем!..

Можа б і не адказаў, каб не раптоўны голас другое галавы збоку:

— Посидит — узнает...

— Ведаю... Расказвалі... — меў я неасцярожнасць, казаў той, выказацца.

Найноўшая скуранка (праўдзівей — наймалодшая, бо яна ж была жывой) сказала коратка, упэўнена:

— Видно, видно... Не ошиблись...

Жалезныя дзверы на рагу Савецкай і Урыцкага адчыніліся і зачыніліся... Зачыніліся не абы-як, а з металёвым звонам і грукатам — шчыльна і надоўга...

## Далікатныя ў недалікатным месцы…

У каманданцкай было нешта каля сямі розных і вельмі адменных душаў: зусім маладыя, старэйшыя і стараватыя, ці, як кажуць прасцей, ужо добра прытаптаныя жыццём, абдзёртыя і прыбраныя, не раўнуючы, як тыя кірмашовыя лялькі. Гарадскія…

Вырозніваліся дзве душы ўсяго: прыземістая, у белым кажусе воўнаю наверх, у валёнках і авечай шапцы-вушанцы, нагадвала белага палярнага мядзведзя; танклявая і гонкая, маладзейшая, у янотавым футры, у новых унтах (сібірацкія ласёвыя боты, поўсцю наверх), з капелюшом і пукатымі акулярамі ў тоўстых абадкох з шырокімі завушнікамі і надта ж ужо вымілаванай бародкай, нагадвала ні то нейкага заморскага навукоўца, ні то галоўнага савецкага інспектара нейкага, скажам, «зверпуштрэсту»… Адным словам, ні разу не даводзілася мне сустракацца з гэткімі «арыгіналамі» на менскіх брукаваных вуліцах. Глядзеў і дзівіўся, бо выдаліся мне яны чымсьці незразумелым, загадкавым і, апрача ўсяго, нечым далікатным у недалікатныя сацыялістычныя часы ды яшчэ ў тым надта ж ужо недалікатным месцы… Адразу набеглі на ум і старая Тэкля, жонка запратаранага немаведама дзе Калошы, і стары дрывасек Селівон: гэта ж, бадай што, і ці не ёсць праўдзівыя скурагноі, ці шашалі-валасацікі, што ад таго кораня пад кару точацца або зверху, праз патыліцу, да нутра белага свідруюцца? «Убачымся, калі суджана будзе», — падумаў я, і думкі абарваліся, зніклі… Спалох і моцнае дагэтуль хваляванне таксама мінуліся. Вытварыўся стан крытычнае абыякавасці, і зусім не цікавіла мяне, ці застануся ў кутку каманданцкай, ці далей павязе «чорны воран», ці… Ніводнае і ніякае «ці» не турбавала больш мяне.

Трываў бы гэтакі стан цімала, каб не трагічнае «а-ай, а-ай, а-ай», што покатам кацілася аднекуль і, б'ючыся ў зніттаваныя горам і бядою сцены калідораў, рабілася яшчэ трагічнейшым.

Карчакаваты, чорны і калматы, як сібірскі мядзведзь, вузкавокі камандант, пазіраючы ўпорыста ў масіўныя акуляры душы ў янотавым паліто, закрычаў:

— Убрать контрреволюцию!

На тварах «незразумелых далікатных арыгіналаў» мае вочы не спасцераглі аніякага рэагавання, постраху. Павярнуліся моўчкі шырокімі спінамі да трох вартаўнікоў і схаваліся, напэўна, там, адкуль кацілася тое «а-ай, а-ай…»

Цішыню парушыла блішчастая скуранка, тая, што вартавала мяне:

— Товарищ комендант: арестованный пойман за «Коминтерном»... Изъятое налицо... Протокол обыска подписан на квартире...

«Сібірскі мядзведзь» не сказаў ані слова вартавому. Штосьці пытаўся, штосьці запісваў і, нарэшце, загадаў падпісаць — не адзін раз, тройчы — нейкія паперы... Якія гэта былі паперы, не помню і, відаць, ніколі не прыпомню.

У той момант, калі нейкі маладзюк у вайсковай форме перадаваў вузкавокаму каманданту выцягнутыя з маіх чаравікаў матузкі і зняты з вышыванае каласкамі і васількамі кашулі шырокі слуцкі пояс, прывялі Сяргея Астрэйку і Васіля Гінтаўта.

Сяброў пакінулі, а мяне павялі...

Вадзілі доўга. Ішлі калідорамі, выходзілі ў нейкія закавулкі. Па вузюткай і вельмі ж пакручастай, як той свярдзёлак, жалезнай драбіне лазілі і ўверх і ўніз, і не адзін раз, а некалькі, шмат разоў... Спыняліся ў паўцёмных закутках, адкуль тхло цёплым густым смуродам... Цісналіся спінамі да сцяны, зноў падымаліся ўверх і, помніцца, — не памыляюся — варочаліся назад. Нарэшце ўвайшлі ў вельмі ж цёмны катух, а адтуль паволі, вобмацкам, ішлі наперад... Дзе былі — у будынку ці за будынкам — не ведаю, не відно было, хоць пальцам вока выкалі, але пад нагамі чулася штосьці мяккае: ні то зямля, ні то нейкая мурава. Нечыя моцныя рукі ўхапілі мяне ўпол, паднялі і пусцілі. Рукамі намацаў нешта слізкае, цвёрдае. Да слыху даносілася прыкрае цёпканне нечых ног. Жудасная цішыня скавала, скамяніла цела. Не адчуваў ні рук, ні ног. Чуў адно-аднюткае тое, як шавяліліся мае валасы. Толькі тады, калі ізноў загрукацела жалезная брама і залапатаў матор, дагадаўся, што гэта зноў быў той самы «чорны воран». «Куды ж гэта яны? — вырвалася страхам з халодных грудзей нясведамае пытанне. — Ці не туды, адкуль ніхто і ніколі не варочаецца?»

«Воран» імчаўся нядоўга. Праз некалькі часінаў зноў пранізаў мяне знаёмы грукат брамаў. Зноў зашавяліліся валасы. У сярэдзіне, пад самым сэрцам, штосьці моцна ёкнула і гарачым варам разлілося ў целе.

Перад вачыма, у цьмяным бляску ліхтароў, вырасла вялікая змрочная камяніца — вядомая менская турма...

# Гулівер Бязносы

Дзверы ўпхнулі мяне ў камеру з вялікімі натугамі і шчыльна паставілі перад мокраю касцістаю спіною нейкага высачэзнага арыштанта. Гострыя, з лапцяватымі сінякамі, лапаткі незнаёмага мулялі твар. Салёны, смярдзючы пот зморшчанае патыліцы сцякаў на вочы, на губы, плыў за каўнер. Чалавек не зварачаў ніякай увагі, наадварот, падаўся назад і моцна прыціснуў мяне да нечага вельмі цвёрдага і яшчэ больш смярдзючага. Густая вільготная гарачыня, быццам нейкае ліпкае месіва, усё больш і больш сціскала галаву, налягала на плечы. Адольваючы млосны стан ужо зусім мокрага, вялага цела, я пачаў шавяліцца і ўпірацца кулакамі ў калючыя косці незнаёмага. Косці крута павярнуліся, выхапілі з рук клунак і, недзе яго шпурнуўшы, заскрыпелі:

— Каб лягчэй было… Дахадзякаў паважаць навучыся!

Нада мною вісела жоўтая бязносая галава і, нешта гаворачы, моцна цiснула рукамі на плечукі.

— Вучы, Гулівер Бязносы, новую птушку, — пачуўся аднекуль непрыемны хрыплы голас.

Кінутае жартам, а можа, ліха яго там ведае, і ўсур'ёз сказанае языком гаваркога (у душу ж чалавеку, разумеецца, калі б і хацеў, не ўлезеш) яшчэ больш падстрэнчыла Бязносага ды харобрасці паддало помыслу ягонаму. Асунуўшыся ўніз, ашчаперыў, як той рак пад'едзеную сляўку пры беразе, жылістымі рукамі маю паясніцу, падняў і, прыгінаючы доўгім тулавам доўгавалосага маладзюка, паставіў на гладкае лапікла мураванае падлогі — на самым відавоку арыштанцкай.

«Эксперымент» быў гэтакім нечаканым і спрытным, што не знайшлося часу і падзівіцца яму. Ды, праўду кажучы, раптоўнае перамесціва не было ўжо надта і благім — прыемным нават. Якім быў, такім і застаўся, ні слова, ні паўслова майго не пачулі, што зубы скеліць мсліся. Неацанёная ж розніца вычулася адразу: ні смярдзючага табе пад носам баняка, ні тых мокрых лапатак з лапцяватымі сінякамі, дый самога паветра, няхай сабе і не менш смуродлівага — горка-кіслага, але нейкага радзейшага — болей было Наогул жа, што ўсярэдзіне, то не ззаду: адтуль, каб і паўмесяца стаяў, таўкучыся, дык з людзьмі не запазнаўся б; у сяродку дык і ты, як тая грыўня на далоні, відзён усім, і сам усё чысценька бачыш.

Гулівер Бязносы, аднак, зрабіў гэтую «аперацыю» не дзеля мае выгады (пазней ён і сам прызнаўся, выскаляючыся), а дзеля сябе самога, каб пад тую забаўку і самому высунуцца хоць на тры тулавы наперад. От што найбольш карцела яму.

Я ж, нічога гэтага не разумеючы і думаць не думаючы пра нейкую там благіню ўчыненага — «заўтра разгледжуся», думалася, — зняў паліто і пачаў было масціцца на тым з добрую шапку лапікле, як раптам, быццам із самага дна кадушкі, загугнявілася:

— Чырвонцамі, прынц, месца вашывае купляецца…

Каля мяне стаяў, не раўнуючы, як той дубовы пень, малады жоўтавалосы чалавек. Калі ўбачыў гэта ў ягонай руцэ свой пулярэс, зрабілася вельмі крыўдна, і я не сцярпеў (камень жа і той лопаецца), сказаў, гледзячы ў самыя вочы жоўтавалосаму дубоваму камлю, вельмі смела:

— Гэтага табе мала, зладзюга?

А ён, шэльма, і вокам не міргнуў, выставіў руку і кажа:

— А ну, паўсоценкі на буру з носа, прынц!

— І за наваселле пяцёрку, — захрыпеў Гулівер Бязносы.

Успомніўшы, што ўсе грошы выграб з пулярэсу вузкавокі камандант і, унікаючы большых прыкрасцяў, давялося ісці на хітрыкі:

— Мне паўсотню, а твая рэшта, жаўцюга. Згода? І гэтаму разумніку не пашкадуй чырвонца. За гэтае ж «тваё» вашапруднае месца заплацім, спадзяюся, разам: і я, і ты. Твой Гулівер, зірні на яго, заплаціў носам, і калі будзе такім разумнікам, заплаціць яшчэ чым-небудзь…

— Талкова, прынц, — выціснуў жоўтавалосы і паказаў Гуліверу пальцам на пагор, туды, адкуль ён выпхнуўся.

Чым бы яно скончылася гэтае «хрышчэнне», не ведаю. Першая сустрэча з «гаспадарамі» мокрага каменнага мяшка нумар тры абарвалася звонам ключоў і «с вещами»…

Пайшоў і Гулівер, і жоўтавалосы дубовы камель, а з імі — украдзены з кішэні пулярэс — без грошай.

## І росы, і лотаць…

Сон згінаў галаву. Ногі не трымалі цела. Нічога і нікога не бачачы, падуладны сіле ўласнае вагі, пасунуўся наніз, каб сесці на скамечанае пад нагамі паліто. Цела не ўтрымала раўнавагі —

паслізнуўся, апёрся рукамі на халодную цэментавую падлогу і лёг на маленькім някупленым кавалачку турэмнае плошчы нумар тры...

Праз няшчыльна прыплюшчаныя павекі вачэй сачылася электрычнае святло; яно цямнела, шарэла, потым рабілася зырчэйшым, рассыпалася жывым срэбрам, варушылася, як жывое, а пазней пачало ператварацца ў сіне-жоўтыя кругі; яны шырыліся, прыліпалі да твару і рабіліся мяккімі і цяплюткімі...

...Якая цудоўная раніца каля Пцічы! Сонца яшчэ няма, але вялізарнае светла-ружовае паўкола падымаецца ўсё вышэй і вышэй. Вось першыя праменьчыкі прыпалі да дробных, танюткіх карункаў вельмі сінюткіх хмурынак і доўга-доўга цалуюцца з імі. На густым берагу аселіцы загарэліся росы...

І цудоўныя сінюткія матылькі...

Росы буйнеюць, буйнеюць, набліжаюцца да матылькоў, і ўсе разам коцяцца сустракаць сонца...

Я шпурляю шапку на рачны пясок, расшпіляю кашулю ды імчуся, развёўшы рукі, за росамі і матылькамі. Я лаўлю іх, я бяру іх рукамі, каб напіцца, каб умыцца. Росы робяцца драбнюткімі, рассыпаюцца і знікаюць. Замест сінюткіх матылькоў разгарнулася густая купчастая лотаць...

Вось і маці... Сцелючы палотны, пытаецца:

— А чаго ж ты так рана выйшаў, сынку?

Бягу да рэчкі. Паплаўка шукаю — не відно. Цягну, а рыбіна хвастом за ваду чапляецца. От ужо і над вадою паўтулава шчупаковага выгнулася, а хвост сіняваты яшчэ болей выгнуўся, і рыбінашчупак пад бераг круты, падрэзаўшыся, сіганула.

Стаю і росаў вачыма шукаю, а маці, несучы палотны мачыць, кажа:

— Позна, сынку, за хвост рыбка не ловіцца...

Топяцца ногі ў пяску рачным, а я шапкі шукаю. Маці палошча палотны ў Пцічы ды кажа мне, упікаючы:

— За дурной галавой, сынку, і нагам небалазе...

Сорамна мне, і лотаць тую таптаць пачынаю. А маці, выбіваючы пранікам палотны, вачэй не зводзіць і кажа, галавой ківаючы:

— Не шукай бяды, сыне, сама бяда знойдзе цябе. Бачыш, як Пціч наша пасінела?

А нехта ўголас мяне гукае...

Шмат людзей, і ўсе да лотаці бегчы хочуць...

— Нідзе не стае чалавеку месца таго: ні там, ні тут. Гіне чалавек ні за нюх табакі, а за пядзю каменную грызціся будзе, а калі ўжо дзве пядзі выгрызе, дык ужо і рыштант на галаву рыштанту садзіцца. І грызуцца людзі…

Сэнсу гэтае гутаркі не зразумеў адразу: таго, што гаварыў, не відно было. Электрычнага святла ўжо не было. Праз замерзлыя краты акенцаў урывалася свежае марознае паветра. Ападаючы наніз, яно падымала кіслю каменнага мяшка і засланяла, быццам густым туманам, ягоных асельнікаў. Да мяне наблізіўся крываногі старэнькі і ціхутка-ціхутка прамовіў:

— Надта ж цяжка пакутавалі вы на гэтай вашывай лысіне…

## Мікіта Бурболік

Якая вялікая няпраўда жыве на свеце! Няпраўда і ў маленькім, і ў вялікім. І самі праз сябе людзі без дай прычыны гінуць, і людзі праз людзей нізавошта гінуць. І наўчыцца язык за зубамі трымаць варта было б, і маўчаць нялёгка…

Шмат нядобрага і няпраўдзівага. От, кажуць, «жывучы, як кот», «глухі, як пень», «цвярды, як камень» ды шмат, шмат іншага. Адкуль гэта пайшло — немаведама. Тыя, што ўпоўніцу гора мелі ды корабамі яго мералі, сказалі б самаму лядашчаму, валачашчаму кату, найгнілейшаму трухляваму пню, найцвярдзейшаму аброслаламу мохам каменю — усім разам і ўзапар: «Жывучы, як чалавек!», «Глухі, як чалавек!», «Цвярды і нячулы, як чалавек!», «Глумлівы і здзеклівы, як чалавек!»

Мікіта Бурболік, стары ганчар з-пад Таўкачэвіч, той самы, што гаварыў пра мае пакуты ў сне, зубамі б лапікла тае вашабойні ў каменным мяшку выгрыз бы, адваротнае пачуўшы, і не змоўчаў бы. Гэтак і было, прыгадваецца. Аднаго вечару, калі каўнер ягонае кашулі пачырванеў, як той бурак, пад ягонымі ногцямі, нейкі маладзюк-кішэннік пакпіць адважыўся:

— Мікіта, як той кот жывучы, плюшчыць і плюшчыць жывёліну і жалю не мае.

— А коце, пацук галабокі, вашапруд карэлы! — усхапіўся стары Бурболік. — Усейныя б каты ашалелымі валяліся, каб выспыталі, чаго мы нахлябаліся. Стойма стаяць рыштанты-вашапруды, а ты — бок і не бачыш? Ці ж то людзі мы ў гэтым мяшку? То ж куль жывы, перавяслам каменным сціснуты да вантробаў самых.

Во які цярпючы ты, брыдота. А ты мне: «Мікіта, як той кот жывучы...»

Кішэнніка падтрымалі збоку, і ён не баяўся старога, аднак, відаць, не хацелася блазнюку даймаць чалавека — схаваўся і не пікнуў болей.

Апошняе гаварылася нелюбя, ціха і павольна, але вымаўлялася з асаблівым прыціскам; відаць было, што чалавек меў немалую крыўду, нейкі закалец на некага. І от, калі гэты закалец падкалоўся няспрытна маладзюковаю спіцаю і забалеў, чалавек не сцярпеў, мусіў выгаварыцца, каб адлягло, каб на душы палягчэла. Адным словам, серабранскі разнік, здаецца, найлепш ацанаваў Мікітава мастацтва: «Бурболік не гаворыць, а неяк выцягвае таго ката ды цях яму па карку — цях, цях!» І калі б не тое «мастацтва», дык Бурболікава дыскусія, напэўна, не ўзялася б і на ўвагу людзьмі — турэмшчыкамі, і сам Кішэннік, што сляпіцаю кожнаму ў вочы лез, не пакваліўся б на большае. А тут гэтае разніковае «цях!», як і тое падбухторванне збоку, гэта значыцца, іншымі кішэннікамі, тузанула зноў маладзюка за даўгі язык, а Бурболік не вытрымаў, і пайшла страляніна...

— Крывалапікі!.. Агра няшчасная!.. — зазвінеў Кішэннік.

— Галота жаўтабрухая!.. — крыкнуў Мікіта і роўнай нагою затупаў.

— Пухляціна!.. Дахадзяка!.. — кіпеў Кішэннік.

— Жабурынне жабяе... Курашчуп смярдзючы, — наступаў Бурболік.

— Жарабятнік!.. Храпа булённая... — круціў клеймаванымі рукамі сіні Кішэннік з-пад Ржэўску.

Лопнула, здалося, каменнае перавясла, і Бурболікаў «куль жывы» зашавяліўся, зашумеў і пачаў раскідацца.

— Націскай, пралетарыят!.. — падтыкалі кішэннікі маладзюка з-пад Ржэўску.

— Цісні галадранца, Мікіта, — намаўлялі старэйшыя Бурболіка.

— Кулацкая правакацыя! — выціснуў злосна найвышэйшы кішэннік, памагаты Гулівера Бязносага.

— У лысіну сацыялізму, Бурболік!..

«Жывы куль» зарагатаў, загуў, затупаў нагамі, потым упхнуў у сярэдзіну «правакатараў» класавага бунту, і каменнае перавясла зноў сціснулася.

У турме, не раўнуючы, як у тых хмарках: і маланка, і гром, і сонца. Сталага нічога нямашака, усё неспадзяванае: неспадзявана прыходзіць і неспадзявана ўціхамірваецца. Часам пакрыўдзіць каго-небудзь, а іншага пацешыць, а бывае — і зусім наадварот: прыцісне і расплюшчыць…

Добры быў чалавек Мікіта Бурболік — чалавек трыццатых гадоў… Тхло ад яго смуродам арыштанцкіх, і пахла беларускай зямлёй. Апошняе было гэтакім моцным, што часам думалася: вось ён, гэты запраўдны беларус. Першае, што ішло ад арыштанцкіх, — набытае ў няшчасці, укліненае чужою сілаю; другое ж, што ішло ад зямлі, — ураджонае, высмактанае з матчыным малаком і добра ўкаранелае.

Гадамі «вялікага пералому» расхістаўся Бурболікаў грунт, надламаліся ягоныя карані, а крыклівы, неданошаны чырвоны плод сацыялізму вырваў гэтыя карані, паадсякаў іх, атрос зямлю і шпурнуў таўкачэвіцкага селяніна-ганчара ў брудныя смярдзючыя гарадскія клапоўні, так, як сам Бурболік шпурляў, бывала, чарап'ё нядобра выкручанага гарлача.

От і перакідаюць яго з месца на месца — з клапоўні ў клапоўню, перакачваюць з боку на бок, сушаць ягонае гаспадарскае сэрца. Пашчапалася суцэльнасць, а чарап'ё бразгаціць і не клеіцца. І дзеці галадаюць, плачуць, і жонка пакутуе пад старым зрубам, чакае. Чатыры гады чакаюць галодныя раты кармільца.

І цяпер стаіць гэты шчуплы, крывенькі Мікіта перад маімі вачыма. Стаіць і жмурыцца. Пазірае з-за кутка на белыя ад марозу краты каменнага мяшка нумар тры, на парэзаныя кратамі маленькія сіненькія кавалачкі неба, чухаецца і расказвае хвораму Бараўцу чыстую праўду:

— Пад Варонежам выцяла мяне жалязякаю. І поўзаць не поўзаў, здаровеняк, каб ты ведаў, качаўся і енчыў гэтак. І гаіць не гаілі ран. А чмыр нейкі прыйшоў дый кажа: «На хронце абы рукі і вочы меў, а па назе клопат´невялікі, абыдзешся…» І пагналі гэтак, каб ты ведаў, здаровеняк. Бачыш, і нашу крывулю — не ломіцца, а скрыпіць, трасца ёй у бок, трудзіць качарэжка…

Бурболік выцірае кулаком слёзы, каб Баравец не ўбачыў іх, і далей суча вузлаватую нітку ўспамінаў:

— Цяжка крывому на свеце жыць. Прузына і Лявонка паўвалоку ўрабляць памагалі. І хлеба і да хлеба мелі, і гарлачы мае на глум не ішлі, капейку да капейкі латалі… Ды, каб ты ведаў, здаровеняк, лопнула ўсё-ўсенькае…

Зноў выцер слёзы Мікіта Бурболік, пачухаў патыліцу, што свербам свярбела, зірнуў на сінія кавалачкі неба дый зноў за нітку ўспамінаў узяўся:

— І жарабок капытамі накрыўся. Праз яго, кажу табе, здаровеняк, і мучуся ось тут. Галота марою прычапілася. Жарабка, кажу ім, галоце, значыцца, вамі клеймаванага, калі кляймо тое зашарсцела, цыгану прадаў за ніц. А зякраты гапавушнік (гэта ў нашым раёне было яшчэ), каб ты ведаў, і вылупіўся: «Ты, — кажа ён, — варашылаўскага заводу коней шпіёнам сплаўляеш. Цыгана таго, крывуля, і на свеце не было».

— Ён, — кажу я зякратаму, — пад Баранавічамі пазнаў мяне, калі я паноў абозам вазіў, уцёкшы з-пад Жытоміру. Можа і жарабок той рэмжа па мне, і цыган той хаваецца пад Баранавічамі?.. Дык ён мяне, здаровеняк, каб ты ведаў, кулакамі ў жывот ды па сцяне ціснуць пачаў, кажучы: «Кляймо наша нідзе не злезе, знойдзем варашылаўца, а табе, кулацкая бурболіна, век з дзецьмі не бачыцца…» От як, каб ведаў, жыццё нашае ідзецца…

— Нялюдскі і глухі, як чалавек, гапавушнік зякраты, каб яму калом зямля! — уздыхаў няшчасны Мікіта.

Доўга яшчэ гаварыў з Бараўцом Мікіта Бурболік, і ягонае апавяданне-ўспамін, як тая зрэбная нітка за вухам, усё глыбей і глыбей уядалася ў хворае сэрца маладога настаўніка Бараўца.

- - -

Вельмі ўжо вялікая няпраўда жыве на свеце — і ў самым маленькім, і ў самым вялікім.

І вазамі гора таго не вывезеш. А можа і вывезецца калі-небудзь?

О, каб заварушыўся пыл збуцвянелых касцей, каб падняліся паточаныя касцяедамі галовы-чарапы, каб падняліся ды сталі тварам да сонца жывасілам закапаныя душаедамі беларускія душы! І каб усе яны, падымаючы вялізарнае гора, сказалі магільным голасам:

— Вось яна, вялізарная беларуская праўда! Бярэце яе, браты, і свету паказвайце!

— Глядзеце на яе, душагубы, і падайце пласьмя на сплямленую вамі зямлю!..

# Сон Знябыціча

У кутку, на скарэлым ад крыві гнілым памосце камеры нумар тры, паміраў, прыкрыты лахманамі, чалавек — малады аграном. Трымаючы руку над ягоным сэрцам, настаўнік Цімох Баравец плакаў і прыгаварваў:

— Спі, дарагі Знябыціч… Спі, пухам табе будзе наша зямелька…

Калі ж чалавек сканаў, усе перахрысціліся.

Баравец, нічога не гаворачы, выняў з кішэні некалькі шматкоў зашмульцанай паперы і сказаў:

— Няхай будзе помнікам яму запісанае з ягоных вуснаў:

«Чалавек пакінуў усё. Узяў толькі, як гаварылі суседзі, невялікі акраец хлеба, слоік мёду ад пчолаў свае гадоўлі і пляшку бярозавага соку, каб смагу было чым прагнаць у дарозе. Узяў і пайшоў…

Чужыя людзі, грабучы дабро хаты, знайшлі ў скрутку бяросты спісаны аркуш паперы. Пісьмо было чыстым, ураўнаважаным, літары — буйныя, выразныя. Глядзіш і думаеш: пісаў чалавек стараючыся, нібы вякам пакідаючы словы свае душы. І палажыў жа не абы-дзе, а за абразамі працы славутых мастакоў Бацькаўшчыны: за абразом суцэльнае фігуры Хрыста з паднятай для бласлаўлення правай рукой і круглай зеленавата-блакітнай дзяржавай (зямной куляй) у левай і за абразом кампазіцыі на тэму змагання архімандрыта Міхала з д'яблам…

Наверсе на тым аркушы было напісана: «Сон Знябыціча».

Баравец уздыхнуў, яшчэ раз перахрысціўся, падняў над галавою шматок паперы і, паказваючы пальцам, сказаў: «Бачыце, гэта напісана самім Знябыцічам, запісана ўсё тое, што ён бачыў у сне ды што запісаў на загад свайго прадзеда, які ў сне прысніўся».

## 1

…Прадзед Лукаш узяў мяне за руку і падвёў да акна:

— Бойся Бога, праўнук, і не гняві мае крыві, — глуха сказаў ён, паказваючы на вялікі квяцісты сад. — Хто дазволіў гэтым людзям глуміцца над святымі дарамі? Хіба ж не абліваецца крывёю сэрца тваё, гледзячы, як валяцца пад сякераю на грэшную зямлю поўныя жыцця і соку моцныя, маладыя дрэвы? Кайся, мой праўнук!

Прадзед перадаў у мае рукі невялікі абраз Хрыста і загадаў перад ім укленчыць.

— Маліся! Душа твая знойдзе мяне ў пушчы, калі цела будзе вартым літасці, — сказаў і знік.

Малітва запоўніла і апанавала ўсю маю істоту. Я не бачыў і не адчуваў нават свайго глыбокага дыхання. Не істота, а душа, здавалася, ахінала маю істоту — гэтакая незямная чулася лёгкасць. От-от узмахне нябачнымі крыламі цела, страціўшы звыклую вагу, і панясе душу ў празрысты блакіт, туды, дзе ў векавечнай згодзе і паслухмянасці, аддаўшы сябе няўяўнай сіле свету, нячутна і таямніча абходзяць свае арбіты мільярды велічэзных, пазнаных і не пазнаных яшчэ розумам чалавека нябесных целаў.

Яшчэ адна малітва, яшчэ... І душа мая ў густой вільготнасці воблакаў. Іхныя драбнюткія кроплі абдалі мяне халоднай пякучасцю, цела ўтраціла раўнавагу, і, з шумам праразаючы паветра, лячу, здалося, у нейкую прорву. Перад вачыма загойдаліся ружовыя пухіры і зніклі. Прастору запоўніла цьмяна-шэрая смуга балот, потым глуха зашумела пушча. Адчынілася нейкае дзівоснае царства... Пачалі выступаць нячутыя і нябачаныя дагэтуль веліканы-дрэвы, нейкія безгаловыя галабокія людзі, даўгахвостыя чырванакрылыя дзюбастыя птушкі і чорныя смяротныя дзіды. Раптоўна ўсё гэта зблізілася і страціла свае першапачатковыя формы.

Ізноў цемра і пусціня.

Іду ў невядомым кірунку. Іду вобмацкам. Цела адчула пякельную гарачыню: з зямлі выраслі напаленыя дачырвана жалезныя слупы, а вакол слупоў — залатая сцежка-апаяска...

## 2

Іду апранутым у мантыю славы. Іду не адзін: павольнай свяшчэннай хадою вядуць мяне па залатой апаясцы сівабародыя, удумлівыя апосталы. Апаяска падымаецца ўгору і ператвараецца ў залаты абруч на высокай і стромай гары. Па-над гарою, як рукою падаць, — агністае сонца. Вось яно з лёгкасцю пушынкі спадае проста на мае далоні, і я прачытаў на срэбнай ліштве выбіты чорнымі літарамі такі надпіс:

*Хто з паўсотні разоў абнясе мяне, ідучы краем залатога абруча, навокал гары, пераадолее равучыя падуны скалістых лёхаў і не ўпадзе ў зманлівы вір бяздоннага мора ў нізе гары, той здабудзе вечную славу, і нікелі не зазнаюць гора і няшчасця ягоныя*

*нашчадкі. А хто сацьмее ад нуды і страху, не выканаўшы ўмовы, упадзе ў страшэнную няласку, і ягоныя нашчадкі ніколі не пабачаць сонца...*

Апошніх слоў прачытаць я не мог, бо сонца моцна асляпіла вочы. Павярнуў убок галаву, і вочы міжвольна зірнулі на пеністыя хвалі віру, а вушы пачулі такое: *«Смерцю жыцця не папravіш, а смерці не мінеш».*

Апосталаў ужо не было. Адольваючы падуны, сам набліжаўся да апошняга круга. Густыя хвалі ветру пачалі згінаць галаву. Моцна захістаўся залаты абруч. Шукаючы ратунку, рукі хапаліся за гострыя выступы скалаў. Задрыжэлі сціснутыя жахам грудзі. З вачэй выкаціліся буйныя гарачыя слёзы. Замест сонца на далоні левае рукі забілася нечае акрываўленае сэрца і пасля трох моцных удараў пульсу прамовіла:

— Не губі мяне, Знябыціч! Я вырвана з тваіх грудзей... Бачыш родную кроў? Я ж так хочу жыць... Не давайся ў рукі смерці!

Перамагаючы сілу густога ветру і змярцвелы стан цела, узняў я галаву да блакітнага неба і моцна-моцна, ад жаху, крыкнуў:

— Ратуй, Божа, душу грэшнага Знябыціча!

### 3

У глыбіні старадаўняй пушчы, каля вывернутага навальніцай магутнага дуба, пластам ляжаў чалавек. Ягоную галаву ахінала махрастае карэнне скалечанага дрэва. З вялікага насыпу тырчэў глыбока ўбіты асінавы кол, густа акручаны іржавым калючым дротам. На зямлі, каля самага кала, ляжала ўмітуські трынаццаць вехцяў чартапалоху...

Прачнуўшыся ў цяжкіх перадсмяротных сударгах, чалавек ледзьледзь выказаў апошнія думкі:

— Гэта ж... помнік злой сіле... нячыстаму духу... Бачыш... якія моцныя карані... не выратавалі магутнага дрэва... А можа і я не памру, чалавеча?.. Праўда?..

— Не, не памрэш... — сказаў я не падумаўшы... І моцна сціснуліся кулакі. А хіба смерцю жыцця не паправіш, калі смерці не мінеш?..

Я ўкленчыў перад целам нябожчыка.

Перада мною ізноў з'явіўся вобраз Хрыста і моцная постаць прадзеда Лукаша.

— Бачу, праўнук, што сэрца тваё не апаганенае і душа не прадаецца д'яблу. Сад загоіць раны і зацвіце яшчэ! Зацвіце! Жыві, але помні святыя словы і перадай братом: *«Жыццё папраўляюць смерцю»*.

Сказаў і знік. Я пачуў магутныя грымоты і ўбачыў чырвоныя языкі маланкі. Гэта пачыналася грозная навальніца Але не яна прабудзіла мяне: я сам прачнуўся. Прачнуўся і пайшоў. І не адзін пайшоў — з братамі і сцежкамі братоў...

- - -

Цімох Баравец падняў апошні шматок паперы і сказаў:

— Бачыце, тут ёсцека гэтакая дапіска: *«Запісаў пакуты свае душы па наказе прадзеда Лукаша на памяць людзям беларус Віталі Знябыціч з-пад Пцічы»*.

— Прашу перахрысціцца, — сказаў Баравец і сеў каля цёплага цела нябожчыка.

## Кпіны Цыбатага Валанцая

З маленства меў я немаведама адкуль, як і калі прышлы і вычувальна ўрослы страх да нябожчыкаў. І жаль у сэрцы не тоўпіўся ніколі. Быццам тая смаляная доўбня (няхай яно сабе катораму лёгкаму смеюну і смешна ад таго робіцца, а мяне самога і цяпер вусціш праймае ад тамтаголешняга вычування) стукнула ў маю патыліцу гаворка аб чалавеку, Богу душу аддаўшаму. Не бяруся і не скажу, што гэта не ідзецца ад людзьмі казанага ці на свае вочы калі-небудзь бачанага... Гэтым разам, аднак, страху не меў ніякага: не тое што на яго забыўся і ўжо не баяўся яго, не, не меў і (думаецца гэтак цяперака) толькі праз тое, што ён не з якога там водшыбу падпаўзаў і па чарзе ў сэрца цаляваўся, а ў заплечы мясціўся ды з усімі, сціснутымі каменным перавяслам, раўнёю надта братаўся...

Стаяў і пазіраў я на незаплюшчанае левае вока, цьмяна-сіняе і вільготнае, не раўнуючы як той кавалачак неба, што прабіваўся спадыспаду даўгіх цырубалак ды, разразаючыся замураванымі марозам кратамі, застываў і губляўся ў павольных сколыхах ліпкае пары, што выплывала яму насустрач, — з сярэдзіны навонкі камяніцы. А вока нежывога Церабельца пазірала на мяне, на іншых і ўсё больш і больш журылася ды жмурылася памаленьку: на жывых наракала... і з жывымі развітвалася...

Няхай сабе і не дадуць веры, а я ж праўду найпраўдзівейшую скажу: я выразна чуў мацерыну гамонку з суседкаю Цыцыляю Крэзіхай (яшчэ раз скажу, што толькі той не дасць веры, хто ніколі не бачыў на вочы вачэй страхотнае жывое смерці за вачыма родных і блізкіх):

— Памрэм, Зенячка, і почату па сабе не пакінем, — уздыхала Крэзіха.

— Два ж вякі, Цыцылечка, каб і жыў, дык не выжывеш… Малі Бога, каб сваёй гэта смерцю памерці. Ось што, любенькая, — разважала маці суседку, — каб жа яно ды ведана…

— Як тыя дубкі былі, не дасі зманіць, Зенячка, а сухоты салдацкія бедненькім вочы на свет зачынілі, — плакала шчупленькая Крэзіха, нідзе не забываючыся пра сыноў-дубкоў.

— То ж бы яно то, любенькая… Якога наслання нямашака толькі на таго чалавека, — яшчэ больш разважала Цыцылю маці.

— Чапі яго, дык яно табе і пачне ўчашчаць. Не адкараскаешся, ні асінаю не заломіш. Ззамаладу ссівелі, а дзецям, не сваціўшы, свет зачыняецца. Цяжанька маладому з жыццём без пары развітвацца. Гэтакая цішыня была ўладавалася, што калі б і муха праляцела, дык шумам послух натрудзіла б…

Адзін-аднюсенькі цыбаты рыштант, той, які трымаўся так, як бы яно там нічога ніякага і не сталася, ды ўвесь час лавіў шырокімі далонямі бурбалкі, што адрываліся ад мокрае столі, лежачы на купленым за дзве пайкі-гарбушкі і адзін «беламорканал» месцы каля саменькага акна, не вытрымаў цішыні і неспадзеўкі, не паварочваючы квадратовае, нядаўна якімсьці цудам паголенае галавы, вымуляў сухім цагельным голасам:

— В церковь тюрьму превращать собираетесь, сердцебольные? В колокола звонить изволите, младенцы невинные?

З кутка, адтуль, дзе ляжала яшчэ цёплае цела нябожчыка Якуба Церабельца, выціснуўся доўгабароды прыземісты сухатвары селянін, чыімі нагамі, відаць, ці не найболей тапталася дно не аднае, а шмат якіх — і вунь колькіх — каменных дамавінаў у турмах савецкіх. На глыбока ўпалых яго вачох блішчэлі слёзы. Усе пазналі адразочку, што чалавек меўся нешта сказаць, от як бы гэта, здаецца, і было напісанае на ўсім чалавечым твары, палушчаным не сіверам сакавіковае беларускае раніцы, а моцна прыпалымі да скуры грызкімі, пякучымі сібірскімі вятрамі, што ўядаюцца ў жывое, сушаць яго і пасыпаюць перхаціннем

крамянас, колеру яблынавага цвету, перад гэтым моцна надухмяненае пахам зёлак, чысцюткае цела чалавека, народжанага і выраслага няйначай як на беразе волялюбнага, плыннацечнага нашага Нёману... Добра відно было, што чалавек вельмі ж сіліўся ўтаіць нутраную ўзварушанасць, і нельга было сказаць, што гэта яму не ўдавалася, — удавалася-такі, і барзджэй не ад недасілу, а якраз — гэта як піць даць — ад натужлівага перасілу на заціснутых да сіні тонкіх губах выступіла ў міг вока нейкая жаўцізна. Раптоўным узнёсам левага рукава шарачковае саматканкі-кашулі (ды ім самім палатанае) змахнуў слязінкі ды гэтак моцна, з глухім шумам, выштурхнуў паветра і вышэйшым на вачох зрабіўся.

Мікіта Бурболік (гэты не дасць маху, каб і не хацелася яму, а спасцерагчы спасцеражэ: вока ганчарова не зблышыць і ведае, да чаго яно ўсё ідзецца) аж вухнуў і лупянуў, як у той сук хваёвы, свае моцныя словы, скіраваныя да таго сэрцацверда турэмнага, што з загубленага маладога жыцця ды з царквы Божай кпіць адважыўся:

— Па нюхмарцы Цыбатага Валанцая, Зялёнка! Плюшчы...

Цыбаты Валанцай усхапіўся, выпрастаўся і затросся, відаць, вельмі баяўся. А доўгабароды Зялёнка прыжмурыў вочы ды і папытаўся, але так, як бы гэта перад ім стаяў не нейкі там рыштант-даўгуль, а нейкая гідкая звадыяшка-вядзьмарка:

— А ты, нелюдзь, жыць яшчэ хочаш?

Ні лагоднага, ні благога не сказаў Валанцай на тое. Лагоднае выдала б не тое што нейкую там падатлівасць, але больш невыгоднае — баязлівасць, і тады б ужо квадратовая голеная даўгулёва галава, што мулялася на тры кархі над галавою Мар'яна Зялёнкі, мусіла б уважыць на ўсё і перапрасіцца — прызнацца ў непашаноўлі, а сказанае назадзёр распаліла б яшчэ больш гарачку і не аднаго Зялёнкі, але і тых іншых, што зацяліся і прыглядаліся да ўсяго, што пачынала дзеяцца.

Гэтакае, мусіць, думалася Валанцаю, і праз яго даўгое тонкае тулава паволі пачало паварачацца да акна, далей адступацца. Мар'яну не цярпелася: адштурхнуў нейкага маладзюка, уціснуўся ў сярэдзіну і апярэдзіў даўгуля, сказаўшы гэтакае:

— Дык, значыцца, жыць не хочаш?

— Не, — сказаў даўгуль для адчэпнага па-нашаму, па-беларуску.

— Якое ж гэта «не»? — сціскаючы сківіцы, перапытваўся Мар'ян, крывячы даўгуля.

— Не хачу… — як уколаны, крыкнуў неспадзявана Валанцай і яшчэ з большай нецярплівасцю і моцнівам папытаўся, выцягваючы ўшчэмленыя плячыма рыштантаў рукі:

— А табе хочацца?.. Хочацца — пытаюся?

Зялёнка не спужаўся, але Валанцаеў крык зверху, над галавою, здаўся ў разварушанай шумам цішыні крыклівым плачам мізэрніка, і злосць адлягла ад сэрца:

— Не хочаш?.. Ты ж і не жывеш, шашаль паскудны, а з нябожчыка і царквы Божае кпіць адважыўся. То ж чалавекам вунь які быў Якуб Церабелец, а ты — мярцвяк смярдзючы. От што скажу табе я…

Шчырыя ўпікі старога Мар'яна Зялёнкі разжалілі, здаецца, Цыбатага Валанцая. Ён усчаў гаворку. Можа, яно сказанае ім і праўдай вялікаю было? Хто яго ведае. Самі, чытачы, судзеце, вось яно:

— Не дакарай, Зялёнка. Не мярцвяк я, а жывы мярцвяк, гэта і мацней, і праўдзівей… Разумееш, Зялёнка? І я, і ты, і ўсе мы — жывыя мерцвякі і нічога большага і лепшага. Не смешна і не сорамна, а балюча і прыкра… Надта прыкра робіцца нам ад гэтага. Разумееш, пытаюся, Зялёнка?

Мар'ян Зялёнка маўчаў, прыслухоўваўся і думаў, адкуль усё гэта гаворанае бярэцца. Расчулены Валанцай прадаўжаў гаворку:

— А тыя (ведаеш, каго маю на ўвазе), штоператварылі нас у жывых мерцвякоў, дахадзякаў турэмных, як на слізоту, з агідаю на ўсіх нас пазіраюць…

Мар'яну ад гэтага рабілася лягчэй: ён лагаднеў, мякчэў, а на ягоных старых вачох навіваліся слёзы. Яны наліваліся, буйнелі, цяжэлі і ў адну вялікую на сваім веку зліваліся. І Мар'ян ужо глядзеў не вачыма, а круглымі сіняватымі плямкамі. Глядзеў і нічога не бачыў. І от, калі гэтыя плямкі выпукліліся ў павеках (плямкі цяпер нагадвалі дзве бліскучыя бурбалачкі), разліліся і слязьмі пакаціліся па сівой барадзе Мар'янавай, Зялёнка ўбачыў, што Валанцая перад ім ужо не было: той сядзеў на гнілым памосце і пачатае перад гэтым гаварыў далей Цімоху Бараўцу, Мікіту Бурболіку — усім, што яго абступалі.

— І дагэтуль, дома, жывымі мерцвякамі былі мы і прызнавацца самім сабе баяліся, ад людзей і саміх сябе хаваліся і ўцякалі. Смерці чакалі, разумееце? Не горшых, а лепшых гэтая смерць

вырывала. Ось і тут тое самае: і хаваемся, і ўцякаем, самі сябе баімося. Адзін на аднаго наракаем, усё нечага шукаем, не верым нікому… Не з царквы Божае і не з нябожчыка Якуба Церабельца, святой памяці, кплю я, а з самога сябе, разумееце. Завідую памерламу. Яму — адно, Божае, а мне і ўсім нам, усім чысценька — д'ябальскае: з турмы ды ў турму. З Бутырак на бацькаўшчыну, называецца, прывезлі мяне. Радуйся, чалавек… Дома сядзіш, значыцца… Шчаслівы чалавек Церабелец…

Зялёнка выцер рукавом слёзы, абцёр бараду і проста, як бацька да сына, звярнуўся да выгаваранага Валанцая:

— Думаў, што благі, што цуруеш нешта. Не гневайся, праўда твая, чалавеча: не праўдзівыя, а жывыя мерцвякі мы… А жыць, ведаеш, нецъ як хочацца! А ну ж? Як ты яно думаеш? — крануў рукою Мікіту Бурболіка і ўжо сваімі чыстымі вачыма зірнуў на Цімоха Бараўца.

— Я табе, каб ты ведаў, здаровеняк, ось што скажу: гарлач патрэсканы — жыццё нашае… Клей не клей, а яно, здаровеняк, усё болей лопаецца…

Бурболік, відаць, і яшчэ нешта здумаў, вельмі ж ужо гаваркім быў чалавекам, але ў гэты момант забразгалі ключы, адчыніліся дзверы, і ў камеру нумар тры ўвайшлі тры чырвонагаловыя чорныя скуранкі. Былі яны вельмі падобнымі, аднак кінулася мне ў вочы першая і найдаўжэйшая… Яна таксама на некага пільна ўзіралася, шукала некага…

Каменны мяшок тужэй заціснуўся, звузіўся, і рабілася ўражанне, што ось-ось паясніца ягоная пераціснецца, і ён трэсне, узарвецца і следу па сабе не пакіне.

Рыштанты маўчалі і чакалі…

Вырванае дзвярыма халоднае паветра калідору выдалася мне ледзяным і надта калючым; сэрца ёкнула і моцна закалацілася:

— «Рыжы»! — сказаў я сабе самому. — Той самы, што да «Шчупака» заходзіўся і «Маркса» майго без вокладак з пакою вывалак…

Апошняе (а можа, толькі першыя словы апошняга, не ведаю, не заўважыў і, здаецца, не чуў самім сказанага) гаварылася, відаць, уголас і добра пачулася Цыбатым Валанцаем, бо ён адразу, сціскаючы мой правы локаць, пачаў шаптаць на вуха:

— Ён, той самы… Памятаеце?

Гаварыць я не меў ахвоты ніякае і нічога на тое не сказаў, а чалавек мне другім наваратам:

— Кажу вам: той самы, не памыляецеся…

— Вы гэта пра каго? — пацікавіўся я нарэшце.

— Пра гэтага Рыжага, што ў вокны з двара страляе, калі надта ўзіраюцца. Як тая вужака, спадцішка надпаўзае. Нешта не так даўно ў вока маладому пацэліў. Без сэрца камянюка рыжая! — выгаварыўся Валанцай і локаць мой з далоні выпусціў.

— Не пры мне, — кажу яму, — было яно. Не ведаю.

— Ён… Ён… Усе ведаюць…

Сказаўшы гэта, чалавек пацяснуўся да дзвярэй і спінаю засланіў Рыжага. Я ўжо не бачыў прыкрага твару, і першае непрыемнае ўражанне пачынала сцірацца, але, як на злосць, кішэннікі моцна зарагаталі, засвісталі і, не раўнуючы, як тое мяла ў цёрле, закруціліся. Моцная руханіна была гэтакай нечаканай і раптоўнай, што я і не агледзеўся, як апынуўся перад прышлымі скуранымі тыпамі. Сэрца яшчэ мацней закалацілася і выразна гаварыла мне:

— Ён… Ён… Ён…

Рыжатварая чорная скуранка расхінула скручаны лісток паперы і, паднёсшы яго леваю рукавіцаю да самых вачэй, пачала голасна чытаць:

— Тимофей Боровец, Никита Бурболик, Мариан Зелёнко, Яков Теробелец — с вещами!

Камера нумар тры павярнула галовы ў той кут, дзе ляжала цела нябожчыка. Старэйшыя перахрысціліся.

Такое цішыні ніколі перад тым не бачыў. Гэта была страшэнная, турэмная цішыня! Парушыў яе неўзабаве той самы Цыбаты Валанцай:

— Якуб Церабелец не дачакаўся… Ягонае халоднае цела і гнілыя лахманы — тутака. Бярэце… Душа — на небе, не возьмеце.

## Жылістыя кулакі Валанцая

Спачатку нябожчыка вынеслі, а праз некалькі часінаў павялі пакліканых «с вещами». Не параскашнела, а пацяснела, бо нават і тыя, што пад памостам ціцеперся ляжалі не вылазячы, «найсвяжэйшыя», якія яшчэ, казаў той, «ветрам пахлі», пакараныя самімі рыштантамі (гэта, значыцца, тыя, што «канстытуцыі» камернае вызнаваць ніяк не хацелі ды і вухам не вялі, калі ім пра ўсталеныя парадкі жыцця ў турэмных умовінах

не аднойчы гаварылі), слабюкі, дахадзякі ды і такія, што надта ў зацішку туліцца любілі, павыпаўзалі ды ў стойма стаялых неяк уцерліся.

Калі ж гаворка ўляглася, ды сцішыліся шэпты-сеймікі асцярожных і баязліўцаў, нехта раптам ізноў аказаўся. Чалавек, папраўдзе кажучы, не гаварыў, а малоў нейкія брэдні, і праз гэта самае ніхто, здаецца, не ўзяў таго і на маленькую ўвагу. І не было чаго і дзівіцца: гэтулькі ўжо гаварылася і чулася, рабілася і бачылася, што, калі б яно і сцены тыя трэснулі, дык не было б, мусіць, вялікаю навіною.

— Эт, меле абы малоць... Пайку, відаць, у запасе мае, дык і цешыцца. Пасядзіш — прыпухнеш... — гаварыў ні то мне, ні то самому сабе, ні то лапатуну-«пайшчыку» шчуплацелы і немалады ўжо чалавек, выцягваючы з-пад маіх ног маё ўласнае паліто, падзёртае і вельмі ж ужо зашмальцаванае слізотаю смярдзючага макрацiння.

— Хочаце сказаць: «ветрам пахне» навюк?.. — пацікавіўся я асцярожна.

— Не навюк, а турэмны псюк, — трапіў чалавек у рыфму і сам ад таго засмяяўся. — Гэты, як сам ён кажа (верыць жа цяперашнім часам чалавеку нельга), — бывалы, арыштант-тубылец. З месяц нейкі ўжо, як сюды яго ўпхнулі. Ляжыць сабе і не дбае: як на печы за комінам, пад памостам валяецца...

Казанае шчуплацелым дакацілася да вушэй чалавека з брэднямі, і той узяў дый агрызнуўся, і не абы-як, а смела і рызыкоўна:

— Радзіў бы язык за зубамі трымаць навучыцца! Як і той Церабелец, бачу, контррэвалюцыю распісваць умееш?

Шчуплацелы паблажэў ад злосці, але заціяўся і змоўчаў. Не чапай, кажуць, ліха, калі клопату мець не хочаш. Гэтакае, відаць, сiганула ў ягоным одуме і язык адразу прымкнула.

Убачыўшы, што чалавек не падаў і голасу, рызыкоўны «пайшчык» асмялеў яшчэ больш, але (гэта заўважылася ўсімі, нават і найбольшымі кішэннікамі) кінуўся на шытыя белымі ніткамі хітрыкі:

— Праз такіх, як ты, языкатых, ці мала пакутуе... Хіба і тутака стукаеш?.. Га?

Уціхаміраны старым Мар'янам і папраўдзе расчулены смерцю няшчаснага Якуба Церабельца, Цыбаты Валанцай, якога не было і навідавоку, уклініўся ў непрыемную калатню «турэмнага псюка»

і коратка сexануў, падняўшы жоўтыя кулакі над галавою зякратага чарнамаза:

— Каго ганьбіш, гідота? Сам ты стукач языкаты! Ведаю… Усё ведаю!

Цяжкія жоўтыя жылістыя кулакі Валанцая апусціліся. Валанцай прысеў, ухапіў упол пісклівага чарнамаза, падняў яго над перапалоханымі душамі «жывога куля», цяжка ступіў тры крокі і шпурнуў яго плячыма на тоўстыя замарожаныя краты акна.

— Жалься, гідота, Рыжаму… — застагнаў Цыбаты Валанцай і адразу падаўся да дзвярэй. — Сам паклічу… Сам… Бярэце, нягоднікі… Бярэце!

Прыбіты чарнамазы асунуўся на памост, захроп, завойкаў і сцішыўся… Стараста камеры нумар тры, сіваваты лекар менскае лячэбніцы, нічога нікому не кажучы, наблізіўся да скурчанага рыштанта і пачаў расшпіляць ягоную кашулю, каб паслухаць, відаць, ці жыў чалавек. Падбіты неспадзявана ачуняў і страпянуўся. Яму, мусіць, здалося, што рукі Валанцая дабіраюцца да ягоных грудзей, да сэрца. Ён моцна, як падпечаны чырвоным жалезам, закрычаў, мігам павярнуўся тварам да акна, учапіўся рукамі за слізкія палушчаныя ад іржы краты і ўшчаў вар'яцкае галашэнне. Баязлівы, застрашаны лекар намагаўся вычапіць чалавека з небяспечнае мясціны: ён жа ведаў, чым пахла акно знадворку, аднак, гэта яму ніяк не ўдавалася. Стоячы за спіною непрытомнага чарнамаза, нервова тоўкся на адным месцы і бездапаможна махаў рукамі, прыказваючы адно і тое самае:

— Ну, ой!.. Рыжы!.. Ну, ой!.. Рыжы!.. Куляй Рыжы стрэліць… Ну, ой!..

Сіваваты лекар менскае лячэбніцы, стараста камеры нумар тры, не дагаварыў апошняга слова: тры ўзапар стрэлы пераняліі ягоны ўгавор… Рукі апусціліся, і вялае, старое, вымучанае турмою цела абрынулася на мокрую, халодную каменную падлогу. Побач з ім прымасцілася, адваліўшыся ад смерцяноснага акна, і цела чарнамаза-«пайшчыка», што радзіў «язык за зубамі трымаць навучыцца…»

А Цыбаты Валанцай, здавалася, і не чуў нічога, і не бачыў… Ён усё стукаў жылістымі кулакамі ў глухія жалезныя дзверы, ламаўся і стагнаў, сціскаючы шчэлепы і скрыгочучы зубамі:

— Бярэце гідоту!.. Бярэце!..

І рыжаскурая гідота прыйшла.

— Кто?! — зазвінсў голас Рыжага.

Гузатвары Касуля (гэтак было празвалі рыштанты калідорнага начальніка за тое, што вокам да «ваўчка» любіў часта прыкладацца) спрытна выкарыстаў маўчыню і ўткнуў, як кажуць, у бяду сваіх пяць капеек:

— Камера этая, таварышч дзяжурный каменьдант, самая, как вам так сказаць, не ўспокояюшчая… Или, открывенно гавара, ядиная ис шумяшчих, таварыш каменьдант дзяжурный…

Злосны «каменьдант» і вухам не звёў. Што яму да тых «пяці капеек» нейкага там калідорнага! Сам ён зубы з’еў і ўсё чыста ведае. Усякі б сказаў, зірнуўшы на яго пажованы грахамі жоўты твар, што найбольшую ў свеце манюку, калі б тая і сляпой была, гэтая двухногая істота не хібіць і адразу па вачох пазнае.

— Кто и что, спрашивается?! К ответу, староста!

— Я… — цяжка азваўся Цыбаты Валанцай.

— Юдовин?

— Не. Апанас Галёнка.

— Ты, стало быть, в окно ломился?

— Не, — гаварыў, трасучыся, Галёнка-Валанцай. — Я прыбіў твайго стукача, а ты забіў і яго, і лекара Юдовіна…

Камера нумар тры расступілася, і вочы Рыжага ўперліся ў мерцвякоў…

— Камера лишается передач и прогулок. Спровоцировавшие стрельбу будут строго наказаны…

І собіла ж таму Галёнцы-Валанцаю жывым на ражон палезці!

## Целаскурыя і плацяныя чорненькія сабачаняты і добры дзяцел

Упраўка не на мае вочы рабілася — і не чуў, і не бачыў. І вельмі добра, што і не чуў таго, і не бачыў. І пытацца не пытаўся б, каб не той самы шчуплацелы, праз якога ўсё і загарэлася, расказаў мне збольшага па трэціх пеўнях (голас певуноў даходзіў здаля, з седалаў гаспадарскіх хлеўчукоў за муравaнымі сценамі турмы). От як яно ўсё выйшла.

— Я, — кажа, — лажыцца не буду, пастаю, пакуль трасца не ўляжацца, а вы, бачу, высілкаваліся, лезьце і паспеце, пакуль штоякос… Не гідкуйце: адсуньце, прытаўчэце і лажэцеся… Не скажу,

каб гэтае «адсуньце, прытаўчэцс» на рыготы не брала: пры першай знаямосці з табунамі разбазыраных тлустых вошай і гарбушка ў горла не лезла, але ж голад — не цётка, а сон — не родны дзядзька; нідзе не дзенешся, калі ногі і самі цябе не слухалі і самі сябе трымаць адказваліся, а зялёныя пухіры лявоніху на вачох модна выдыгоўвалі. Як ні казырся, а палезці-такі палезеш. І калі чужы чалавек табе спагадвае, дык самому сабе ўжо і Бог вялеў. Палез і калачом пад памостам скруціўся. І што ж вы, даражэнькія, думаеце? Упаў як пшаніцу прадаўшы? Дзе вы бачылі! Цімала тузаўся, і ніякае вам наўды: калі турэмная вош каторага ўзлюбіць, дык ніякага не будзе ад яе абарону мець чалавек, каб і дробным макам рассыпаўся і нават покнуў ад нясцерпу. Ты іх каўшом грабі, а яны табе і паўзуць, і сыплюцца, і, ведаеце, якіх толькі нямашака: і бялявыя, і саўсім белыя, бялюткія нават, рудаватыя, рудзенькія, шэранькія, папялковыя, жоўценькія, а часам і нейкія сіняватыя пракінуцца, адным словам, усякае масці і, каб яны цяміліся, не мізэрныя, а ёмкія, праўда, бываюць і пляскаценькія, гэта што яшчэ скораму добрага не ўвазналі — далікатнейшыя, але ж таксама не ўломачкі — дзябёлыя, як угрызянуць, дык угрызянуць, аж пад барадою пячэцца, а сверб той за свербам, як шалёны, лятае, ад чуханіны ўцякаючы. І от што вельмі ж ужо пацешна: бываюць гладзюткія — ні тае пушынкі — і надта ж ужо касмаценькія і мякуткія (вошкамі-валасацікамі называюцца, або целаскурыя) — гэта што ў цела ўлазяць і пад скураю сціхатою доўга сядзяць і спорна плодзяцца, а тыя першыя — гладзюткія — гэта ўжо плацянковыя і хіба крышачку большыя. Усякіх нагледзеўся. Прытаўкаў, бараніўся, адсоўваў і жменяю з-за каўняра зграбаў, а, баронячыся і зграбаючы, прыгледзеўся і абыўся: поўзалі — і не чухаўся. І от што мне думалася — ды не толькі мне, усім, відаць, думалася: і як гэта, прывыкшы, без вошай і свербу жыць асмелішся некалі? І яшчэ адно і ўжо найцікавейшае дзіва: не відно было чырвоных вашанкоў, а ўсё толькі тыя самыя вошы і вошкі, драбнейшыя і буйнейшыя. Ці не турэмнага заводу, ці мацнейшымі загрызаліся. Нешта ж нейкае мусіла быць Як вы думаеце? Дык вось, думаў я, думаў пра ўсё гэтае дый заснуў. І ні плацянковых, ні целаскурых не чуў і не бачыў. Адно, што ў сне бачылася, дык гэта чорненькія калмаценькія сабачаняткі; і ўсе — з хвосцікамі ў калачык і харошанькія, як тыя падсмажаныя пампушкі. І ніводнае сабачанё не ўкусіла, усе шчакатлівымі язычкамі лізаліся. А як са-

бачаняты пабеглі і немавсдама дзе дзеліся, прыляцеў вялікі дзяцел і ў правае калена дзеўбануў тройчы:

— Уставай, уставай, чалавеча!

— Разумнік які знайшоўся! Сам, мусіць, масціцца лабуніш-ся? — такое сказаў я вялікаму дзятлу.

А ён мне другім наваратам:

— Сцеражыся, чалавеча! Бачыш, як цябе апанавалі?

І каламі б не падвярнулі б, каб не тыя вошы, што на правым воку ёмка ўладаваліся. І выелі б, каб не той добры дзяцел, што ў калена стукаў.

А шчуплацелы тады мне і кажа:

— І ў хаце з гэтакім смакам не спалася…

— Як пшаніцу прадаўшы, — кажу яму.

А ён мне сваё, таўкучы плацянковыя:

— І ў тры пшаніцы з каноплямі не ўбярэшся, каб да трэціх пеўняў пры гэтакім вашаедзе спалася.

— І кусацца не кусаюцца, — сказаў я дзеля прыклёпу.

— Вы, — кажа шчуплацелы, — на рукі свае зірнеце…

Зірнуў і, калі б гэта не ў менскай турме, веры б сабе не даў: паміж пальцаў касмаценькія і мякуткія клубочкамі ладнымі да скуры прысмакталіся. І толькі пазней, скінуўшы куслівых савецкіх тубыльцаў, пачуў непрыемную пякучую гарачыню.

А шчуплацелы мне і кажа:

— Упраўляліся нядоўга: і жывых, і забітых пазабіралі. І мяне самога цімала валтузілі. А пазней і ўжо на саменькае маё вуха дадаў:

— Калі есці не дадуць, сціхаты не будзе…

— Абы вошы збыліся, а без «баланды» неяк выжывем, — гэтым хацелася мне расквітацца з усчатаю шчуплацелым гаворкаю.

## «Пан» Баніс і «прах-вэсар» Пыжык

На каменным лапікле сядзелі галаспінныя. Спрасонку не надта ўвазнаеш усіх адразу, з-пад памосту праз галовы на іх гледзячы, хоць гэтае ўвазнанне не вельмі ўжо мне і карцела, аднак я, каб адкараскацца саўсім ад шчуплацелага, што смаліцаю ўлазіў у маю сціхату, і нічога ніякага не гаварыць на ягонае «а што вы скажаце пра гэтую галёнку?» («смаліца» мела на ўме Галёнку-Валанцая), удаў, што не пачуў папытанага, і думанае пра галаспінных на каменным лапікле сказаў самому сабе ўголас:

— Хай забаўляюцца, адно каб новага закалату не рабілі…

— Добрая вам у мокрым карцары забаўка… — прычапілася да слова «смаліца». — Папацёмку ніякі рызыкант ад пацукоў не абароніцца, а самыя «залатушнікі» — гэта ж я сам добра ведаю — вар'ятамі робяцца…

— Я, — кажу яму, — пра адно, а вы — пра другое… Вунь пра каго я, — кіўнуўў галавою, — што ў бірульках забаўку маюць…

— Што ўдзень спяць, а ўначы «агру» раскулачваюць?

— Не ведаю, — адказаў я дакучліваму чалавеку-«смаліцы».

Я не ілгаў, бо такі і не ведаў, пра што яна тая мова ішлася. І каб навучыцца турэмнае мудрасці ды, «носячы моцна зарубленую яе на носе», як умеў было выслаўляцца крывенькі, пацешны Мікіта Бурболік, стары ганчар з-пад Таўкачэвіч, умела размінуцца нават з вялікімі непераліўкамі, калі заўтра-пазаўтра прыкруцяцца неспадзеўкі на прыкрасць, пацікавіўся, прызнаючыся ў вочы:

— І не разумею, што вы мне кажаце: каго і як «раскулачваюць»? Яны гэтакія, як і мы з вамі?

— І гэтакія, і не гэтакія… Торбачнікаў раскулачваюць — гэтак у нас калгаснікаў празвалі кішэннікі. Дастане гэта чалавек прынесенае печыва сухароў з дому, сядзе і сядзіць седзьма на торбе — сцеражэ, каб не вычапілі з-пад мяккага месца… А кішэннікі пад памостам седзьма сядзяць цалюткі дзень, слабюкамі і хворымі прыкідаюцца, чакаюць, калі «агра» адлучыцца ці на торбе, чухаючыся, задрэмле. Удзень не надта ім удаецца, а ўночы, калі чалавек здасца, аперацыю медзяком навостраным робяць: прарэжуць торбу, выбавяць тое печыва і мелюць… Чалавек прахопіцца, седзячы на пустой торбе, і вачыма лыпае: ні следу, ні таго злодзея. А ён, кішэннік каторы, з тымі сухарамі ў жываце выпаўзе, стане перад раскулачаным і даймае кпінамі:

— Дядя! Пожертвуй сухарик голодному мальчику!

— Гэтыя самыя, што з бірулькамі? — дапытваюся.

— Гэтыя… І пад памостам нейкіх з дзесяць, — прадаўжае шчуплацелы — Нешта за тыдзень перад вамі тое, што кажу, здарылася. Зірнула тая бедная раскулачаная «агра» на кудлатую шэльму і затрэслася: «Цыц, вашапруд карэлы!.. Абармот… Паскуднік…»

Шчуплацелы, відаць, вымавіў усё гэта мацней за таго «раскулачанага», бо, як заўважыў, і сам спалохаўся і, зірнуўшы на мяне, сказаў:

— Не крычэце, прашу вас: пачуюць…

— Хіба ж гэта я вам крычу? — пытаюся.

— Ведаю, што сам я крычу, але ж кажу: крычаць не трэба — небяспечна. Нейкі заморак прычапіўся да мяне, — апраўдваўся чалавек. — Усе павар'яцеем, кажу вам... Самі ўбачыце...

— Вам, бачу я, боязна надта, — сказаў от так сабе.

— Чалавек жа ніколі не выбаіцца, каб і хацеў, — апраўдаўся шчуплацелы.

Блізу ўсе «суседзі» прабудзіліся, але не ўсё спанатрылі. Галаспінныя на лапікле мелі вастрэйшыя вушы, пачулі і заварушыліся.

— От і прыкруціліся непераліўкі... — думалася мне. — Трэба размінацца, каб там, дзе вар'яцеюць, з пацукамі ды з тымі «залатушнікамі» не бачыцца.

Адступіўся і да каменнага лапікла немаведама чаго паціснуўся.

— Э-эй ты, прах-вэсар Пыжык!.. — азваўся да шчуплацелага галаспінны. — Бірулька на твае штаны іграецца. Чуеш?

«Прах-вэсар» не падаў і голасу, у транты пад памостам унурыўся і трэсся ад страху. І няма чаго і дзівіцца нам: і пра найлепшыя сухары, і пра наймілейшых «аграў» забудзешся, і язык, якім бы ён там даўгім ні быў, прыкусіш, ад галаспінага гэтакае пачуўшы. Хай сабе чалавек і не на нейкім там кірмашы, але ж без тых штаноў і ў турме кірмашаваць не будзеш, і пры людзях нязручна, як там ні гавары. Або вось гэтакае надарыцца: прыйдзе чырвонагаловы ды і завалае цябе да следчага. Трэба ж ісці з «ворагаў» вылузвацца, каб ад наплясканых злымі языкамі нагавораў адкаснуцца, і не пойдзеш, калі твае блізкія ворагі з апошніх штаноў перад гэтым цябе вылузалі. Або і такое, пра што і ў сне сніцца: выскаліцца той чырвонагаловы, адчыніўшы дзверы, ды і скажа:

— Дзе там той грамадзянін Пыжык, якому дадому збірацца кажуць?

А пазней, зірнуўшы на галаногага, дадасць скалячыся:

— З вяшчамі, прыказана.

А бедны Пыжык аблізнецца як мыла з'еўшы і на ўкарочаныя «вешчы» пальцам сваім пакажа... І каля рашкі-«парашы», як тое ў каноплях пудзіла, ківацца будзе.

Гэта ж не жартачкі! Няшчасце, дый годзе.

От і мусіў чалавек унурацца, усё гэта загадзя на рабаціннi маленькага востранькага носіка зарубіўшы. Балазе, што ўчарашняе сяк-так уціхамірылася ды без таго карцарнага пацукавіння абыш-

лося. Але ж і гэта яшчэ віламі па вадзе пісана: можа, усё гэта яшчэ і ачнецца і прыкруціцца... Хто яго там ведае. «Сядзі і не дыш, — думалася ўнуранаму Пыжыку, — бо як навярзецца новае, дык тады і старое клейка да яго прыпластуецца, каб яго, не пры мне кажучы, заўшыцай аблажыла, і пачне, падсудны Пыжык, твая справа пухнуць. Крый мяне, Божа...»

І гэтак Пыжыкавыя думкі за думкамі беглі наўздагонкі, навыперадкі, шараваліся, размінаючыся, і калі ўжо ад размiну і шаравання глухлі і шпакляваліся пакусаныя гладзюткімі і касмаценькімі «прах-вэсаравыя» чырвоныя вушы, шчуплацеламу рабілася зябка, яшчэ боязней; ён тужэй зацiскаў матузок на паясніцы і, таўкучы зубамі дрыжыкі, сакатаў, заікаючыся, услед за Банісавым:

— Прах-вэс-сар-р Пып-пыж-жык... гыг-гій-га-а... Бір-руруль-ль-ка-а на-а-а твай-е ш-ш-тан-ны іг-ра-ец-ц-ца...

Бірулька спрытнела і пераходзіла да апошняга, да кірпаносага рагатуна і камедыянта. Той не забыўся, і перад тым, як падкінуць гладзютка вышмараваныя паячныя палачкі-сколачкі, смаргануў носам і, кіснучы ад смеху, даймаў баязліўца:

— Пан Баніс не жартуе, таварыш прах-вэсар Пыжык: извольте штанишки на бочку...

Мулялі яму прах-вэсаравыя штаны даўгі язык, але, як на злосць, не пашанцавала. Кірпаносы сваю «бірульку» «прамазаў» і, зламаўшыся, хацеў «змыцца». «Пан» Баніс прытрымаў «ушлага» камедыянта, прыгнуў да камянога лапікла ягоную чупрыну, і ўсе галаспінныя ёмка «прагаласавалі» на ягоным седзіве... Кірпаносы агрызнуўся: не тое што каб яму балела — ён добра ўжо ababіты і не абы-як, а, казаў той, на ўсе-сенькія канты і без ніякага там далікацтва: папросту, «па-свойску», «па-блатному», бо «блатва — блатвою», найбольшае «мокрае дзела» ў завулках Адэсы без шухеру — найдалікатнейшая «лафа» і «маліна»; ababіўся і абтоўкся і сваімі «ў доску», і «піжонамі», і «контрыкамі», і «важным гусем» на «этажах», «і праставалосы — анцілягенцыяй», значыцца, і «аграмі» — торбачнікамі; да болю ён і не прыслухоўваўся б надта — яго ж і ёмкай «маслінай» ніяк не праймеш: урку засела, што смакаваныя штаны «абламаліся» ды што «бірулька» не на прах-вэсаравым седзіве «галасавалася»...

От што грызла і смактала уркавую вантробку.

А «пан» Баніс, першы памагаты Гулівера Бязносага, выпраставае лапаткі, страсянуў рудымі касмакамі і аўтарытэтна і «дыпламатычна» згладзіў штаняны «канхлікт» «обшчапанятным»:

— Напряжение утраслось благополучно: штаны владельца — владельцу оных! Выползай, Пыжык… Будь парнем… Сочтемся…

І «парень» Пыжык «выпаўз».

А страху было цімала…

## Гострыя швайкі разніка Лаўрэна Пячонкі…

Не суткамі і не гадзінамі, а часінамі турэмная сціхата мераецца. І гэта не то што ўдзень, і ўначы тое самае. Калі не адна трасца, дык другая — меншая ці большая — а такі возьме і прыкруціцца аднекуль і трасе табе людзьмі, як чорт лазою ці сухою асінаю на высокім буі, апошнія духі з-пад рэбраў выкалочваючы. Не скажу, аднак, каб тая трасца да ўсіх адразу чапалася: і чортава свой парадак мае, па чарзе трасца людзей перабірае і кожнаму чалавеку з іншага капыла свой нораў паказвае Кране двух-трох, а то і якіх пятнаццаць, пазней яшчэ колькіх, і ў каменным мяшку, як у тым караніку: усе ўзалабкі з трасцаю бяруцца… Бараніцца ж неяк трэба, бо ніхто ж таго не ведае, калі і за каго яна другім наваратам, унадзіўшыся, учэпіцца. А калі ўжо каго трасца ўзлюбіць, дык не адкаснешся, каб і хацеў. Заказырышся — з рэбрамі казыры твае выламіць, паддасіся — на заверацень цябе скруціць, пабратаешся — наклёпу на самога сябе наклічаш. Адным словам, рада б душа ў рай папасці, ды грахі не пушчаюць…

Не на вей жа вецер пушчана такое, што калі ў пекле не папячэшся, дык і ў тым раі ніколі табе месца твайго не будзе. От і пякуцца людзі, і курчацца, як шкурат на агні, свае ды чужыя грахі адмольваючы, каб не то што ля парогу раю, а ля свае падваротні на скапытаваным двары прыперціся…

Цяперака, гледзячы на ўсё жытае і пераэжытае з далёкага водшыбу, і серабранскі разнік Лаўрэн Пячонка ў маіх вачах не такім ужо дурным здаецца. Ён, бывала, дудукаючы з пудлівым Ярыкам Хітрыцкім, што «з панскага хамута ў савецкі рай ашалеўшы ўбіўся», гаварыў гэтакае:

— Пры дурных царох нашых дзядоў-невукаў памялом ад турмы адганялі, каб мужыкі-хамуты ў рай не ўсунуліся. Адны цыганы-канакрады і вучоныя галовы ля «парашы» таўкліся. Цяперака,

як сам пане-таварыш Ярык бачыць, калі ўсе панамі і вучонымі хітрунамі парабіліся, дык і швайкі ў разнікоў з рук тыя канакрады павырывалі, каб з раю не выламаліся…

Толькі малады настаўнік, нябожчык Якуб Церабелец, ды Цімох Баравец разумелі «разніковыя брэдні», а «пан-таварыш» Ярык Хітрыцкі тупымі шпількамі бараніўся ад гострых Лаўрэнавых швaек:

— Бугаі забітыя праклялі пана Пячонку, калі такое ўсё пану разумнаму цёнгле вярзецца.

Жарты жартамі, а праўда — чамярыца з перцам: далёка даўнейшаму да нашага цяперашняга. Даўней (да слова прыйшлося) балацяная Ігуменшчына на пальцах сваіх рыштантаў лічыла, і ўсе брытыя ілбы нешта каля паўгода Кацярынінскім трактам у Сібір пхнуліся, а цяпер і хаты нямашака без рыштанта, і дарогі да пядзі ўкараціліся: на месцы людзі ў турэмны сацыялізм паволі ўрастаюць… А ўросшы і абыўшыся, чалавек і хвалёнай часіне не дае веры, пакуль добра не выдыхае таго, што моцна ў знакі яму далося, і душою не вычуе неспадзеўкі прышлага розніва. І калі ўжо, ачухаўшыся, падыме вочы, каб таму рэдкаму дзіву соладка ўсміхнуцца, дык і дзіва нямашака: новая трасца ў дзверы пачынае стукацца. Гэтак яно і сціхата сціхаты ніколі ў турме не здаганяе.

Шчасця — ні на часіну, а гора — на пяцігодкі…

## Тайніцы Міхала Сырадоя

У добрых людзей у нармальныя часы ноч пеўнямі мералася: да першых пеўняў узімку жанкі і дзяўчаты кудзелю пралі ці на кужаль ручайкі лёну ў сенцах пры лучыне пачэсвалі, а мужчыны лапці плялі, заваратні вілі і вязы парылі; па другіх пеўнях усе прачыналіся, а па трэціх — жанкі шпулі на вітушкі звівалі, а мужчыны за кулі ці цапы на таку браліся; па сняданні раніца ўжо з днём адразу сустракалася.

У турме — не тое: пайкаю суткі біркаваліся. Дзень руханінаю да вечара падпіхаўся, а ноч сном найбольш укарачалася, каб учарашнімі наедзінамі жывот да заўтрашняга сколанага і, пэўне ж, недаважанага прыносу як-небудзь час той пераскрыгаў. Калі ж сну і не было на сяго-таго, дык вочы ўсё роўна заплюшчанымі ўсю ноч трымаліся, каб уставаць не было ніякае патрэбы. Гэтак, маўляў, і ў двух зайцоў адразу цэлілася і сіла ашчаджалася: нешта снілася,

нешта, калі не думалася, дык хоць вярзлося і пад лыжачкай меней смактала. І жывату і галаве выгады былі немаленькія…

Такую навуку няблага ведаў і Міхал Сырадой з Вільшчыны, чалавек, што, як сам ён, бывала, прызнаваўся, і вока ніколі нікому не запарушыў, а ўсё ў тое росціва садавіны ўдаваўся і свету Божага ніколі не бачыў. Ён і ўдзень найбольш сном намагаў, калі ніхто не дакучаў, — сам не меў прычапкі ні да кога. Аднак гэтым разам нешта нейкае сталася з чалавекам. Урокі не ўрокі, а сну не было на яго. Шацкі Гарбун, рыбалоў з дзясятага калена, даўно знаўся з Сырадоем і казаў жартуючы (гэты каб і трыццаць гадоў праседзеў, дык, мусіць, не выжартаваўся б):

— Ты, Міхал, пра мічурынскія бэры ці пра тую, што сваімі «бутылачкамі» горла дзярэ, думаеш? Упадобаў, каб яе качка стаптала…

Міхалу ж, калі той у настроі, пальца ў рот не кладзі — без ногця выхапіш. І каб гэта быў не Гарбун, а нейкі ат сабе рыштанюга, дык і цяперака ў даўгу не астаўся. Аднак рыбалову выціснуў такое, што таму не дайшло і да цяму:

— Капянуў дзічку, а яна табе свет на ногі паставіла.

— От жа і кажу: калі бэры прыядуцца, і дзічку ні да носу, — каб ладу трымацца, на паважнейшае Гарбун здабыўся. А зірнуўшы на мокрыя Сырадоевы вочы, рыбяю мудрасцю наважыў жаль Міхалаў развесці: — Не журыся… Калі б дурнейшымі былі ўсе краснапёркі, то і сам панам быў бы. А то прыйдзе табе, зліжа гарошыну, і паплавок не скіўнецца. Раззлаваўся гэта я на тых краснапёрак ды і боўтнуў трутам на прынаджаным месцы, каб краснапёркі мае і хвастом не вільнулі. І не журуся: ні мне, ні ім — выздыхалі…

Да Міхалавых вушэй нешта-такі з тых краснапёрак даплывала спачатку, а праз нейкія дзве-тры часіны і ягоныя думкі хвастамі не вілялі… Адно нейкая чарнакосая прыгажуня лашчылася ды жоўтымі спелымі бэрамі частавала. Сырадой гладзіў даўгія дзявочыя косы, цалаваў духмяныя губы і кляўся:

— Не дарую, Алеська… Не дарую… Богу душу аддам, а не дарую зладзюзе…

Прыгажуня Алеська адступілася і вочы на апалую разбітую бэру апусціла, гаворачы старому Сырадою:

— Сорамна… Надта сорамна… Сам ён сябе пакарае…

Кулём кінуўся Міхал да прыгажуні, каб сорам уняць, каб сорам сэрца Алесінага не катаваў… І рукі развёў Міхал: Алесі як не

было. Толькі на сухіх галінках раздзёртае ветрам дзічкі дагнівалі, нанізаныя нейчымі рукамі, чатыры Сырадоевы бэры… І Сырадой моцна крыкнуў, але так як бы гэта цэлая Вільшчына бэрамі ягонымі калаціць зышлася:

— Гэта ж разбой!.. Гэта ж нявіданае няшчасце!..

- - -

Калі пад столлю пачарнела, перапаліўшыся, «лямпачка Ілліча», ды патушыліся ліхтары ля дубальтовых жалезных брамаў на турэмным дворышчы, у камяніцу зірнула знадворку светласіняе халоднае неба. Жаўтаватыя перад гэтым у святле ліхтароў дзве таполі, край аднае страхі і касяк турэмнага муру ўвачавідкі пабялелі і зайскрыліся. Хрусткія іскрынкі — сняжынкі-зорачкі, быццам тыя светлячкі-пырхаўкі ўначы або буйныя купальскія росы ў бляску вогнішча на лістах папараці, — займаліся, патухалі і зліваліся ў суцэльнае, мілае воку беліва.

Пад нечымі нагамі скрыпеў крохкі маразяны снег. Дзесьці саўсім блізка спявалі, злятаючы з седалаў, апошнія гультаяватыя певуны. Лопаліся, данятыя марозам, хварбаваныя начарна дошкі вартавых вежаў-будак.

Гэтак над растоптанай глухімі мурамі чалавечай радасцю неахвотна кланялася хрусткай марозлівай раніцы і разміналася з ёю пераможаная сонцам ноч, каб у новы дзень каранямі мацней урасціся…

Можа б, і адкруціўся чорны калаўрот начніцы-вядзьмаркі, каб на яго шырокі понаж ды нага чалавека-праўдалюба ступіла?

Але як бы яно там ні было, а раніца — раніцай. Гэта ж пачатак дня. Няхай сабе новы дзень і не прынясе добрых навінаў, і не ўскалыхне затхлага смердзіва каменнае завоіны нумар тры, але ўжо адно тое, што ён, хоць і найгоршы ад усіх тых, што, турэмныя норавы спрытна людзьмі ўтаймаваўшы, вечарам уступілі ды з слепавокімі змрокамі, абдымаючыся, заручаліся, — не ўчарашні, а сённяшні, новы і ніводнай жывой душы не ведамы, і як бы яно там ні сталася, а сім-тым дый выразніцца, рабіла сваё.

На кавалачку нетрывалага спакою расхінала раніца маленькія чалавечыя надзеі: ану ж дый на нашай гразкай вуліцы маладзіковы кірмаш будзе!.. Міхал Сырадой маўчаў. Меў ён вялікія думкі і ўсё да нечага прыслухоўваўся…

# Апавяданне

...Цэлыя два дні жалілася Марыля на ламоты ў паясніцы і ўсё войкала, калі не было паблізу цёткі Агапы, а пры ёй старалася ўтаіць боль, ад якога яна раз-пораз згіналася і прыкладала да сэрца далонь з шырака растапыранымі пальцамі. Агапа гатавала ў гарнушку нейкія зёлкі, пералівала іх у другі гарнушак, астуджвала, нешта шаптала, накрывала хвартухом, тройчы перабірала за спінаю з рукі ў руку, плёвала ў смаловы над ложкам сук бервяна і давала Марылі ў тры сёрбы напіцца на золаку, перад полуднем і на змярканні. І гэтак цэлыя тры дні. На чацверты дзень увечары зрабілася Марылі нядобра. Вялікая гарачка і зябкія дрыжыкі палажылі яе ў ложак пад тым самым сукам, на які плёвала цётка Агапа.

Недзе недалёка сакаталі кулямёты, і чуліся далёкія, глухія выбухі, разрываліся бомбы... Гэтая бязладная музыка вайны то сціхала, то ізноў усчыналася яшчэ з большай сілай. Марыля не прыслухоўвалася да гэтае музыкі і не чула яе. Боль павярнуў яе тварам да сцяны. Яна ўвабрала ў далоні грудзі і пачала моцна сціскаць іх. Ад гэтага боль падкаціўся пад самае горла і прыпаў да сэрца. Марыля развяла ў бакі рукі і пачала цяжка, глыбока дыхаць...

...Сядзіць Марыля ў цёмным глыбокім склепе і затыхаецца цвіллю гнілога хлуду. Раптам нехта намацвае ейную руку, узводзіць на высокі пясчаны ўзгорак і кажа:

— Пазнаеш? Гэта ж твой Раман дужаецца з д'яблам... Бачыш, як сціскае ён жылістымі рукамі карак д'ябла? Бачыш? Але ж і той дужы і вытрывалы. Памажы, даражэнькая, свайму Раману! — сказаў і немаведама дзе дзеўся.

Марыля хапае сякеру і імчыцца:

— Ра-а-ма-а-нка-а!.. Ра-а-ма-а-нка-а!.. Не да-а-ва-я-йся д'я-а-блу-у! Я-а-а, Ма-а-ры-ы-ля-а...

Чалавек, босы і без шапкі, перапыняе Марылю:

— Спазнілася, даражэнькая... Вярніся... — кажа ёй.

— Ра-а-ма-а-нка-а!..

Марыля ж і слухаць не слухае таго чалавека, бяжыць далей, падае моцны голас:

— Ра-а-ма-а-нка-а!..

— Ма-а-рыль-ка-а!.. — азываецца голас Рамана і моўкне.

— Душы чорнага д'ябла!..

Вось яна саўсім ужо блізютка — як рукою падаць… Узносіць над галавою каля правага плечука сякеру, мацней сціскае тапарышча, каб спрытней секануць спіну трохгаловага д'ябла… Але моцны нарывісты вецер узлахмачвае Марыліны валасы і перакідае, маро-зячы патыліцу, на твар… Марыля ўстрасае галаву і замахваецца…

— Раманка!

Марыля прахапілася і застагнала.

— І ў сне не даюць ёй быту, — трымаючы ў руках газоўку, сказала сама сабе Агапа.

— Спяшалася памагчы Раману, каб д'ябла падужаць… Які ён ікласты, страшэнны… Прымі, цётачка, гэтую во сякеру…

Агапа выцерла ручніком спацелы Марылін лоб і яшчэ тры разы запар дала напіцца гатаваных у гарнушку зёлак.

- - -

Бабіла старая Рымарыха, жонка местачковага рымара. Прынятае ёю дзіця сціснула пад бародкаю кулачкі і моцна закрычала. Рымарыха пацалавала тройчы ягонае ружовае цельца, адплёўваючы навотлег, каб урокі не бралі, зірнула на Марылін твар, потым на дзіцятка:

— Уга-а, уга-а! Выліты ў бацьку — як тыя дзве кропелькі. Уга-а, уга-а! Раманётка маё… Уга-а, уга-а!.. Маленькае маё сонейка… Марылька, а Марылька, шчаслівы твой хлопчык — у бацьку, як тыя дзве кропелькі… Уга-а, уга-а!..

Агапа падала бабулі гладыш летняй вады і яшчэ дзве мякуткія полачкі. Калі ўсё было зроблена, Рымарыха падышла да Марылі:

— Зірні, Марылька, на сваё дзіцятка. З ясным сонейкам прыйшла на свет Божы твая зорачка…

Марыля адкрыла вочы, усміхнулася і пацалавала дзіцятка ў шчочкі.

Рымарыха паставіла калыску каля Марылінага ложка і выйшла ў меншую палавіну хаты мыць ужываныя полачкі. Агапа выняла з пячуркі запалкі, запаліла ў цялесніках смаляк, падлажыла пад дровы і адышлася падаць Рымарысе начоўкі. У гэтую самую часіну ляцелі, цяжка равучы над самаю хатаю, нямецкія бамбавікі. Агапа прычыніла шчыльней дзверы і перахрысцілася.

— Аж сцены калоцяцца, каб на іх ламоты. Бог святы ведае, што яно там будзе, хто каго з іх збаёдае? Таўкуцца людзі, як тыя крупы ў ступе, і радачкі табе ніякай, — выціраючы зрэбным хвартухом

мокрыя рукі, уздыхала цётка. — Не ведае Раман, што гэтакага сына мае.

— Ану ж, дый акажацца, — мылячы шылаватым змылкам полкі, седзячы на ўслончыку, азвалася Рымарыха. Гэтакімі табунамі ўцякаюць нашыя з-пад немца. Чула, колькі ішло іх учора краем нашых Карэлічаў? Селівонаў сын, гэты, што меншы, — Яраславік — вунь ужо дні з тры, кажуць, у склепе качаецца.

— То ж бы то, што качаецца, а на людзі паказацца нельга, — бедавала Агапа. — Свой на свайго немца натыкае адразочку… Гэтакага во вучонага Клемуса Несцеравага праз Базылішынага галамоўзу сходалі… Не, кажа яна, не гледзячы людзям у вочы, гэта ж не праз майго Захарку, самі немчукі вышнырылі беднага Клемуску ў каноплях… Гэта ж такая праўда…

Цётка Агапа не дагаварыла. Недзе недалёка ўсчалася жудасная грукатня. Агапа прысланілася да качарэжніка, прыціснула да твару зрэбны хвартух. Рымарыха пакінула начоўкі, атрэсла рукі, упёрлася імі ў сцёгны і — у большую хату, да Марылі. Шырока адкрыўшы вочы, пазірала яна ў расчыненыя ўструсам вокны, тулячы да тугіх балючых грудзей ружовае цельца народжанага на світанні дзіцяткі. Рымарыха выхапіла дзіцянё з Марыліных рук, ухінула яго, спяшаючыся, у Марыліну сукенку і села на падлозе каля самага ложка. Грукатня не пераставала. Праз нейкія два-тры перадыхі яна зрабілася яшчэ мацнейшай і страшнейшай. Калаціліся сцены, звінела шкло, расхіналіся вокны, рыпела столя, стукаліся аб вушакі парасчыняныя дзверы. Перад вачыма яшчэ не саўсім ачунялай Марылі затросся, выскаляючыся, той трохгаловы д'ябал, які пакінуў каля верставога слупа на гасцінцы здушанае цела Рамана…

Цалюткую гадзіну калаціліся Карэлічы, стагналі людзі, трэскалася зямля…

Цётка Агапа доўга яшчэ не адымала ад твару хвартуха і не расплюшчвала намуляных каляным зрэб'ем павекаў вачэй: баялася зірнуць на хату, на тое, што валілася, стукала, звінела і кацілася да ейных ног па выбітай глінай зямлі меншай хаты. Абыўшыся, апусціла хвартух і працерла пальцамі вочы. Сярод паколаных гарнушкаў, гладышоў і слоікаў, што пазвальваліся з паліцаў, угледзела яна і разбітыя «ходзікі», і падкоўку…

— Набыў іх Раман перад вяселлем, а падкоўку начапіў, пакідаючы хату, каб шчасце не мінала хаты, гаварыў Марылі, — ка-

зала Агапа старой Рымарысе — бабцы Прузыне. — А яна яму бацькаўскі дарунак, кругленькі гадзіннік, на руку палажыла, каб мінуткі на адлучцы лягчэй лічыліся.

— Усякае на вяку бывае, Агапка, — сіпатым з вусцішу голасам азвалася Рымарыха. — Што там з тымі «ходзікамі», такой бяды, абы чалавек жыў быў ды цалюткім вярнуўся сынам пацешыцца. От што мілей за ўсё, Агапка.

— То ж бы то. Я ж яно і кажу, абы жыў Раманка, прыдабудзецца неяк. Век жыві і век ажывайся…

Неўзабаве бабка Рымарыха пайшла дадому, сказаўшы, што заўтра, калі Бог дасць ёй здароўя, неяк прыйдзе пабачыцца зноў. Цётка Агапа падкінула на ачахлае вугалле нейкіх ашчэпкаў, уставіла тры гаршчкі, потым узялася спрытоньваць паколанае чарап'ё. Цётка не ішла ў большую хату: падумала сама сабе, што Марылі ўжо палепшала і тая заснула. Пры гэтакай цішыні Агапа адразочку пачула нейкую хаду на ганку. Яна страпянулася і, устаўшы, трымаючы ў хвартуху чарап'ё, падышла да акна і зірнула праз яго на ганак. На ім нікога ўжо не было. «Усё цяпер чалавеку здаецца», — падумала сабе Агапа і адышлася. У той момант, калі яна мелася брацца за клямку, каб выйсці палажыць у сенцах пабіты посуд, адчыніліся дзверы, і Агапа сустрэлася вочы на вочы з высокім, аброслым і без шапкі чалавекам. Яшчэ мацней здрыганулася і, выпусціўшы з боязі з рук хвартух, аступілася назад. Чарап'ё выпала і зазвінела.

— Гэта будзе хата Рамана Скрылевіча? — папытаўся.

Агапа маўчала. Трымаючы ў зубах вялікі палец левае рукі, пазірала, не міргаючы, на невядомага чалавека.

— Заходзьце, калі ўжо прыйшлі, — сказала.

Чалавек пераступіў парог, ступіў два крокі і спыніўся. Абвёў вачыма хату, зірнуў на Агапу і потым, нешта думаючы:

— Значыцца, Раманава…

— Раманава, чалавеча. Самога от толькі нямашака ў хаце, — сказала, як і прышлы, думаючы, а пасля папыталася: — А вы хіба зналі Рамана?

— Знаць яго знаў… Бачыўся… — сказаўшы гэтак, чалавек ступіў яшчэ два крокі і папрасіў напіцца.

Агапа зачэрпала медную конаўкаю вады з дзеравянага вядра з пасілкаю, падала чалавеку і папрасіла сесці, паказаўшы рукою на лаву каля стала.

Той, ссўшы, сказаў Агапе, што зайшоўся не надаўга, бо ягоная дарога далёкая, і папытаўся, ці можна перабыць у хаце да змяркання, каб ісці далей пры цямне, як немцы не бачаць.

— Чаму ж не, хоць і цэлы тыдзень, хоць і яшчэ больш, і нам весялей і смялей будзе жыцца... — адказала і пайшла да печы адсунуць ад полымя гаршчок з капустай, якая, кіпячы, выліваласяна раскочанае вугалле, сыкала і вельмі смачна пахла.

Невядомы моцна ўдыхнуў пахучае паветра ды зачмякаў губамі, і Агапа здаўмелася, што гэты спакойны ветлівы чалавек вельмі галодны і што яму трэба даць есці. Ставячы на стол вынятую з-пад прыпека вышчарбленую гліняную міску, кінула вокам на чалавека:

— От гэта і ўсё, што засталася на Раманавым грунце, рэшта, самі, уваходзячы, бачылі, дзе і што з ім... З'елі шэльмы, каб іх саміх шолудзі поедам елі.

— Набудзецца, цётачка, калі будзе суджана, кладучы на кавалак жоўтай газеціны махорку з вялікага скуранога капшука, заўважыў незнаёмы і, помнячы сказанае добрай цёткай «і нам смялей і весялей будзе жыцца», пацікавіўся:

— Хіба ж не вы адны, не самі жывяце ў Раманавай хаце?

— З пляменніцай Марыляй, Раманавай жонкай. Сёння Бог даў ёй дзіцятка на досвітку, сынка, а бацька і не ведае... Ваюе недзе... — Агапа прыняла з абруса падкоўку, патрымала ў руках, а потым начапіла яе на той самы цвічок, дзе віселі «ходзікі», і ўздыхнула: — Кажуць, што падкоўка шчасце людзям прыносіць... Можа, і вернецца, нядобра, што от «ходзікі» разбіліся.

Незнаёмы слухаў Агапіну гаворку і ўсё нешта думаў. Калі ж у большай хаце заплакала народжанае, чалавек усхапіўся, зірнуў на падкоўку, на пабітыя «ходзікі» на падаконніку, нервова смакануў скрутку махоркі і гэтак жа нервова выняў з кішэні выкуцанай у гразь гімнасцёркі велікаваты гадзіннік.

— Другая папаўдні... — сказаў, гледзячы Агапе ў вочы.

— Можа, яно і праўда... — перастаўляючы на стале міску, быццам бы не на сваім месцы стаяла, нахіліла да гадзінніка галаву, зірнула, потым — на скураны капшук... — Дык яно ж і не позна яшчэ, — дадала, — я вам капусты пастаўлю. Пакурыце, а я тым часам...

Цётка Агапа ўзяла сухія полачкі і пайшла ў большую хату да Марылі з дзіцем.

* * *

Хату Рамана Скрылевіча паказала Астапу Крыжаку бабка Прузына. Рымарава хата дажывала свой век пасярэдзіне сяла, каля Карчмішча, трэцяй ад месца, дзе стаяла некалі карчма. Дык от, каб людзі не пыталіся, дзе яна была і што там рабіла, ды каб не мець праз гэта лішніх нагавораў, Рымарыха не пайшла вуліцаю, выйшла гумном на загароддзе і адтуль кустамі нацянькі да Карчмішча. Бачыць, стаіць чалавек, грызучы рэпу, і пытаецца, ці не ведае бабка, дзе будзе хата Рамана Скрылевіча. Яна паказала рукою на тры высокія ліпы і, каб яшчэ лягчэй пазнаць, сказала, што Раманава хата на высокім муры, а перад ёю, на другім баку вуліцы, — заваленая хлудам студня. Бабка сказала і тое, што самога Рамана дома нямашака, то ён недзе ваюе або ўжо і дадому ідзе, бо Марыля, ягоная жонка, значыцца, радзіла сына, і ёй, далікатнай і вучонай, было б цяжка без чалавека сына выкачваць…

Цяпер, пагаварыўшы з цёткаю Агапаю і спраўдзіўшы, што гаварыла яму бабка, Астап убачыў, што ён не памыліўся, трапіў якраз у хату свайго нядаўняга, але вельмі ж добрага таварыша Рамана Скрылевіча. Блага толькі, што ў такую нязручную часіну немаведама, што яму рабіць: раскажа — гора вялікае чалавеку прычыніць, лёгка раз'ятрыць жывую рану, а загаіць яе вельмі трудна; не скажа і пойдзе — не выканае апошняе просьбы таварыша і граху нецьякога набярэцца: будуць чакаць і ніколі не дачакаюцца, і ніхто ніколі не скажа, бо толькі адзін-аднюткі Астап ведае, дзе, як і што… Напісаць, пакінуць, і бывайце здаровы — слабізна натуры, нястача адвагі, а ён жа чалавек смелы і адважны; пакінуць на потым, каб тады, як скончыцца вайна, напісаць ці самому адведаць, няма пэўнасці: а што, калі і сам не дойдзе туды, дзе саўсім малым дзіцянём пакінулі яго бацькі ў першую вайну на чужыя рукі?..

Важачы ўсё гэта на сваёй душы, Астап бачыць, што яму не трэба ўцякаць, калі людзі з хаты не праганяюць, пачакаць і, выбраўшы добрую часіну, як толькі палепшае Раманавай жонцы, сказаць і тым самым укараціць гора… Зрэшты, некуды і спяшацца. У яго ж ні кала, ні двара, ні бацькоў, ні блізкіх крэўных, ні жонкі, якая б думала і чакала на яго з дарогі. Дзяўчыны і тае дасюль не мае на воку. А тая, да якое сэрца ягонае ляжала яшчэ ў тэхнікуме, як у ваду канула, ні слыху ні дыху. Хто ведае, можа і яна дзе-небудзь

чакае на свайго ось так, як і Агапіна пляменніца, мілуючы сваё першае, толькі што народжанае дзіцятка?.. Калі б гэтакае самае сталася з Астапам, і Раман, прыйшоўшы ў хату, утаіў і не памог жаночаму гору ў гэтакі трывожны час, дык сам ён не дараваў бы ніколі таварышу і на тым свеце. Ці мала благога пакінулі па сабе хлопцы ў Астапавым дваццаціпяцігадовым веку, а ён, паспытаўшы свайго ўласнага гора, падаючы і цяжка падымаючыся на крутых ухабах дарогаў, мужны і чэсны, з нікога ані накпіў, ані пакрыўдзіў нікога: вялікую меў ён абачлівасць і бядзе чужой упору памагчы заўсёды ўмеў. Вось чаму і важыць ён асцярожна на розуме і сэрцы ў маленькай хаце свайго таварыша маленькую часцінку неасягнёнага людскога няшчасця на тле крыві і пажараў, жыцця і смерці.

Чуе Астап гамонку жанок у большай хаце, але не прыслухоўваецца І толькі тады, калі ўсчаўся дзіцячы плач, яму здалося, што ў хаце не стае паветра. Адчыніў акно і апёрся рукамі на падаконнік.

— Колькі ж табе давядзецца плакаць, дзіцятка, — сказаў, выразна пачуўшы сказанае.

— Не дзіця гэта плача, Астап, а радасць нараджэння. Радасць без слёз не нараджаецца. Яны ідуць упоруч, нітуюцца, жыць не можа адно без другога, аж пакуль расхістанае імі цела ў труну не паложыцца. От што яно такое… — нехта, здавалася, сціскаючы далонямі ягоную нячэсаную галаву, адказаў на самае вуха.

Пасля чутага Астапу зрабілася яшчэ цяжэй. Ён закурыў трэцюю самакрутку махоркі і пачаў углядацца ў неба. Перад ягонымі вачыма, засланяючы сонца, стаялі густыя ліпы. Яны нагадвалі Астапу пазаўчарашнія хвоі і ўсё, што каля іх сталася. Цяпер ён не думаў, ён гаварыў з сваімі ўласнымі думкамі і так, калі б хто-небудзь стаяў паблізу, дык выразна пачуў бы такое: «…Вырваліся з-пад шыбеніцы, прабіліся праз кулямётную аблогу, ішлі, не хаваючыся, пад нізкімі клінамі бамбавозаў і знішчальнікаў… Прайшлі. І каб не тыя жанчыны з дзецьмі, дык і ўсё б яно было добра… А можа, і нядобра? Хіба ж не варта паміраць, ратуючы жыццё брата?! Варта і трэба! Найбольш, відаць, разумеў гэтую простую мудрасць Раман Скрылевіч. Пажджы, як гэта яно было па парадку? Ага… Хаваючыся ад нямецкіх аўтаматчыкаў, мы занялі нашую абарону ў густой кроне трыкутніку асінаў, у дузе наступу аўтаматчыкаў знайшліся жанчыны з маленькімі дзецьмі. Пасля другое чаргі яны паваліліся на гузастыя карані. І калі аўтаматчыкі былі ў нейкіх са-

рака кроках ад нас, Раман, як той разгневаны леў, рынуўся ўніз, каб ратаваць няшчаснае ў лесе дзіцятка. Вось ён засланяе яго сваімі плячыма...

Ранены Раман пахіснуўся, але падняўся, даў дзве чаргі, і яны, перакрыжоўваючыся з маімі, перанялі апошніх аўтаматчыкаў. Не маючы патронаў, Раман выхапіў апошнюю гранату і шыргануў яе ў залогу ворага. Праз нейкую часіну тыя зрэзалі Рамана. У дваццаці прыблізна кроках два ўжо раненыя аўтаматчыкі знайшлі сабе супачынак ад маіх апошніх куляў. І потым... Калі сцішылася і відаць было — вораг пераможаны, кінуўся ратаваць Рамана... Цяжка раненага сябра і ледзьве жывое дзіцянё перанёс я да трох хвояў. Ратунку не было. Перад скананнем Раман Скрылевіч вельмі прасіў адведаць у Карэлічах ягоную, яшчэ бацькаўскую, хату і перадаць жонцы апошні яго паклон. От, здаецца, і ўсё збольшага...»

На падаконніку ляжалі разбітыя «ходзікі». Зірнуў на іх Астап, памацаў, перавярнуў на другі бок, зірнуў на пагнутыя колцы, потым — на падкоўку шчасця... Павярнуўся паволі спіною да акна і сеў на тым самым месцы, дзе сядзеў перад гэтым, гаворачы з цёткаю Агапаю. Выняў скураны капшук, расшнураваў, расхінуў, ацiснуў яго праваю далонню, набраў трыма пальцамі махоркі, насыпаў на пакамечанае лапікла газеціны, скруціў, наслініў, узяў у губы, каб запаліць запалку. Рабіў усё гэта быццам на нейкай рэпетыцыі, думаючы і не адводзячы вачэй ад капшука. У пачку не было ніводнае запалкі, і Астап, выняўшы з зубоў скрутку, палажыў яе на расхінены капшук. Робячы гэта, ён упёрся вачыма ў вугалькі на чарэні печы. Яны ачахлі, і толькі саўсім маленькі сінюткі аганёк, шавелячыся, як прыцёрты матылёк, пакалыхваўся, асядаючы між імі.

— Дагараюць, як Раманава сэрца... — падумаў і скалануўся.

Устаў і падышоў да печы прыкурыць.

— Дзе ж ён пазнаў Рамана? — пачуў Астап, як пыталася Раманава жонка ў цёткі Агапы.

— Ведае, казаў, бачыўся. А от дзе і як — не сказаў, і я ў яго не перапытала.

— А не казаў, адкуль сам будзе?

— Нічагусенькі. Негаваркі, найбольш маўчыць і ўсё нештачка думае...

— Думае... Хай думае ідучы дадому... Што яму там надта думаць у чужой хаце... Пра тое, мусіць, што ўцёк, каб не ваяваць...

Апошняе гаварыла Марыля не цётцы, а сама сабе, але Агапа ўчула:

— Ніхто не хоча накладаць галавою чорт ведама за што. Можа ж, і на яго, во гэтакага ўнурыстага, чакае свая кабеціна. З'есць капусты дый няхай сабе ідзе з Богам, калі так... На маю ж дурную галаву... — цётка не дагаварыла, убачыўшы, што пляменніца прытуліла да вачэй дзіцячую полачку і пачала плакаць. Даўшы дзіцяці ўвязаны ў палатняную анучынку драбок патоўчанага цукру, пайшла да дзвярэй, каб зірнуць на варыва ў печы, а Марыля тым часам аклікнула:

— Распытайцеся ж, цётачка, — выціраючы слёзы, папрасіла Марыля і, моцна ікнуўшы, дадала, — і гадзіннік, кажаце, як у Рамана? Калі б мела змогу падняцца пагаварыць з чалавекам...

— Марылька... — Агапа прыняла з клямкі руку, вярнулася да ложка, села і, камечачы ў руках зрэбны стары хвартух, пачала ўгаворы, — не еш ты сябе, кажу табе, Марылька, уважай пакуль што на самую сябе, на гэтую во сваю кроў у калысцы. Можа, і Раман недалёка дзе ад хаты...

Пачуўшы слова «гадзіннік», Астап не мог прыслухоўвацца далей да гаворкі жанок у большай хаце. Не відны яму былі ані ачахлыя на чарэні вугалькі, ані сінюткі між імі аганёк... Падышоў да вядра са старою пянчанаю посілкаю, зачэрпнуў, спяшаючыся, вады меднаю конаўкаю, напіўся, начапіў конаўку на вушка вядра і амаль бегма кінуўся да стала. Ухапіў скураны капшук, палажыў у кішэню і, не развітваючыся, выйшаў ціхутка ў сенцы, а з іх на ганак і супыніўся.

— А гадзіннік? — папытаўся Астап у самога сябе. — Не, гадзіннік мушу пакінуць, няхай самі дагадваюцца...

Выхапіў гадзіннік, прылажыў яго да вуха, паслухаў, палажыў на далонь левае рукі і пачаў на яго ўзірацца: дзве сорак пяць...

— Раманава сэрца сціхла... памерла... а сэрца Паўла Бурэ б'ецца не заводзячыся... — ціхутка гаварыў Астап, пазіраючы на вяршыні трох ускудлачаных ветрам ліпаў на Раманавым двары. І Астапу захацелася зірнуць на жывучае сэрца гэтага маленькага, кругленькага, прычарнелага ад часу, але пакуль яшчэ крыху бліскучага, сярэбранага Паўла Бурэ. Падчапіў ногцем вечка, націснуў, і яно адскочыла. Пад ім, на другім вельмі бліскучым вечку ляжаў маленькі кругленькі фотаздымак. Пацямнела ў вачох. Астап адным махам працёр правым рукавом замурзанае

гімнасцёркі вочы і, калоцячыся, пачаў узірацца ў яго так, як узіраецца чалавек, ратуючы сваё жыццё, на галаву скручанага перад ім змея. З фотакарткі ўсміхалася Астапу ягоная любая студэнтка з педагагічнага тэхнікуму Марылька Іскрыцкая…

— Не!.. Няпраўда гэта!.. — крыкнуў, трасучыся, Астап. — Марылька?.. Як жа… Як жа яно…

— Праўда… Праўда… — адказвала яму маленькае жалезнае сэрца Паўла Бурэ. Гэта ж яна, твая колішняя Марылька Іскрыцкая… Памятаеш?..

— Яна… Марылька… Які ж ты вялікі недавярак, Астапе! — скрыгануўшы да болю зубамі, ад чаго, здаецца, магла заняцца полымем самая тоўстая скрутка махоркі ў жоўтым кавалку «Праўды», выштурхнула з гарачых грудзей Астапава горла здушанае вялікім дзівам густое паветра. — Чаму ж ты, нягоднік, не ўратаваў Рамана Скрылевіча!?

— Не ўратаваў Рамана, дык уратуй Раманава дзіцятка… — адказвала Астапу маленькае жалезнае сэрца Паўла Бурэ.

Паволі, быццам трымаючы на руках найдарожшы скарб свету, унёс Астап у хату гадзіннік Рамана і павесіў яго на той убіты Раманам вухналь, на якім віселі ягоныя «ходзікі», а цяпер — адна-адзіная падкоўка. Пакінуў, зірнуў і выйшаў, сам не ведаючы куды…

Цётка Агапа не заўважыла на падкоўцы гадзінніка. Дагледзела ў печы, згатавала чабору, занесла Марылі і, нічога ёй не кажучы, пайшла ў камору перабіраць у куфры старыя лахманы, каб мець што падараваць заўтра бабцы Прузыне. І толькі на змярканні, паказваючы Марылі ношаную сукню, сказала:

— Нямашака ні ў хаце, ні ў сенцах. І не ведаю, дзе…

— Як жа няма? Гэта ж тая самая маміна сукня, пра якую мы з вамі гаварылі.

— Не гэта, Марылька, я пра гэтага самага чалавека кажу табе. Нямашака. Пайшоў і ні славечка. І капусты не дачакаўся.

— І на яго хата чакае. Не векаваць жа яму ў нас… — гаварыла Марыля цётцы.

— То ж бы то… — згадзілася Агапа.

Ноч была спакойнай: ні стрэлаў, ні бамбавікоў. Уранні Марыля сказала цётцы, што ёй ужо добра і яна можа падняцца, сама даглядаць дзіцётка. Неўзабаве мелася прыйсці бабка Прузына.

Марыля апранула халат з чорна-жоўтымі палоскамі, пацалавала дзіцятка, зірнула на вуліцу і, трымаючыся за рукаў цёткі Агапы,

выйшла ў меншую хату. На стале стаяла ў вышчарбленай глінянай місцы ўчарашняя капуста, і каля яе ляжала луста хлеба. На рагу стала, пры якім сядзеў невядомы чалавек, — пацяруха махоркі. Гледзячы на пабітае каля вядра чарап'ё суддзя, Марыля пачула дзіцячы смех і голас цёткі Агапы. Увайшоўшы ў хату, дзяўчаты і хлапчукі, весела смеючыся, давалі ў рукі свае добрай настаўніцы букеты розных кветак і абяцалі прыходзіць штодня. Бабка Прузына, у сваю чаргу, расказала пра ўчарашнюю сустрэчу з абдзёртым вайскоўцам і папыталася, ці быў ён.

Устаўляючы ў прырыхтаваны Агапаю гладыш прынесеныя дзецьмі кветкі, Марыля зірнула на «ходзікі», каб ведаць, а якой гадзіне прыйшлі ў хату госці... На падкоўцы вісеў «Павал Бурэ». Асцярожна, як нешта святое, зняла Марыля з вухналя гадзіннік, зірнула і закусіла губы:

— Раманаў?! — не сваім голасам крыкнула Марыля.

Яна пазнала на вечку гадзінніка выскрабены іголкаю крыжык і маланкавым рухам адкрыла вечка.

— Божачка ж ты мой!.. — яна ўбачыла свой фотаздымак. Сціскаючы гадзіннік, як нежывая, павалілася на выбітую глінаю зямлю хаты і моцна застагнала.

Адлітую вадою Марылю пасадзілі на лаву каля стала. Цётка Агапа давала ёй з лыжкі нейкія кроплі і вельмі хвалявалася, наракаючы на прышлага ў хату чалавека...

Дзяўчынка, скубучы сплецены ёю з васількоў вяночак, падняла з лавы вайсковы білет і прачытала, як вучыла яе Марыля ў школе:

— Ас-тап Кры-жак...

У гэтую часіну ўвайшоў у хату Астап, ягоныя вочы скрыжаваліся з вялікімі чорнымі вачыма Марылі Іскрыцкай...

Падышоў, пацалаваў рукі, галаву і, быццам важачы на вагу золата кожны гук, гледзячы ў даўно не бачаныя вочы, сказаў:

— Не вінавацьце мяне, Марыля!..

# Абразок

На апошнім тыдні ліпеня, з суботы на нядзелю, ізноў дакацілася да Асінаўкі далёкая гарматная калатня. Гэтым разам — з паўночнаўсходняга боку, адтуль, дзе стыкаліся найбольшыя сілы двух бакоў. Спачатку людзі не вельмі і бралі да галавы гэтую калатню, бо гэта ж не першыня, што яна то набліжалася, то аддалялася і, часам, даволі надаўга. Прывыклі і абыліся. А найбольш супакойвала ўсіх тое, што Асінаўка мясцілася ў крутой балацянай дузе на левым беразе Нёману. Не было тут ні гасцінца, ні людскіх язджалых дарогаў. Адны каляіністыя сценкі, глыбака выбуксаваныя дзеравянымі восямі. А прадзедаўская грэбля, што лучыла Асінаўку з суседнім Забалаццем, размясілася савецкімі танкамі яшчэ на пачатку вайны. Тыя танкі так і не дайшлі да Забалацця: адны ўвязлі ў балоце, уцякаючы ад нямецкіх бамбавікоў, і паабрасталі асакою, а іншыя і цяпер яшчэ чарнеюць, як тыя страшыдлы, паблізу Асінаўскіх могілак. І старая кладка-ківулька ўтапілася ў Нёмане. Толькі чорт лазаты, думалася людзям, адважыцца несцьмі галаву ў балота. Неяк узбоч усё яно пачыналася, ішло, узбоч і пяройдзе, і скончыцца — гэтак думалася і хацелася асінаўцам.

Але ўсё ішло і рабілася не так, як хацелася таго людзям. Калатня набліжалася і мацнела. І людзям было не да сну з суботы на нядзелю. Адны выходзілі з хатаў, прыслухоўваліся, падавалі, кашляючы, голас суседзям, перакідаліся поціху думкамі, сыходзіліся, садзіліся на прызбы, закурвалі люлькі і думалі, ківаючы галовамі… Іншыя адчынялі вокны, высоўвалі баязліва галовы, прыкладалі да вушэй далоні, каб лепш пачуць, як стагнала зямля і гуло паветра, гаварылі нешта жанкам, потым ізноў зачынялі вокны, тупалі, адчынялі і зачынялі дзверы, углядаліся на абразы, хрысціліся і, нікому нічога не кажучы, чакалі раніцы…

Чакаў раніцы ля сваёй варыўні і Лявон Гужэвіч. Чакаў так, як чакалі яе і ўсе асінаўцы: прыйдзе яна з-за Нёману, цёплая і расістая, узыдзе сонца, перасціхне калатня, і павесялее на душы чалавека. Але ж раніца магла быць і не гэткай, таксама думалася Лявону. Як было там і не было, а ён ад свайго не адступіць. Нават калі і зямля пад нагамі загарыцца, дык і тады Лявон не вырачацца свайго, сказанага самому сабе гужэвіцкага «не». Гэтак, гаворачы сам-насам з упірыстымі, неадчэпнымі думкамі, Гужэвіч і сам не заўважыў, як, устаючы з лавы, гэтыя думкі выказаў уголас:

— Тут нарадзіліся, тутака і памрэм...

Неспакойным было і Мар'яніна сэрца. Яна таксама некалькі разоў падыходзіла без дай прычыны да печы, перастаўляла гаршкі, налівала і пералівала ваду з вядра ў цёрла, тужэй завязвала пад барадою старую хустку ды ізноў бралася за лахманы на ложку. Але і ім не давала рады Мар'яна. Чула яна і на свае вочы бачыла, што людзі ідуць і едуць, уцякаючы ад таго, што насоўваецца з усходу на балацяную дугу Асінаўкі. Ейныя суседзі таксама збольшага ўсе напашэве, усе збіраюцца некуды, і от, калі давядзецца валачыся ў свет, дык на каго ж яна пакіне сваю варыўню і... Лукерку, Парасачку і сярэдняга сына Нічыпара... Хто ж тады прыложыць, як родная маці, свае рукі да іхных магілак?.. І вось цяпер, пачуўшы Лявонава «памрэм», баязліва страпянулася.

— Што ты там чаўпеш? Мала табе яшчэ гэтага?

— То ж бы і то... — буркнуў Лявон не думаючы.

— То ж бы і то... — сказала за ім Мар'яна. — Гаварыў бы, от, нешта добрае, а не гэтакія сабе брэдні вярзці.

— Дык я ж і кажу, каб нікуды не валачыся, — суцяшаў жонку Лявон Гужэвіч.

Бабка Агапа прахапілася і моцна завойкала.

— Зірні во, як маці спацела, — ківаючы галавою, клікала Мар'яна свайго Лявона. — Можа, яно і на лепшае, калі гэтак усё пацее...

— Дай жа Божа, — адказаў Гужэвіч і падышоў да ложка, дзе ляжала ўкрытая ягоным выкуцаным кажухом маці. Выцер кужэльным ручніком матчын лоб, пацалаваў, і позіркі іхныя сустрэліся. Агапа доўга ўзіралася ў сынавы вочы, потым раз-пораз заміргала, і сын убачыў, як з-пад ейных сухіх жоўтых павекаў выкаціліся буйныя слёзы і разышліся ў глыбокіх зморшчках шчокаў бліскучымі танюсенькімі нітачкамі.

— Піць... Лявонка... піць... — прасіла Агапа, выпростваючы худыя сіняватыя рукі з прыкурчанымі даланямі. — Піць...

— Мар'яна! Мар'яна! — двойчы аклікнуў, спалохаўшыся, Лявон Гужэвіч.

— Нясу... Нясу... Божачкі, дзе ж гэта тая конаўка?.. Ага, вось яна... нясу... на во...

— Не, Мар'яна... Свянцонай, што ў пляшцы! — тупаючы, крыкнуў яшчэ мацней Лявон, прыціскаючы да грудзей выпрастаныя мацерыныя рукі, якія, здавалася, прасілі ў сына найдаражэйшага ратунку. — Свянцонай, Мар'яна!..

Глынуўшы святое вадзіцы, Агапа сцішылася. Лявон яшчэ цяплей яе ўкрыў, пацалаваў у правую шчаку і адышоўся, цяжка дышучы.

За Нёманам яшчэ мацней загрукацела, і так, што аж дрэвы закалыхаліся ад моцнага подыху вільготнага паветра. Неўзабаве ўзняліся там уперамешку з полымем слупы чорнага густога дыму. Два слупы раслі, расплываліся і паўзлі, пазалочаныя полымем, праз лес на самую Асінаўку. Над Нёманам яны скрыжоўваліся, і іхныя тупыя канцы паволі загіналіся, абдымаючы ўсю балацяную нёманскую дугу — Асінаўку і Забалацце. Праз некалькі часінаў паветра ізноў скаланулася. Цяжка стагнала пад нагамі расістая зямля і пахла, ападаючы, пярхотнае, уедлівае, прынесенае ветрам гарыва пажару. Гарэлі Стаўбуновічы.

— Цяпер ужо і Бог вялеў… Трэба ратавацца! — сказаў, махнуўшы рукою самому сабе Лявон Гужэвіч, пазіраючы на чорны, выгінасты ў небе крыж дыму.

Людзі ішлі і ехалі. Адны — на захад, другія — на ўсход. Ішлі і ехалі ўмісуські, куды вочы глядзелі. Неслі і везлі вялікае гора.

Скрыпеў і Лявонаў панарад. Каціў яго нехаця, везучы краем дарогі ледзьве жывых асінаўцаў і мяшкі старызны, аднавокі, кульгавы гужэвічаў дэраш. І Лявон не паганяў каня: ат, няхай ідзе, як ідзе, думалася яму: ступою можна часцей азірацца на Асінаўку, каб спакайней на душы было і каб мацеры не так моцна трэсціся на саламяным сенніку.

На ўзгорку, выязджаючы на вялікую дарогу, Гужэвіч суняў дэраша і павярнуўся тварам да балацянай нёманскай дугі — да Асінаўкі. Яе, такой блізкай і роднай, якая гэтулькі вякоў карміла і паіла Гужэвічаў, не ўбачылі Лявонавы вочы. Не таму, што асталася далёка, не: чорны крыж дыму расплыўся, асунуўся, усмактаўся балацянай вільгаццю паветра і, ператварыўшыся ў цьмяное воблака куродыму, ахутаў не толькі Асінаўку, але і ўсё ейнае наваколле, і тупаваты ягоны клін плыў, як здавалася Лявону, следам за ім — на вялікую дарогу. Віднелася адно, палыскаючы чырвоным бляскам сценаў у касых промнях сонца, высокая цагельня. Стаяла яна наводшыбе вёскі і ўцалела нейкім дзівам, калі нямецкія бомбы мясілі аднаго разу растрэсеную ўцёкамі калону савецкіх танкаў паабапал грэблі і каля могілак. Але не цагельні шукалі Лявонавы вочы і нават не Асінаўкі, а дзвюх высокіх бацькаўскіх бярозаў на

ягоным двары, каб гэтак пазнаць, дзе туліцца ягоная варыўня. І як ён ні ўглядаўся, прыкладаючы да ілба выгарбленыя далоні, так і не ўбачыў.

— Мар'яна, развітвайся з сялом, — глуха папрасіў Лявон, круцячы з вялікага жалю каструбаватымі пальцамі левае вуха. — Развітайся... Няхай бы і маці зірнула... За гэтым гарбом ужо не ўбачым. Бачыш, як яго завалакло?

Мар'яна маўчала, сядзела яна як укопаная, цiснучы хвартухом выплаканыя вочы. Не варушылася і Агапа, толькі часцей войкала яна і час ад часу ўсё стагнала, відаць, тады, калі ёй вельмі займала духі. Не гаварыў болей і Лявон Гужэвіч. Злез з воза, памацаў, абыходзячы панарад, усе колы, патузаў іх за спіцы, потым выбраў з-пад хамута дэрашаву грыву, тужэй сцягнуў супоню і, з'ехаўшы з дарогі, каб людзі на яго не гукалі, суняўся на невялікім травяністым прагалку. Хворая Агапа, усё больш і больш войкаючы, папрасіла вады. Мар'яна вынурыла з хвартуха вочы, выняла з кашаля акручаную кужэльнаю ланцінаю пляшку з вадою і асцярожна нахінула яе да сухіх, зморшчаных вуснаў Агапы.

— Забыліся-такі... — сказаў, не дагаварыўшы, Гужэвіч самому сабе — Гэта ж трэба было забыцца...

— Чаго гэта ты там длубаешся? — азвалася Гужэвічыха, ставячы ў кашэль пляшку з вадой.

— Мяшэчак у варыўні астаўся, — не кажучы нічога на тое, пра што пыталася Мар'яна, сказаў Лявон. — На паліцы каля дзежкі з жытам.

— Які такі мяшэчак? — перапыталася жонка, неспакойна пазіраючы на згорбленага каля панараду Лявона.

— Мяшэчак зямлі, што каля смуродзін быў набраў. Тутака, от, трэба пашукаць чорнай, гэтая ж дык нейкая чвыраватая, — атрасаючы, падняўшыся, рукі, адказаў Лявон.

— А варыўню ж ты хоць замкнуў, каб мяшэчка таго часам не ўкралі?

— І гэтага не зрабіў. Забыўся. Хто ж там палезе ў тую варыўню, калі толькі адзін Ахрэм з дзецьмі астаўся, мусіць, дома.

На, от, палажы ў кашэль, знізу, каб не згубілася, — загадаў Гужэвіч жонцы, падаючы ёй у рукі тры жмені чарназёму, насыпанага ў вырваную із штаніны кішэню. Памаўчаўшы, дадаў: — Бачыш, як над Асінаўкай пачарнела?

Зірнулі, перахрысціліся і ўз'ехалі на дарогу. Цяпер Гужэвічы не былі ўжо ні першымі, ні апошнімі. За імі і перад імі ішлі, несучы клункі, і ехалі, везучы паспехам выхапленае з хатаў, людзі спаленых і патрушчаных вёсак, мястэчак і гарадоў. А над імі — над грымучай дарогай — падымаўся густы жоўты пыл і доўга трымаўся ў паветры.

# У гасцях Цыпрона Цырубалкі

Гэтымі днямі мне самому давялося пабыць у вёсцы майго знаёмага, у Іржаўцы.

— Дзе тут жыве Цыпрон? — пытаюся ў маладога хлапца.

— Гэта вы пра пісьменніка нашага? — відаць, для большай пэўнасці пацікавіўся ён. «О, думаю, знаны чалавек Цырубалка, усе ведаюць, што ў газеты піша».

— Але, але, пра гэтага самага…

— Вунь там. Ад канца трэцяя хатка каля вулачкі. Каля Пацяроба жыве.

Праўду сказаў хлопец, што «хатка». Маленькая, з двума акенцамі… Рагатая рабіна каля варот, і сабака, як леў, на прывязі. «Вось і маёнтак пісьменніка», — засмяяўся я.

* * *

Стрэў Цыпрон мяне, як роднага брата. Спачатку паказаў гаспадарку: коніка буланага, цялушку, двое парасятаў, качку з перакусанаю ножкаю і пяцёра куранятаў.

— Усё без бацькі нажытае, — жартуе гаспадар. — Вярнуўся гэта я з савецкай «лячэбніцы», з Котласу. Узышоў на двор, стаў і думаю: «За што рукі зачапіць цяперака? Ні кала, ні вугла таго… Як языком вылізана кругом. Хоць ты вазьмі ды на рабіне гэтай павесься». Думаў, думаў, а пасля злосць нейкая апанавала: «Не, — кажу сам сабе ўголас, — пераўжылі лета гарачае, перажывем і… сабачае. Чалавек, як той кот: кінь яго плячыма, а ён перакруціцца і на ногі стане. Эт, неяк будзе». І от самі бачыце… Да кулака яшчэ далёка, але, дзякаваць Богу, жыву. Птушынае стварэнне люблю надта. Меўся дастаць яшчэ качкі са дзве, але, ведаеце, не шанцуе нешта на іх мне, не раўнуючы, як на тым бугаі некалі: шэльма Кундаль ножку перакусіў качцы, а курыцу каршун ухапіў. Э, буду жыць — будуць і качкі, клопат вялікі.

У хаце Цыпронавай, як у той святліцы: чысценька і ўсё на сваім месцы.

— Баба мая Рыпіна, — кажа Цыпрон, знаёмячы мяне з жонкаю, — таксама мала вучаная, але бывалая. Любіць, каб лад і парадак быў у хаце. Вось бачыце, — паказаў пальцам у бок куфэрка, — і спадчына бальшавіцкая мае сваё месца. Не судзі, Божа, заслужыць яшчэ такую памяць.

І што гэта, думаеце вы, было? Пара лагернага абутку — сцёртыя дзеравякі віселі на сцяне, і ў торбачцы 205 колікаў, што пайкі хлеба сколвалі ў турме.

— Хаваю, — смяецца Цыпрон. — Жонка хацела была ў печ укінуць, а я кажу: «Не, не, няхай ляжаць, есці не просяць». Бывае, часам агорне мяне сум — падыду, пагляджу, і на душы неяк лягчэй стане: як бы яно цяпер ні было, а ўсё ж не тое…

Я рады быў слухаць пра гэтыя дзеравякі і колікі і далей, не ўважаючы на тое, што і самому давялося нямала паспытаць савецкага пачастунку, але гэтым разам загаварыла Цыпронава жонка.

— Годзе табе пра гэтыя качарэжкі… Сваім дабром пахваліся… — і запрасіла да стала.

Калі Цыпрон выйшаў у сенцы, яна, падаючы полудзень, зноў загаварыла:

— Гора з маім дзедам. Захварэў чалавек, дый годзе… Бульбу трэба выбіраць, а ён сабе тупае і бурчыць нешта пад нос. Думаю, кажа, не мяшай мне. Бальшавікоў, кажа, на лапаткі палажыць трэба. Учора дык цалюткі дзень седзьма сядзеў і ўсё крэмзаў нешта. Бадай ты цяміўся, думаю. Вазьму, бывае, дый накрычу, а ён з кпінкамі да мяне: «Будзеш лаяцца — адну пакіну ў Іржаўцы, а сам у Менск уцяку, у пісьменнікі, кажа, падамся». Я ж і кажу: захварэў чалавек.

* * *

А Цыпрон, каб вы ведалі, сапраўды жартаўнік добры:

— Ты, кажа, баба, як знаеш, а я госця сваім сокам частаваць буду… Сяння вось тры гадкі, як адбыў савецкія лекі ў Котласе, дык сусед гэта ўчора прынёс і кажа: «Запі, Цыпроне, саладухаю гора ўчарашняе». Неблагая саладуха, дай яму Бог здароўя. А гэта, — Цыпрон паказаў на гляк у меру вядра, — сачок бярозавы, квашаны.

Прызнацца, мне вельмі да смаку прыйшоўся гаспадараў сок, а сам гаспадар больш налягаў на суседаву «саладуху». Выпіўшы некалькі кубкаў, Цыпрон стаў яшчэ больш гаваркі:

— Вы, кажаце, жывяце ў горадзе, як у Бога за пазухаю, а мы, як той гарох пры дарозе, — усяго бывае. Праўда, каб не ўрачы, нашая Іржаўка пакуль убаку ад усякага ліха… Не без таго, бывае часам, што і сок у рот не лезе, але жыць можна. Трэба ўмець жыць. Я заўсёды дзякую нябожчыку дзеду Нупрэю. Ягоныя муштры і ця-

пер трымаюць мяне на свеце. Бывае часам так крута, што стаіш ды думаеш: «Ну, цяперака канцы». Але раптам дзедава прымаўка — «мора да варот, а ты цераз плот», і глядзіш — усё добра і гладка. Шмат разоў ратавала мяне дзедава навука.

І Цыпрон, мераючы далей «саладуху», расказаў мне некалькі цікавых выпадкаў.

— Было гэта ўжо нешта месяцы са два. У хаце і мышы не было чым задавіцца. Адным словам, як кажуць, ці тапор кладзі ў гаршчок, ці зубы на паліцу. Давай гэта, думаю я, пайду ў лес ды ягад назбіраю. Узяў і пайшоў. А гэтыя валацугі як аблупленага ведаюць мяне: «Мы яму, кажуць, пакажам, як пісаць у газеты». Збіраў, збіраў, а далей чую — крэкча нехта. Стаў за хвою і гляджу: сядзіць, выгаліўшы зад, нейкая вантроба каля пня і пнецца, а побач — стрэльба. От цяпер дык клямка табе, Цыпрон, шапчу сабе, і валасы, здаецца, дыба становяцца. Не, думаю, саб'ю з капытоў шэльму і — залямантаваў наколькі духу ставала:

— Паліцыя! Тут бандыты! Жывымі ўзяць іх… Божухна, каб вы толькі бачылі! Як ірвануўся гэты ваяка ды як паляцеў, і духу не стала. А я гэта за стрэльбу і давай смаліць. Вось, думаю, дзедава навука і праз клямкі вылазіць умее. А што ж з ягадамі, папытаецеся вы? Адно мокрае месца засталося, гэтак змясіў іх нагамі, завучы ад страху паліцыю. Таму і кажу — Іржаўка — не горад. Трэба ўмець жыць на свеце.

Тут і я ўжо не мог не выпіць кубка «саладухі» за Цыпронаву вынаходлівасць.

— І што ж вы думаеце, падаткнуў нехта, што стрэльбу з лесу прывалок у хату. Брэша мой Кундаль, аж разрываецца. А на дварэ цёмна, хоць вока пальцам выкаль. Прыліп я да сцяны і ні дышу. Калі што якое, дык шмаргану, думаю, на гару, а там праз закот ды ў кусты А далей… Божачкі мае, што было далей… Як кінецца мой Кундаль, як зараве, а нехта як заенчыць… Іржаўка мая, здалося, дагары дном перавярнулася. Здаволіўся, відаць, Кундаль і змоўк, а нехта ўсё енчыў, скрыгаў зубамі і маліў Бога.

— Выйдзі, — кажу я сваёй Рыпіне, — ды паглядзі. Ты ж баба, не бойся! Можа і добры чалавек папаўся на галодны зуб Кундалю. Паставіла яна свечку ў гладыш і выйшла. А я, як асінавы ліст, калачуся і на стрэльбу забыўся. Убегла ў сенцы баба і галосіць: «Прапалі цяперака, прапалі за нюх табакі… Колькі разоў казала збыць гэтага мядзведзя… Ой, Цыпрон, Цыпрон, таўкач ты

іржаўскі... Не выратуе цябе, хвалько, і дзедава навука цяпера-ка. Яно гэта добра, адной валацугай меней будзе, але ж каб ты бачыў... Усю гэтую снасць з карэннем вылупіў... Гэта ж трэба трапіць у такую мясціну?.. Чалавек круціцца, як вужака, канае, а ён, відаць, ужо з'еў, сядзіць і аблізваецца. Абнадзіўся, каб яго воўк залупіў, курынымі, а цяпер і да чалавечых дабраўся... Яшчэ і з тваімі, пісака, гэтае самае, дажывешся...».

— Доўга шараваў я мазгамі, доўга, але вылузаўся і з гэтае гісторыі, — сказаў, смеючыся, Цыпрон і наліў яшчэ па кубку «саладухі».

* * *

Некалькі часінаў маўчалі. Курылі маю махорку, менскую. Далей Цыпрон зноў не абышоўся без жарту:

— Кладзі, кажа, баба, яйкі на стол ці сваім сокам гасця пачастуй.

І жонка прышыкавала яечню.

— А днямі, — пачаў зноў Цыпрон, — бабе маёй давялося атаку адбіваць. Прыйшло неяк раніцою трох галадранцаў, вылупілі вочы, як жаба на купіну, і крычаць:

— Падавай гарэлку, на фронт спяшаемся...

— На фронт, — засмяялася Рыпіна, — ваякі... З бабамі адно ваяваць умееце, а немца ўбачыце, дык ногі на плечы ды ў балота, як чэрці лазатыя.

— Сама ты, як чорт, хітрая, — сказаў нейкі касавокі. — Разумная якая... Даволі, наваяваліся... Голымі жыватамі на танкі нямецкія кінемся ці што? Даволі. Падавай свянцоную! Усе пячуркі вынюхалі нэндзы гэтыя. Паролiся, паролiся, але трасцу — нічога не знайшлі. Але, ліха іх матары, іконку спёрлі, каб ім бакі параспірала, навалач несусветная. На хітрыкі кідацца пачалі. Дарэмна, вераб'я мякінаю не падманеш. Вучоныя...

* * *

Шчыра кажу: разумны чалавек Цыпрон. Адным словам, не загіне Іржаўка, калі жыў будзе Цырубалка.

# Гісторыя Сяргея Кастрыцы

## (Апавяданне Цыпрона Цырубалкі)

Кажуць, што гара з гарою не сходзяцца, а чалавек з чалавекам сыдзецца. І ведаеце, праўду кажуць. Такая неспадзяваная стрэча была і на маім вяку. Увосень 1919 году — памятаю гэта як цяпер — узялі і пхнулі мяне на фронт ды аж пад самы Харкаў. Нічога, думаю сам сабе, не зробіш, — вайна, але як бы гэта ўткнуцца ў які-небудзь зацішак? Самі ведаеце, не хочацца чалавеку галаву падстаўляць пад абух. І от, падыходзіць да нашага новага гурту жаўнер, вымае з кішэні спіс і крычыць:

— Цырубалка Цыпрон!

— Ёсцека, — кажу, — Цырубалка. — А ў сярэдзіне нешта так і ёкнула Пэўна, на самую пазіцыю, мільганула думка. Жаўнер, відаць, адчуў маё хваляванне дый кажа:

— Не бойся, добра будзе: на кухню за вадавоза прызначаешся. Пазней я даведаўся, што гэты самы чалавек родам з вёскі Мазалі майго Стаўбцоўскага павету і зваўся ён Сяргеем Кастрыцаю. Добры быў чалавек. Былі мы з ім разам нешта месяцы два, а потым разышліся, разышліся як сябры, як землякі.

Прайшлі, прамінулі гады, і, як ужо гаварылася ў маім жытым і пережытым, апынуўся я ў Котласе… І тут, прызнацца, пхнулі мяне ў зацішны куток, але гэтым разам у лагерную лазню, у «вашапрудку», як яе завуць. Прыходжу і гляджу, гляджу і вачом сваім веры не даю…

— Кастрыца ці не Кастрыца? — пытаюся ў згорбленага чалавека з густою, чорнаю, як смоль, барадою.

Не падымаючы галавы, чалавек адказаў глуха, але злосна:

— Пяцьдзясят гадоў як завуць мяне гэтым імем.

Мінут праз пяць мы сцвердзілі нашую знаёмасць пад Харкавам і неспадзяваную сустрэчу замацавалі доўгім пацалункам. Вось як бывае яно ў жыцці, — сказаў, гледзячы мне ў вочы, Цыпрон Цырубалка і расказаў гісторыю Сяргея Кастрыцы…

* * *

Родныя Мазалі непрыхільна сустрэлі Сяргея Кастрыцу. Што ім да рагатае бляшанкі на хворым сэрцы ваякі? Эт, няхай бліскчыць, клопат вялікі — гэтак, здаецца, хацеў сказаць найлепшы сусед, паціскаючы шурпатымі далонямі куксалі Сяргеевых рук.

— Не гэтакія мы цяперака, браце Лукаш, як тады, памятаеш, калі на Траецкай у Менску апошняга певуна прапівалі з бядыгора… Не такія… Цяперака — усё наша, зарабілі. Жыві і цешся, адно абы сілы ды здароўя ставала. — Гаворачы гэта, Сяргей моцна прыціснуў да грудзей сваю ўзнагароду куксай і цяжка ўздыхнуў. Буйная, як гарошына, сляза пакацілася з вока і расплылася на лішаі апаленае вятрамі шчакі. Не хацелася паказваць яе суседу, але яна, нібы адчуваючы, што чалавеку з бляшанкаю на грудзёх не выпадае гаварыць пра вялікія пакуты, сама пала на гэты лішай і расплылася ўлукаткі. Сяргей пастараўся абысці гэта жартам:

— Апошняя, відаць, бо надта ж пякучая, шэльма.

Лукаш змаўчаў, але падумаў: «Не скакаў ты вышэй калена дагэтуль, цяперака — наплачашся і наскачашся, небарака». А пасля, каб не пакрыўдзіць, сказаў:

— Пэўна, што апошняя. Іншыя няхай цяпер плачуць.

Жонка не заўважыла Сяргея, калі ён узышоў на родны двор. Яна лупцавала малую дачку і, плачучы, гаварыла:

— Самі чэзнем з голаду, а ты пазычоную скарынку аддаеш…

Сяргей спыніўся, зняў з плячэй зашмальцаваную торбу, павесіў на сукаваты кій, што памагаў ісці ягоным нагам, зняў шапку і бліснуў жоўтаю лысінаю, калі Рыпіна, выціраючы слёзы, павярнулася на ягоны кашаль.

— Нямашака нічога ў мяне. Усе мы жабракамі сталі. Ідзі, чалавеча, з Богам, — сказала яна і пайшла да ганку.

Гэтыя словы так пакрыўдзілі Сяргея, што ён ледзь вымавіў тры словы:

— Рыпіна! Жонка любая!

Яму хацелася схаваць хоць на часіну свае куксалі, але правая рука міжвольна лягла на ордэн, а левая выпрасталася ў кірунку да жонкі.

— Хіба ж ты не пазнала? То ж гэта я — твой Сяргей.

І гэтым разам зноў пакацілася сляза, меншая, але больш пякучая, чым пры сустрэчы з суседам. Жонка кінулася да гаспадара, прыпала да грудзей, і рагатая бляшанка холадам абдала гарачую шчаку Рыпіны.

— Сяргейка!.. Ты ў дзізярцірах… Разумнік мой… Ой, як я рада. Адрывай, радасць, гэтую бірку авечую, адрывай… Не, не пушчу больш.

Такая нечаканая гаворка прыглушыла чуты нядаўна крык Рыпіны за скарынку хлеба, апраўданне дачкі, якая, схаваўшыся недзе, сядзела цяпер і плакала ад крыўды, і нават тое, што ўсхваляванай жонцы сам ён, лысы, з кіем і торбаю, здаўся жабраком, і кранула гонар ваякі. Сяргей моцна і сярдзіта запярэчыў жонцы, крыкнуў:

— Не, не дэзэртыр я, Рыпіна! Я — шчыры ваяка. Не авечую бірку бачыш на грудзях, а ўзнагароду за адвагу… Рыпіна, Рыпіна, якая ты неразумная…

Але хворае сэрца не заўсёды было ў ладах з ягонаю думкаю: спачатку яно сціснулася, аблілося крывёю, але мігам памякчэла, расчулілася, і Сяргей, нібы просячы спагады, сказаў зусім не тое, што думаў:

— І ты яшчэ крыўдзіш мяне, Рыпіна?.. Даволі, што жыццё пакрыўдзіла… І дарма ты кажаш, што мы жабракі. Шмат я зарабіў багацця… Во, зірні: пальцы гэтыя аддаў за нашае шчасце… — Ён патрос перад ёю пакалечанымі рукамі, а пасля млява пагладзіў куксалямі васковую лысіну. — Кожны ворагаў стрэл каштаваў мне капы валасоў… Усё цяпер наша, усё… Будзе і зямля, і гаспадарка. Гэтак нам гаварылі, і мы верым у гэта…

Кастрыца хацеў сказаць яшчэ нешта, але дзяўчына, учуўшы гаворку, выбегла з сяней і зблытала ягоныя думкі:

— Мамка, больш не буду даваць жабракам хлеба, убачыш…

Сяргей не схлусіў жонцы, калі гаварыў пра зямлю. Урэзалі і нямала — цэлых шэсць гектараў. І сям'ю апанавала радасць.

— Ну, што, Рыпіна? Былі голыя, як бізуны, а цяперака… Ого! Цяперака! Пасёлак — ды такі надзел!..

— Праўду кажаш, — сказала жонка, — але хто нам хлеба напрацуе? Я — хворая, ты — калека, а яна, — Рыпіна зірнула на дачушку, — дзіця яшчэ. Без зямлі цяжка і з зямлёю небалазе.

— Рыпіна, свет не без добрых людзей: маем сваякоў, улада дапаможа, наймем сяды-тады чалавека, неяк будзе, абы жывы былі, — гэтак цешыў Сяргей жонку, але чамусьці і сам паківаў галавою.

Збыліся гэтыя Сяргеевы словы: дапамаглі добрыя суседзі, дапамагла крыху ўлада, а сваякі дапамагалі заўсёды. І завідныя людзі гаварылі:

— Бачыце, якую гаспадарку мае Кукса, — гэтак празвалі яго злыя людскія языкі. — О, што значыць мець бляшанку з-пад Харкава…

А калі ў дваццаць шостым годзе далі Кастрыцы, як добраму гаспадару, прэмію — сем калодак пчолаў, ведамы мазалёўскі п'яніца Скакун, каб прымеў, дык з'еў бы, здаецца, Сяргея. Адным словам, не ведаў, як кажуць, за якое месца ўкусіць чалавека.

— Паадкусваў, шэльма, на фронце пальцы ад страху, і на табе — ордэн пачапілі хітруну. Ваяка! Шкада, што яшчэ чаго-небудзь не адкусіў… — Яшчэ б на тры кархі ашукаў начальства. Нябось, Крыкуну — скулу ў бок, дарма што горка жывецца. А яму — на, мядок ліжы, выслужыўся, каб ты лізаў немаведама што…

Але Сяргей не зважаў ні на што — працаваў і маўчаў. Праўда, урэжа, бывала, якому-небудзь Крыкуну, калі той пачне ўжо пальцам у вока пароць.

Гэтак вось стаў на ногі бравы ваяка з-пад Харкава, стаў і моцна пусціў карэнне ў зямлю. Урос гэтым карэннем, умацаваўся, і думалася яму, што ніякая навальніца не выверне яго з трывалага грунту. Працаваў ад сонца да сонца, цешыўся сваімі набыткамі. Добра жыў Кастрыца і ніколі не цураўся людзей: нескупым, памяркоўным быў чалавекам. Прыйдзе, бывала, да яго ягоны вораг, брахун ці якая лапатуха, папросіць шаснастку бульбы ці кавалак здору на затаўку, Сяргей, ані словам нічым не ўпікаючы, дасць і скажа:

— Бяры, спажывай на здароўе, будзеш мець — аддасі, не — і так добра будзе.

Ведаў ён, што ад гэтага не згалее, а чалавеку, у якога і мышы няма чым удавіцца, зробіць ласку вялікую. Не аднаго разу дапамагаў людзям.

— Жыць жывём няблага, — гаварыў ён часта сваёй Рыпіне, — але ўсяляк можа стацца. Бог толькі ведае, што будзе.

Слушна гаварыў жонцы Кастрыца. Чалавек, які нанюхаўся пораху, мае, як кажуць, добры нюх да ўсяго. А жыццё таксама здольнае на ўсё: яно ўмее абняславіць чалавека і шпурнуць яго ў гразь, у прорву ды так, што ніякая сіла не выбавіць і не паставіць больш на ногі; умее яно і гразь атрэсці з чалавека, выжануць самыя вялікія нарасты на душы і целе, узняць моцна чалавека, павярнуць яго тварам да сонца і трымаць так усё жыццё да самай смерці.

Першая такая здольнасць жыцця не мінула і Кастрыцы. Праўда, цяжка было прыступіцца да яго і падрэзаць моцнае, трывалае карэнне гаспадара, але ўсялякія бываюць навальніцы і па-рознаму прыступаюць яны да свае ахвяры. Калі цяжка ўчапіцца за карэн-

